# Беларуская мова

Вучэбны дапаможнік для 10 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2009

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**Г. М. Валочка, В. У. Зелянко** («Слова ў тэксце»);
**Л. С. Васюковіч** («Словазлучэнне і сказ у тэксце», «Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага»);
**У. П. Саўко** («Уводзіны», «Маўленне», «Тэкст», «Стылістыка»)

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра сучаснай беларускай мовы БДУ
(кандыдат філалагічных навук, дацэнт *З. І. Бадзевіч*);
настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі
сярэдняй школы № 98 г. Мінска *З. П. Бацькова*

**Умоўныя абазначэнні:**

‖ — тэарэтычны матэрыял;

! — тэарэтычны матэрыял у практыкаванні;

● — дадатковыя заданні;

* — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;

*ясны*[ф] — фанетычны разбор слова;

*высока*[сл] — словаўтваральны разбор;

*льецца*[с] — разбор слова па саставе;

*пайшоў*[м] — марфалагічны разбор слова;

*Дзень цёплы.*[сн] — сінтаксічны разбор сказа

**ISBN 978-985-465-503-1**

# УВОДЗІНЫ

## § 1. Роля мовы ў жыцці чалавека і грамадства

**1.** Прачытайце тэкст. Сфармулюйце і запішыце яго асноўныя палажэнні. Абапіраючыся на іх, раскажыце пра ролю мовы ў жыцці чалавека і грамадства.

! **Мова** — гэта сацыяльная з'ява, якая дзейнічае на працягу ўсяго існавання чалавечага грамадства. Гісторыя не ведае ніводнай супольнасці людзей, ні аднаго народа, які б не карыстаўся мовай. І гэта зразумела, таму што чалавек у грамадстве звязаны з іншымі людзьмі, а асноўным сродкам, пры дапамозе якога адбываюцца зносіны ўнутры грамадства, з'яўляецца мова.

Мова ўзнікла ў глыбокай старажытнасці ў працэсе калектыўнай працы людзей, дапамагла ім развіць сваё мысленне, весці барацьбу з сіламі прыроды. Пры дапамозе мовы людзі замацоўваюць набыты вопыт, перадаюць яго ў спадчыну з пакалення ў пакаленне, што садзейнічае ўдасканаленню сродкаў і працэсу вытворчасці, а значыць, і павышэнню матэрыяльнага ўзроўню жыцця чалавека, прагрэсу ў навуцы, тэхніцы.

Надзвычай важную ролю адыгрывае мова ў духоўным жыцці грамадства. Дасягненні кожнага народа ў культуры магчымыя толькі пры непасрэдным удзеле мовы. З яе дапамогай чалавек знаёміцца з гісторыяй і традыцыямі свайго народа, далучаецца да яго маральных і эстэтычных каштоўнасцей. Мова з'яўляецца тым сродкам, які яднае пакаленні, звязвае мінулае з сучасным і будучым[сн].

Асабліва вялікае значэнне мае мова ў выхаваўчай і асветніцкай дзейнасці людзей. «З усіх сродкаў выхавання, якія ёсць у нас, людзей, самым выпрабаваным і надзейным

было і будзе слова», — пісаў В. Вітка. Менавіта з дапамогай мовы перадаюцца веды, якія з'яўляюцца асновай інтэлектуальнага развіцця асобы. Працэс навучання амаль немагчымы без выкарыстання мовы, якая служыць галоўным сродкам атрымання, узбагачэння і ўдакладнення ведаў.

Кожны народ мае сваю мову. Родную мову часта называюць душой народа, таму што менавіта мова, асабліва ў сучасным свеце, з'яўляецца першаснай і найбольш яскравай прыметай нацыі. У мове і праз мову выяўляюцца такія важныя асаблівасці і рысы народа, як нацыянальная псіхалогія, характар, склад мыслення, маральны стан і духоўнасць, самабытнасць і непаўторнасць мастацкай творчасці і інш. Мова ў пэўнай ступені — гэта сімвал нацыі, сродак аб'яднання, кансалідацыі народа. Народ як нацыя існуе, пакуль існуе нацыянальная мова. «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» — пісаў Ф. Багушэвіч.

**2.** Выразна прачытайце тэкст. Чаму аўтар надае слову такое вялікае значэнне?

Страціў слова, страціў спадчыннае[ф] слова —
Штосьці страціў у душы абавязкова!
Можа — годнасці хоць кропельку малую?
Можа — мудрасці хоць дробачку якую?
Можа — памяці хоць зернетка-іскрынку?
Можа — праўды хоць пылінку-парушынку?
Я не ведаю дакладна, што ты страціў.
Запытайся — ці не скажа табе маці...

*Н. Гілевіч*

● З якой мэтай паэт ужывае аўтарскія знакі прыпынку, замяняючы коску пры пабочных словах на працяжнік?

# МАЎЛЕННЕ

## § 2. Маўленне як працэс маўленчых зносін. Узаемасувязь мовы і маўлення

Адной з неабходных умоў фарміравання і развіцця асобы чалавека і грамадства з'яўляюцца зносіны, у час якіх адбываецца абмен інфармацыяй, вопытам, уменнямі і г. д. Найбольш распаўсюджанай формай зносін з'яўляецца славесная форма ў выглядзе вуснага ці пісьмовага маўлення.

**Маўленне** — гэта арганізаваны па законах мовы працэс выкарыстання моўных адзінак (слоў, сказаў і інш.) з мэтай перадачы пэўнага зместу. Маўленнем называюць таксама і вынік маўленчай дзейнасці чалавека — тэкст (паведамленне, выступленне і г. д.).

**Мова** — гэта сістэма знакаў, правіл, якія дазваляюць пабудаваць маўленне. Каб карыстацца пэўнай мовай, неабходна ведаць яе слоўнік, фанетыку, граматыку.

Мова і маўленне ўзаемазвязаныя, уяўляюць сабой адзінства, якое выражаецца ў тым, што гістарычна мова любога народа стваралася і развівалася ў працэсе маўленчых зносін людзей. Сувязь паміж мовай і маўленнем выражаецца і ў тым, што мова як сродак зносін існуе да таго часу, пакуль на ёй гавораць. Як толькі ў грамадстве перастаюць карыстацца мовай як сродкам зносін, яна становіцца мёртвай. Так адбылося, напрыклад, з лацінскай мовай.

Асноўная прымета маўлення — яго індывідуальнасць. Маўленне заўсёды належыць канкрэтнаму чалавеку, які перадае ў ім свае думкі, пачуцці, разважанні, назіранні і інш.

**3.** Прачытайце тэкст. Вусна перакажыце яго змест.

! Працэс перадачы інфармацыі сродкамі мовы атрымаў назву к а м у н і к а ц ы і (ад лац. *communicatio* — перадача), а сукупнасць усіх сродкаў, прызначаных для ажыццяўлення гэтых мэт, называецца с р о д к а м і, або с і с т э м а м і, к а м у н і к а ц ы і.

Усе сродкі (сістэмы) камунікацыі ўмоўна можна падзяліць на дзве групы: сродкі масавай камунікацыі (радыё, тэлебачанне, друк і інш.) і сродкі камунікацыі паміж асобамі (тэлефон, тэлеграф, перапіска, гутарка і інш.).

Працэс перадачы інфармацыі і моўныя зносіны людзей адбываюцца праз асноўныя віды маўленчай дзейнасці: гаварэнне, слуханне, чытанне, пісьмо. Тэхнічныя сродкі абмену інфармацыяй з'яўляюцца[ф] дапаможнымі да асноўных, бо служаць толькі дзеля павелічэння і пашырэння зоны дзеяння славесных формаў інфармацыі.

Працэсам і вынікам маўленчай дзейнасці людзей з'яўляюцца выказванні і тэксты. Увогуле ж задача камунікацыі заключаецца ў тым, каб у свядомасці слухача або чытача ўзнікла тая ж інфармацыя, якую перадае той, хто гаворыць ці піша.

Практычна выходзіць так, што паміж інфармацыяй перададзенай (выражанай) і інфармацыяй, якая ўзнікла ў свядомасці слухача ці чытача, усталёўваецца большае ці меншае падабенства. І чым яно большае, тым лепш выражаюцца камунікатыўныя задачы, тым большыя дасягненні нават пры элементарным камунікатыўным акце: аўтар (адрасант) — тэкст — адрасат. Пры адсутнасці любога з **названых** кампанентаў камунікацыя не адбудзецца *(Паводле М. Абабуркі).*

● Да якіх сродкаў камунікацыі (масавых, паміж асобамі) адносіцца Інтэрнэт? Абгрунтуйце сваю думку.

● Пастаўце націск у выдзеленым слове.

● Выпішыце з тэксту па 3 словы, у якіх: а) гукаў менш, чым літар; б) гукаў больш, чым літар; в) больш чым адзін склад, але якія нельга падзяліць для пераносу.

**4.** Карыстаючыся схемай, успомніце і раскажыце, што такое сітуацыя маўлення.




**5.** Разгледзьце табліцу і зрабіце вывад, якія задачы камунікацыі вырашаюцца ў розных стылях маўлення.

| Стылі | Задачы камунікацыі | | |
|---|---|---|---|
| | зносіны | паведамленне | уздзеянне |
| Гутарковы | + | (+) | (+) |
| Навуковы | | + | |
| Публіцыстычны | | + | + |
| Афіцыйны | | + | (+) |
| Мастацкі | | (+) | + |

\+ — асноўныя задачы
(+) — дадатковыя задачы

**6.** Прачытайце тэксты. Ахарактарызуйце сітуацыю маўлення, у якой можа быць выкарыстаны кожны з тэкстаў.

**І.** Кірыліца — адна з дзвюх[м] старажытных славянскіх азбук. Сваю назву атрымала ад імя славянскага асветніка Кірылы (свецкае імя Канстанцін) Філосафа. Створана ў IX стагоддзі[с] на аснове грэка-візантыйскага ўстаўнога пісьма. Адрознівалася ад другой славянскай азбукі — глаголіцы — іншым тыпам і больш простай формай літар.

Мела 43 літары: 24 візантыйскага паходжання, 19 створаны ўпершыню. 27 літар выкарыстоўваліся для абазначэння лічбаў. Літарны склад кірыліцы адпавядаў гукавой сістэме старaславянскай мовы *(А. Булыка)*.

**II.** У гісторыі разві*(ц/цц)*я чалавецтва сусветнай цывілізацыі вельмі в..лікая роля належыць славянству...

Ця*(ж/ш)*ка пер..аціаніць ролю славянскіх народаў у бара*(дз/ц)*ьбе за мір і сацыяльны прагрэс у супрацьстая*(н/нн)*і сілам зла і ц..мрашальства. Успомнім *(Г/г)*рунвальд успомнім трагічнае поле *(К/к)*осава і пераможнае поле *(К/к)*улікова. Успомнім гады *(Д/д)*ругой сусветнай вайны у якой на плечы славян выпаў асноўны ц..жар перамогі над фашызмам і самы.. вялікі.. ахвяры ў якой панеслі славянскія народы рускія беларусы *(у/ў)*краінцы палякі югаславы і ўсе астатнія. І пра гэта ў*(дз/д)*ячнае чалавецтва помніць да сё*(н/нн)*яшняга дня *(так)*сама *(Н. Гілевіч)*.

**III.** Мілы мой, дарагі, першы і апошні, добры мой суддзя, адзіна каханы!

Не глядзі на канверт, ён табе нічога не скажа, ён кінуты далёка ад маіх мясцін. Даруй мне за маю бязлітаснасць[сл], за тое, што я так учыніла з табой, мой добры.

Сэрца абрываецца[м] пры думцы, як ты павінен быў мучыцца гэтыя два месяцы, нічога не ведаючы, не разумеючы, кінуты, нібы прададзены, мною. І ў мяне за гэты час нічога не было, акрамя слёз. Але як я магла пісаць табе? Пісаць — гэта ўсё адно, што глядзець у вочы... *(У. Караткевіч)*.

● Спішыце тэкст II, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі.

● Знайдзіце ў тэксце III займеннікі, вызначце іх разрад.

● Выпішыце з тэксту III дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі, вызначце, ад якіх дзеяслоўных асноў і з дапамогай якіх суфіксаў яны ўтварыліся.

**7.** Вы паслухалі даклад, з якім выступіў ваш аднакласнік. Даклад быў павярхоўны, нелагічны, неаргументаваны. Як бы вы выказалі сваю думку: а) у класе падчас абмеркавання даклада; б) асабіста дакладчыку пасля ўрока; в) сваім сябрам?

**8.** Стварыце выказванні з улікам наступных сітуацый маўлення.

1. Адзін чалавек звяртаецца да другога ў афіцыйных абставінах з асноўнай мэтай: а) паведамлення; б) уздзеяння.
2. Адзін чалавек размаўляе з другім у неафіцыйных абставінах з асноўнай мэтай: а) паведамлення; б) уздзеяння.
3. Адзін чалавек звяртаецца да многіх у афіцыйных абставінах з асноўнай мэтай: а) паведамлення; б) уздзеяння.

## § 3. Вуснае і пісьмовае маўленне

Маўленне як спосаб рэалізацыі мовы існуе ў дзвюх формах: вуснай і пісьмовай.

**Вуснае маўленне** мы ўспрымаем на слых. Вусная форма — гэта гукавая форма маўлення, якой карыстаюцца людзі ў непасрэдных зносінах паміж сабой.

**Пісьмовае маўленне** ўспрымаецца зрокава. У параўнанні з вуснай формай, гэта больш позняя форма маўлення, якая дазваляе фіксаваць з дапамогай графічных знакаў вынікі навуковай, эканамічнай, культурнай і іншай дзейнасці чалавека.

Асноўныя адрозненні паміж вусным і пісьмовым маўленнем абумоўлены мэтай зносін і маўленчай сітуацыяй, якая можа быць афіцыйнай і неафіцыйнай.

Вуснае маўленне можа быць размоўна-бытавым (размовы з роднымі, сябрамі, знаёмымі дома, на вуліцы і г. д.), публічным і інш. Публічнае вуснае маўленне набліжаецца да пісьмовага, а часта і адлюстроўвае яго, таму што большасць вусных прамоў, выступленняў, дакладаў з'яўляюцца ўзнаўленнем загадзя напісаных тэкстаў.

Вуснае маўленне звычайна характарызуецца папярэдняй непадрыхтаванасцю, незваротнасцю. Аўтары ж пісьмовых тэкстаў маюць магчымасць больш асэнсавана, прадумана ствараць свае выказванні, а таксама вяртацца да напісанага, удасканальваць яго.

Вуснае маўленне разлічана на наяўнасць суразмоўцы, слухача. З дапамогай пісьмовага маўлення людзі кантактуюць апасродкавана, іх зносіны разарваныя ў прасторы і часе.

Для вуснага маўлення характэрныя багацце інтанацый, лагічны націск, наяўнасць паўз. Значную ролю ў ім адыгрываюць жэсты, міміка.

Вусная і пісьмовая формы маўлення адрозніваюцца і моўнымі асаблівасцямі. Напрыклад, у вусным маўленні часта ўжываюцца эмацыянальна-экспрэсіўная лексіка, займеннікі, выклічнікі, простыя, няпоўныя сказы і інш., для пісьмовага маўлення характэрныя ўскладненыя і складаныя сказы, больш багаты, чым у вусным маўленні, слоўнік і інш.

**9.** Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс. Пра якія асаблівасці вуснага і пісьмовага маўлення гаворыцца ў прыказках?

1. Слова не верабей, вылеціць — не зловіш. 2. Што напісана пяром, не вычашаш і тапаром.

**10.** Прачытайце ўрывак з кнігі І. Л. Андронікава «Слова напісанае і сказанае». Ці згодныя вы з разважаннямі аўтара пра асаблівасці вуснага і пісьмовага маўлення? Абгрунтуйце свой адказ.

Перакладзіце тэкст на беларускую мову, запішыце. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах.

Если человек выйдет на любовное свидание и прочтёт своей любимой объяснение на бумажке, она его засмеёт. Между тем та же записка, посланная по почте, может её растрогать. Если агитатор пользуется всё время шпаргалкой, можете заранее знать: такой никого не сагитирует. Если человек в суде начнёт давать показания по бумажке, этим показаниям никто не поверит. Плохим лектором считается тот, кто читает, уткнувшись носом в принесённую из дому рукопись. Но если напечатать текст этой лекции, она может оказаться интересной. И выяснится, что она скучна не потому, что бессодержательна, а потому, что письменная речь заменила на кафедре устную.

В чём тут дело? Дело, мне кажется, в том, что написанный текст является посредником между людьми, когда между ними невозможно живое общение. В таких случаях текст

выступает как представитель автора. Но если автор здесь и может говорить сам, написанный текст становится при общении помехой.

**11.** Спачатку выразна прачытайце сказы, затым паўтарыце іх, суправаджаючы кожнае выказванне адпаведнымі жэстамі і мімікай.

Якую ролю, на ваш погляд, адыгрываюць жэсты і міміка ў вусным маўленні?

1. Не, прабачце, я гэтага ніколі не рабіў. 2. І адкуль ён узяўся? Яго ж ніхто не запрашаў! 3. А, было не было! 4. Няхай гэта застанецца паміж намі. 5. Няхай, няхай гаворыць. Не перабівайце яго. 6. Мяне гэта не датычыцца.

**12.** Прачытайце рэкамендацыі, якія даюць вядомы рускі юрыст А. Коні і амерыканскі спецыяліст па аратарскім майстэрстве Д. Карнэгі, наконт выкарыстання жэстаў. Ці згодныя вы з гэтымі меркаваннямі?

На аснове гэтых тэкстаў, вашых меркаванняў, а таксама іншых матэрыялаў складзіце і запішыце па-беларуску рэкамендацыі па выкарыстанні жэстаў пры вусным маўленні.

**I.** Жесты оживляют речь, но ими следует пользоваться осторожно. Выразительный жест (поднятая рука, сжатый кулак, резкое и быстрое движение и т. п.) должен соответствовать значению данной фразы или отдельного слова (здесь жест действует заодно с тоном, удваивает силу речи). Слишком частые, однообразные, суетливые, резкие движения рук неприятны, приедаются, надоедают и раздражают *(А. Кони)*.

**II.** Не повторяйте одного и того же жеста, чтобы он не стал монотонным. Не делайте порывистых, резких движений локтями...

Не прерывайте своих жестов слишком быстро. Если вы делаете движение указательным пальцем, чтобы подчеркнуть свою мысль, не бойтесь сохранить этот жест до конца предложения...

Делайте только те жесты, которые выглядят естественно *(Д. Карнеги)*.

**13.** Прачытайце тэкст, вусна перакажыце яго змест.

Неабходна лічыцца з тым, што выкарыстанне пісьма магчымае толькі ў выніку спецыяльнага навучання носьбітаў вуснага маўлення пісьму і чытанню...

Пі́сьменнасць адкрывае перад чалавекам цэлы шэраг новых магчымасцей зносін. Яна дазваляе зрабіць маўленчы акт бясшумным, разарваным у прасторы і часе (адрасат* і адрасант* могуць знаходзіцца ў розных месцах, пісаць і чытаць у розны час), робіць магчымай фіксацыю выказвання. Паколькі пісьмо фіксуе тэкст, ствараюцца ўмовы для вяртання да таго, што ўжо было сказана.

Пісьмовыя паведамленні і тэксты параўнальна лёгка тыражуюцца: здаўна[сл] яны перапісваліся, а таксама друкаваліся...

Бясспрэчна і тое, што пісьмовыя паведамленні маюць і шэраг недахопаў. Адзін з іх — параўнальная маруднасць пісання (хаця чытанне абганяе ўспрыманне вуснага маўлення) *(А. Супрун)*.

- Растлумачце лексічнае значэнне слоў, пазначаных зорачкай.
- Выпішыце з тэксту: а) пяць слоў, у якіх дзве літары абазначаюць адзін гук; б) два словы, у якіх ёсць літары, што гукаў не абазначаюць; в) дзве пары слоў, у якіх адзін і той жа гук абазначаны рознымі літарамі.

**14.** Падрыхтуйце пісьмовае паведамленне на тэму «Вуснае і пісьмовае маўленне» і выступіце з ім перад аднакласнікамі.

## § 4. Віды маўленчай дзейнасці

Існуюць наступныя віды маўленчай дзейнасці: слуханне, гаварэнне, чытанне, пісьмо.

**Слуханне** і **чытанне** ўяўляюць сабой р э ц э п т ы ў н ы я (ад лац. *recipio* — успрымаю) віды маўленчай дзейнасці, таму што служаць для прыняцця інфармацыі.

**Гаварэнне** і **пісьмо** з'яўляюцца п р а д у к т ы ў н ы м і відамі маўленчай дзейнасці, паколькі выкарыстоўваюцца для выражэння думак у вуснай і пісьмовай формах, для паведамлення інфармацыі.

Слуханне і гаварэнне служаць для зносін у вуснай форме, чытанне і пісьмо забяспечваюць пісьмовы кантакт.

Усе віды маўленчай дзейнасці цесна ўзаемазвязаны: гаварэнне патрабуе наяўнасці слухача, слуханне немагчымае без гаварэння, пісьмовае маўленне разлічана на наступнае чытанне. Размеркаванне відаў маўленчай дзейнасці ў штодзённым жыцці нераўнамернае: менш за ўсё мы пішам, больш за ўсё слухаем і гаворым.

**15.** Прачытайце тэкст. Раскажыце, якія віды слухання існуюць. Прывядзіце свае прыклады пэўных сітуацый, калі патрабуецца той ці іншы від слухання.

**Слуханне (аўдзіраванне)** — гэта асэнсаванае ўспрыманне вуснага маўлення. Слуханне — адзін з самых важных шляхоў атрымання інфармацыі. Выдзяляюцца наступныя віды ўспрымання: глабальнае, дэталёвае і крытычнае.

Глабальнае ўспрыманне патрабуе разумення агульнага сэнсу паведамлення. Гэта значыць, што той, хто слухае, павінен, напрыклад, вызначыць тэму, асноўную думку выказвання і г. д.

Дэталёвае ўспрыманне патрабуе поўнага і дакладнага разумення сэнсу ўсяго выказвання. Напрыклад, вучні павінны дэталёва ўспрымаць тлумачэнне новага матэрыялу на ўроку, тэкст для падрабязнага пераказу і г. д.

Крытычнае ўспрыманне патрабуе і глабальнага, і дэталёвага ўспрымання, а таксама крытычнага асэнсавання пачутага. Таму, хто ўдзельнічае ў дыспуце, неабходна крытычнае ўспрыманне, каб потым ён мог матывавана згадзіцца з іншымі ўдзельнікамі дыспуту, выказаць свой пункт гледжання па пэўным пытанні.

**16.** Прачытайце прыказкі. Ці згодныя вы з парадамі, заключанымі ў гэтых народных выслоўях? Абгрунтуйце свой адказ.

1. Хочаш быць добрым суразмоўцам — будзь уважлівым слухачом. 2. Менш гавары, больш слухай. 3. Менш гавары, больш ведаць будзеш. 4. Будзь спачатку слухачом, а потым апаведачом.

**17.** Прачытайце тэкст, складзіце яго план. Перакажыце тэкст па плане.

❗ **Чытанне** — гэта працэс дэкадзіравання (расшыфроўкі) інфармацыі, якая змешчана ў тэксце.

У працэсе чытання вырашаюцца розныя камунікатыўныя задачы. У сувязі з гэтым існуюць наступныя віды чытання: вывучальнае, азнаямляльнае і праглядальнае.

Вывучальнае чытанне прымяняецца тады, калі патрабуецца максімальна поўна і дакладна зразумець змест тэксту, адэкватна ўзнавіць прачытаную інфармацыю. Пры гэтым чытанні неабходна як мага паўней ахапіць увесь змест тэксту, удумацца ў сэнс кожнага з яго элементаў.

Азнаямляльнае чытанне выкарыстоўваецца тады, калі той, хто чытае, павінен ці толькі знайсці галоўнае ў тэксце, ці выявіць, што гаворыцца па пэўным пытанні, ці ахапіць змест кожнай часткі тэксту ў агульным выглядзе.

Праглядальнае чытанне — гэта такое чытанне, пры якім той, хто чытае, атрымлівае толькі самае агульнае ўяўленне пра змест тэксту.

Пэўны від чытання выбіраецца ў залежнасці ад мэты і задач, якія ставіць перад сабой той, хто чытае.

● Які від чытання неабходны для выканання наступных заданняў: а) вызначыць стыль тэксту; б) вызначыць тэму і асноўную думку тэксту; в) прачытаць тэкст і расказаць пра асноўныя віды чытання?

**18.** Прачытайце тэкст. Прывядзіце прыклады сітуацый, калі гаварэнне з'яўляецца: а) прадуктыўным, падрыхтаваным; б) прадуктыўным, непадрыхтаваным; в) рэпрадуктыўным, падрыхтаваным.

❗ **Гаварэнне** як від маўленчай дзейнасці ўяўляе сабой працэс выражэння сваіх і чужых думак у гукавой форме пры дапамозе моўных сродкаў. У рэальнай камунікацыі* асноўнымі функцыямі гаварэння з'яўляецца перадача інфармацыі, вербальнае* ўздзеянне на субяседніка, пабуджэнне субяседніка да паведамлення неабходнай інфармацыі і г. д.

Гаварэнне можа быць рознай ступені складанасці, пачынаючы ад выражэння афектыўнага* стану пры дапамозе выклічнікаў і заканчваючы самастойным разгорнутым выказваннем.

Гаварэнне бывае прадуктыўным (ствараецца тым, хто гаворыць) і рэпрадуктыўным (уяўляе сабой перадачу слоў, сказаў, тэкстаў без змянення), падрыхтаваным (змест і моўны матэрыял выказвання папярэдне рыхтуюцца) і непадрыхтаваным (выказванні фарміруюцца і фармулююцца як непасрэдная рэакцыя на маўленчую сітуацыю).

● Растлумачце лексічнае значэнне слоў, пазначаных зорачкай.

**19.** Прачытайце прыказкі. Якіх правіл раіць прытрымлівацца ў час гутаркі народная мудрасць?

1. Спачатку думай, затым гавары. 2. Усё знай, ды не ўсё бай. 3. Трэба знаць, што казаць. 4. Многа ведай, ды мала гавары.

**20.** Зрабіце пісьмовы пераклад тэксту на беларускую мову, расстаўляючы неабходныя знакі прыпынку.

! **Письмо** является не только отражением звуковой речи но и вторым воплощением информации, параллельно с нею существующей формой речевого общения. Передача информации при помощи письма расширяет рамки возможностей речевого общения. Во-первых письмо может быть послано на большое расстояние. Во-вторых послание может существовать не только просто долго но даже после того как перестанет существовать его автор. В-третьих сама по себе фиксация сообщения может служить для четкого и непререкаемого воспроизведения некоторого установления (закона, договора и т. д.). Наконец в-четвертых письменное сообщение может быть рассчитано на гораздо большее число принимающих соответствующую информацию. Последнее конечно было особенно актуальным до изобретения средств механической и электронной звукозаписи. Называемые пре-

имущества письменной речи перед устной определили её чрезвычайно важное место в развитии человеческого общения *(А. Супрун)*.

● Дакажыце, што гэты тэкст уяўляе сабой разважанне.

**21.** Прачытайце тэкст, пісьмова складзіце яго план. Карыстаючыся планам, вусна перакажыце тэкст.

! У аснове сучаснага беларускага пісьма ляжыць **кірыліца** — старажытная славянская азбука.

На Русі кірыліца пачала пашырацца ў X—XI стст. у сувязі з прыняццем хрысціянства і з'яўленнем богаслужэбных кніг на стараславянскай мове. З XIII—XIV стст. кірыліца выкарыстоўваецца і ў беларускім пісьменстве.

Да XVI ст. кірылаўскае пісьмо ў Беларусі было толькі рукапісным. Эпоха кнігадрукавання ва ўсходніх славян пачалася з 1517 года. Вядомы вучоны-асветнік, усходнеславянскі першадрукар Ф. Скарына, стварыў на аснове кірыліцы шрыфт і з 1517 па 1519 г. пераклаў на беларускую мову і надрукаваў 23 кнігі «Бібліі рускай». Так з XVI ст. у беларускім пісьменстве сталі ўжывацца і рукапісныя, і друкаваныя літары.

Кірылаўскім пісьмом карысталіся ў Беларусі да канца XVII ст. У 1696 г. сейм Рэчы Паспалітай прыняў пастанову, паводле якой у справаводстве Вялікага княства Літоўскага павінна была выкарыстоўвацца толькі польская мова. З гэтага часу пісаць па-беларуску пачалі лацінскімі літарамі (лацінкай).

Пісалі па-беларуску і арабскімі літарамі. Першыя беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, з'явіліся ў сярэдзіне XVI ст. Ствараліся яны татарамі, якія ў XVI—XVII стст. пасяліліся ў Беларусі і Літве.

У 1708 г. па загадзе Пятра I была праведзена рэформа рускай графікі. Рэфармаваная кірыліца атрымала назву «грамадзянская азбука» («грамадзянка»). Узоры літар грамадзянскага алфавіта стварыў беларус Ілья Капіевіч.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. З гэта-

га часу і аж да пачатку XX ст. беларускі народ карыстаўся дзвюма графічнымі сістэмамі: лацінкай і кірыліцай. Лацінскімі літарамі, напрыклад, пісалі свае творы В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, на кірыліцы былі выдадзены вершы Янкі Лучыны, некаторыя ананімныя творы.

Існаванне дзвюх графічных сістэм стварала пэўныя цяжкасці, таму пачынаючы з 1913 г. большасць беларускіх выдавецтваў перайшла на грамадзянскі шрыфт. А ў 1926 годзе на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і графікі было вырашана выкарыстоўваць у якасці графічнага сродку беларускай літаратурнай мовы толькі кірыліцу.

**22.** Паразважайце, якую ролю ў фарміраванні асобы адыгрываюць розныя віды маўленчай дзейнасці: слуханне, чытанне, гаварэнне, пісьмо. Падрыхтуйце выказванне на гэтую тэму.

## § 5. Дыялагічнае і маналагічнае маўленне

**Дыялог** — маўленне, у час якога адбываецца непасрэдны абмен выказваннямі паміж некалькімі (дзвюма і больш) асобамі.

Па структуры дыялог уяўляе сабой паслядоўнасць узаемазвязаных адносна кароткіх рэплік, адны з якіх могуць выражаць зварот да асобы, пытанне, паведамленне, пабуджэнне і г. д., другія — змяшчаць адказ, сустрэчнае пытанне, удакладненне, пярэчанне і інш.

У пісьмовым маўленні пры дыялогу могуць знаходзіцца словы аўтара (асобы, якая каменціруе дыялог).

Дыялагічнае маўленне характарызуецца непасрэднасцю зносін, сітуацыйнасцю, адначасовасцю мыслення і гаварэння. У сувязі з гэтым існуюць і моўныя асаблівасці дыялога, напрыклад памяншэнне даўжыні сінтаксічных адзінак, ужыванне няпоўных сказаў, меншае выкарыстанне дзеепрыметнікавых і дзеепрыслоўных зваротаў і інш.

**Маналог** — разгорнутае, працяглае маўленне, звернутае да самога сябе ці да іншых і не разлічанае на слоў-

ную рэакцыю другіх асоб. Маналог можа быць звернуты да суразмоўцы, аддаленага часам, прасторай ці нават уяўнага.

Маналог уяўляе сабой разгорнутае выказванне пэўнага тыпу і стылю. Выбар тыпу і стылю маналагічнага маўлення абумоўлены сітуацыяй зносін. Маналагічнаму маўленню ўласцівыя даволі складаная сінтаксічная будова, большая сэнсавая глыбіня, жанравая разгалінаванасць.

**23.** Прачытайце дыялог. Вызначце сітуацыю маўлення і моўныя сродкі, характэрныя для яе.

Сярожка ідзе побач са мною і гаворыць безупынку:

— А верыце, улетку я дома толькі начую. Мама карову падоіць, дык нахапаюся сырадою з хлебам і як шасну на ўвесь дзень...

— Не абедаючы?

— Я самапасам. Летам усяго поўна: яблык, гуркоў, ягад. Напяку рыбы за рэчкай. Яе аб травічку патрэш, пачысціш, яна тады ой смачная!..

— Ты, відаць, любіш пушчу? — пытаюся я.

— Няўжо не люблю, — прызнаецца ён. — Я б усе дні сядзеў у лесе. Ці ля вальераў, дзе алені жывуць і зубры. У нас добра, калі турыстаў мала. А панаедуць з гарадоў, тады спачатку бывае цікава, а пасля — хоць ты куды ўцякай... *(Паводле В. Карамазава).*

**24.** Вызначце, што выражаюць рэплікі ўдзельнікаў дыялога ў гэтым і папярэднім практыкаваннях. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

— Аўсееў, — глухаватым, але рашучым голасам сказаў Карпенка, — бяры вінтоўку і — на варту.

Аўсееў крута павярнуўся[c] на падлозе.

— А чаго я? Што я, горшы за ўсіх?

— Без размоў.

— Давай, давай, паніч, — загаварыў Свіст. — Не бойся, кашы не празяваеш. Пакінем... *(В. Быкаў).*

**25.** Прачытайце гумарыстычныя творы Н. Гілевіча і паразважайце, чаму ў іх ужываецца дыялог, а не ўскосная мова.

### ДЗВЕ ВАРОНЫ

Глядзелі з дрэва дзве вароны
На рэактыўны самалёт.
— Ты бачыш? Вецер не дагоніць!
Вось гэта птушка! Ну і лёт!
— А што ты дзівішся[ф], суседка?
За ёй вунь дым на паўнябёс!
Ты паляціш яшчэ не гэтак,
Калі табе падпаляць хвост!

### ПЫТАННЕ Ў АДКАЗ

Бацька ўшчувае вучня-сына:
— Знаеш, ад чаго ссівеў я так?
Што сваруся на цябе няспынна
За ляноту за тваю, лайдак!
Сын унурыўся, зірнуў спадлоб'я
І спытаў, не ўзняўшы[с] галавы:
— Калі гэта праз мяне — дык добра:
Ад чаго тады мой дзед сівы?

**26.** Прачытайце маналогі, ахарактарызуйце сітуацыю маўлення для кожнага з іх.

Спішыце першы тэкст, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і расстаўляючы неабходныя знакі прыпынку.

**I.** Нашы продкі не знікалі б..сследна. Перадаючы эстафету наступным пакале*(н/нн)*ям, у тым ліку і нам, яны пакідалі скарбы створаныя іх працавітымі рукамі. Мен*(?)*ш за ўсё — у золаце і срэбры. Больш — у камені і мармуры на тканіне і дрэве. І пераважна — на паперы. Помнікі дойлі*(дс/ц)*тва і жывапіс.. рукапісы і старадаўнія кнігі народныя песні і ка*(з/с)*кі вось тая «машына часу» якая дазваляе нам а*(д/т)*правіцца ў мінулае каб ведаць як жылі і што думалі нашы продкі і дзякуючы гэтаму глыбей усв..доміць саміх с..бе.

Мы абавязаны зберагчы і перадаць нашым нашчадкам матэрыяльныя і духоўныя каштоўнас*(?)*ці нашых продкаў. Не дзеля пустой цікавасці а таму што судакрана*(н/нн)*е з прадметамі гісторыі ўзбуджае ў чалавека а*(д/т)*чуванне гістарычнасці яго быцця. Ён пачынае а*(т/д)*чуваць с..бе звяном у ланцугу пакаленняў. А гэта фарміруе пачуццё адказнасці за справу якую мы робім дзеля сябе дзеля грама*(ц/дс)*тва і дзеля будучых пакаленняў. Фарміруе чалавека *(А. Мальдзіс)*.

**II.** У многіх гаворках Гродзенскай вобласці, паўднёвых раёнаў Мінскай вобласці назоўнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне множнага ліку пад націскам маюць канчатак ***-э (-е)***: *вузлэ, зубрэ*. Гэта — рэшткі старажытнага скланення пэўных груп назоўнікаў, якія ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку мелі форму *землѣ, душѣ*. У працэсе развіцця мовы канчатак ***-э*** стаў ужывацца і ў назоўніках з цвёрдай асновай: *дубэ, дажджэ (Паводле Е. Мяцельскай, Э. Блінавай)*.

**III.** Быў у нас кот Цімох**[сн]**. Здаравенны, як конь. У тое лета ўсё былі дажджэ, дажджэ, пшаніца ў мэндлях парасла, і булкі пякліся адразу салодкія і вельмі ж ляпіліся ў роце, ніяк не глынеш. Цімох наш злодзей быў, злодзей! Недзе ашварак той булкі ўрваў, ідзе і толькі «во-оў!» Прысеў і лапаю з рота дзярэ. Ледзьве я памог... А хітры быў, як вуж! Збанкі з малаком стаялі ў нас пад прыпекам так, што ён галавы туды не ўсадзіць. Пячорка такая, што як збанам толькі ўлезці. Дык ён возьме ды лапу туды прасадзіць, абмочыць у малако ці смятану і аблізвае, абмочыць і аблізвае... *(Я. Брыль)*.

● Знайдзіце ў I тэксце назоўнікі, якія адрозніваюцца родавай прыналежнасцю ў беларускай і рускай мовах.

● Ад слова *камень* утварыце форму множнага ліку назоўнага склону, а таксама зборны назоўнік.

**27.** Вызначце, вусная ці пісьмовая форма маўлення, дыялог ці маналог (дыялог з элементамі маналога, маналог з элементамі дыялога) выкарыстоўваюцца ў наступных сітуацыях:

1. Выступленне на сходзе.
2. Гутарка некалькіх асоб.
3. Дыспут па нейкім пытанні.
4. Лекцыя па навуковай тэматыцы.
5. Спрэчка дзвюх асоб.
6. Справаздача аб выкананні задання.
7. Апавяданне пра асабістае жыццё.
8. Напісанне водгуку ці рэцэнзіі на прачытаную кнігу.

**28.** Уявіце такую сітуацыю: вы — выхавацель у дзіцячым садку і вам неабходна растлумачыць дзецям, чаму існуюць дзень і ноч (зіма, вясна, лета, восень). Стварыце вуснае выказванне з улікам прапанаванай сітуацыі.

## *КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ*

1. Што называецца маўленнем? мовай?
2. У чым выражаецца сувязь паміж мовай і маўленнем?
3. Што неабходна ўлічваць пры стварэнні выказвання? Пералічыце прыметы маўленчай сітуацыі.
4. Назавіце асноўныя віды маўленчай дзейнасці.
5. Якія віды слухання (аўдзіравання) вы ведаеце? У чым іх сутнасць?
6. Якія ёсць віды чытання? З якой мэтай выкарыстоўваецца той ці іншы від?
7. Што ўяўляе сабой гаварэнне як від маўленчай дзейнасці?
8. Ахарактарызуйце пісьмо як від маўленчай дзейнасці.
9. Якія графічныя сістэмы выкарыстоўваліся ў беларускім пісьме?
10. У чым заключаецца адрозненне вуснай формы маўлення ад пісьмовай?
11. Што ўяўляе сабой маналог? Ахарактарызуйце дыялагічнае маўленне.

# ТЭКСТ

## § 6. Тэкст як адзінка мовы і маўлення. Сэнсавая цэласнасць і тэматычнае адзінства тэксту

**Тэкст** (ад лац. *textum* — сувязь, злучэнне) — звязнае і адносна завершанае выказванне на пэўную тэму, якое характарызуецца камунікатыўнай прызначанасцю і звычайна складаецца з групы сказаў, аб'яднаных сэнсам і граматычна. Тэкст з'яўляецца вынікам мысліцельнай і маўленчай дзейнасці чалавека.

Тэкст як элемент моўнай сістэмы — гэта найбольшая адзінка сінтаксічнага ўзроўню, якая аб'ядноўвае адзінкі ўсіх узроўняў мовы агульнасцю задумы, мэт і ўмоў камунікацыі. Менавіта ў тэксце рэалізуюцца значэнні ўсіх моўных адзінак.

Пры пабудове тэксту неабходна ўлічваць, з якой мэтай ён ствараецца, хто яго адрасат, якую сферу дзейнасці абслугоўвае, у якой сітуацыі будзе ўспрымацца, у якім стылі будзе напісаны і інш.

Тэкст характарызуецца наступнымі п р ы м е т а м і: сэнсавай цэласнасцю, тэматычным адзінствам, звязнасцю, разгорнутасцю, паслядоўнасцю і завершанасцю.

**29.** Карыстаючыся тлумачальным слоўнікам беларускай мовы, вызначце лексічнае значэнне слова *тэкст* у наступных словазлучэннях. Адназначнае гэтае слова ці мнагазначнае?

Тэкст песні, тэкст рукапісу, пераклад тэксту, тэкст рамана, тэкст выступлення, тэксты Я. Коласа, тэкст пагаднення.

Асноўная мэта любога тэксту — данесці да адрасата (слухача ці чытача) пэўную інфармацыю, пэўны сэнс. Аўтар тэксту зацікаўлены ў тым, каб гэтая інфармацыя

была зразумелая. Абавязковая ўмова зразумеласці, паспяховага ўспрымання тэксту — яго **сэнсавая цэласнасць**, якая дасягаецца, калі ўсе сказы ў тэксце звязаны паміж сабой па сэнсе.

Калі сэнсавая цэласнасць парушаецца, тэкст, правільны з фармальнага боку, «распадаецца» і ў выніку пазбаўляецца сэнсу. Напрыклад: *Нахадзіўшыся па лесе, я сеў адпачыць, паслухаць, як шумяць сосны. Сасна расце пераважна на пясчаных глебах. А глебы тут былі ўрадлівыя. Яны далі добры ўраджай.*

**Тэматычнае адзінства** — прымета тэксту, якая праяўляецца ў тым, што ўсе сказы і часткі тэксту накіраваны на раскрыццё яго тэмы і асноўнай думкі.

**Тэма тэксту** — гэта прадмет маўлення, тое, пра што гаворыцца ў тэксце.

**Асноўная думка (ідэя) тэксту** — гэта тое галоўнае, што хоча сказаць аўтар аб прадмеце маўлення, гэта аўтарскі погляд на падзеі, вобразы, характары і г. д., аўтарская іх ацэнка. Напрыклад:

*ВЫХАВАННЕ СЛОВАМ*

*З усіх сродкаў выхавання, якія ёсць у нас, людзей, самым выпрабаваным і надзёнexistent было і будзе слова.*

*Эстэтычнае выхаванне словам пачынаецца з развіцця, з узбагачэння пачуццяў. Чым шырэйшы набытак уражанняў, тым болей дзіця бачыць і чуе ў навакольным свеце сувязяў і ўзаемадачыненняў. І тут слова, яго ўнутранае багацце, яго разнастайныя сэнсавыя і эмацыянальныя магчымасці, бадай, адзіны сродак і спосаб выхавання духоўнай культуры чалавека.*

*Далікатнасць, сардэчнасць адносін, найтанчэйшыя перажыванні, чарадзейная сіла кахання, захапленне прыгажосцю прыроды, пачуцці адданасці і любові да Радзімы — усё, што, на першы погляд, немагчыма вызначыць і выказаць словамі, аднак жа ўсё, літаральна ўсё знайшло і знаходзіць сваё выяўленне ў слове, у вобразе, у паэзіі, у мастацтве. Людзі, якім пашчасціла змалку, са школы*

*сустрэць выхавацеляў і настаўнікаў, чуйных да хараства слова, праз усё жыццё будуць удзячныя ім за душэўнае святло, за чысціню пачуццяў, якія якраз і робяць чалавека шчаслівым* (Паводле В. Віткі).

У гэтым тэксце тэма названа ў загалоўку, асноўная думка адлюстравана ў першым сказе.

Аднак дастаткова часта асноўная думка не афармляецца славесна. Чытач ці слухач павінен вызначыць яе сам, удумаўшыся ў змест тэксту.

У кожным тэксце ёсць **апорныя (ключавыя) словы**, якія перадаюць асноўны змест тэксту і дапамагаюць узнавіць яго пры пераказе. Апорныя словы нясуць у сказах асноўную сэнсавую нагрузку і, як правіла, у вусным маўленні выдзяляюцца лагічным націскам. Звычайна пры чытанні толькі гэтых слоў можна вызначыць тэму тэксту.

**30.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Ці адлюстроўвае назва тэксту яго тэму? Назавіце апорныя словы ў першым—трэцім абзацах.

НА АРБІТУ ЖЫЦЦЯ

**Кажуць**, што, якім будзе чалавек, залежыць ад таго, якім вы яго **зробіце** да **пятага года жыцця**. Калі вы да **пяці** год не **выхавалі** яго як трэба, потым прыйдзецца **перавыхоўваць**.

Перавыхоўваць неймаверна цяжка. Але, як ні дзіўна, **найбольшыя нашы** сілы і найбольшыя нашы сродкі трацяцца на перавыхаванне. Мы толькі тым і займаемся, што перавыхоўваем, як бы загадзя **разлічваючы**, што ўпушчанае намі, не дарobленае намі, а то і злачынна сапсаванае намі павінен выправіць нехта наступны, хто падымае чалавека на **чарговую** ступень.

Колькі ступеняў у ракеты, што кожнага з нас выводзіць у свой **жыццёвы** космас: маленства, малалецтва, юнацтва, сталасць... Але, бывае, **падняўшыся** нават на самую высокую, чалавек так і не ўбачыць, дзеля чаго ён падымаўся — ні

радасці адчування прасторы для думкі, для творчасці, ні хараства жыцця, таму што бачанню, адчуванню ўсяго гэтага яго не навучылі на першай, на самай галоўнай ступені — у тыя пяць—сем год, калі яго істота была здольная ўзбагаціцца на **ўсё** жыццё.

Першая ступень жыцця, у адрозненне ад касмічнай ракеты, не адпадае, а прырастае навек. І калі яна была ўдалая — чалавек, як правіла, шчаслівы, лёгка і радасна яго душы, калі няўдалая — звычайна ўсё жыццё адчувае яе пакутны цяжар *(Паводле В. Віткі)*.

● Успомніце, якія марфемы з'яўляюцца формаўтваральнымі. Назавіце ў выдзеленых словах формаўтваральныя марфемы.

**31.** Прачытайце тэкст. Дакажыце, што яму ўласцівыя такія прыметы, як сэнсавая цэласнасць і тэматычнае адзінства. Падбярыце загаловак так, каб ён адлюстроўваў тэму.

Спішыце тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі.

Нахадзіўшыся па лесе я сеў а*(д/т)*пачыць на сасну якую з карэ*(н/нн)*..м выв..рнула навальніца. Раптам над галавою трэснула галінка. Я глянуў *(у)*гору. На галіне сасны трымаючы *(ў/у)*лапках з..лёную шышку прытоена с..дзела вавёрка.

Нашы позіркі сустрэліся. Зв..рок адразу кінуў шышку прабег па галіне і скокнуў на суседн..е дрэва *(ў/у)*паветры прамільгнула вогн..*(н/нн)*ая паласа. Вавёрка забралася на самую в..ршаліну сасны і а*(д/т)*туль пачала назіраць за мною. Пераканаўшыся што ёй н..што н.. пагражае яна в..рнулася на галіну дзе толькі што с..дзела адарвала шышку зручней уладкавалася і пачала в..чэраць. Кінутыя ёю лускавінкі кружачыся ў паветры павольна ападалі на дол. Вавёрка назірала за мною. Выгляд яе н..быта гаварыў Ну, паглядзі, паглядзі як я в..чэраю *(Паводле З. Бяспалага)*.

● Падкрэсліце ў тэксце словы (самастойныя часціны мовы і іх формы), якія не маюць канчаткаў. Калі ў гэтых словах ёсць формаўтваральныя суфіксы, абазначце іх.

**32.** Прачытайце тэксты. Ці можна сказаць, што яны напісаны на адну тэму, але маюць розныя асноўныя думкі? Абгрунтуйце сваё меркаванне. Падбярыце да кожнага тэксту загаловак так, каб ён адлюстроўваў асноўную думку.

**I.** У парку — залатая восень[сн]. Яна вельмі багатая на маляўнічыя фарбы. Усё навокал гарыць каляровай лістотай. Тут і золата, і яркая чырвань, і лімонна-жоўтыя колеры, шмат барвовых фарбаў. Ёсць нават фіялетава-чорныя, і амаль не відаць звыклых зялёных. Гарыць і ззяе ў сонечны дзень нават маленькая былінка! *(Паводле В. Ціхановіча)*.

**II.** У парку — восень. Шэры туман павіс над зямлёй. Нерухомыя елкі ўткнулі ў неба свае доўгія пікі-верхавіны. А ўнізе пад іх шырокімі лапамі — змрок. Дрэвы стаяць маўклівыя, сонныя, з іх не-не ды і злятаюць пажоўклыя лісты: настаў час. Абарвецца ліст, зашамаціць лагодна, мякка, нібы развітваючыся з тымі, што засталіся вісець. І апускаецца павольна, хапаючыся за малюсенькія расінкі туману. Слухаеш шоргат лісця — і становіцца сумна: шкада лета, цяпла... *(Паводле М. Дзелянкоўскага)*.

- Выпішыце з тэксту II словы з нулявым канчаткам.
- Падбярыце да назоўніка *восень* аднакаранёвыя словы.

## § 7. Разгорнутасць як прымета тэксту

**Разгорнутасць** як прымета тэксту азначае, што развіццё тэмы, рэалізацыя асноўнай думкі адбываюцца з дапамогай падтэм і мікратэм.

П а д т э м ы забяспечваюць шырыню ахопу тэмы, а м і к р а т э м ы — глыбіню яе раскрыцця. Назвы падтэм звычайна суадносяцца з простым планам тэксту, дабаўленне ў просты план назваў мікратэм ператварае яго ў складаны.

Мікратэма ў тэксце, як правіла, раскрываецца ў некалькіх сказах. Частка тэксту, якая складаецца з аднаго або некалькіх сказаў, аб'яднаных мікратэмай, характарызуецца адзінствам і адноснай закончанасцю зместу, называецца а б з а ц а м.

Традыцыйная структура абзаца наступная: пачатак (зачын), развіццё думкі, заканчэнне. Напрыклад: *Фёдар быў рыбак адмысловы. Я яшчэ не паспеў разблытаць леску і закінуць сваю вудачку, а ён ужо цягнуў вялікага паласатага акуня. Хутка за першым шалёна заплёскаў хвастом, затрапятаўся і другі. Не прайшло і гадзіны, а ў нас ужо над вогнішчам вісела вядзерца, пах з якога прыемна казытаў нашы насы* (Паводле С. Шуртакова).

Першы сказ у гэтым абзацы — пачатак, зачын. Другі і трэці развіваюць думку, выказаную ў зачыне. Апошні сказ сведчыць пра тое, што мікратэма вычарпана.

Аднак у тэкстах, асабліва вялікіх па памеры, дастаткова часта сустракаюцца абзацы, якія маюць іншую будову: без зачыну ці заканчэння, без зачыну і заканчэння. Гэта назіраецца тады, калі мікратэма раскрываецца ў некалькіх абзацах.

**33.** Прачытайце тэкст. Вызначце, які сказ з'яўляецца зачынам, у якіх адбываецца развіццё думкі, які сведчыць пра тое, што мікратэма вычарпана.

Спішыце, расстаўляючы неабходныя знакі прыпынку.

Ветру не было цэлы дзень. Ён мусіць недзе **заблудзіўся** ці **нагуляўшыся ўчора** стомлена заснуў **дзе-небудзь** у Налібоцкай пушчы. А пад вечар стала яшчэ **цішэй**. Здалося што нехта **накрыў гарадок** цёмным купалам неба ды яшчэ прыцісну́ў купал да зямлі каб ніводзін гук не парушыў глыбокага **асенняга спакою**. Магчыма такой празрыстай цішыні больш ніколі не надарыцца[ф] і я цешуся гэтай цішынёй *(М. Дзелянкоўскі)*.

● Абазначце ў выдзеленых словах аснову і (калі ёсць) формаўтваральныя марфемы.

**34.** Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак. Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы, назавіце падтэмы і мікратэмы. Пісьмова складзіце план тэксту.

Кожная цывілізаваная краіна мае майстроў слова. Яны не толькі дораць ёй шырокую вядомасць[сл], але і паказваюць

у сваіх творах характар роднага народа, яго гістарычны лёс.

Наша родная Беларусь таксама мела і мае летапісцаў і прарокаў. Хто такія Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарэцкі, Алесь Гарун, Кузьма Чорны? Толькі паэты і празаікі? Не, гэта яшчэ і ўніклівыя празарліўцы, і самаадданыя абаронцы інтарэсаў роднага краю.

Сярод майстроў слова па праве заняў пачэснае месца і Васіль Быкаў, пісьменнік з сусветным[сл] прызнаннем. Што забяспечыла яму абсалютны аўтарытэт і ўстойлівы давер не толькі інтэлектуалаў з далёкіх і блізкіх дзяржаў, але і мільёнаў чытачоў усіх кантынентаў?

Перш за ўсё, безумоўна, выключны талент, той «божы дар», які даецца нячаста і здольны ператрываць усё. Васіль Быкаў не адкідаў пагардліва традыцыі класікаў. Ён ашаламляў сваіх прыхільнікаў праўдаю і глыбінёй спасціжэння паводзін чалавека ў так званых экстрэмальных абставінах. Яго героі — радавыя Вялікай Айчыннай вайны. Яны зусім звычайныя людзі. Сітуацыя на мяжы жыцця і смерці вымушала іх рабіць выбар на карысць дабра ці зла. Кожны з гэтых людзей, такі падобны да іншых у будзённых умовах, раптам раскрываецца[сл] для нас нечакана і непаўторна. Васіль Быкаў бязлітасна праўдзіва выпісвае чалавека: у праяўленні то дабрыні, працавітасці, мужнасці, а то і пакорлівасці ды хістання.

Пісьменнік ваеннай тэмы, Васіль Быкаў сам прайшоў і прапоўз горкае поле вайны пад грукат снарадаў і лязг танкаў, удосталь наглытаўся парахавога дыму і горкіх слёз, пахаваў многіх сяброў і загаіў не адну рану. Ён мае і асабістае, асаблівае права «судзіць» вайну і смела спавядацца перад чыстай памяццю загінуўшых. Можа, адсюль той стрыманы, схаваны недзе ў дальніх куточках свядомасці крык у абарону чалавечнасці і жыцця, які чуецца амаль на кожнай старонцы быкаўскай прозы.

Гэта вялікае шчасце — жыць у адным часе, на адной зямлі з такімі асобамі, з такімі выдатнымі майстрамі! Ёсць каму верыць, ёсць кім захапляцца *(Паводле Г. Бураўкіна)*.

**35.** Прачытайце часткі тэксту. Ці дазваляе такое іх размяшчэнне развіваць тэму ў патрэбным кірунку?

Запішыце часткі ў такой паслядоўнасці, каб атрымаўся тэкст. Устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары і раскрыйце дужкі.

ДАЛЬВА

Я а..хіліў[ф] *(у)*бок пру..кую галіну — і вачам а..крыўся *(не)*забыўны малюнак: з..мля св..цілася, з..мля гаварыла. Дз..сяткі тонкіх, як сонечны.. промні, струмен*(?)*чыкаў ускідвалі пад сонца залаты.. пя*(с/ш)*чынкі, падалі разам з імі на бл..скучыя камен*(?)*чыкі, што ўслалі з..млю трохі ніжэй, пра нешта напеўна і згодна апав..далі.

Ціха ступаючы паміж кам..нёў, я спусціўся *(у)*ніз. Тут раслі, нахіліўшыся, некалькі алешын, а над імі *(у/ў)*звышалася кучаравая чаромха.

Дальва... Дык вось дзе была яна, в..домая сё*(н/нн)*я н.. аднаму чалавеку на свеце вёска, закатаваная чужынцамі. Пра яе жахлівую трагедыю я чуў многа. Пад званамі *(Х/х)*атыні на чорных плітах выс..чана побач з імёнамі іншых ахвяраў нашай *(З/з)*ямлі і яе пакутнае імя.

Захопл..ны і *(у/ў)*схвал..ваны, я наблізіўся да крынічкі і апусціўся перад ёй на калені, прыпаў вуснамі да празрыстай с*(т/ц)*юдзё*(н/нн)*ай вады. Падняўшыся, убачыў на *(не)*далёкім пагорку абгароджаны высокі камень і пры ім аб..ліск.

Я стаяў перад жалобным помнікам і нібы сам па́даў пад кул..мі ка́таў. Здавалася, я пачынаў разумець, пра што гаворыць крынічка. Прагу жы*(ц/цц)*я нельга знішчыць н..якімі катава*(нн/н)*ямі.

Помнік быў у гл..біні лесу, на шырокай паляне. Сціплы і просты, ён све..чыў пра тое, што тут каліс*(?)*ці была вёска Дальва і што яе[ф] разам з усімі жыхарамі спалілі фашысты... *(Паводле К. Кірэенкі).*

## § 8. Паслядоўнасць як прымета тэксту

**Паслядоўнасць** — прымета тэксту, якая праяўляецца ў тым, што элементы зместу размяшчаюцца ў тэксце ў пэўным парадку, па пэўнай схеме, што складае кампазіцыю тэксту.

Кампазіцыя (будова) тэксту залежыць ад таго, які т ы п  м а ў л е н н я ляжыць у яго аснове: апавяданне, апісанне ці разважанне.

**Апавяданне** — тып маўлення, у якім расказваецца пра падзеі, дзеянні, што адбываюцца ў часе ў пэўнай паслядоўнасці. Апавяданне — гэта адлюстраванне свету ў руху, у дынаміцы.

Звычайна структура тэксту-апавядання наступная: 1) пачатак дзеянняў, падзей; 2) развіццё дзеянняў, падзей; 3) заканчэнне дзеянняў, падзей.

**Апісанне** — тып маўлення, калі характарызуецца прадмет маўлення, пералічваюцца яго прыметы, уласцівасці. Звычайна ў апісанні гаворыцца пра такія прыметы, якія можна ўбачыць адразу, усе разам. Апісанне заўсёды статычнае. Прадмет апісання можа быць прадстаўлены, напрыклад, на адным фотаздымку, малюнку.

Структура тэксту-апісання, як правіла, такая: 1) агульнае ўражанне аб прадмеце; 2) прыметы прадмета; 3) ацэнка прадмета.

**Разважанне** — тып маўлення, у якім раскрываюцца прычыны чаго-небудзь, абгрунтоўваецца пэўная думка, тлумачыцца што-небудзь і г. д. Разважанне патрабуе лагічнай, дакладнай сістэмы доказаў, аргументаў, якія павінны быць пераканаўчыя. Пры разважанні можна ўздзейнічаць не толькі на розум, але і на пачуцці адрасатаў.

Структура тэксту-разважання звычайна наступная: 1) тэзіс; 2) доказы; 3) вывады.

У маўленні, асабліва ў творах мастацкай літаратуры, структурныя часткі тэксту могуць мяняцца месцамі, некаторыя з іх могуць апускацца.

Тэксты, што ўяўляюць сабой адзін тып маўлення, сустракаюцца даволі рэдка. Як правіла, выкарыстоўваюцца

камбінаваныя тыпы маўлення: апавяданне з элементамі апісання, апавяданне з элементамі разважання, разважанне з элементамі апісання ці апавядання і інш.

**36.** Перачытайце тэкст «На арбіту жыцця» (практ. 30), вызначце тып маўлення, абгрунтуйце сваё меркаванне.

**37.** Прачытайце тэкст, вызначце тып маўлення, кампазіцыйную структуру тэксту. Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы, складзіце і запішыце план тэксту.

Наваселле[сл] ў народнай традыцыі было вялікім сямейным святам і несла ў сабе патаемны сімвалічны сэнс.

Першы раз гаспадар уваходзіў у новую хату, як у храм. Напярэдадні запрашалі святара, які асвячаў дом, акрапляючы свянцонай вадой, благаслаўляў яе жыхароў[сн]. Наваселле імкнуліся справіць у поўню: поўны месяц — поўны дастатак, поўныя засекі збожжа. На ноч перад засяленнем у хату пускалі пеўня ці кошку, якія нібыта павінны былі прыняць на сябе магчымае зло. Паводле язычніцкіх* павер'яў славян*, певень сваім спевам адводзіў нячыстую сілу і служыў абярэгам.

Пераход у новую хату адбываўся ў другой палове дня ці вечарам. Са старой хаты бралі агонь з ачага (гаршчочак з вуглямі) і цырымонна неслі яго ў новую хату. Гэты рытуал быў раней вядомы амаль на ўсёй Беларусі. Са старой хаты ў новую пры запаленай свечцы пераносілі абразы.

У ліку першых прадметаў у новы дом пераносілі дзяжу*. Дзяжу з цестам урачыста ставілі на покуць*. За ёй уносілі качаргу*, вілкі*, хлебную лапату.

Усе гэтыя звычаі і павер'і існавалі з глыбокай старажытнасці. Яны адлюстроўвалі і спалучалі славянскія язычніцкія культы і хрысціянскую абраднасць. Аблюбаваны і выбраны для жылля куток зямлі быў для гаспадара свяшчэнным. На ім ён збіраўся жыць доўга, а потым перадаць яго ў спадчыну* сваім дзецям *(Паводле В. Цітова)*.

- Растлумачце лексічнае значэнне слоў, пазначаных зорачкай.

**38.** Прачытайце тэкст, вызначце тып маўлення, абгрунтуйце сваё меркаванне. Дайце тэксту загаловак. Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Зойдзем у б..ларускую хату, якой яна была н..даўна, а часам сустракаецца і зараз.

Выгл..д яе для кожнай м..сцовас*(?)*ці быў розны. Але найбольш тыповы быў такі. Ля ўваход.., справа, — месца для мы*(ц/цц)*я посуд.. і іншых кухо*(н/нн)*ых рэчаў. Пасля — печ. За пе*(ч/чч)*у, па правай сцяне, — нары*. Пад імі складалі розны.. рэчы. Часам замест нараў стаялі высокія ложкі. Уздоў*(ш/ж)* астатніх дзв..х сцен ішлі шырокі.. лавы*, пакрыты.. тканымі налаўнікамі*. На іх с..дзелі. Но*(ч/чч)*у на лавах маглі спаць, асабліва калі бывалі гос*(?)*ці.

Перад лаўкамі — стол. Стол і лаўкі часцей за ўсё былі з тоўстых дубовых дошак. Ля той сц..ны, дзе дзверы, стаялі куфры* і гаспадыніны кросны*.

Упрыгожвалі[с] хату тканы.. пос*(?)*цілкі і, в..дома ж, ручнікі. На іх звычайна п..раважала в..сёлка: жоўты, чырвоны, сіні, блакітны і іншыя кол..ры.

Прыгожа і ўтульна было! *(Паводле У. Караткевіча).*

● Растлумачце лексічнае значэнне слоў, пазначаных зорачкай. Якія з іх з'яўляюцца ўстарэлымі?

**39.** Апішыце (на выбар): а) сучасную беларускую вясковую хату; б) свой пакой (кватэру); в) тыповую сучасную гарадскую кватэру.

**40.** Прачытайце ўрывак з паэмы Я. Коласа «Новая зямля». Вызначце тып маўлення, дакажыце сваё меркаванне.

Як адносіцца аўтар да свайго героя? Знайдзіце і назавіце моўныя сродкі, з дапамогай якіх гэтыя адносіны выражаюцца.

Вось як жывога дзядзьку бачу,
Я тут партрэт яго зазначу.
Ён невысок[м], не надта ёмак,
Ды карчавіты і няўломак,

А волас мае цёмна-русы[сл],
І зухаўскія яго[ф] вусы
Умеру доўгі, густаваты,
Угору чуць канцы падняты[с];
А вочы шэры, невялічкі,
Глядзяць прыветна, як сунічкі,
Але раптоўна і адразу
Не расчытаеш іх выразу:
То смех, то хітрасць з іх бліскае,
То дабрата, але якая!
А нос... я глянуць мушу ў неба,
Бо не патраплю, як пачаць
І з чым нос дзядзькаў параўнаць,
Каб выйшаў ён такі, як трэба:
Ну, нос кароткі і таўсматы,
Ды досыць спрытны, хоць кірпаты.

**41.** Прачытайце фрагмент тэксту. Ці ўсе структурныя кампаненты, характэрныя для апавядання, прысутнічаюць у ім? Дапішыце гэты фрагмент так, каб атрымалася апавяданне.

Аднойчы пайшоў я ў лес з дубальтоўкай за плячыма. Іду, углядаюся па баках і раптам натыкаюся на воўчае логава. Прыглядзеўся і бачу, што маленькае ваўчаня зашылася ў куточак і спалоханымі вочкамі глядзіць мне ў твар. Так і просіцца: «Не бі, мяне, чалавеча, я ж маленькі...»

Шкада мне яго стала. Драпежнік-то драпежнік, але зла яшчэ ніякага не зрабіў і віны за сабою не мае. Дык за што ж яго біць? Пры мне была паляўнічая сетка, злавіў я гэтае ваўчаня і панёс дахаты.

Прынёс я ваўчаня ў хату, пусціў на падлогу, сабака адразу да яго. Панюхаў і заскуголіў, гледзячы мне ў вочы. «Не спадабаўся пах? — смяюся. — Нічога, прывыкай, будзеце разам жыць». І тут жа наліў ваўчаняці ў сподачак малака і тыцнуў малое мордачкай. Намачыла яно губы, аблізалася і таксама глядзіць мне ў твар. Я кажу: «На мяса не спадзявайся. Еш хлеб, малако...»

Мне яшчэ ў маладосці адзін чалавек гаварыў: «Калі ваўку не даваць мяса змалку, дык можна адвучыць яго ад драпежніцтва». Тады мяне гэта зацікавіла, а як надарыўся выпадак праверыць, вырашыў я ўпэўніцца: праўду гаварыў той чалавек ці не? *(Паводле А. Пальчэўскага)*.

**42.** Прачытайце тэкст. Вызначце, якія тыпы маўлення ў ім сумяшчаюцца. Запішыце складаны план тэксту.

На аснове матэрыялу зыходнага тэксту пабудуйце невялікі тэкст-апісанне жураўля.

ЖУРАЎЛІ

З маленства я любіў жураўлёў. Іх урачыстыя гукі ў веснавым паветры выклікалі ў мяне радасны настрой. І мне вельмі хацелася ўбачыць гэтых птушак на зямлі, на балоце, на гняздзе...

І вось я ў Белавежскай пушчы. Цёмнай жнівеньскай ноччу разам з вопытным праваднікам мы накіроўваемся на балота. Ісці нялёгка, але мяне падтрымлівае тое, што здзяйсняецца даўняя мара.

Нарэшце мы з Дзямідам, пераскокваючы з купіны на купіну, дабраліся да вызначанага месца. Заляглі каля старой вярбы і, рассунуўшы зараснікі лазы, пачаліназіраць за лугавінай.

Неяк нечакана і непрыкметна з'явілася, быццам з-пад зямлі, круглае чырвонае сонца. Белы туман паступова развеяўся, і ўсё навокал пасвятлела, праяснілася.

Раптам пачуўся шум крылаў, і мы ўбачылі цудоўнае відовішча. На зялёную траву, упрыгожаную познімі кветкамі — жоўтымі, белымі і чырвонымі, прызямліўся шэры журавель з пышным султанам чорнага хваста. Ён агледзеўся, распасцёр крылы і, прытанцоўваючы, зрабіў некалькі крокаў.

Які гэта быў цудоўны птах! Рухі ў яго былі лёгкія і грацыёзныя, нібы ў элегантнага танцора. Усё, здаецца, было ў ім дасканалае. Ён спыніўся, агледзеўся, яшчэ раз адкінуў галаву — і нібы медны горн прарэзаў свежае па-

ветра. І адразу адгукнуліся на гэты сігнал некалькі галасоў з розных бакоў.

На лугавіну пачалі прылятаць жураўлі. Неўзабаве іх стала каля трох дзесяткаў. На ўсю сілу ігралі, звінелі дзівосныя сярэбраныя і медныя трубы, а можа, фанфары ці горны. Яны гучалі настолькі моцна, настолькі выразна, што іх, здавалася, можна было пачуць за некалькі кіламетраў. Я быў захоплены, узрушаны гэтай сімфоніяй, якой жураўлі віталі ўсход сонца.

Прыгожыя, зграбныя птахі бегалі ў розных напрамках па невысокай, але густой ярка-зялёнай траве, на якой дыяментамі зіхацелі буйныя кроплі расы. Старых жураўлёў няцяжка было адрозніць ад маладых. Дарослыя былі цямнейшыя з выгляду. У маладых афарбоўка крыху святлейшая, шаравата-дымчатая, і постаці ў іх не такога моцнага складу, не з такім гладкім і шчыльным апярэннем. Далікатныя і стройныя птахі падскоквалі, грацыёзна кланяліся адзін аднаму, закідвалі назад галовы, узмахвалі крыламі, рабілі нейкія смешныя, нібы жартаўлівыя, рухі.

Праз паўгадзіны спектакль на балоце закончыўся гэтак жа раптоўна, як і пачаўся. Усе жураўлі, нібы па камандзе, узляцелі. Над лугавінай запанавала цішыня... *(Паводле В. Вольскага)*.

## § 9. Звязнасць як прымета тэксту

**Звязнасць** — прымета тэксту, якая праяўляецца ў камунікатыўнай пераемнасці сказаў. Кожны наступны сказ, як правіла, змяшчае інфармацыю, закладзеную ў папярэдніх сказах, і такім чынам будуецца на іх аснове. Напрыклад: *Я плыў на імклівым кацеры ўздоўж марскога берага і ўсё глядзеў на зялёныя горы, вяршыні якіх ахутвала імгла, падобная на дым. За гэтым дымам-імглой былі недзе яшчэ вышэйшыя, ужо снегавыя вяршыні. І я глядзеў туды, прагны пазнаць іх, убачыць, шчаслівы ад думкі, што вось і я нарэшце на Каўказе* (Я. Брыль).

Усе сказы ў гэтым фрагменце тэксту раскрываюць адну мікратэму, другі сказ па сэнсе звязаны з першым, трэці — з другім. Пры гэтым сэнсавая самастойнасць сказаў адносная, а некаторыя з іх без кантэксту наогул не зразумелыя, напрыклад: *І я глядзеў туды* (к у д ы?), *прагны пазнаць іх* (к а г о? ш т о?), *убачыць*...

У тэксце сказы звязваюцца паміж сабой пры дапамозе двух асноўных в і д а ў с у в я з і: паслядоўнай і паралельнай.

Пры **паслядоўнай сувязі** думка развіваецца паступова, кожны наступны сказ будуецца на аснове папярэдняга. Моўнымі сродкамі сувязі сказаў найчасцей тут бываюць займеннікі і прыслоўі, якія замяняюць словы з папярэдняга сказа, а таксама лексічныя паўторы, сінонімы (у тым ліку кантэкстуальныя), злучнікі, форма часу дзеясловаў-выказнікаў і інш. Напрыклад, у прыведзеным фрагменце тэксту другі сказ звязаны з першым лексічнымі паўторамі *(вяршыні, дымам-імглой)*, указальным займеннікам *(за гэтым)*; трэці з другім — злучнікам ***і***, прыслоўем *туды*, займеннікам *іх*. Усе дзеясловы-выказнікі ўжываюцца ў сказах у форме прошлага часу.

У сказах, звязаных **паралельнай сувяззю**, даецца апісанне, пералічэнне ці супрацьпастаўленне падзей, якія адбываюцца адначасова ці змяняюць адна адну. Першы сказ звычайна змяшчае тэму, а ўсе наступныя канкрэтызуюць яго. Кожны са сказаў, звязаных паралельнай сувяззю, зразумелы асобна, без кантэксту. Напрыклад: *Дзень назаўтра выдаўся ясны і пагодлівы. Невялічкі марозік за ноч пакрыў інеем апаўшыя лісты, але іней знік, як толькі ўзнялося сонца. Халоднае паветра было празрыстым, як крышталь* (У. Караўчанка). Тут сказы аб'ядноўваюцца сэнсам, а моўным сродкам сувязі з'яўляецца форма часу дзеясловаў-выказнікаў.

У межах аднаго абзаца сувязь паміж сказамі можа быць і паслядоўнай, і паралельнай.

**43.** Прачытайце фрагменты тэкстаў і вызначце віды сувязі сказаў. Назавіце моўныя сродкі сувязі сказаў.

**I.** Як і штогод, вясна прыйшла ў магутным шуме паводак, у серабрыстым звоне ручаёў, у несціханых трэлях жаваранкаў, у шаўкавістым шапаценні першай зеляніны. Сонечнымі ключамі яна адамкнула дзверы цёплым вятрам з поўдня. І панеслі гэтыя вятры па прасторах неўгамонную яе сілу, перад якой скарылася зіма, паспешліва адступіла з лютымі маразамі, сіверам, завеямі ў паўночныя далі. Але, як і штогод, для кожнага чалавека вясна прынесла нешта новае, адметнае, непаўторнае *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

**II.** Надвор'е было ціхае, цёплае. Веснавое сонца грэла ўжо як след. Зазелянелі дрэвы. Сяляне прыступілі да ворыва і сяўбы *(Паводле Я. Маўра)*.

**44.** Спішыце тэкст, ставячы патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце словы, якія з'яўляюцца сродкамі сувязі сказаў.

Сустракаючыся з Уладзімірам Мікалаевічам Дубоўкам я заўсёды дзівіўся які прыгожы чалавек! Якія ясныя разумныя і шчырыя вочы ў гэтага барадатага казачніка! Яны здаецца бачаць усё навылёт і праменяцца святлом шчодрай душы.

Дубоўка быў цудоўным чалавекам нястомным працаўніком выдатным паэтам перакладчыкам казачнікам знаўцам фальклору і сусветнай літаратуры батанікі і пчалярства чалавечых характараў і сакрэтаў будаўніцтва. Ён дасканала ведаў Беларусь і Закаўказзе Сібір і Крым Поўнач і Далёкі Усход. Слухаць яго можна было гадзінамі і бясконца чэрпаць новае і невядомае з гэтай жывой і шчодрай энцыклапедыі. Такі ён быў у жыцці такі і ў творчасці. Стрыманасць мудрасць шчырасць і мяккасць адзнакі яго паэтычнага і чалавечага таленту *(С. Грахоўскі)*.

● Выпішыце з тэксту: а) тры словы, якія не падлягаюць словаўтваральнаму разбору; б) тры словы, утвораныя суфіксальным спосабам; в) слова, якое мае наступную будову: .

**45.** Прачытайце тэкст. Вызначце віды і сродкі сувязі сказаў. Растлумачце, з якой мэтай аўтар выкарыстоўвае паўтор займенніка, чаму ўжыванне сказаў з паўторам тут з'яўляецца апраўданым.

Ён пражыў крыху больш як дваццаць пяць гадоў. Ён працаваў у літаратуры ўсяго толькі адно[с] дзесяцігоддзе. Ён выдаў толькі адзіную кніжку паэзіі, якая адначасова была і яго першым зборнікам...

Але, нягледзячы на ўсе гэтыя «толькі», у Максіма Багдановіча, у гэтага славутага юнака, вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў не саромеюцца вучыцца і тыя, хто знаходзіцца ў добрай пары сталага і мудрага вопыту, і тыя, хто нясмела збірае[ф] ў далейшую дарогу першую кніжку паэзіі.

Бо Максім Багдановіч стаіць у нашай роднай літаратуры моцна і трывала, як глыба. Яго не ссунеш з дарогі. Яго не абмінеш абыякава. Каля яго не пройдзеш напышліва і пагардліва. Хочаш ці не хочаш, а мусіш абавязкова азірацца на яго вопыт, на яго асобу, на яго прасторавы паэтычны край[с] *(Паводле Я. Сіпакова).*

● Выпішыце з тэксту ўсе складаныя словы, зрабіце іх марфемны разбор.

**46.** Знайдзіце ў тэксце «Жураўлі» (практ. 42) абзацы, у якіх сувязь паміж сказамі: а) паслядоўная; б) паралельная; в) паслядоўная і паралельная. Вызначце сродкі сувязі сказаў у гэтых абзацах.

## § 10. Завершанасць як прымета тэксту

**Завершанасць** — прымета тэксту, якая праяўляецца ў поўнай рэалізацыі задумы аўтара, яе поўным раскрыцці. Завершаным лічыцца тэкст, у якім раскрыта тэма выказвання, выражана яго асноўная думка.

У адрозненне ад іншых прымет, завершанасць не мае фармальных лексіка-граматычных паказчыкаў. Яна выяўляецца пры аналізе зместу тэксту, г. зн. на зместавым узроўні.

Завершанасць — паняцце ў пэўнай меры адноснае. Сустракаюцца выпадкі, калі аўтары мастацкіх або публіцыстычных твораў спецыяльна, з пэўнымі мэтамі пакідаюць тэкст незакончаным.

**47.** Перачытайце тэкст «Жураўлі» (практ. 42). Ці можна лічыць яго завершаным?

**48.** Прачытайце тэкст. Вызначце, завершаны ён ці не. Спішыце, расстаўляючы неабходныя знакі прыпынку.

Люблю дарогі! Дарога не то абнаўляе мяне не то поўніць нечым[сл] вельмі патрэбным. Дарогамі апавіты ўвесь наш край і колькі б ні ездзіў па іх з кожным разам будзеш усё больш любіць яго. Там сустрэнуцца людзі пазнаўшы[сл] якіх сам станеш лепшы чысцейшы[с] *(Паводле Я. Скрыгана)*.

**49.** Прачытайце тэкст. Якія прыметы яму ўласцівыя? Абгрунтуйце свой адказ.

У кожнага чалавека свае жыццёвыя сцяжынкі, сцежкі, дарогі. Адзін пачынае іх ад ложка да стала, другі — ад стала да парога. Да чаго ж яна доўгая, тая першая сцяжынка! Пакуль асіліш[сл] яе, пакуль дойдзеш да канца, натомішсянатомішся ды і паваліўся[с] не раз. А ў хаце старэйшыя[сл] падахвочваюць: «Адзін, адзін наш хлопчык ідзе». І ты горда сам, без чужой дапамогі, пракладаеш самастойную сцяжынку ў свет, абмежаваны[с] пакуль чатырма сценамі хаты. Дойдзеш да працягнутых табе рук — і радасці тваёй няма межаў.

Потым табе дазволяць хадзіць па двары, толькі пагрозліва паківаюць пальцам не вытыркацца на вуліцу, а ты ўсё роўна хоць на крок, хоць на хвілінку выйдзеш за вароты пацікавіцца забароненым. А як трошкі падрасцеш, разам са старэйшымі пойдзеш на поле, на луг, у лес, а то і ў суседнюю вёску або на іншую вуліцу, плошчу свайго любімага горада. Гэта ўжо залежыць ад таго, дзе хто нарадзіўся...

І чым далей ты будзеш адыходзіць ад той першай сцяжынкі, тым больш і больш будзе іх перад табой у блізкі і далёкі свет: вузкіх і шырокіх, кароткіх і доўгіх, пакручастых і роўных, крутых і гладкіх. Выбірай сам, на свой густ, якою ісці. Ад таго, якую выбераш, будзе многае залежаць потым у жыцці *(А. Пальчэўскі)*.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Што такое тэкст?
2. Чаму тэкст з'яўляецца найбольшай моўнай адзінкай?
3. Якія прыметы мае тэкст?
4. У чым праяўляецца сэнсавая цэласнасць тэксту?
5. Што такое: а) тэма тэксту; б) асноўная думка тэксту?
6. Як называюцца словы, якія нясуць у сказах асноўную сэнсавую нагрузку?
7. Ахарактарызуйце разгорнутасць як прымету тэксту.
8. Як суадносяцца паміж сабой падтэмы і мікратэмы?
9. Што называецца абзацам і якая яго традыцыйная будова?
10. Прааналізуйце будову першага абзаца тэксту практыкавання 49.
11. Як вы разумееце паняцце «паслядоўнасць тэксту»?
12. Якія асноўныя тыпы маўлення вы ведаеце?
13. Ахарактарызуйце структурныя кампаненты: а) апавядання; б) апісання; в) разважання.
14. Што такое камбінаваны тып маўлення?
15. Раскрыйце паняцце «звязнасць тэксту».
16. Ахарактарызуйце віды сувязі сказаў у тэксце.
17. Пералічыце асноўныя моўныя сродкі, што выкарыстоўваюцца для сувязі сказаў у тэксце.
18. У чым праяўляецца завершанасць як прымета тэксту?

# СТЫЛІСТЫКА

**Стылістыка** (ад лац. *stylus* — завостраная палачка для пісьма) — раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца функцыянальныя стылі маўлення і асаблівасці ўжывання ў іх моўных сродкаў.

Стылістыка цесна звязана з іншымі лінгвістычнымі дысцыплінамі, таму што даследуе ў сукупнасці ўсе адзінкі моўнай сістэмы: гукі, словы і іх формы, словазлучэнні, сказы. Аднак у адрозненне ад фанетыкі, лексікалогіі і граматыкі, якія аналізуюць лад мовы, будову яе структурных элементаў, стылістыка вывучае асаблівасці функцыянавання, ужывання гэтых элементаў у маўленні, іх адпаведнасць пэўным сітуацыям зносін.

Асноўным паняццем стылістыкі з'яўляецца стыль. **Функцыянальны стыль** — гэта разнавіднасць маўлення, якая адрозніваецца сістэмай моўных сродкаў і абслугоўвае пэўную сферу дзейнасці чалавека: навуковую, адміністрацыйна-дзелавую, грамадска-палітычную, мастацкую, бытавую.

У залежнасці ад сферы выкарыстання мовы, тэматыкі, зместу і мэты выказвання выдзяляюць наступныя стылі маўлення: навуковы, афіцыйны, публіцыстычны, мастацкі і гутарковы. Усе стылі, акрамя гутарковага, кніжныя. Гутарковы стыль выкарыстоўваецца звычайна ў вуснай форме.

У кожным стылі маўлення існуюць свае жанры. **Жанр маўлення** — гэта разнавіднасць тэксту, якая абумоўлена маўленчай сітуацыяй і характарызуецца комплексам адносна ўстойлівых зместавых, кампазіцыйных і моўных прымет. Напрыклад, жанрамі навуковага стылю з'яўляюцца навуковы даклад, артыкул, рэферат,

рэцэнзія, дысертацыя і інш., афіцыйнага — указ, пагадненне, заява, пратакол, даведка, справаздача і інш., публіцыстычнага — нататка, інтэрв'ю, артыкул, фельетон і інш., мастацкага — апавяданне, раман, паэма, камедыя і інш., гутарковага — гутарка, запіска, асабісты дзённік і інш.

## § 11. Навуковы стыль

**Навуковы стыль** — функцыянальная разнавіднасць маўлення, якая выкарыстоўваецца ў сферы навукі і адукацыі, тэхнікі і вытворчасці. Гэта стыль навуковых артыкулаў, дысертацый, энцыклапедый, слоўнікаў, падручнікаў, навукова-тэхнічнай літаратуры, дакладаў і выступленняў на навуковыя тэмы.

Асноўнай формай рэалізацыі навуковага стылю з'яўляецца пісьмовае маўленне, хаця з развіццём сродкаў масавай камунікацыі, пашырэннем навуковых кантактаў павялічваецца роля вуснай формы зносін.

Галоўная функцыя навуковага стылю — перадача навуковай інфармацыі, доказнасць яе сапраўднасці, нярэдка — навізны і каштоўнасці, дакладнае і строга лагічнае выказванне думкі. Доказнасць у тэкстах навуковага стылю праяўляецца па-рознаму: з дапамогай тэкставых ілюстрацый, формул, графікаў, схем, цытавання, спасылак на выказванні вядомых вучоных і інш.

Вызначальнымі рысамі навуковага стылю з'яўляюцца лагічнасць выкладу, дакладнасць і аб'ектыўнасць, абагульненасць і абстрагаванасць.

Падкрэсленая **лагічнасць** — тыповая рыса навуковага тэксту. Усе часткі ў ім цесна звязаны сэнсам і размяшчаюцца ў строга вызначанай паслядоўнасці. Найбольш пашыраным сродкам сувязі сказаў у навуковым маўленні з'яўляецца паўтор назоўнікаў, часта ў спалучэнні з указальнымі займеннікамі *гэты, той, такі.* Паслядоўнасць развіцця думкі дасягаецца таксама з дапамогай прыслоўяў: *спачатку, затым, далей*; пабочных слоў:

*па-першае, па-другое, значыць, нарэшце;* злучнікаў: *таму што, таму;* канструкцый з прыназоўнікамі: *у выніку, у сувязі, з прычыны*. Лагічнасці навуковых тэкстаў садзейнічае і частае ўжыванне складаназалежных сказаў, сказаў з прамым парадкам слоў.

Наступная рыса навуковага стылю — **аб'ектыўнасць** і **дакладнасць** выкладу. Сэнсавая дакладнасць (адназначнасць) абумоўлівае ўжыванне слоў з прамым значэннем, шырокае выкарыстанне тэрмінаў. Паўтор ключавых слоў у навуковым маўленні лічыцца нормай. Дакладнасцю тлумачыцца і выкарыстанне ў навуковым тэксце сказаў з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, з аднароднымі членамі і абагульняльнымі словамі.

**Абагульненасць** і **абстрагаванасць** уласцівыя кожнаму навуковаму тэксту. Таму тут шырока выкарыстоўваецца абстрактная лексіка: *маўленне, адналінейнасць, ціск, бязважкасць, культура* і інш. Для абазначэння агульных паняццяў ужываюцца словы з канкрэтным значэннем. Напрыклад, у сказе *Елка — вечназялёнае дрэва сямейства хваёвых з конусападобнай кронай і доўгімі лускаватымі шышкамі* (ТСБМ) слова *елка* абазначае не канкрэтны прадмет (дрэва), а клас аднародных прадметаў (пароду дрэў), г. зн. выражае агульнае паняцце.

Адметнасць навуковага маўлення праяўляецца і ў частотнасці выкарыстання пэўных часцін мовы, іх формаў, асаблівасцях іх функцыянавання. Для навуковага стылю характэрная перавага ва ўжыванні назоўнікаў і прыметнікаў над дзеясловамі. Шырока выкарыстоўваюцца назоўнікі ніякага роду з абстрактным значэннем (*мысленне, выпраменьванне, падаўжэнне, адлюстраванне* і інш.), формы роднага склону назоўнікаў у ролі азначэнняў (*нормы літаратурнай мовы, тэмпература кіпення, закон Ома, тэарэма Піфагора* і інш.), аддзеяслоўныя назоўнікі *(рабіць уплыў)*. У навуковым маўленні не прынята выкарыстоўваць займеннік «я» і дзеясловы ў форме 1-й асобы адзіночнага ліку. Дзеясловы-выказнікі ўжываюцца звычайна ў форме 3-й асобы цяперашняга часу.

Інфармацыйны характар навуковага тэксту абумоўлівае тое, што ў ім амаль не сустракаюцца клічныя і пытальныя сказы, а таксама іншыя сродкі выражэння эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці.

**План стылістычнага аналізу тэксту**

1. Ахарактарызаваць маўленчую сітуацыю і задачы маўлення.
2. Пералічыць асноўныя стылёвыя рысы.
3. Назваць моўныя сродкі, з дапамогай якіх асноўныя стылёвыя рысы рэалізуюцца ў тэксце.
4. Вызначыць стыль тэксту.

**50.** Прачытайце тэкст. Пры якой форме зносін і з якой мэтай ён можа быць выкарыстаны? Вызначце стыль тэксту, пералічыце яго асноўныя стылёвыя рысы. Назавіце моўныя сродкі, з дапамогай якіх гэтыя рысы рэалізуюцца ў тэксце.

СЛУЖБОВЫЯ СЛОВЫ

Службовыя словы (прыназоўнікі, злучнікі, часціцы) — у традыцыйнай граматыцы непаўназначныя словы, якія не маюць яскрава выражанага лексічнага значэння і ўжываюцца ў мове толькі пры паўназначных словах, спалучэннях і інш. Іх несамастойнасць у тым, што яны звычайна не маюць уласнага націску і аб'ядноўваюцца ў адну акцэнталагічную адзінку з суседнім словам. Акрамя таго, службовыя словы не бываюць членамі сказа (за выключэннем выпадкаў іх субстантывацыі — пераходу ў разрад паўназначных, ці самастойных).

Усе службовыя словы нязменныя. Яны складаюцца звычайна з адной каранёвай марфемы.

Службовыя словы характарызуюцца высокай частотнасцю ўжывання ў моўнай плыні. Калі за адзінку падліку прыняць слова, то прыблізна 10 % любога тэксту складаюць прыназоўнікі, амаль столькі ж — злучнікі, ад 4—5 да 12—14 % — часціцы (у залежнасці ад стылю тэксту). Усе

класы службовых слоў нешматлікія, таму адразу відаць іх частотная паўтаральнасць, асабліва прыназоўнікаў і злучнікаў *(Паводле П. Шубы)*.

**51.** Прачытайце тэкст. Ці можна лічыць яго стыль навуковым? Абгрунтуйце свой адказ.

Бабіна лета — цудоўная пара на стыку верасня і кастрычніка. Зноў цеплыня, нібы лета вярнулася. Нават ночы робяцца цёплыя. Ад рання і да захаду пяшчотна грэе сонца.

У бабінага лета ёсць і рысы вясны. Нешта веснавое адчуваюць нават птушкі. Вярнуліся да сваіх домікаў шпакі і ўсю раніцу меладычна спяваюць каля шпакоўняў. Як увесну, балбоча пры дарозе цецярук. Раніцай і пад вечар кружыць ён на рудаватай палеглай траве, расставіўшы крылы, распусціўшы веер хваста на белай падкладцы. Але няма ўжо, як увесну, зборышчаў, няма тых зухаватых боек. Усё мірна *(Паводле В. Ціхановіча)*.

● Знайдзіце ў спецыяльнай літаратуры ці складзіце самастойна тэкст, у якім восень (ці іншая пара года) апісвалася б у навуковым стылі. Запішыце.

**52.** Прачытайце тэкст (адказ вучня). Якія парушэнні навуковага стылю маўлення вы заўважылі? Запішыце тэкст у адпаведнасці з нормамі навуковага стылю.

Складаны — гэта ў якім некалькі простых. Вось такіх, напрыклад: *Наступіла вясна, і на вуліцы стала цёпла*. Гэтыя простыя сказы вельмі цесна звязаны, як бы зліваюцца і складаюць адно цэлае. Часткі складанага сказа могуць звязвацца злучнікамі. Тады гэта злучнікавыя складаныя сказы. Калі такіх злучнікаў няма, то гэта бяззлучнікавыя сказы.

Ну, яшчэ яны бываюць складаназлучаныя і складаназалежныя. Напрыклад, складаназлучаны: *Хутка наступяць канікулы і мы будзем адпачываць*. Калі ж слова *хутка* замяніць на *калі,* то сказ ужо будзе складаназалежным. І яшчэ складаныя сказы бываюць камбінаваныя.

**53.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Прасачыце, як звязаны паміж сабой: 1) сказы ў саставе абзацаў; 2) абзацы ў саставе тэксту. Ці можна лічыць структуру тэксту лагічнай? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

ПУНКТУАЦЫЯ

Пунктуацыя (*punctuation*, ад лац. *punctum* — кропка) мае два асноўныя значэнні: 1) сукупнасць знакаў прыпынку і правілы іх выкарыстання ў пісьмовым тэксце; 2) раздзел мовазнаўства*, у якім вывучаецца пунктуацыйная сістэма і заканамернасці яе станаўлення і функцыянавання[сл].

Сучасная пунктуацыя гістарычна склалася ў дастаткова зладжаную[ф] сістэму графічных знакаў, якая з поспехам абслугоўвае патрэбы пісьмовых зносін у грамадстве. Самым старажытным знакам прыпынку з’яўляецца кропка, якая ўжываецца ў пісьмовай практыцы з II ст. да н. э. (упершыню яна была выкарыстана ў грэчаскіх і лацінскіх тэкстах). У XIV ст. з’явілася коска, у XV ст. — двукроп’е і кропка з коскай, у XVI ст. — пытальнік і дужкі, у XVII ст. — клічнік і двукоссе, у XVIII ст. — працяжнік і шматкроп’е. Да пачатку XIX ст. у пунктуацыйнай сістэме ўжо былі ўсе знакі прыпынку, якімі карыстаюцца ў наш час.

Аднак сістэмнасць пунктуацыі выяўляецца[с] не толькі ў наяўнасці пунктуацыйных знакаў і сукупнасці іх суадносін, але і ў адзінстве і ўзаемадзеянні тых прынцыпаў, якія ляжаць у аснове пунктуацыі. Сярод гэтых прынцыпаў звычайна вылучаюць граматычны, сэнсавы і інтанацыйны.

Паводле граматычнага прынцыпу (Л. Зізаній, М. Грэч, Я. Грот, С. Буліч і інш.) знакі прыпынку абумоўлены структурнай будовай сказа, бо выдзяляюць сказы і часткі сказа з тым, каб лепш арганізаваць і афарміць пісьмовы тэкст.

Паводле сэнсавага прынцыпу (М. Ламаносаў, Ф. Буслаеў, С. Абакумаў, А. Шапіра і інш.) пастаноўка знакаў прыпынку абапіраецца на сэнс выказвання, якое перадаецца ў сказе, паколькі знакі прыпынку ажыццяўляюць падзел тэксту на часткі, якія маюць значэнне для выражэння думкі на пісьме.

Паводле інтанацыйнага прынцыпу (М. Сматрыцкі, В. Вастокаў, А. Пяшкоўскі, Л. Шчэрба, Л. Булахоўскі і інш.) зна-

кі прыпынку абумоўлены інтанацыйным афармленнем сказа, бо служаць для абазначэння рытмікі* і мелодыкі* мовы, яе тэмпу* і паўз паміж сказамі і часткамі сказаў.

Як бачым, кожны з гэтых прынцыпаў грунтуецца на адной з дыферэнцыяльных адзнак сказа — сэнсавым змесце, граматычнай будове або інтанацыйным афармленні. Вядома, што ні граматычная будова сказаў, ні іх змест і інтанацыя не існуюць ізалявана, яны ўзаемадзейнічаюць[с] паміж сабой і сумесна характарызуюць кожны сказ як асноўную камунікатыўную адзінку мовы. У кожным канкрэтным выпадку граматычная будова сказа, яго змест і інтанацыя рэалізуюцца па-рознаму і адыгрываюць розную (большую ці меншую) ролю ў выбары пэўнага знака прыпынку на пісьме. Але ва ўсіх выпадках гэтыя адзінкі сказа абавязкова[сл] ўлічваюцца, бо толькі ў сваёй сукупнасці яны з'яўляюцца той асновай, на якой грунтуецца сучасная пунктуацыя *(Л. Бурак)*.

● Растлумачце лексічнае значэнне слоў, пазначаных зорачкай. Адназначныя ці мнагазначныя гэтыя словы?

● Выпішыце з тэксту: а) пяць слоў, якія ўжываюцца ў прамым значэнні; б) пяць слоў абмежаванага ўжытку (тэрміны).

**54.** Карыстаючыся тэкстам папярэдняга практыкавання, вусна перадайце меркаванне Л. Бурака пра сістэмнасць пунктуацыі. Выкарыстайце, па магчымасці, наступныя спалучэнні слоў: *спачатку аўтар зазначае, навуковец лічыць, вучоны сцвярджае, мовавед прытрымліваецца думкі, аўтар робіць вывады.*

**55.** Напішыце рэцэнзію на адзін з навуковых артыкулаў. Выкарыстайце, па магчымасці, наступныя маўленчыя формулы, уласцівыя гэтаму жанру навуковага стылю.

Артыкул прысвечаны...; спачатку аўтар адзначае, што...; у працы даецца агляд...; у першай частцы шмат ўвагі надаецца...; асноўная частка прысвечана...; аўтар правільна адзначае, што...; багаты фактычны матэрыял, змешчаны ў працы, удала ілюструе...; нельга не сказаць і пра...; такім чынам, можна... .

**56.** Прачытайце тэкст, узяты са «Слоўніка літаратуразнаўчых тэрмінаў» М. А. Лазарука, А. Я. Ленсу (Мн., 1983). Каму адрасаваны гэты тэкст?

Назавіце моўныя асаблівасці навуковага стылю, якія праявіліся ў гэтым тэксце. Вызначце (прыблізна) суадносіны ва ўжыванні назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў. Палічыце колькасць простых ускладненых і складаных сказаў.

**Троп** (ад грэч. *tropos* — зварот) — адзін з найважнейшых прыёмаў стварэння мастацкага вобраза ў літаратуры, пры якім слова набывае вельмі актыўны выяўленчы характар, выражае пэўнае пачуццё, эстэтычную ацэнку жыццёвай з'явы. Мастацкія тропы ўзнікаюць на аснове выкарыстання мнагазначнасці слова. Многія словы маюць акрамя асноўнага іншыя значэнні і адценні значэнняў. Напрыклад, слова *сонечны* мае значэнне 'асветлены сонцам' — *сонечны дзень.* Але ж яно можа быць ужыта і ў іншых значэннях: *сонечнае жыццё, сонечны настрой* і г. д. У гэтых прыкладах мы маем справу не з асноўным, а з другасным значэннем гэтага слова.

Тропы ў мастацкай літаратуры адыгрываюць вельмі важную ролю. Яны пашыраюць магчымасці пазнання і адлюстравання жыцця, павялічваюць сэнсавую ёмістасць слова, узбагачаюць мову новымі адценнямі слоў, дапамагаюць пісьменніку стварыць яркія вобразы і праз іх выявіць сваю ацэнку жыццёвых з'яў, свае адносіны да іх. Да ліку тропаў адносяцца эпітэт*, параўнанне, метафара*, увасабленне, алегорыя*, сімвал, метанімія*, сінекдаха*, гіпербала*, іронія і інш.

● Растлумачце, якое лексічнае значэнне маюць словы, пазначаныя зорачкай. Вызначце, якія гэта словы паводле паходжання.

**57.** Прааналізуйце невялікі тэкст са школьнага падручніка (па літаратуры, гісторыі, хіміі ці іншым прадмеце). Якія стылёвыя рысы навуковага маўлення яму ўласцівыя?

**58.** Выкарыстоўваючы матэрыялы падручніка і дадатковую літаратуру, падрыхтуйце (пісьмова) навуковае паведамленне на тэму «Навуковы стыль маўлення».

## § 12. Афіцыйны стыль

**Афіцыйны стыль** — гэта такая функцыянальная разнавіднасць маўлення, якая выкарыстоўваецца ў сферы афіцыйных, дзелавых адносін, г. зн. адносін, што ўзнікаюць паміж дзяржаўнымі органамі, паміж арганізацыямі ці ўнутры іх, паміж арганізацыямі і прыватнымі асобамі ў працэсе вытворчай, гаспадарчай, юрыдычнай дзейнасці.

Афіцыйны стыль належыць да кніжных стыляў і таму функцыянуе пераважна ў форме пісьмовага маўлення. Гэта стыль дзяржаўных законаў, указаў, афіцыйных паведамленняў, дагавораў і пагадненняў, канцылярскай дакументацыі і інш.

Афіцыйны стыль можа праяўляцца і ў вуснай форме. Гэта адбываецца, напрыклад, на нарадах, сходах, пасяджэннях, калі некаторыя віды дакументацыі (загады, распараджэнні і інш.) даводзяцца да ведама прысутных (зачытваюцца).

Асноўнымі прыметамі афіцыйнага стылю з'яўляюцца канстатацыйна-прадпісальны характар дакументаў, неасабовасць выкладу, дакладнасць, высокая ступень стандартызацыі.

Афіцыйныя дакументы маюць ярка выражаны канстатацыйна-сцвярджальны і прадпісальны характар. Змешчаную ў іх інфармацыю прымаюць да ведама, а прадпісанне — да абавязковага выканання.

Прадпісальны характар дакументаў можа перадавацца з дапамогай дзеясловаў у неазначальнай форме, часта ў спалучэнні са словамі *неабходна, трэба, забараняецца, абавязаны, павінен, мець права* і інш., якія ўзмацняюць катэгарычнасць выказвання. Напрыклад: *Кожны чалавек мае права свабодна перамяшчацца і выбіраць сабе месца пражывання ў межах кожнай дзяржавы* (Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека).

Прадпісальнае значэнне заканадаўчых тэкстаў часта перадаецца дзеясловамі цяперашняга часу. Напрыклад: *Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распа-*

*радчыя органы рэгулярна аналізуюць стан пажарнай бяспекі, прымаюць па гэтых пытаннях рашэнні, распрацоўваюць планы і ажыццяўляюць мерапрыемствы па забеспячэнні пажарнай бяспекі на адпаведнай тэрыторыі* (Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пажарнай бяспецы»). Тут дзеясловы *аналізуюць, прымаюць, распрацоўваюць, ажыццяўляюць* абазначаюць не тыя дзеянні, што адбываюцца ў момант гутаркі, а тыя, якія павінны выконвацца пастаянна.

Афіцыйнаму маўленню ўласцівы неасабовы характар, таму ў ім амаль поўнасцю адсутнічаюць формы 1-й і 2-й асобы займеннікаў і дзеясловаў (выключэнне — заява, загад, дакладная запіска і інш.).

Дакумент адпавядае свайму прызначэнню, калі ён дакладны. Дакладнасць заканадаўчых тэкстаў дасягаецца з дапамогай ужывання спецыяльнай тэрміналогіі (*арандатар, спажывец, кватэранаймальнік, заказчык* і інш.), аднязначнай нетэрміналагічнай лексікі.

Адметнай рысай афіцыйнага стылю з’яўляецца шырокае выкарыстанне стандартных сродкаў (так званых канцылярскіх штампаў): *за справаздачны перыяд, прымаючы пад увагу, дагаворныя бакі, прыцягнуць да адказнасці* і інш.

М о в а  а ф і ц ы й н а г а  с т ы л ю мае пэўныя асаблівасці. На ўзроўні лексікі гэта шырокае ўжыванне спецыяльнай тэрміналогіі, стандартных сродкаў, а таксама складанаскарочаных слоў, пераважна назваў арганізацый і ўстаноў, амаль поўная адсутнасць эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі. У тэкстах афіцыйнага стылю часта выкарыстоўваюцца аддзеяслоўныя назоўнікі (*пагадненне, невяртанне, выкарыстанне* і інш.), адносныя прыметнікі, дзеясловы залежнага стану. Як бачым, афіцыйнаму стылю ўласцівы іменны характар.

Для сінтаксісу афіцыйнага маўлення характэрныя складаныя сказы, дзеепрыметнікавыя і дзеепрыслоўныя звароты, канструкцыі са складанымі злучнікамі і адыменнымі прыназоўнікамі (*у выніку таго што, нягледзячы на тое што, з мэтай, згодна з* і інш.).

**59.** Прачытайце ўрывак з «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека». Якія прыметы афіцыйнага стылю ён мае? Прааналізуйце мову тэксту. Назавіце яго лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя асаблівасці.

...Генеральная Асамблея абвяшчае гэтую Усеагульную дэкларацыю* правоў чалавека ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы з тым, каб кожны чалавек і кожны орган грамадства, увесь час маючы на ўвазе гэтую Дэкларацыю, імкнуліся шляхам асветы і адукацыі садзейнічаць павазе гэтых правоў і свабод і забеспячэнню, шляхам нацыянальных і міжнародных мерапрыемстваў, усеагульнага і эфектыўнага прызнання і ажыццяўлення іх як сярод дзяржаў — членаў Арганізацыі, так і сярод народаў тэрыторый, што знаходзяцца пад іх юрысдыкцыяй*.

А р т ы к у л 1. Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу братэрства.

А р т ы к у л 2. Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, што абвешчаны гэтай Дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як, напрыклад, у адносінах расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага або іншага становішча.

Апрача таго, не павінна рабіцца ніякага адрознення на аснове палітычнага, прававога або міжнароднага статусу* краіны або тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незалежна ад таго, ці з'яўляецца гэтая тэрыторыя незалежнай, падапечнай, несамакіравальнай або як-небудзь інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце*.

А р т ы к у л 3. Кожны чалавек мае права на жыццё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасць.

А р т ы к у л 4. Ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве або ў паднявольным стане; рабства і гандаль рабамі забараняюцца ва ўсіх выглядах.

- Растлумачце лексічнае значэнне слоў, пазначаных зорачкай.

**60.** Да слоў і словазлучэнняў падбярыце блізкія па сэнсе словы ці словазлучэнні, якія выкарыстоўваюцца ў афіцыйным стылі. Запішыце.

Удзельнічаць, падзякаваць, даць службовую кватэру, адсутнічаць з-за хваробы, дапамагчы, вырашылі на сходзе, паведаміць.

**61.** Растлумачце значэнне наступных слоў і словазлучэнняў (пры неабходнасці карыстайцеся слоўнікам). З двума-трыма словамі складзіце і запішыце сказы.

Нота, мемарандум, камюніке, канвенцыя, аташэ, даверчая грамата, віза, вотум, дэмарш, консул, кааліцыя, пагадненне, петыцыя, ратыфікацыя.

У сферы вытворчасці, адукацыі, навукі нярэдка выкарыстоўваецца **характарыстыка** — афіцыйны дакумент, у якім даецца ацэнка працоўнай ці грамадскай дзейнасці, якасцей пэўнай асобы.

Характарыстыка падпісваецца кіраўніком установы (арганізацыі, прадпрыемства), завяраецца пячаткай, указваецца дата.

**62.** Напішыце характарыстыку аднаго з вучняў вашага класа, прытрымліваючыся наступнага прыкладнага плана:

1. Агульныя звесткі (прозвішча, імя, імя па бацьку, год і месца нараджэння).
2. Звесткі пра вучэбную дзейнасць (пасняховасць, якія адзнакі пераважаюць, да якіх прадметаў праяўляе асаблівую цікавасць, ці сістэматычна рыхтуецца да ўрокаў, актыўны ці пасіўны на ўроках).
3. Чым цікавіцца, захапляецца, да чаго мае здольнасці?
4. Ці ўдзельнічае ў грамадскім жыцці класа, школы? Якія даручэнні мае, як іх выконвае? Калі не мае, то чаму?
5. Узаемаадносіны з класным калектывам (з кім сябруе, ці мае аўтарытэт у класе і інш.).
6. З якой мэтай напісана характарыстыка.

У штодзённым жыцці нярэдка прыходзіцца пісаць заяву, аўтабіяграфію, даверанасць (даручэнне) і іншыя дзелавыя паперы. Пры іх састаўленні неабходна ўлічваць тыя патрабаванні, якія прад'яўляюцца да дзелавога

пісьма: дакладнасць, лагічнасць, зразумеласць зместу, юрыдычная абгрунтаванасць, адзіная знешняя форма, агульнапрынятае (стандартнае) размяшчэнне частак тэксту, ці рэквізітаў (аўтар, адрасат, подпіс, дата і г. д.).

**Заява** — гэта пісьмовая просьба асобы (групы асоб) ва ўстанову, арганізацыю ці да службовай асобы.

У залежнасці ад таго, куды падаецца заява, аўтар яе можа выступаць як *грамадзянін, вучань, навуковы супрацоўнік* і г. д.

Дамашні адрас у заяве не пішацца, калі аўтар адрасуе яе кіраўніку сваёй установы. Неабавязкова пісаць і прозвішча, імя і імя па бацьку асобы, да якой звернута заява, дастаткова толькі ўказаць пасаду.

Прозвішча, імя, імя па бацьку аўтара дакумента ставяцца ў форме роднага склону без прыназоўніка: *Мальца Сяргея Іванавіча.* Слова *заява* звычайна пішацца з вялікай літары (ці вялікімі літарамі) і без кропкі пасля яго.

У заяве можа давацца пералік тых дакументаў (даведка, аўтабіяграфія, дакумент аб адукацыі і інш.), якія да яе прыкладаюцца.

Пасля тэксту заявы з левага боку ставіцца дата яе напісання, з правага — подпіс таго, хто напісаў.

**63.** Прааналізуйце наступную заяву. Ці ўлічаны пры яе напісанні патрабаванні афіцыйнага маўлення?

Дэкану факультэта беларускай
філалогіі і культуры БДПУ
імя Максіма Танка
прафесару Міхалевічу І. А.
студэнткі 410 групы
Маеўскай Ларысы Пятроўны

ЗАЯВА

Прашу дазволіць мне праходзіць педагагічную практыку ў СШ № 95 г. Мінска ў сувязі з тым, што я працую ў гэтай школе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры.

Да заявы дадаецца даведка з месца працы.

25 студзеня 2009 г. Л. П. Маеўская

**64.** Напішыце: а) заяву ў прыёмную камісію навучальнай установы, у якую вы збіраецеся паступаць; б) заяву аб прыёме на працу (на курсы).

**Аўтабіяграфія** (ад грэч. *autos* — сам, *biographia* — жыццеапісанне) — апісанне свайго жыцця.

Аўтабіяграфія пішацца ад першай асобы. У ёй звычайна паведамляюцца наступныя звесткі:

- прозвішча, імя, імя па бацьку, год і месца нараджэння, сацыяльнае становішча;
- бацькі (поўнасцю імёны і імёны па бацьку, чым займаюцца);
- адукацыя (калі і дзе вучыўся);
- працоўная дзейнасць (месца працы, пасада);
- дзяржаўныя ўзнагароды (калі ёсць).

Ставяцца дата і подпіс.

У аўтабіяграфіі як дакуменце не трэба раскрываць рысы характару, звычкі, схільнасці, розныя бакі асабістага жыцця.

**65.** Прачытайце афіцыйную аўтабіяграфію і ўрыўкі з аўтабіяграфіі В. Быкава. Ці правільна афармлена афіцыйная аўтабіяграфія? Ці ўсе звесткі, неабходныя для гэтага дакумента, у ёй ёсць? Чым адрозніваецца мова службовай аўтабіяграфіі ад мовы аўтабіяграфіі літаратурнай (мастацкай)?

Знайдзіце ў аўтабіяграфіі В. Быкава словы, спалучэнні слоў, якія неўласцівыя афіцыйнаму маўленню.

АЎТАБІЯГРАФІЯ

Я, Новік Аляксандр Сцяпанавіч, нарадзіўся 15 жніўня 1967 года ў вёсцы Селішча Навагрудскага раёна ў сялянскай сям'і. Бацька, Сцяпан Іванавіч, працуе ў калгасе шафёрам, маці, Вольга Міхайлаўна, — бухгалтарам.

У 1974 годзе я пайшоў у Мольніцкую васьмігадовую школу, пасля заканчэння якой у 1982 годзе паступіў у Лідскі індустрыяльны тэхнікум, які скончыў у 1986 годзе па спецыяльнасці «Тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўта-

мабіляў». Атрымаў накіраванне на працу ў аўтабазу № 2 г. Навагрудка.

У 1986 годзе быў прызваны ў армію. Служыў у Германіі. Пасля дэмабілізацыі ў 1988 годзе вярнуўся на ранейшае месца працы.

Завочна вучуся ў Беларускай політэхнічнай акадэміі.

Жанаты, маю дачку.

12 верасня 1999 года А. С. Новік

* * *

Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года каля Кубліч на Полаччыне. Яшчэ з дашкольнага[сл] дзяцінства прыахвоціўся да кніжак, чытаў без разбору ўсё, што траплялася пад рукі. Час без кніжкі здаваўся пустым і **нецікавым**. Літаратура змалку стала такім важным духоўным фактарам, што з ім не магла раўняцца нават прырода, якая звычайна вельмі шмат значыць у фарміраванні характару вясковага жыхара...

Пазней прыйшло хараство выяўленчага мастацтва, якое захапіла адразу і моцна і прывяло ўрэшце ў Віцебскае мастацкае вучылішча. Толькі вучыцца доўга не давялося: у 1940 годзе адмянілі стыпендыі, і гэта акалічнасць зноў вярнула мяне ў вёску. **Невясёлым** было тое вяртанне, але з яго пачыналася сталасць.

Перад самай **вайной** апынуўся на Украіне, у ліпені—жніўні капаў акопы, з арміяй адступаў да Варонежа, зазнаў шмат трывог за сябе, за Радзіму і за лёс чалавецтва таксама. Пасля быў год звышчалавечага напружання ў вайсковым вучылішчы: дзесяцігадзінныя заняткі, земляныя работы і начныя дзяжурствы на абаронных заводах, якія люта бамбілі немцы. Нарэшце ўсё скончылася паспешлівым выпускам, пагонамі малодшага лейтэнанта і радаснай перспектывай фронту. Аднак на фронце ўсё аказалася куды болей **цяжкім** і **складаным**... Да перамогі было далёка, ваявацъ вучыліся часта на ўласных памылках і стратах... Што датычыць мяне, дык даводзілася і наступаць і абараняцца, акружаць і выходзіць з акружэнняў. Быў два разы паранены[с], ляжаў у шпіталях, ваяваў у артылерыі і пяхоце,

якую ніколі не перастану лічыць вялікай пакутніцай і гераіняй вайны адначасова. Аднаго толькі ўласна перажытага хапіла б на многія кнігі. Вайна выдалася неверагодна цяжкай і крывавай... Затое нічога ў нашым жыцці не магло параўнацца з той радасцю, якую давялося перажыць у самую сонечную вясну Перамогі. Гэта была найвышэйшая ўзнагарода за ўсе пакуты вайны, за пралітую кроў і за слёзы таксама.

Усю вайну і яшчэ дзесяць год пасля яе быў **далёка** ад Беларусі, але светлы вобраз роднага краю мацярынскай пяшчотай жыў у маім сэрцы. Радзіма клікала ў снах, трывожыла ў марах, напамінала аб сабе паўзабытай матчынай мовай. Першыя апавяданні напісаў у 1951 годзе на востраве Кунашыры, самым паўднёвым з Курыльскай грады... Пасля напісаў болей, узяўся за аповесці. Некалькі рэчаў лічу няўдалымі, у іншых, здавалася, быў блізка да мэты, на якую нацэліўся. Але цяпер бачу, што ўсё той жа бастыён вялікае праўды аб вайне па-ранейшаму[с] сурова высіцца ў аблоках мінулага, і, каб дабрацца да яго вяршыні, пэўна, мала аднае настойлівасці. І ўсё ж якой бы ні была яна непрыступнай, тая вяршыня, трэба караскацца на яе, бо, як пісаў Генрых Бёль, чалавек перастае быць мастаком не тады, калі стварае слабы твор, а ў той момант, калі пачынае баяцца ўсялякай рызыкі.

1965 г. *В. Быкаў*. Тры абзацы аўтабіяграфіі

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў першым абзацы афіцыйнай аўтабіяграфіі.

● Падбярыце антонімы да выдзеленых слоў.

● Знайдзіце ў аўтабіяграфіі В. Быкава пяць слоў, ужытых у пераносным значэнні.

**66.** Напішыце аўтабіяграфію.

**Аб'ява** — гэта паведамленне, якое даводзіцца да ўсеагульнага ведама. У аб'яве звычайна ўказваецца, дзе, калі і што адбудзецца.

**67.** Уявіце, што вам неабходна паведаміць пра што-небудзь (вечар, сход і г. д.). Напішыце аб'яву ў афіцыйным стылі. Укажыце праграму мерапрыемства.

**Распіска** — дакумент, які пацвярджае атрыманне пэўнай асобай чаго-небудзь (грошай, рэчаў, дакументаў і г. д.) на часовае ці пастаяннае карыстанне.

Распіска звычайна мае наступныя рэквізіты: 1) назва дакумента; 2) хто атрымаў *(Я, Дрозд Мікалай Іванавіч)*; 3) ад каго атрымаў; 4) што атрымаў (пералік каштоўнасцей, іх колькасць пішацца словамі і лічбамі); 5) для якой мэты; 6) дата, подпіс.

**68.** Для падрыхтоўкі да спаборніцтваў вам неабходна атрымаць у настаўніка фізкультуры пэўны спартыўны інвентар. Напішыце адпаведную распіску. Укажыце ў ёй, калі абавязуецеся вярнуць рэчы.

**Даверанасць** (даручэнне) — дакумент, у якім асоба (установа, прадпрыемства) дае права іншай асобе выступаць ад яе імя, ажыццяўляць пэўныя юрыдычныя дзеянні ці атрымліваць матэрыяльныя каштоўнасці.

Асабісты подпіс павінен быць засведчаны подпісам адказнай асобы і пячаткай.

**69.** Складзіце прыкладны тэкст даручэння на імя вашага сябра. Не забудзьце ўказаць поўнае найменне таго, хто даручае *(Я, Стома Пётр Міхайлавіч, вучань...)*; прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каму даручаецца; што даручаецца выканаць, а таксама тэрмін сапраўднасці паперы. Помніце, што колькасць грошай (рэчаў) пішацца лічбамі і словамі.

**70.** Выкарыстоўваючы матэрыялы падручніка і дадатковую літаратуру, падрыхтуйце план навуковага паведамлення на тэму «Афіцыйны стыль».

Карыстаючыся планам, раскажыце пра гэты функцыянальны стыль маўлення.

## § 13. Публіцыстычны стыль

**Публіцыстычны стыль** — функцыянальная разнавіднасць маўлення, якая выкарыстоўваецца ў сферы грамадскіх зносін: грамадска-палітычных, культурных, спартыўных і інш. Гэта стыль перыядычнага друку, грамадска-палітычнай літаратуры, агітацыйна-прапагандысцкіх выступленняў на мітынгах, сходах, на радыё і тэлебачанні і г. д.

Публіцыстычны стыль сустракаецца як у пісьмовай, так і ў вуснай формах маўлення, яны ў межах гэтага стылю ўзаемадзейнічаюць і зближаюцца. Прычым асновай найбольш часта з'яўляецца пісьмовая форма, таму што большасць вусных дакладаў, прамоў, выступленняў уяўляюць сабой узнаўленне загадзя падрыхтаваных (напісаных) тэкстаў.

Найбольш пашыраныя ж а н р ы п у б л і ц ы с т ы ч н а г а с т ы л ю — артыкулы ў газетах і грамадска-палітычных часопісах, рэпартажы, інтэрв'ю, нарысы, аратарскія выступленні і інш.

Публіцыстычнаму стылю ўласцівыя дзве а с н о ў н ы я ф у н к ц ы і: інфармацыйная (перадача грамадскай інфармацыі) і экспрэсіўная (уздзеянне на свядомасць людзей). Гэтыя функцыі ўзаемазвязаныя, неаддзельныя адна ад адной. Таму публіцыстычным стылем карыстаюцца тады, калі неабходна не толькі перадаць пэўную інфармацыю, але і адначасова аказаць уздзеянне на адрасата, пераканаць яго ў чым-небудзь, выклікаць цікавасць да канкрэтных ідэй, поглядаў, заахвоціць да пэўных дзеянняў і ўчынкаў.

Т ы п о в ы м і р ы с а м і публіцыстычнага стылю з'яўляюцца эмацыянальнасць, ацэначнасць, вобразнасць, пабуджальнасць.

Яркая эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка публіцыстычных твораў тлумачыцца тым, што аўтар, перадаючы інфармацыю, выражае свае адносіны да яе. Прычым пазіцыя аўтара-публіцыста ў адрозненне, напрыклад, ад пазіцыі аўтара мастацкага твора выражаецца звычайна

прама і адкрыта, што і абумоўлівае агітацыйны, пабуджальны характар публіцыстыкі.

Асноўныя рысы публіцыстычнага стылю выяўляюцца з дапамогай розных моўных сродкаў. Тут шырока выкарыстоўваецца грамадска-палітычная лексіка (*грамадзянін, канстытуцыя, суверэнітэт, дэпутат, дэмакратыя, свабода, грамадства; парламенцкія выбары, прэзідэнцкая кампанія, ратыфікацыя дагавора, пакет прапаноў, міждзяржаўнае пагадненне* і інш.); словы, якія набываюць прымету публіцыстычнасці толькі пры ўжыванні ў пераносным значэнні (*школа выжывання, працоўная вахта, палітычная гульня, атмасфера даверу, сустрэча на ўзроўні паслоў* і інш.); стылёва афарбаваныя словы са станоўчай і адмоўнай ацэнкай (*працаўнік, перадавік, міласэрнасць, дабрабыт, ударнік; экстрэміст, расіст, мешчанін, ваяка* і інш.). У публіцыстычных творах могуць ужывацца дыялектызмы, жарганізмы, словы і выразы са зніжанай стылістычнай афарбоўкай. Як і ў мастацкай літаратуры, у публіцыстыцы выкарыстоўваюцца метафары, эпітэты, параўнанні і іншыя тропы.

Марфалагічныя асаблівасці публіцыстычнага стылю праяўляюцца ў асноўным у частотнасці ўжывання часцін мовы і іх формаў. Напрыклад, у публіцыстычных тэкстах даволі часта сустракаюцца назоўнікі ў родным склоне (*пасля эканамічнага крызісу, рэформа цэн, прапановы прэзідэнта, скарачэнне ўзбраенняў, міністр абароны* і інш.), назоўнікі з суфіксамі ***-осць (-асць), -ств- (-цтв-), -нн-, -ізм, -іст,*** дзеясловы ў цяперашнім і прошлым часе, дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу. Напрыклад: *Праект праграмы, накіраванай на падтрымку беларускай адукацыі, распрацаваны ў Міністэрстве адукацыі нашай краіны. Яна закранае ўсе ўзроўні навучання — ад дашкольнага да паслядыпломнага* («Звязда», 1999, 10 снежня).

Публіцыстычны стыль мае і сінтаксічныя асаблівасці. Тут часта выкарыстоўваюцца сінтаксічныя канструкцыі з ярка выражанай экспрэсіўнасцю: сказы з інверсійным парадкам слоў, сказы-звароты, рытарычныя пытанні, паўторы і інш.

**71.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю маўлення ён адносіцца? Абгрунтуйце свой адказ.

Старажытная беларуская зямля ў чарговы раз сустракае Свята славянскага пісьменства і культуры. Як і стагоддзі назад, любое славянскае сэрца поўніцца пачуццём глыбокай сыноўскай павагі, калі гучаць імёны Кірылы і Мяфодзія. Жыццё і справа іх маюць **выключнае** значэнне ў гісторыі еўрапейскай культуры і развіцці славянскіх народаў: рускага, балгарскага, беларускага, украінскага, сербскага, харвацкага і іншых. Іх справа надзвычай дэмакратычная і рэвалюцыйная, яна з'яўляецца яркім прыкладам барацьбы за прагрэс і за самасцвярджэнне розных народнасцей.

У **трывожны** і жорсткі час, калі агонь і меч былі адзіным законам, нашы продкі абвясцілі адзін з найвялікшых прынцыпаў сапраўднага гуманізму і аб'явілі зброяй слова. З дапамогай пісьменства яны стварылі і абгрунтавалі гістарычныя правы новай славянскай культуры, якая ўзнялася побач са старажытнымі візантыйскай і лацінскай культурамі. Справа Кірылы і Мяфодзія, стваральнікаў славянскай **азбукі**, — неўміручая ў славянскай гісторыі, **значны** ўклад у скарбніцу сусветнай культуры *(С. Фёрдаў)*.

- Падбярыце сінонімы да выдзеленых слоў.
- Падрыхтуйце паведамленне пра вядомых славянскіх асветнікаў Кірылу і Мяфодзія. Да якога стылю будзе адносіцца ваша выказванне?

**72.** Прачытайце назвы газетных артыкулаў. Ці можна сказаць, што гэтыя загалоўкі не толькі паведамляюць пра змест матэрыялу, але і выклікаюць цікавасць чытача, падахвочваюць яго пазнаёміцца з тэкстам і, у некаторай ступені, раскрываюць адносіны аўтара (рэдакцыі) да пэўных падзей. Дакажыце сваё меркаванне.

«Цана хлеба» (пра стан сельскай гаспадаркі Беларусі); «Якім будзе Мінск заўтра?» (пра перспектывы развіцця г. Мінска); «Чалавек з легенды» (пра С. В. Прытыцкага); «Прагматычны аўтар рамантычных песень» (пра кампазітара і спевака Юрыя Антонава); «Праз жыццё — з народнай

песняй» (пра беларускі музычны фальклор); «Свята, якое яднае людзей» (пра Свята славянскага пісьменства і друку); «Хто абароніць прыроду?», «Збор грыбоў — справа сур'ёзная і — небяспечная».

**73.** Прачытайце тэкст. Якія стылёвыя рысы яму ўласцівыя? Назавіце моўныя сродкі, характэрныя для стылю гэтага тэксту. Вызначце тэму, асноўную думку тэксту, тып маўлення.

Па волі гістарычнага лёсу беларусы амаль заўсёды мелі патрэбу ў абароне сваёй старажытнай мовы і культуры. З тымі ж клопатамі ім даводзіцца мецць справу і ў XXI стагоддзі. Хаця сёння беларуская мова заканадаўча аформлена як дзяржаўная і з поўным правам можа прэтэндаваць на выкананне дзяржаўна-адміністрацыйнай, палітычнай, культурна-асветніцкай і навуковай функцый, зноў, як ні дзіўна, востра стаіць пытанне пра яе выжыванне. На нашых вачах нацыянальная мова бязлітасна выцясняецца з усіх сфер грамадскага жыцця. Ці не надзвычай трывожны сімптом? Мала сказаць, што гэта вельмі дрэнна, гэта — бяда, гэта — трагедыя. Тут ёсць нешта ненармальнае, таму што, як зазначаў вядомы рускі пісьменнік Канстанцін Паустоўскі, «истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к своему языку, — дикарь. Он вредоносен по своей сути потому, что его безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа». Ёсць над чым задумацца.

Ні адзін свядомы чалавек не стане адмаўляцца ад сваёй мовы. Для яго яна — багаты дар, адзін з найвышэйшых духоўных здабыткаў, незаменны сродак нацыянальнага самавыражэння. Толькі яна ўвасабляе ў сабе ўсё тыповае, спецыфічнае для культуры таго ці іншага народа, і таму толькі яна ў стане данесці сапраўды нацыянальную сутнасць яго духоўных і культурных набыткаў *(Паводле В. Лемцюговай)*.

● Перакладзіце словы К. Паустоўскага на беларускую мову. Якія яшчэ выказванні вядомых людзей пра родную мову вы ведаеце?

Найбольш простым і дастаткова пашыраным інфармацыйным жанрам з’яўляецца **нататка**. Асноўная яе задача — перадаць чытачу, што, дзе, калі адбылося ці павінна адбыцца. Звычайна гэта кароткае паведамленне пра пэўны жыццёвы факт, якое павінна адпавядаць наступным патрабаванням: быць актуальным, лагічна паслядоўным, сціслым, аператыўным.

**74.** Прачытайце тэкст. Да якога інфармацыйнага жанру ён адносіцца? Назавіце характэрныя рысы гэтага жанру.

ЭЛЕКТРЫЧНЫ ВЕЦЕР

На даху будынка Магілёўскага тэхнапарка з’явіўся вятрак. Гэта першы ў абласным цэнтры ветрагенератар. Праект рэалізаваў інфармацыйна-кансультацыйны цэнтр па энергазберажэнні[сл]. Мяркуецца, што вятрак будзе поўнасцю забяспечваць электрычнасцю невялікі офіс цэнтра, дзе пяцьшэсць чалавек працуюць на камп’ютарах, а таксама карыстаюцца бытавой тэхнікай. У вечаровы час установка будзе працаваць на падсветку[сл] будынка. Паводле папярэдніх разлікаў, вятрак коштам каля 4 тысяч долараў акупіцца праз 5—7 гадоў *(І. Давыдава. «Звязда», 22 лістапада 2008 г.)*.

**75.** Напішыце нататку пра падзею, якая адбылася нядаўна.

На старонках перыядычнага друку часта сустракаюцца матэрыялы, якія перадаюць змест гутаркі паміж журналістам і пэўнай асобай пра падзеі, з’явы, што маюць цікавасць для грамадства. Гэта **інтэрв’ю** (ад англ. *interview* — гутарка) — пашыраны газетны жанр.

**76.** Прачытайце фрагменты інтэрв’ю з кампазітарам Леанідам Захлеўным і паэтам Рыгорам Барадуліным. Ці згодныя вы з думкамі, якія выказалі гэтыя аўтарытэтныя прадстаўнікі беларускай культуры? Вызначце, з дапамогай якіх сродкаў рэалізуюцца ў тэкстах асноўныя функцыі і якасці публіцыстычнага стылю.

* * *

— Магчыма, захапленне народнай музыкай было прадвызначана вашым паходжаннем?

— Мама ў мяне літоўка, а бацька ўкраінец. Але я нарадзіўся ў горадзе Гродна. Я ўвабраў у сябе гэтыя мелодыі. І я вельмі палюбіў беларускую песню.

Але я сябе не лічу ні ўкраінцам, ні літоўцам. Па светаадчуванні і стане душы я ўсё-такі беларус. Бо я не ўяўляю, у якой яшчэ **рэспубліцы** мог бы жыць. Ёсць пачуцці, якімі ты сам не кіруеш, хутчэй наадварот — яны кіруюць табой. Ва ўсю сваю песенную творчасць я ўклаў інтанацыі любові да Беларусі, бо імі жыву. Няхай сёння гэта гучыць нямодна.

— Са званняў, якімі вы валодаеце, якое цяжэй за ўсё дасталася?

— Я асаблівую гонку за званнямі не наладжваў. Заслужанага артыста атрымаў у 37 гадоў, народнага — у 51. Ну што там: заслужыў — атрымаў. Асноўнае званне, на мой погляд, — гэта тваё імя.

— Бацькі засталі часы вашага прызнання?

— Так. Маці і цяпер цікавіцца. Яны славу ўспрымалі не як падставу для імгненнага гонару. Яны простыя людзі і да дасягненняў ставіліся нармальна — маўляў, той, хто працуе, заўсёды нечага дабіваецца. Прызнанне — толькі верхняя частка айсберга, пад якой схавана вялікая праца *(«Звязда», 11 снежня 1999 г.)*.

* * *

— Калі ўпершыню адчулі сябе паэтам?[с]

— Нават да гэтага часу няма ўпэўненасці[ф], што я паэт.

— Пісаць вершы — гэта цяжкая справа або стан душы?

— Зразумела, што пісаць вершы — не дровы секчы. Калі вершы пісаць цяжка, тады іх і пісаць не трэба — не атрымаецца. Стан душы? Хутчэй за ўсё так.

— Ці не замінае **папулярнасць** у творчасці ці ў жыцці?

— Папулярнасць — рэч адносная. На адной вуліцы цябе ведаюць, на другой — ужо не. І не трэба з ганаровым званнем насіцца па свеце, як дурань з пісанай торбай.

— Ваш кумір?

— Слова «кумір» нейкае халаднаватае. Для мяне прыкладам, узорам, нават ідэалам з'яўляецца Васіль Быкаў. Ва ўсім.

— Якой вы бачыце Беларусь заўтра?

— Беларусь я хацеў бы бачыць вольную і незалежную[сл] *(«Звязда», 3 снежня 1999 г.).*

● Прачытайце выдзеленыя словы і вызначце: а) іх лексічнае значэнне; б) адназначныя ці мнагазначныя; в) у прамым ці пераносным значэнні ўжытыя.

● Знайдзіце фразеалагізм, растлумачце яго сэнс.

**77.** Сфармулюйце і запішыце пытанні, якія б вы задалі, калі б бралі інтэрв'ю (у пісьменніка, кіраўніка ўстановы, спартсмена, артыста, настаўніка і інш.).

Да інфармацыйных жанраў публіцыстычнага стылю адносіцца **рэпартаж.** Яго асноўная мэта — аператыўна, дакладна і выразна паведаміць пра што-небудзь значнае і цікавае. Рэпартаж дае чытачу магчымасць як бы самому, на свае вочы ўбачыць тое, аб чым расказвае журналіст. Звычайна ў рэпартажы паведамляецца пра тыя падзеі, сведкам якіх быў сам аўтар.

**78.** У спартыўнай прэсе, у маўленні спартыўных каментатараў ёсць пэўныя асаблівасці: частае ўжыванне спартыўнай тэрміналогіі, слоў у пераносным значэнні і інш. Вызначце, у якім значэнні ўжываюцца выдзеленыя словы ў наступных словазлучэннях.

**Гаспадар** поля, **гарачая** публіка, **дырыжор** каманды, **сухі** лік, **аўтар** гола, **здаровая** канкурэнцыя, атака **гасцей, дуэль** з варатаром, **вялікі** футбол, **баявы** састаў, **вастрыё** атакі, **рэалізаваў** пенальці.

**79.** Паслухайце па радыё ці паглядзіце па тэлебачанні трансляцыю якога-небудзь спартыўнага спаборніцтва. Прааналізуйце маўленне каментатара. Звярніце ўвагу, як уплывае тэматыка маўлення на адбор і ўжыванне лексічных, марфалагічных, сінтаксічных сродкаў. Свае назіранні афарміце ў выглядзе паведамлення на тэму «Асаблівасці маўлення спартыўнага каментатара».

**Артыкул** — адзін з асноўных і найбольш пашыраных жанраў публіцыстыкі. Яго роля ў газеце ці часопісе вельмі значная. У артыкулах раскрываюцца і аналізуюцца пэўныя тэарэтычныя праблемы, розныя з'явы і факты, тлумачыцца і папулярызуецца палітыка партый, рухаў, аб'яднанняў, расказваецца пра дасягненні і праблемы эканомікі, навукі, культуры, робяцца абагульненні і вывады, даюцца рэкамендацыі па дасягненні канкрэтных вынікаў.

Умоўна артыкулы падзяляюцца на перадавыя, прапагандысцкія, праблемныя і крытычныя.

**80.** Прачытайце тэкст. Да якога жанру публіцыстыкі ён адносіцца? Вызначце асноўныя функцыі і стылёвыя рысы тэксту. З дапамогай якіх моўных сродкаў яны рэалізуюцца? Назавіце тэму і асноўную думку тэксту.

ЦІ СТАНЕ НАРАЧ КУРОРТНАЙ ЗОНАЙ?

Сярэдзіна студзеня выдалася сёлета надзіва цёплай. Звычайна ў гэты час трашчаць маразы, лютуюць вятры і завірухі. А тут — палеткі чыстыя ад снегу, навокал блішчаць лужыны вады. І толькі возера Нарач застыла ў дрымотным сне, усё яшчэ скаванае ледзяным панцырам[сн].

Спыняемся на абочыне шашы, што чорнай дугой ахоплівае берагі. **Само возера — усяго за некалькі метраў ад дарогі.** Позірк міжволі спыняецца на вялікай палонцы, што ўтварылася ля самага берага. Што такое? Бліскучая паверхня вады пакрыта нейкімі дзівоснымі ўзорамі. Усё зразумела: сюды трапілі рэшткі паліва ці мазуту, змытыя[с] вадой. Убачанае прымусіла тужліва сціснуцца сэрца: ці даўно Нарач лічылася эталонам чысціні нашых вод? Але ж і сюды, як відаць, дайшла «цывілізацыя». Некаму ў свой час прыйшло ў галаву пралажыць побач з самым берагам рэліктавага вадаёма дарогу ды яшчэ пакрыць яе асфальтам. Колькі ж шкодных рэчываў цяпер асядае тут, а пасля трапляе ў возера?

Вядома, цяпер дарогу нікуды не перанясеш. Як не перанясеш і шматлікія будынкі здраўніц і пансіянатаў, што

выраслі апошнім часам у маляўнічых барах нарачанскай зоны. **А вось як усё гэта багацце арганічна ўпісаць у прыроду?** Як зрабіць, каб чалавек жыў з ёй у згодзе, карыстаўся яе шчодрымі дабротамі?

Летась праходзіў двухдзённы семінар, прысвечаны праблемам тутэйшага краю. Многа трывожных слоў прагучала ў абарону ўнікальнага возера. Былі і цікавыя прапановы, як з найменшымі стратамі выйсці з гэтага экалагічнага катаклізму. Напрыклад, настойліва даводзілася думка аб неабходнасці стварэння тут нацыянальнага парку.

Усім выдатны праект. Адно кепска, што для яго рэалізацыі патрэбны велізарныя сродкі. І тым не менш праблему неабходна вырашаць.

Пытанне аб наданні нарачанскаму краю статуса курортнай зоны ставілася ўжо неаднойчы і на розных узроўнях. Ажыццяўленне гэтай задачы дало б магчымасць пераарыентаваць усю вытворчую дзейнасць рэгіёна, максімальна скіраваць яе на праблемы аздараўлення людзей. Аднак, каб пачаць пераўтварэнні[сл], неабходна прыняць адпаведны закон аб курортнай зоне. Без гэтага ўсе намеры так і застануцца толькі добрымі пажаданнямі. А на першым часе хоць бы вырашыць тры найбольш важныя праблемы. Па-першае, стварыць у раёне спецыяльную экалагічную міліцыю. Па-другое, выдзеліць сродкі на стварэнне экалагічных пастоў. І, нарэшце, узаконіць пытанне аб экалагічным падатку з усіх транспартных сродкаў, што праязджаюць[ф] па курортнай зоне *(Паводле У. Гойтана)*.

● Назавіце часціны мовы ў выдзеленых сказах.

**81.** Напішыце артыкул на грамадска-палітычную ці маральна-этычную тэму. Пры падрыхтоўцы тэксту ўлічыце тыя патрабаванні, якія прад’яўляюцца да твораў публіцыстыкі.

## § 14. Мастацкі стыль

**Мастацкі стыль (стыль мастацкай літаратуры)** абслугоўвае духоўную сферу жыцця грамадства. Гэта стыль мастацкіх твораў розных жанраў: апавяданняў, аповесцей, раманаў, вершаў, паэм, п'ес і інш.

Мастацкі стыль, у адрозненне ад іншых стыляў, немагчыма суаднесці з пэўнай разнавіднасцю літаратурнай мовы. У межах гэтага стылю могуць узаемадзейнічаць у большай ці меншай ступені элементы ці нават цэлыя фрагменты розных стыляў. Аднак гэта не «змешванне» стыляў, таму што ўжыванне разнастайных моўных сродкаў у мастацкім тэксце абумоўлена задумай аўтара і зместам твора, г. зн. стылістычна абгрунтавана.

Асноўнай формай рэалізацыі мастацкага стылю з'яўляецца пісьмовае маўленне. Але праяўляецца ён і ў вуснай форме. Драматургія, напрыклад, поўнасцю разлічана на вуснае выказванне.

Галоўная асаблівасць стылю мастацкай літаратуры — адзінства рэалізацыі камунікатыўнай і эстэтычнай функцый. У мове мастацкага твора слова не толькі перадае пэўны змест, але і, з'яўляючыся сродкам фарміравання мастацкіх вобразаў, уздзейнічае на думкі і пачуцці чытача, робіць яго як бы саўдзельнікам тых падзей, пра якія расказвае аўтар.

Мове мастацкай літаратуры ўласцівыя эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць, вобразнасць. Гэтыя якасці дасягаюцца шырокім выкарыстаннем вобразна-выяўленчых сродкаў (эпітэт, метафара, параўнанне, антытэза, інверсія і інш.), сінонімаў, розных стылёвых пластоў лексікі.

Мова мастацкай літаратуры мае дзве р а з н а в і д н а с ц і: прозу і паэзію.

**Проза** — гэта свабоднае, натуральна арганізаванае маўленне чалавека. Яно характэрнае ў асноўным для эпічных і драматычных твораў: рамана, аповесці, апавядання, драмы, камедыі і інш. Празаічнае маўленне расчляняецца на абзацы, сказы і мае пэўную ўпарадкаванасць.

Галоўная асаблівасць **паэтычнага** маўлення — яго асобая рытмічная арганізацыя, якая выяўляецца ў раўнамерным паўтарэнні розных маўленчых адзінак: націскных і ненаціскных складоў, стоп, строф і інш. Сярод гукавых паўтораў найбольш выдзяляецца рыфма — паўтарэнне аднолькавых або блізкіх па вымаўленні гукаў у канцы вершаваных радкоў:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*

Я. Колас

Рыфма ўплывае на музычнае гучанне верша.

**82.** Прачытайце тэксты. Да якіх разнавіднасцей мовы мастацкай літаратуры яны адносяцца? Назавіце асноўныя прыметы паэтычнага маўлення.

Якія функцыі і якасці ўласцівыя тэкстам? Абгрунтуйце свой адказ.

Праз некалькі дзён мароз адлёг, выглянула сонейка, і дружна закапала са стрэх.

— Ну, нарэшце заплакала зіма, — сказаў дзядзька Антось. — Вунь і жаваранак зацягнуў ужо сваю песню.

Нібы падвешаныя на нітачцы, трымцелі на адным месцы ў паветры ледзь бачныя птушачкі. Вось адзін жаваранак перастаў варушыць крыльцамі, каменем паляцеў уніз, потым узняўся ўвысь, і з новай сілай паліліся ў прасторы яго трэлі. Песню гэтую слухаюць і лес, і яшчэ пакрытыя снегам палеткі, і рэчка, закаваная лёдам, — уся прырода, здаецца, зараз рынецца насустрач вясне. Нават кроплі падаюць са стрэх ціхутка, каб не парушыць дзівосную мелодыю *(С. Александровіч)*.

* * *

Мы больш сваёй ахвярнасцю вядомы,
Мы, беларусы,
Мы — народ такі.
Ахвотна забываем, што мы,
Хто мы.

Згадаюць
Нашай памяці вякі!

Мы сціпласцю сваёй здаўна вядомы,
Саміх сябе хваліць нам не з рукі.
Хай слабакі
Аж падаюць ад стомы,
На плечы ўзяўшы
Пыхі мех цяжкі.

Мы ўсім сваёй гасціннасцю вядомы,
Надзейныя сябры і дружбакі.
І госць, і падарожны ў нас
Як дома.
А злым і травы колюцца ў бакі.

Гатовы ўсё аддаць —
І тым багаты,
Мы, беларусы,
Мы — народ такі.
Што з краю небяспекі нашы хаты,
Пра гэта
Не забудуць чужакі!

*Р. Барадулін*

● Знайдзіце ў першым тэксце словы, ужытыя ў пераносным значэнні, растлумачце іх сэнс.

**83.** Успомніце, што такое эпітэт, метафара. Запішыце сказы, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары. Падкрэсліце эпітэты і метафары і растлумачце, з якой мэтай яны ўжываюцца ў творах мастацкай літаратуры.

1. Я чула пяшчотнае, шчырас*(?)*ці поўнае, маё беларускае, роднае, кроўнае, такое ласкавае, цёплае, чыстае, як сонца, агністае, як Нёман, празрыстае, як казка, быліна, як песня, жаданае, дагэтуль яшчэ ў жыцці *(не)*пазнанае, гарачае слова ад шчырага сэрца *(Д. Бічэль-Загнетава)*. 2. Вясна прыйшла з дзівоснымі ж..мчужнымі світанкамі, з радаснымі пералівамі птушак *(Т. Хадкевіч)*. 3. Простыя, задушэўныя і шчырыя радкі, поўныя смутк.. і жальбы, зм..няліся муж-

нымі і гнеўнымі словамі *(С. Александровіч)*. 4. *(Мароз)*мастак рукой старэчай на шыбах піша свой узор *(Я. Колас)*. 5. Сонца вісіць ужо над самым лесам. Яшчэ *(паў)*гадзіны — і яно зусім схаваецца за далёкім надпрыпяцкім борам *(І. Навуменка)*. 6. Вуліца яшчэ дыхала ранішнім халадком. Сонца выблытвала сва.. промні з*(пад)* кл..новых і ліпавых кронаў, з дрогкага лісця співала расу *(Н. Маеўская)*. 7. Гарэлі на ўзлессі прыгарадных лясоў асінкі, як быццам хацелі сказаць людзям, што, пакуль яны гараць і грэюць неба, няма чаго баяцца халадоў *(У. Караткевіч)*. 8. Ноччу секануў буйны цёплы дождж. Ён глуха лапатаў, сіпеў, растапляючы снег *(А. Асіпенка)*. 9. А ноч *(не)*спала. Ноч жыла сваім жыццём *(А. Жук)*.

**84.** Успомніце, што такое параўнанне. Прачытайце ўрыўкі з паэмы Я. Коласа «Новая зямля», знайдзіце параўнанні. Скажыце, якую ролю яны адыгрываюць у тэксце паэтычнага твора.

* * *

Настаў дзянёк, даўно чаканы.
Пакаты ўзгор'я і курганы
Уздзелі чырвані кароны,
І стрэхі сонцам пазлачоны;
Туманаў лёгкія[ф] паромы
Над рэчкай віснуць нерухома,
А ў люстры водаў гэтай рэчкі,
Як закаханая[с] дзяўчына,
Глядзіцца пышная вярбіна.
У бліскучым лісцейку, як свечкі
На алтары ў часы малення,
Іскрацца сонейка праменні,
Бы смех бязгрэшны[с] і шчаслівы.

* * *

Ідуць касцы, звіняць іх косы,
Вітаюць іх буйныя росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы.

Касцы ідуць то грамадою,
То шнурам цягнуць, чарадою,
То паасобку, то па пары;
Ідуць касцы, ідуць, як хмары,
І льецца[ф] смех іх разудалы,
Як веснавыя перавалы.

**85.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Знайдзіце антытэзы (выразы, у якіх супрацьпастаўляюцца кантрастныя (процілеглыя) паняцці, прыметы і інш.). З якой мэтай выкарыстоўвае іх аўтар?

Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

НОЧ

Ноч перайначвае рэчаіснас*(?)*ць: утойвае відавочнае і **ўвідавочнівае** патаемнае.

Учора — вечар, заўтра — раніца, сёння — дзень, і толькі ноч як бы не мае свайго адпаведніка, які адзначыў бы яе месца ў часе: яна — прысутнасць а..сутнасці, нішто, ніякая, нічыя.

Ноч змыкае людзям вочы і адмыкае новы.. — *(не)*бачаныя для вачэй — дал..чыні.

Ун..чы, знітоўваючы зямлю і неба, палымнеюць **знічы**, коцяцца, **знячэўку** сарваўшыся з зорных галін, знічкі, а ў *(не)*абсяжных **ночвах** н..бёсаў плавае месяц*(човен)*.

Ноч як н..быт: хвіліна ў ёй не адрозніваецца ад вечнасці, пакута ад шчасця, пачатак ад зав..ршэння, набытак ад страты, і калі, скончыўшы свой чараўнічы сеанс, ноч растае, свет паўстае абноўленым, «нашчым», перапісаным *(на)*чыста *(А. Разанаў)*.

● Ахарактарызуйце выдзеленыя словы паводле іх прыналежнасці да актыўнага ці пасіўнага слоўніка.

**86.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Знайдзіце сказы, у якіх аўтар выкарыстоўвае інверсію — змяненне звычайнага (прамога) парадку слоў з мэтай надання пэўнаму слову (члену сказа) дадатковай семантычнай і эмацыянальна-экспрэсіўнай нагрузкі. Назавіце іншыя вобразныя сродкі, якія сустракаюцца ў гэтым тэксце.

Выпішыце два сказы з інверсіяй, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Хараша ў полі зімою... У полі аснежаным, дзе такія гурбы прыгожыя, неахопная[сл] шырыня і празрыстае неба, што пачынае цямнець з надыходам вечара.

Серабрыцца снег, мігцяць незлічоныя мільёны брыльянцістых іголак, вецер шчыпле за шчокі, нос. Забіраецца за каўнер, невідзімкаю прабіраецца[сл] пад кажух са сваёю халоднаю пяшчотай. Тулішся, пацягваешся, падбіраеш пад сябе ногі, да якіх вельмі ахвоч мароз са сваімі балючымі пацалункамі.

Але ўсё ж такі добра. Так бадзёра[сл] скрыпяць палазы, снежны пыл ляціць з-пад капытоў, абдае цябе ледзяністымі пырскамі, аж прыжмурваеш вочы. А коні бягуць (падганяць не трэба), дарога чыстая, дарога слізкая, чаму ж не бегчы.

Надыходзіць вечар, сінеюць снегавыя гурбы, ад бледнага месяца цягнуцца празрыстыя промні і не ззяюць, а тлеюць над лесам і полем. Сінія цені плывуць за кустамі, кладуцца ў баразёнкі, у снегавыя сумёты. А зоры нібы вылецець хочуць са сваіх гнёздаў, да таго зыркія, бліскучыя яны ў марозным паветры.

І салодкі сум закрадваецца ў сэрца, ціхі сум, непазнаны. Здаецца, што пяюць над табой сярэбраныя жаўранкі, заліваюцца таемныя бомы цудоўнымі танюсенькімі пералівамі, якія акунаюць цябе ў небыццё... *(М. Лынькоў)*.

● Вызначце тып маўлення.

У мастацкім тэксце выкарыстоўваюцца ўсе сродкі нацыянальнай мовы. Тут можна знайсці дыялектныя і ўстарэлыя словы, тэрміналагічныя моўныя адзінкі, неалагізмы, жарганізмы і нават вульгарызмы. Аднак іх ужыванне павінна быць стылістычна апраўдана, падпарадкавана аўтарскай задуме.

**87.** Прачытайце ўрыўкі з апавядання М. Лынькова «Андрэй Лятун». Знайдзіце прафесіяналізмы і словы, якія знаходзяцца за межамі літаратурнай мовы. Растлумачце мэтазгоднасць выкарыстання іх у творы.

— Эх, Андрэй, Андрэй, да чаго ж ты дажыў, да чаго ж дастукаўся: ні раздолля табе, ні жазлоў, ні пуцёвак... Стой,

гібей са сваёю «кукушкай-свістушкай», чакай гнілых шпал, платформу адвядзеш за паўсотні сажняў. Не жыццё, а маслёнка мазутная. І ні пары табе наддаць, ані поўны ход, ні табе семафоры крылатыя, ані вёрсты, ані рэйкі бліскучыя, што мігцяць-сакацяць пад грымучымі коламі... Так, браце Андрэй, сядзі цяпер і не рыпайся. А чаму? Таму што слабыя мы сталі, а віною ўсяму годы: точаць падшыпнікі, не разгонішся цяпер, не раз'едзешся... А, іначай кажучы, старасць — не радасць. Баста! Годзе! Ад'ездзіўся!

Так разважае часам з сабою стары машыніст Андрэй Сапун...

* * *

Вось чаму на «кукушцы» Андрэй. Старасць. Немач. Вочы сталі нязоркія, вушы нячуткія, слабая рука — трасецца на рэгулятары. І не дзіва, калі счэпшчык Іван, які двойчы падаў сігнал «паравоз пад вагоны», гучна лаецца:

— Не чуе, панчоха старая, хоць ты яму свішчы не свішчы. Пайсці паштурхнуць хіба, заснуў мо...

Счэпшчык ідзе да паравоза, лезе на прыступкі і прарэзліва свішчыць-верашчыць над самым Андрэевым вухам.

Задрамаўшы над топкай, Андрэй усхватваецца з перапалоху, праціра вочы і, агледзеўшыся, падступае з кулакамі пад Іванаў нос.

— Ты глядзі ў мяне, блыха крыжавідная. Ужо я табе пакажу, як пад вухам гугнець, людзей непакоіць. Калі-небудзь пападзешся, гад, прышчамлю буферамі, як жабу, — не піснеш...

— «Кукушкай» прышчэміш?

Андрэй не адказвае. Дый ці можна адказаць чалавеку, які так зняважліва ставіцца да паравоза. Хоць гэта і паравоз не паравоз, а так сабе, непаразуменне нейкае, але ўсё ж такі машына, і павінна яна павагу мець і пашану належную. А то на табе, «куку-у-шка».

**88.** Выпішыце з рамана І. Мележа «Людзі на балоце» 8—10 сказаў (ці невялікі ўрывак), у якіх ёсць дыялектызмы. Вызначце стылістычную ролю дыялектызмаў у мастацкім тэксце.

**89.** Выпішыце з рамана У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» 5—10 сказаў (ці невялікі ўрывак) з устарэлымі словамі. Паспрабуйце растлумачыць іх значэнне. З якой мэтай ужываюцца ўстарэлыя словы ў творах на гістарычную тэматыку?

**90.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль, назавіце асноўныя стылёвыя рысы. Знайдзіце моўныя сродкі, з дапамогай якіх тэкст набывае гэтыя рысы.

Спішыце тэкст, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы патрэбныя літары.

Расла на ўзлесс.. каліна. Была яна ўсё маленькай ды раптам неяк *(не)*прыкметна вырасла. Зац*(?)*віла каліна белым цветам закрасавала *(на)*дзіва і зайздрасць усім суседнім дрэвам.

«Фарсуха!» — пазіраючы на яе аж трэсліся ў лажку асіны. Яны былі заўсёды бледны.. і зялёны.. і заўсёды ім было холадна.

Падумаеш выстраілася ш..пталі хмурыя яліны. Яны насілі цёмнае адзенне і размаўлялі толькі шэптам. Учэпістыя дубкі што раслі на схіле пагорк.. таксама *(не)*прыхільна паглядалі на маладую каліну а яна зусім не звяртала на іх увагі.

Толькі старая яліна*(казачніца)* спачувальна пазірала на каліну*(прыгажуню)* і жаласна ківала галавой:

Пацвіце пакрасуецца ды і завяне не яна першая не яна апошняя *(А. Васілевіч)*.

● Вызначце тып маўлення. Ці можна лічыць гэты тэкст завершаным? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

**91.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып маўлення. Якімі сродкамі мовы перадае аўтар стан прыроды перад навальніцай і саму навальніцу?

У сонечнай далечыні на шырокіх і роўных, як стол, слуцкіх палетках **палавела** жыта. Ад спякоты пабялелі[сл], **выліналі** пяшчотныя і халаднавата-мяккія пялёсткі валошак на **ўзмежках** і пры дарогах. **Мроілася** разагрэтае[с] сон-

цам паветра і нібыта цякло да жытнёвага небакраю[с]. Адтуль чорным крылом разгортвалася навальніца. І перад ёю ўсё заціхала неяк паспешна, быццам захопленае знянацку, нават паменшалі хвалі на тугаватай роўнядзі калосся. І нідзе ні душы. Толькі светлы **палетак** і пацямнелая далечыня, як з пясчанага[ф] берага глядзіш на цёмнае мора. Перад навальніцаю ўсё на зямлі быццам паменшала, і нават вёска здалася маленькай, нібы глядзіш на яе з вышыні, з гэтага магутнага чорнага навальнічнага крыла.

У цішыні пачулася, як мякка і глуха, усё роўна бы па жывым целе, ударылі па глыбокім цёплым дарожным пыле першыя кроплі. А потым раптоўна, неспадзявана моцна рвануў вецер — і абрынулася на зямлю ўсё разам: і цемната, і суцэльная сцяна вады, і святло сіняватых ад **лютасці** маланак, і ўдары грому, ад якіх хацелася сцяцца ў маленькі-маленькі камячок, бо здавалася, што ты толькі адна засталася на ўсім белым свеце. Жудасна адчуваць[ф], што прапала і ты, і твая хаціна ў бясконцай лютасці і нястрыманасці стыхіі. І разам з тым была незразумелая, нявытлумачаная, шчымлівая, трывожная радасць у гэтай яраснай праяве, усё роўна як і ты — частачка гэтай непадуладнай нікому сілы... *(А. Жук)*.

- Як вы разумееце лексічнае значэнне выдзеленых слоў?

**92.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Знайдзіце моўныя сродкі, з дапамогай якіх аўтар дае апісанне навальніцы. Параўнайце гэты тэкст з папярэднім. Чым паэтычнае маўленне адрозніваецца ад празаічнага?

* * *

А дождж шуміць, а дождж[ф] гудзе
І бліжай-бліжай ён ідзе
І даль туманам засцілае.
Упала кропля і другая,
За імі цэлым вадаспадам
Буйныя капкі, як бы градам,
Па лісцях дуба секанулі
Ды далей сетку пацягнулі.

І вось жахнула бліскавіца,
Як вогнямгненная крыніца,
І гром-пярун сталёвым бічам,
Бы нейкі звер страшэнным лычам,
Арэ, трасе, калоціць хмары,
Зямлю, надземныя абшары,
Бушуе доўга, абурліва,
Над лесам коціцца гняўліва,
І гэты гоман, гнеў дрыгучы,
Злучае зноў у стрэл магучы,
Густы, злавешчы, віхрабежны
І нестрыманы, і драпежны
І так цяжэрна націскае,
Як бы зямлю дзесь угінае.
І шугнуў дождж налётам смелым,
Павіс абрусам густа-белым
Над гэтым лугам, над палямі
І льецца коса ручаямі,
Бы невад цягнецца грымотны,
І б'юцца кроплі ў пыл вільготны.

*Я. Колас*

## § 15. Гутарковы стыль

**Гутарковы стыль** маўлення абслугоўвае пераважна сферу бытавых зносін, а таксама неафіцыйныя зносіны ва ўсіх сферах жыцця: вытворчай, грамадска-палітычнай, навуковай і інш.

Асноўнай формай рэалізацыі гутарковага стылю з'яўляецца вуснае маўленне, хаця ён можа праяўляцца і ў пісьмовай мове (сяброўскія лісты, запіскі на бытавыя тэмы і інш.).

Для гутарковага стылю характэрнае дыялагічнае маўленне. Аднак магчымы і маналог у форме расказу пра пэўныя падзеі, з'явы і інш., якія адрасуецца канкрэтнаму слухачу (слухачам). Вялікую ролю ў вусных зносінах адыгрываюць інтанацыя, жэсты, міміка суразмоўцаў.

Моўныя асаблівасці гутарковага стылю тлумачацца неафіцыйным характарам адносін паміж удзельнікамі гутаркі, іх непасрэдным удзелам у зносінах, адсутнасцю папярэдняй падрыхтоўкі да размовы.

Гутарковаму стылю ўласцівыя экспрэсіўнасць, эмацыянальнасць маўлення, таму вялікая колькасць слоў і фразеалагізмаў мае ярка выражаную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку: *дачушка, сынок, маразішча, вятрыска, моднічаць, браць за горла, заткнуць за пояс* і інш. У гэтым стылі часта выкарыстоўваюцца словы з канкрэтным значэннем і абмежавана — з абстрактным, амаль не сустракаюцца тэрміны.

Характэрнай асаблівасцю гутарковага стылю з'яўляецца ўжыванне займеннікаў, выклічнікаў, часціц, дзеясловаў са значэннем імгненнага дзеяння (*скок, шмыг, хваць* і інш.).

Сінтаксіс гутарковага стылю характарызуецца непаўнатой канструкцый, спрошчанасцю. Гутарковаму маўленню ўласцівыя няпоўныя сказы, словы-сказы, сказы з інверсійным парадкам слоў, пытальныя і клічныя сказы. Са складаных дастаткова часта ўжываюцца складаназлучаныя і бяззлучнікавыя.

У гутарковым стылі ў тыповых абставінах зносін выкарыстоўваюцца гатовыя, стандартныя маўленчыя сродкі, так званыя формулы маўленчага этыкету (формулы прывітання, развітання, звароту, прабачэння, падзякі і інш.).

**93.** Прачытайце тэкст. Якія стылёвыя рысы яму ўласцівыя? Знайдзіце ў тэксце моўныя сродкі, характэрныя для гутарковага стылю.

— А, гэта ты, бабка! Ну, прысядзь, пагаворым трохі!

— Я пастаю, панічок... У вас так ціха, я думала, што вы ўжо спіцё, а вы ўсё з гэтай кніжкай. Прабачайце, панічок: я прыйшла запытацца, ці баліць яшчэ ў вас галава, ці перастала.

— Перастала, бабка, перастала! Забыўся нават, што яна і балела!

— Ну, панічок мой родны, як сабе хочаце: хочаце верце, хочаце не верце, а я вам, далібог, шаптала!

— Ты і мне шаптала? Калі ж гэта ты ўмудрылася пашаптаць? Я нават і не прымеціў.

— Вот вы тут сядзелі, чыталі, а я з кухні праз дзверы шаптала... Не гневайцеся: далібог, шаптала!

— Напэўна, гэта ты мне памагла, бабка.

— Ой, панічыку, вы ўсё смеяцеся, не даяце веры. Не верыце ніяк мне, старой!

— О, не, бабка: веру, веру! Аб тваім знахарстве ўсюды кажуць: у Хатовічах, у Малкавічах, у Ганцавічах — усюды! *(Паводле Я. Коласа).*

**94.** Складзіце дыялогі, якія могуць адбыцца ў пэўных сітуацыях неафіцыйных зносін паміж сябрамі, аднакласнікамі, бацькамі і дзецьмі і інш. Чым тлумачацца моўныя асаблівасці гутарковага стылю?

**95.** Прачытайце. Да якога жанру гутарковага стылю адносіцца тэкст? Назавіце яго асноўныя стылёвыя рысы. Якія моўныя асаблівасці гутарковага маўлення зафіксаваны ў тэксце?

Паважаны дзядзька Андрэй!

Калі Вы не маеце дужа прыбытных заробкаў, дык прыязджайце да нас: работа для Вас знойдзецца. Даволі Вам сядзець у шчыліне, трэба выходзіць у людзі. У гэтым мы Вам можам памагчы і з часам зрабіць з Вас адукаванага чалавека — паслаць Вас туды, дзе вучыцца Цётка-Пашкевічанка. Трымайцеся, дзядзька, і трымайце хвост трубою.

З пашанаю да Вас, М. У.

*Я. Колас*

**96.** Назавіце стылі, у якіх элементы гутарковага маўлення: а) зусім не павінны ўжывацца; б) могуць ужывацца, а могуць і не ўжывацца.

**97.** Падрыхтуйце (пісьмова) тры варыянты тэксту-апісання (расліны, жывёлы, з’явы прыроды і інш.). Першы варыянт павінен быць мастацкім апісаннем, другі — навуковым, трэці — уяўляць сабой маналог у гутарковым стылі.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Што такое стылістыка?
2. Што такое функцыянальны стыль маўлення? Якія стылі маўлення існуюць?
3. Назавіце сферу ўжывання, формы рэалізацыі, функцыі і вызначальныя рысы навуковага стылю.
4. Пералічыце жанры навуковага стылю, назавіце іх адметныя моўныя асаблівасці.
5. Назавіце сферу ўжывання, формы рэалізацыі, функцыі і вызначальныя рысы афіцыйнага стылю.
6. Пералічыце жанры афіцыйнага стылю, назавіце іх адметныя моўныя асаблівасці.
7. Як пішацца: а) заява; б) аўтабіяграфія; в) аб’ява; г) распіска?
8. Назавіце сферу ўжывання, формы рэалізацыі, функцыі і тыповыя рысы публіцыстычнага стылю.
9. Пералічыце жанры публіцыстычнага стылю, назавіце іх адметныя моўныя асаблівасці.
10. Якія асноўныя мэты такіх жанраў публіцыстычнага стылю, як: а) нататка; б) інтэрв’ю; в) праблемны артыкул?
11. Дзе выкарыстоўваецца мастацкі стыль, у чым яго асаблівасць?
12. Ахарактарызуйце разнавіднасці мовы мастацкай літаратуры.
13. Якія вобразна-выяўленчыя сродкі вы ведаеце? У якіх стылях маўлення яны могуць ужывацца?
14. Як суадносяцца мова мастацкай літаратуры і літаратурная мова?
15. Назавіце сферу ўжывання, формы рэалізацыі і тыповыя рысы гутарковага стылю.
16. У чым адметнасць мовы гутарковага стылю?

## § 16. Гукавая абалонка слова

**Гук** — найменшая (непадзельная) адзінка вуснага маўлення, якая ўспрымаецца на слых. Гукі, узятыя паасобку і нават у складзе слова, самастойнага значэння не маюць (не абазначаюць ніякіх паняццяў), але яны ствараюць знешнюю гукавую абалонку слова.

У залежнасці ад якасці і характару вымаўлення гукі беларускай мовы падзяляюцца на галосныя і зычныя.

**Галоснымі** называюцца гукі, якія ўтвараюцца з дапамогай голасу. Пры іх вымаўленні паветра выходзіць з лёгкіх плаўна і спакойна, не сустракаючы ніякіх перашкод.

**Зычнымі** называюцца гукі, якія ўтвараюцца з дапамогай голасу і шуму або толькі шуму. Пры іх вымаўленні ў поласці рота ўзнікаюць перашкоды, у выніку чаго і ўтвараюцца шумы.

У сучаснай беларускай мове 6 галосных гукаў: [а], [о], [у], [ы], [і], [э]. Для іх абазначэння на пісьме выкарыстоўваецца 10 літар: ***а, о, у, ы, і, э, е, ё, ю, я***.

Літары ***а, о, у, ы, э*** **нёётавыя**. У пачатку слова і пасля цвёрдых зычных яны абазначаюць гукі [а], [о], [у], [ы], [э] і цвёрдасць папярэдняга зычнага: *арэх, вугал, эшалон, чырвоны, формула*.

Літары ***е, ё, ю, я, і*** **ётавыя**. Пасля зычных яны абазначаюць галосныя гукі [э], [о], [у], [а], [і] і мяккасць папярэдняга зычнага: *левы* [л′эвы], *лес* [л′эс], *мёд* [м′от], *сюжэт* [с′ужэт], *бяроза* [б′ароза], *ліпа* [л′іпа].

Літары ***е, ё, ю, я, і*** ў становішчы пасля галоснага, у пачатку слова, пасля ***ў***, апострафа і раздзяляльнага мяккага знака абазначаюць два гукі: [йэ], [йо], [йу], [йа], [йі]: *дзеяслоў* [дз′эйаслоў], *ехаць* [йэхац′], *салаўі* [салаўйі], *кап’ё* [капйо], *лью* [л′йу].

**98.** Назавіце, як абазначана мяккасць зычных у наступных словах.

Возера, мядзведзь, канверт, ледзьве, сняжок, ліпень, весялосць, канец, цеплыня, столькі, песня, сем, метафара, адтуль, чэрвень, зялёны, ліcцік, люты.

**99.** Выпішыце спачатку словы, у якіх літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць галосны гук і мяккасць папярэдняга зычнага, затым — два гукі.

Свята, Дняпро, далячынь, высокія, жыццё, вастрыё, сур'-ёзны, віць, Дзвіна, здароўе, кар'ер, адліга, чытаю, юны, шлюзы, Нёман, у вырai, аб'язджаць, планета, настаўніца, цёмна-русы, ясныя, памыляюся, чалавечнасць, сумленны, абое.

**100.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту словы, у якіх літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць гукі [э], [о], [у], [а], [і].

Нашае мазырскае нізіннае Палессе чабор не дужа любіць, расце ў сухіх высокіх мясцінах, рэдкіх светлых сасновых барах.

Прысеўшы, з цікавасцю пачаў разглядаць, мацаць і нюхаць гэтую несамавітую* на выгляд расліну, пра якую напісаны вершы і складзены песні, якая з'яўляецца ледзь не сімвалам Беларусі побач з васільком і шыпшынаю.

Чабор падобны на малады верас, з такімі ж сінімі кветкамі, толькі яшчэ драбнейшымі. Верас нават, як мне падалося, пахне мацней, саладчэй. Я нарваў букецік, нюхаў, яшчэ і яшчэ, проста сілком уцягваў у сябе ягоны своеасаблівы водар.

І тады зразумеў, што чаборам трэба надыхацца[сл]. Трэба, каб яго было многа, каб паветра настаялася ім *(А. Федарэнка).*

Назавіце 6 слоў з тэксту, у якіх літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць два гукі.




Санорныя гукі **[в]**, **[в′]**, **[л]**, **[л′]**, **[м]**, **[м′]**, **[н]**, **[н′]**, **[р]**, **[й]**, **[ў]** не маюць парных глухіх і не аглушаюцца перад наступнымі глухімі або на канцы слова: *ка*[***мп***]*от*, *ява*[***р***]. Перад санорнымі глухія зычныя не азванчаюцца: [***сл***]*авяне*, *кля*[***тв***]*а*, *заву*[***шн′***]*іцы*.

Звонкія і глухія зычныя ўтвараюць пары па звонкасці-глухасці: [б]—[п], [г]—[х], [дз′]—[ц′], [дж]—[ч], [з]—[с], [д]—[т], [ж]—[ш]. У глухога гука [к] ёсць парны звонкі [г], выбухны (пры яго вымаўленні ўтвараецца шум, які нагадвае кароткі выбух). Выбухны [г] вымаўляецца на месцы правапіснага ***к*** перад звонкім зычным: *ва**к**зал* [ва***г***зал], *э**к**замен* [э***г***зам′эн]. Глухія [ф], [ф′] не маюць парных звонкіх.

Паводле цвёрдасці і мяккасці зычныя падзяляюцца на **цвёрдыя і мяккія**, утвараючы пры гэтым пары: [б]—[б′], [д]—[дз′], [з]—[з′], [л]—[л′], [т]—[ц′] і г. д.

Гук [ц′] мае парны цвёрды гук [т], а не [ц]: *свя*[*т*]*а* — *на свя*[*ц′*]*е*. Мяккі [дз′] чаргуецца з цвёрдым [д], а не [дз]: *мала*[*д*]*ы* — *мала*[*дз′*]*ейшы*.

Гукі [ж], [ш], [дж], [ч], [р], [ц], [дз], [ў] з’яўляюцца **няпарнымі цвёрдымі**, паколькі не маюць адпаведных парных мяккіх. Няпарны цвёрды гук [ц] не ўтвораны з [т], ён ужываецца ў словах тыпу *цацка, цыган, цымбалы, цэп* і інш. Няпарны цвёрды гук [дз] ужываецца ў некалькіх словах тыпу *дзын, дзынкнуць, ксяндзы, пэндзаль*.

Гук [й] не мае адпаведнага цвёрдага, ён заўсёды мяккі.

Гукі [г], [г′], [к], [к′], [х], [х′] называюцца **заднеязычнымі**, таму што пры іх утварэнні актыўным органам з’яўляецца задняя частка языка.

Паводле афарбоўкі гучання зычныя гукі [ж], [ш], [дж], [ч] з’яўляюцца **шыпячымі**, а гукі [дз], [дз′], [з], [з′], [с], [с′], [ц], [ц′] — **свісцячымі**.

Некаторыя гукі беларускай мовы ў становішчы паміж галоснымі вымаўляюцца больш працягла. Такія гукі маюць назву **падоўжаныя** і перадаюцца на пісьме падвоеным напісаннем адпаведнай літары. Падаўжаюцца ў беларускай мове гукі [дз′], [з′], [л′], [н′], [с′], [ц′], [ж], [ш], [ч]: *палоззе, соллю, насенне, калоссе, забыццё, збожжа, заціша, ноччу*. Падоўжаны гук [дз′] перадаецца на пісьме спалучэннем літар ***ддз***: *суддзя, стагоддзе, разводдзе*.

Падаўжэнне зычных — адметная рыса беларускай мовы.

**101.** Выпішыце тыя пары слоў, якія адрозніваюцца паміж сабой асобнымі гукамі.

Стол — столь, падвезці — падвесці, воз — вёз, казка — каска, уперамежку — уперамешку, рэдка — рэдзька, расчыніць (дзверы) — рашчыніць (цеста).

**102.** Спішыце словы, падкрэсліце літары, якія абазначаюць парныя глухія зычныя гукі.

Каля гарадка, барацьба, падказка, крыгаход, лясны, экзамен, ад станцыі, адпісаць, на лодцы, без жыта, лёгкі, падвозіць, сцерагчы, неабсяжны, пад таполяй.

**103.** Запішыце словы, падкрэсліце літары, якія абазначаюць парныя звонкія зычныя гукі.

Ручка, шчыры, небакрай, падказаць, пад’ехаць, грыбы, зброя, прачытаны, возчык, са сшыткам, паведамленне, даўнавата, чарназём, сур’ёзнасць, паўтарэнне.

**104.** Выпішыце словы, у якіх усе зычныя гукі глухія.

Дубкі, сцежка, эстэтыка, скошаны, падказка, адчай, шэпт, спяваць, цытата, пісаць, чытаю, спаць, частаваць, хамяк, спісаны, шчупак, фае, яшчэ, казка, усякі.

**105.** Выпішыце ўсе словы, у якіх ёсць зычныя, што не маюць парных глухіх, падкрэсліце гэтыя зычныя. Як яны называюцца? У чым іх асаблівасць?

Відаць, няведанне само па сабе не загана. Загана, гэта калі не ведаеш і ведаць не хочаш. Саромеешся прызнацца, папытацца ў людзей. А хто пытае, той, як вядома, не заблукае *(А. Федарэнка)*.

**106.** Выпішыце з тэксту словы з няпарнымі цвёрдымі зычнымі. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць галосныя гукі пасля такіх зычных.

МЯЦЕЛІЦА

Мяцеліца гуляла трэці дзень. Выла, дзьмула снег, накруціла харомы, ні табе кроку ступіць, ні табе нагу смела паставіць. Вышэй не толькі за платы, але і за невысокія стрэхі белыя падушкі харомаў, да калодзежа не дойдзеш. Дзвярэй з сенцаў не адчыніць. Пакапалі людзі траншэі ды ходзяць імі да хлява, да суседа ці да калодзежа[сн] *(А. Казлоў)*.

**107.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце словы, у якіх напісанне не супадае з вымаўленнем.

Калі верыць стараж..тным, самы мудры той, хто даў імёны рэчам. Гэта значыць, галоўны і адзіны м..ватворца і м..вазнаўца — наро.. .

Мова — скар.. народ.., і наро.. зацікаўлены, каб яна была ёмістая, гнуткая ў рабо..е, прыдатная для выражэ..я думкі[м], колер.., пах.., сутнасці з..явы, накірава..яў час.., памкне..яў чалавека. І да таго ж: лё..кая для ўспрыма..я і звонкая ў гуча..і *(М. Лужанін)*.

**108.** Разгледзьце табліцу. Раскажыце пра вымаўленне і напісанне спалучэнняў зычных гукаў у розных становішчах.

| Віды асіміляцыі зычных | Правілы вымаўлення спалучэнняў зычных гукаў | Прыклады |
|---|---|---|
| Асіміляцыя па звонкасці/глухасці | 1) звонкія зычныя перад глухімі аглушаюцца;<br>2) глухія зычныя перад звонкімі азванчаюцца | кла*дк*а — [кла*тк*а], бе*з х*леба — [б′*ас хл′*эба]; ка*сьб*а — [ка*з′б*а], фу*тб*ол — [фу*дб*ол] |
| Асіміляцыя свісцячых да шыпячых і шыпячых да свісцячых | 1) свісцячыя зычныя перад шыпячымі прыпадабняюцца да шыпячых;<br><br>2) шыпячыя зычныя перад свісцячымі прыпадабняюцца да свісцячых | перапі*сч*ык — [п′эрап′і*шч*ык], *зж*аты — [*жж*аты], *з ш*умам — [*шш*умам]; вучы*шся* — [вучы*с′с′*а], даро*жц*ы — [даро*сц*ы], добру*шс*кі — [добру*ск′*і] |
| Асіміляцыя па мяккасці | перад мяккімі зычнымі свісцячыя вымаўляюцца мякка; але: свісцячыя [з], [с] перад мяккімі заднеязычнымі вымаўляюцца цвёрда | *цв*ік — [*ц′в′*ік], *з б*ерага — [*з′б′*эрага]; *зг*інуць — [*зг′*інуц′], *ск*інуць — [*ск′*інуц′], бе*з х*ібаў — [б′*асх′*ібаў] |
| Прыпадабненне [д], [т] да [ц], [ч] | гукі [д] і [т] прыпадабняюцца да наступных [ц] і [ч] | цё*тч*ын — [ц′*очч*ын], па*д ц*аглінай — [па*цц*агл′інай] |

**109.** Прачытайце прыказкі ў адпаведнасці з нормамі літаратурнага вымаўлення. Растлумачце сэнс прыказак.

1. Хітрасцю свет пройдзеш, а назад не вернешся. 2. Каб не ежка ды не адзежка, была б грошай поўная дзежка. 3. Век зжыць — не мех сшыць. 4. Госцю двойчы рады: калі ён прыязджае і калі ён ад'язджае. 5. Добра, як сусед блізкі і пералаз нізкі. 6. Цешся, ліска, вяселле блізка — каўбасы з'ясі. 7. Свайго смецця на чужы сметнік не вынось. 8. Не тое багацце, што цесць з цешчаю далі, а што маладыя самі нажывалі.

**110.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце, які ўплыў аказваюць на іх суседнія гукі.

Іду па сце..цы, раптам чую — хтосьці тупаціць. Ды так моцна, аж зямля, здаецца, дрыжыць. Спыніўся я — гля..ь наза.. . Вось дык дзіва! Непадалёку начальнік бабулінай варты стаіць. Галаву з баявой сякерай да зямлі схіліў, крылы растапырыў. Толькі зіркае нядобра жоўтым вокам. Узяла мяне цікавасць: дай пагляджу, што далей будзе.

Павярнуўся і пабе.. да ганка. Не паспеў прабе..чы і пяці крокаў, як зноў пачуўся тупат. Нават яшчэ мацнейшы, чым спачатку. Хочаш не хочаш — спыні..ся. Гляджу — певень таксама спыніўся. Дзюба а..крыта, грэбень ваяўніча тырчыць. Задзіра дый годзе *(Паводле У. Ягоўдзіка).*

Назавіце словы з тэксту, у якіх адбываецца асіміляцыя па мяккасці.

**111.** Прачытайце прыведзеныя ў транскрыпцыі словы, запішыце іх згодна з арфаграфічнымі правіламі.

Узор: [*с′м′айэс′с′а*] — *смяешся.*

[Барадз′ба], [н′ачуйэ], [л′іджба], [налаччык], [раскашчык], [аччаго], [рашчоска], [п′ашчан′ік′і], [жжонкайу], [молац′], [б′ас′ц′отк′і].

**112.** Прачытайце пары слоў, назавіце гукі, якія чаргуюцца. Што ўплывае на чаргаванне гукаў?

Воз — вазы, вёсны — вясна; цэлы — цалейшы, несці — нясу.

Рыба — ры[п]ка, грыбы — гры[п]; лодачка — ло[т]ка, агароды — агаро[т]; лёгенькі — лё[х]кі, дарога — даро[х]; сцяжок — сця[ш]ка, нажы — но[ш]; казаць — ка[с]ка, вазы — во[с]; дзядзечка — дзя[ц′]ка, мядзведзі — мядзве[ц′].

Збор — [з′]біраць; спаў — [с′]піць; абодва — абе[дз′]ве.

Палёт — ля[ц′]ець; гарады — у гора[дз′]е; трава — на тра[в′]е; удалы — уда[л′]енькі.

Чаргаванні гукаў, якія залежаць ад пазіцыі ў слове, г. зн. абумоўлены становішчам гукаў у слове, уплывам суседніх зычных або становішчам на канцы слова, называюцца **пазіцыйнымі чаргаваннямі:** *стрэхі — страха* ([э] : [а]), *сёмы — сямёра* ([о] : [а]), *бяроза — бярозка* ([з] : [с]), *малаціць — малацьба* ([ц′] : [дз′]), *зносіць — знесці* ([з] : [з′]), *карта — на карце* ([т] : [ц′]), *кніга — кніг* ([г] : [х]).

**Гістарычныя чаргаванні** не залежаць ад пазіцыі ў слове. Змены гукаў у словах адбываюцца на аснове законаў, якія дзейнічалі ў агульнаславянскай, агульнаўсходнеславянскай ці старажытнай беларускай мовах: *кроў — крыві* ([о] : [ы]), *слухаць — слых* ([у] : [ы]), *дзень — дня* ([э] : нуль гука), *кніга — кніжны* ([г] : [ж]), *сяку — сячэш* ([к] : [ч]), *вуха — вушы* ([х] : [ш]), *за парогам — на парозе* ([г] : [з′]), *калыска — у калысцы* ([к] : [ц]), *вольха — на вольсе* ([х] : [с′]), *карміць — кармлю* ([м′] : [мл′]), *сеяла — сеяў* ([л] : [ў]).

**113.** Назавіце па два прыклады на наступныя чаргаванні зычных: глухі — звонкі, цвёрды — мяккі, свісцячы — шыпячы, заднеязычны — шыпячы, заднеязычны — свісцячы.

**114.** Запішыце па тры пары слоў з пазіцыйнымі чаргаваннямі [о] : [а], [э] : [а].

**115.** Прачытайце пары слоў. Запішыце гукі, якія ў іх чаргуюцца. Чым абумоўлены такія чаргаванні?

Церці — зацірка — цёр — тру; сохнуць — сухі — высыхаць.
Нага — ножка, магу — можаш; рака — рэчка.
Нага — на назе; рука — у руцэ; ткачыха — ткачысе.
Хацець — хачу; касіць — кашу.
Хада — хадзіць — хаджу.
Любіць — люблю; лавіць — лаўлю.

**116.** Назавіце гукі, якія чаргуюцца ў прыведзеных словах.

Узор: *дождж — дажджы* [о] : [а], [ш] : [ж], [ч] : [дж].

Цёплы — цяплейшы, холад — халодны, вада — вадзіца, лік — лічыць, певень — пеўня, чорны — чарнець, прасіць — прашу, вецер — вятры, бегчы — бяжыць — бягу, сем — сёмы — сямёрка, везці — вязу — вёз, канец — (да) канца — бясконцы.

**117.** Вызначце, якія пазіцыйныя чаргаванні могуць адбывацца з выдзеленымі гукамі. Прывядзіце прыклады.

Даро[г]а, н[о]вы, калодзе[ж]ны, сму[г]а, дз[э]ці, пагро[з]а, ма[л]ы, сл[о]зы, по[м]ніць, Каля[д]ы, пло[т], про[з′]ба, азд[а]бленне, выра[б]ы, б[э]рв[а]но.

**118.** Запішыце тэкст, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Назавіце 5 слоў з магчымымі пазіцыйнымі чаргаваннямі галосных і зычных, а таксама 5 слоў, пры змяненні якіх або пры ўтварэнні аднакаранёвых слоў адбываюцца гістарычныя чаргаванні. Дакажыце правільнасць свайго выбару.

Пачыналася вос..нь. Яшчэ горача св..ціла со*(?)*нца зусім *(па)*летн..му др..жала сін..ватая смуга над пыльнай дарогай у кустах крушыны свісталі в..сёлыя дразды. Буяла на лугавінах яшчэ з..лёная атава ў палісаднічках ля в..с-

ковых хат нап..рагонкі хваліліся сваёй н..кідкай прыгажосцю жоўтыя в..ргіні і астры. Але ўс..ўладная вос..нь н..адступна цікавала за гэтымі апошнімі праявамі хмельнага летняга жыцця. Яна ўжо зас(?)лала суц..льным з..латым абрусам палі збажыны злё..ку пас..рабрыла шаты разгалістых[с] прыдарожных б..роз а паветра напаіла той празрыстасцю і чысцінёй якая бывае толькі цёплай лагоднай вос..нню *(І. Навуменка)*.

## § 17. Стылістычныя магчымасці фанетыкі

Часта ў вершах паэты выкарыстоўваюць словы з аднымі і тымі галоснымі гукамі. Такі прыём называецца **асанансам**: *Н*[**а**] *тутэйш*[**а**]*й* [*з'***а**]*млі дзве* [*с'***а**]*стрыцы жылі,* [*й***а**]*к з*[**а**]*быты*[*й***а**] *ў лесе к*[**а**]*ліны* (Я. Купала).

Паўтарэнне аднолькавых або падобных зычных гукаў ці іх спалучэнняў называецца **алітэрацыяй**: [**с**]*траціў* [**с**]*лова,* [**с**]*траціў* [**с**]*падчыннае* [**с**]*лова — што*[**с'**]*ьці* [**с**]*траціў у душы абавя*[**с**]*кова* (Н. Гілевіч); [**л'**]*ечыцца трава ад спёкі* [**л'**]*іўнем,* [**л'**]*юдзі —* [**л**]*аскай* [**л'**]*ечацца* [**л'**]*юдской* (П. Панчанка).

З дапамогай асанансу і алітэрацыі ствараецца меладычнасць гучання, узмацняецца сэнсавая выразнасць выказвання.

**119.** Выразна прачытайце радкі з вершаў. З дапамогай чаго ствараецца адчуванне спакою, лёгкасці; паказваецца, з якімі цяжкасцямі пераадольваюцца перашкоды?

Лілею
млявы
плёс* люляе,
З-пад злежаных
аблок
здалёк
Ляціць віхлясты і бялявы
Пялёстак лёгкі[ф] —
матылёк.
*Р. Барадулін*

Я ўпарты,
Не кіну пачатае справы,
Каменне[м] крышу,
Разграбаю пяскі,
Пад кпіны аматараў лёгкае славы
Капаю рэчышча ўласнай ракі.

*А. Куляшоў*

**120.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку.

Кожны пісьменнік ведае, якая залежнасць існуе паміж гучаннем слова і яго значэннем. Услухайцеся, напрыклад, у слова «*халепа*». Гэтак называюць мокры снег, які ідзе ў адліжны дзень. Пра яго кажуць, што ён валіць камякамі, лепіць — і вы чуеце гэта ў самім слове «*халепа*». А параўнайце яго са словам «*пароша*», у якім чуецца шорах сняжынак. Альбо вазьміце словы «*завея*», «*мяцеліца*». Само гучанне перадае адметны «почырк» стыхій прыроды. Адна з іх вее, падвявае, а другая мяце. Вось дзе для чулага вуха вытокі вобразнасці, якую можна разгарнуць[с] у малюнкі і метафары, абы была фантазія і адчуванне слова!.. *(Р. Шкраба)*.

Прывядзіце ўласныя прыклады слоў, у якіх выразна праяўляецца залежнасць паміж гучаннем і лексічным значэннем.

Выпішыце з тэксту тры словы, напісанне якіх не адпавядае вымаўленню, зрабіце іх фанетычны разбор.

**121.** Прачытайце пра сувязь паміж гучаннем і сэнсам некаторых слоў беларускай мовы.

Адносна значэння слова *знічка* давялося пачуць вось якое тлумачэнне лексікографа[*]: «Знічка? Бо з-і-і-х табе й знікла». Гатунак яблыкаў *папяроўка (папяроўкі)* мае такую назву з-за таго, што гэта вельмі лёгкія яблыкі, колерам белыя, «як папера», і свіцяцца. Насякомае называюць *конікам* — бо яно скача[м] і нагадвае каня (у рускай мове гэта істота атрымала назву па іншай прыкмеце, яе «песні», — *кузнечик*).

Гэтыя і падобныя словы — характарыстычныя. Гэта словы-вобразы. Усе яны — з жывой гутарковай мовы *(Ф. Янкоўскі)*.

Знайдзіце сувязь паміж гучаннем і сэнсам такіх слоў, як *пырскуль (рэдкі дождж), дзяркач (птушка), медуніца, студзень, сакавік, красавік*.

**122.** Прачытайце вершаказы А. Разанава, заснаваныя на паэтычным успрыманні і тлумачэнні слоў. Вызначце ролю фанетычных сродкаў у тэкстах.

ГРЫБ. Дзе грыб, там любы краявід набывае асаблівую прывабнасць[с], і сярод многіх хваін і бярэзін грыбнікі абіраюць для пакланення якраз тую бярэзіну і тую хваіну, пад якою бачыцца грыб — самы праўдзівы і ганаровы герб любога гербарыя…

ШАЛІ. Шалі шануюць раўнавагу, і калі нехта[м] яе парушае, яны хвалююцца, непакояцца, пакуль нарэшце не расшалопаюць[*], колькі — кіло або лот[*] — важыць гэтае парушэнне, а да таго ж яшчэ колькі яно каштуе — дукат[*] або шэлег[*]…

ЗВОН. Звон адзываецца на ўсе святы, на ўсе вялікія падзеі і, супадаючы са сваім зрокавым вобразам, зноўку і зноў апынаецца звонку яго…[сн] Нібы скарбніца, якая ніколі не спаражняецца, звон рассыпае навокал звёны сваёй шчодрай медзі, з якою па звонкасці не зраўняецца ні срэбра, ні золата.

Выпішыце 10 слоў, у якіх колькасць літар і гукаў не супадае. Перадайце вымаўленне гэтых слоў праз транскрыпцыю.

**123.** Пра якую нацыянальную спецыфіку, што выяўляецца ў фанетычным складзе мовы, пісаў П. Панчанка: «І ўсё мілагучна для слыху майго: і звонкае “дзе” і густое “чаго”»?

Назавіце іншыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, параўнайце іх з рускай мовай. Прывядзіце і запішыце адпаведныя прыклады.

**124.** Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Назавіце асаблівасці беларускай мовы, пра якія ідзе гаворка ў тэксце. Абгрунтуйце думку аўтара пра тое, што наша мова падобная да нашага характару.

Наша мова вечная, бо ўся яна, як наш характ..р. Здаецца, кволая ад п..шчотнай мя..касці, яна раптам кідае наверх схаваную ад усіх ж..лезную мужнасць і сілу. І, як быццам дамо..шыся свайго, б..е, як перапёлка ў жытах, — мя..ка, а за тры в..рсты чуваць. «Дзе» — як шкляной палачкай па крыштал.., мя..кае «с» — як соннае ціўканне сінічкі ў гнязд..е. І побач «р», як гарошына ў свістк.., і доўга, п..вуча, а..крыта гучаць галосныя. А «г» прыдыхае так ласкава[сл], як маці на лобік дзіцяці, каб перастала сніць дрэнны сон.

Дык што ж лепшае за цябе, мова мая, мова наша! За цябе, даўняя, за цябе, вечна жывая, за цябе, н..ўміручая?! *(У. Караткевіч)*.

**125.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тып. Абгрунтуйце сваю думку.

Тое, што значыць для паэзіі гучанне слова, можна ўбачыць на наступным прыкладзе. «*Пілую вершам краты*» — колькі энергіі ў гэтай фразе! Як добра нам бачыцца за ёй постаць паэта-рэвалюцыянера. Даслоўны пераклад на рускую мову «*Пилю стихом решетку*» — толькі бледная, прыблізная копія таўлаеўскага радка. «*Пілую*» мае на два гукі больш, чым «*пилю*». У дадзеным выпадку гэта важна. Большая[м] працягласць слова тут перадае большае намаганне. Слова «*стихом*» у гэтай фразе гукава менш выразнае, чым «*вершам*», якое ў сваю чаргу пераклікаецца гукапісам* са словам «*краты*».

Да слова «*решетка*» можна дапасоўваць многа іншых слоў: «*садовая решетка*», «*решетка на водосточной канаве*», «*решетка ограды*». Слова «*краты*» адразу выклікае вобраз вязня, турэмнай камеры, няволі.

У якім-небудзь іншым выпадку ўсе гэтыя акалічнасці можна было б не прымаць пад увагу. У вершах жа ў прыватнасці і ў мастацкай творчасці наогул змест і форма (ці, як тут, гукапіс і сэнс) складаюць непарыўнае адзінства *(Паводле Р. Шкрабы).*

Дзякуючы якім фанетычным з'явам паэтычны радок В. Таўлая «Пілую вершам краты» гучыць рашуча і энергічна?

Выпішыце з тэксту словы, у якіх адбываецца: а) асіміляцыя па глухасці; б) асіміляцыя па мяккасці.

● Прывядзіце прыклады паэтычных твораў беларускай літаратуры, гукапіс і сэнс якіх «складаюць непарыўнае адзінства».

**126.** Прачытайце фрагмент з аповесці Т. Мушынскай «Доўгае развітанне».

Надзя заўсёды лічыла сябе чалавекам, успрымальным да гукаў мовы... Спяваючы[ф] вакальную лірыку французскіх[ф] кампазітараў, яна адчувала сябе француженкай. Адметнасць нямецкай мовы прымушала яе адчуць[ф] сябе нямецкай фрау. Фанетыка мовы нейкім дзіўным, таемным чынам звязана з агульным духам нацыянальнай культуры, ракурсам успрыняцця свету. У чым гэтая сувязь, Надзя не магла сказаць, але ў тым, што яна ёсць, не сумнявалася ні хвіліны.

У чым, на вашу думку, выяўляецца сувязь паміж фанетыкай мовы і «агульным духам нацыянальнай культуры, ракурсам успрыняцця свету» народа — яе носьбіта?

● Устанавіце адпаведнасць паміж формамі звароту да жанчыны і назвамі краін, у культуры якіх гэтыя формы прыняты:

| | |
|---|---|
| 1) фрау | а) Англія, Амерыка |
| 2) пані | б) Беларусь |
| 3) місіс | в) Італія |
| 4) мадам | г) Германія |
| 5) сеньёра | д) Іспанія |
| 6) донна | е) Польшча |
| 7) спадарыня | ж) Францыя |

## § 18. Лексічнае значэнне слова

**Слова** — асноўная адзінка мовы. З дапамогай слоў называюцца ўсе шматлікія з'явы і прадметы навакольнага асяроддзя, іх прыметы, дзеянні, стан.

**Лексічнае значэнне слова** — гэта ўнутраны змест слова, суаднесенасць яго гукавой абалонкі з пэўным прадметам ці з'явай рэчаіснасці.

**127.** Назавіце (запішыце) словы, якія адпавядаюць наступным лексічным значэнням.

1. Сшытак або запісная кніжка з адрыўнымі лістамі для нататак. 2. У мінулым годзе, год таму назад. 3. Шматгадовая травяністая расліна з прадаўгаватымі лістамі і дробнымі белымі пахучымі кветкамі ў форме званочкаў. 4. Утварэнне слоў у мове, а таксама спосаб такога ўтварэння. 5. Прыбор, які паказвае хуткасць руху транспартных сродкаў. 6. Натуральны выхад падземных вод на паверхню зямлі. 7. Жыць некаторы час дзе-небудзь у якасці госця.

**128.** Вызначце, якія словы не адпавядаюць указаным лексічным значэнням.

1. Трыбуна — узвышэнне для выступлення прамоўцы. 2. Крыжачок — беларускі народны танец. 3. Салярый — месца, дзе здабываюць соль. 4. Канфлікт — сутыкненне розных бакоў, поглядаў, сіл. 5. Спрынт — бег, плаванне і падобнае на кароткія дыстанцыі. 6. Трылогія — пяць літаратурных або музычных твораў аднаго аўтара, аб'яднаных агульнай ідэяй. 7. Тэлемост — тэлевізійная сувязь на далёкія адлегласці[с] пры дапамозе касмічных установак, прыбораў. 8. Кашалот — буйное млекакормячае атрада кітоў. 9. Кастрычнік — восьмы месяц каляндарнага года. 10. Мястэчка — вялікае сяло з некаторымі прыкметамі горада.

**129.** Устанавіце адпаведнасць паміж назвамі раслін, звязанымі з іх лекавымі ўласцівасцямі, і характарыстыкамі гэтых раслін, пададзенымі Э. Ажэшкай у нарысах «Людзі і кветкі над Нёманам»:

а) падгруднік
б) горлінец
в) паўночнік
г) чарнобуль
д) станоўнік

1) Пасля ўжывання хворага чалавека «ставіць на ногі»; ужываюць ад болю страўніка.
2) Ад такога вялікага болю, што «ажно чорна робіцца ў вачах».
3) Яго даюць піць дзецям, каб супакоіць іх плач. Вясковая лекарка на пытанне, адкуль[ф] можа паходзіць гэтая назва, без вагання растлумачыла, што найчасцей дзеці прачынаюцца і крычаць каля паўночы, калі іх і пояць гэтым зеллем.
4) Ад гарлавога болю.
5) Ужываецца супроць болю пад грудзьмі.

● Прывядзіце ўласныя прыклады назваў раслін, у якіх выяўляецца назіральнасць беларусаў.
● Зрабіце словаўтваральны разбор слоў — назваў раслін.

**130.** Знайдзіце сказы, у якіх словы ўжыты з няправільным значэннем. Запішыце сказы правільна.

1. На высокім камяністым беразе раслі толькі адзінокія ды хілыя кусцікі. 2. Добра падумаўшы, Зося зрабіла правільны вынік: грошы трэба здаць у міліцыю. 3. Лабановіч радаваўся, што ў яго ўсё ладзілася[с] ў новай школе. 4. Адметнай рысай таленту пісьменніка з’яўляецца псіхалагізм у апісанні герояў, з’яў, падзей. 5. Высока ў небе гучала чароўная мелодыя, як быццам нехта гуляў на дудачцы. 6. Асобным настроем прасякнута адна з апошніх работ аўтара. 7. На сходзе былі падведзены вынікі працы ўсяго калектыву за год. 8. Беларуская рэчаіснасць харчавала навуку, фальклор, літаратуру.

**131.** Вызначце (пры неабходнасці звяртайцеся да тлумачальнага слоўніка), якія з прыведзеных слоў з'яўляюцца адназначнымі, а якія — мнагазначнымі. З адным мнагазначным словам складзіце сказы, у якіх гэта слова выступала б у розных значэннях.

Месяц, весяліцца, прыметнік, рэзаць, сініца, вадарод, прамы, дыктант, пяць.

**132.** Запішыце мнагазначныя словы паводле прыведзеных значэнняў.

1. Падземная частка расліны, пры дапамозе якой яна замацоўваецца ў зямлі і атрымлівае пажыўныя рэчывы; частка воласа, зуба, пазногця, якая знаходзіцца ў целе; асноўная частка слова (без суфікса і прыставак). 2. Зямля з усім, што на ёй існуе; усё жывое, усё навакольнае; сусвет; чалавечае грамадства, аб'яднанае пэўным грамадскім ладам, культурнымі і грамадска-гістарычнымі адзнакамі. 3. Упрыгожанне[сл] з кветак або галінак, сплеценых у кружок; нанізаныя на нітку грыбы, пацеркі і падобнае; рад бярвёнаў зруба. 4. Памяншальна-ласкальнае ад слова *конь*; любімая тэма размовы, любімы занятак каго-небудзь. 5. Частка нагі, дзе злучаюцца бядровая і галёначная косці; частка чаго-небудзь сагнутага, непрамога ад аднаго згібу або павароту да другога; асобная частка, закончаны матыў у музычным творы; пакаленне ў радаслоўнай.

У мнагазначных слоў выдзяляюцца прамое і пераноснае значэнні.

**Прамое** (асноўнае) значэнне непасрэдна суадносіцца з аб'ектыўнай рэальнасцю *(здзіўляць, вінаград, сумны)*.

**Пераноснае значэнне** — другаснае, якое ўзнікла на аснове прамога значэння слова пры яго пераносе на іншы прадмет, з'яву, дзеянне ці прымету. У залежнасці ад таго, на якой падставе адбываецца такі перанос, выдзяляюцца тры асноўныя тыпы ўзнікнення новых лексічных значэнняў: м е т а ф а р а, м е т а н і м і я, с і н е к д а х а.

**133.** Разгледзьце табліцу. Раскажыце пра ўзнікненне новых лексічных значэнняў на аснове пераносу.

| Тыпы пераносу | Умовы для пераносу | Прыклады |
|---|---|---|
| Метафара | Перанос паводле падабенства:<br>а) па форме;<br>б) па колеры;<br>в) па месцы знаходжання | <br><br>*Малы носік — носік чайніка;*<br>*залатая манета — залатая пшаніца;*<br>*хвост жывёлы — хвост калоны* |
| Метанімія | Перанос паводле сумежнасці:<br>а) з матэрыялу на выраб з яго;<br>б) з памяшкання на тых, хто ў ім знаходзіцца;<br>в) з дзеяння на яго вынік;<br>г) з імя аўтара на яго твор ці творы;<br>д) з пэўнай уласцівасці на таго, хто ёю валодае | <br><br>*Здабыча золата — на руцэ дзяўчыны шмат золата;*<br>*новая школа — уся школа выйшла на ўрачыстую лінейку;*<br>*рабіць пераклад — удалы пераклад;*<br>*чытаць вершы Янкі Купалы — чытаць Янку Купалу;*<br>*мець прыгожы тэнар — спявае тэнар* |
| Сінекдаха | Паводле колькасных адносін:<br>а) з назвы часткі на цэлае;<br>б) з назвы цэлага на частку | <br><br>*Закрыць рот — у сям'і пяць ратоў;*<br>*пасадзіць вішню — з'есці вішню* |

**134.** Выпішыце словазлучэнні, у якіх выдзеленыя словы ўжыты ў пераносным значэнні.

Кучавыя *воблакі*, *воблака* пылу, *воблака* дыму; *цвёрдае* і вадкае паліва, *цвёрды* камяністы бераг, даць *цвёрды* адказ, мець *цвёрды* намер, *цвёрдая* воля; *гарачае* сэрца, *гарачае* прывітанне, *гарачае* лета, *гарачая* пліта, *гарачая* спрэчка; *шлях* у літаратуру, іх жыццёвыя *шляхі* разышліся, павetraныя *шляхі*.

**135.** Складзіце словазлучэнні, у якіх прыведзеныя прыметнікі ўжываліся б у прамым і ў пераносным значэннях.

Свінцовы, залаты, бронзавы, воўчы, кіслы, зялёны, светлы, востры.

**136.** Вызначце, на аснове чаго ўзнік перанос назвы.

Серп месяца, крыло самалёта, лясы багаты птушкай, атака праціўніка захлынулася, чытаць Мележа, спяваў барытон, падэшва гары, у статку 15 галоў, рэзаць алмазам, смачныя слівы, увесь стадыён скандзіраваў.

Мнагазначныя словы патрэбна адрозніваць ад амонімаў. **Амонімы** — словы з розным лексічным значэннем, яны не маюць паміж сабой сэнсавай сувязі (як мнагазначныя словы), таму і ў слоўніках падаюцца ў розных слоўнікавых артыкулах:

**Бокс**[1], -а, *м.* Від спорту, кулачны бой па асобых правілах. [*Сцяпан*] *у нас быў чэмпіёнам па боксе ў часці* (І. Мележ).

**Бокс**[2], -а, *м.* Мужчынская стрыжка, пры якой валасы на скронях і патыліцы коратка выстрыгаюцца або выгольваюцца. *Стрыгчыся пад бокс.*

**Бокс**[3], -а, *м.* Агароджаная частка памяшкання ў лячэбных установах для ізаляванага ўтрымання хворых. *Хворага памясцілі ў бокс.*

Кожнае са слоў-амонімаў пазначаецца зверху справа малой арабскай лічбай, а мнагазначныя словы падаюцца

ў адным слоўнікавым артыкуле. Калі якое-небудзь са слоў-амонімаў з'яўляецца мнагазначным, то яго асобныя значэнні прыводзяцца ў радку пад вялікімі арабскімі лічбамі:

**Борт**[1], -а, *м.* 1. Верхні край бакавой сценкі, а таксама бок марскога або рачнога судна, самалёта. *Дзень, калі мы ступалі на борт самалёта, быў для нас сапраўдным святам* (М. Лынькоў). 2. Левы або правы край адзення (паліто, пінжака і пад.) з петлямі або гузікамі для зашпільвання.

**Борт**[2], -а, *м.* Адна з разнастайнасцей зярністых утварэнняў алмазу.

Словы **борт**[1] і **борт**[2] — амонімы, паміж значэннямі гэтых слоў няма ніякай сувязі. Аднак першае слова з'яўляецца мнагазначным, паміж значэннямі гэтага слова можна вызначыць сэнсавую сувязь — ‘край нечага’.

**Запомніце!** Пры адрозненні амонімаў ад мнагазначных слоў патрэбна вызначыць, ці ёсць паміж значэннямі слоў сэнсавая сувязь. Калі такая сувязь ёсць, перад намі мнагазначнае слова, калі няма — амонімы.

**137.** Вызначце, якія з выдзеленых слоў у прыведзеных парах з'яўляюцца амонімамі, а якія — мнагазначнымі.

1) *правіць* краінай — *правіць* коньмі;
2) *варварскія* плямёны — *варварскія* адносіны да помнікаў мастацтва;
3) *варта* было крыху адпачыць — узмоцненая *варта* на дарогах;
4) *вастрыё* штыка — *вастрыё* сатыры;
5) прыгожы *від* на мора — рэдкі *від* птушак;
6) рэчка *высахла* без лесу — *высахла* за тое лета Наста ад гора;
7) *бот* з левай нагі — рыбалоўны *бот*;
8) гераічная *быліна* — адна *быліна* пры дарозе хісталася ад ветру;
9) музычная *нота* — паслаць *ноту* пратэсту.

## Тыпы амонімаў

**Лексічныя амонімы** — словы адной часціны мовы, якія супадаюць гучаннем і напісаннем ва ўсіх граматычных формах або ў частцы іх: *лайка* ‘парода ездавых, паляўнічых і вартавых сабак’ і *лайка* ‘гатунак мяккай авечай і казінай скуры’.

**Амаформы** — словы, якія супадаюць у адной ці некалькіх граматычных формах. Такое супадзенне можа адбывацца ў межах як адной, так і розных часцін мовы: *лячу* ў самалёце (1-я асоба адзіночнага ліку дзеяслова *ляцець*) і *лячу* хворага (1-я асоба адзіночнага ліку дзеяслова *лячыць*); *піла* (назоўнік) і *піла* (дзеяслоў прошлага часу); *варта* (назоўнік) і *варта* (прэдыкатыўнае прыслоўе).

**Амафоны** — словы, якія гучаць аднолькава, але пішуцца па-рознаму: *казка* [каска] і *каска*, *код* [кот] і *кот*. Да амафонаў адносяцца і выпадкі супадзення ў вымаўленні агульнага і ўласнага назоўнікаў: *Раман* і *раман*.

**Амографы** — словы, якія пішуцца аднолькава, але вымаўляюцца па-рознаму. Такая розніца тлумачыцца розным націскам у словах: *бу́йны* і *буйны́*, *ка́ра* і *кара́*, *кава́лі* і *кавалі́*, *ка́паць* і *капа́ць*.

**138.** Прачытайце сказы. Выпішыце словы, якія вымаўляюцца аднолькава. Вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю ў маўленні і тып аманіміі.

1. [Кісет] вышываны там, дзе горы, на святой зямлі грузін, каб ты ведаў, што і ў горы ты на свеце не адзін *(П. Глебка)*. 2. Цяпер самая пара пакупацца, а то ад сонца аж галава разбалелася *(Я. Васілёнак)*. А раніцай туман над сопкай — густая пара над катлом: знаёма пахла бульбай сопкай... *(Р. Барадулін)*. 3. — Дык навошта я ім, стары грыб, цяпер спатрэбіўся? *(А. Васілевіч)*. Той вясною грып зваліў з ног палову класа. 4. «Я расту вось тут пад плотам і не так даўно ўзышла, ды ўжо многім абармотам рукі-ногі апякла... Я — пякучка-крапіва», — так вызначыў сваё жыццёвае[ф] крэда Кандрат Крапіва.

**139.** Растлумачце значэнні міжмоўных амонімаў.

Гонар — гонор, гасцінная — гостиная, гусеніца — гусеница, дараваць — даровать, дыван — диван, дзіўны — дивный, месяц — месяц, нагадаць — нагадать, наказаць — наказать, мір — мир, плот — плот, трус — трус, згубіць — сгубить.

**140.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і выбіраючы з дужак патрэбныя словы. Абгрунтуйце свой выбар.

БАЙХАВЫ ЧАЙ

Мы п’..м чай, які *(называюць/клічуць)* байхавым. Назва гэта паходзіць ад кітайскага слова ***бай-хоа*** — бела.. *(вейка/раснічка)*. Так па-кітайску *(называюць/клічуць)* *(срэбныя/серабрыстыя)* варсінкі, якія пакрываюць *(адзін/адну)* *(бок/старану)* чайных *(лісцяў/лістоў)*. Як гэта часта бывае, слова ***байхавы*** даўно *(згубіла/страціла)* свой першапачатковы сэнс, і цяпер так *(называюць/клічуць)* толькі *(сыпучыя/сыпкія)* гатункі ча.. *(Паводле «Кнігі пра смачную і здаровую ежу»)*.

**141.** Прачытайце тэкст. Спішыце абзац, у якім раскрываецца рэцэпт гатавання мараканскага чаю, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку.

МАРАКАНСКІ ЧАЙ

У мараканскім кафэ гучаць мяккія, пяшчотныя мелодыі. Музыканты ў круглых шапачках — фесках — сядзяць пасярод невялікага памяшкання. Вакол нізенькія столікі і канапкі на трох-чатырох чалавек.

На сценах вісяць старажытныя арабскія стрэльбы з даўжэзнымі ствaламі і перламутравымі інкрустацыямі на прыкла́дах, крывыя шаблі, кінжалы, гліняныя і драўляныя блюды.

Афіцыянт у белым адзенні і чырвонай фесцы прыносіць невялікія вузкія шклянкі з зялёным чаем. У кожнай

шклянцы лісточкі мяты. Вельмі салодкі і духмяны, мараканскі чай прыемна ахалоджвае рот і горла.

Нам тлумачаць як трэба гатаваць чай па-мараканску. У медны чайнік засыпаецца зялёны чай і кладзецца столькі цукр.. колькі можа зм..сціцца ў чайнік.. . Усё гэта заварваецца і насто..ваецца. Потым у густы гарачы сіроп кладуць свежыя лісты мяты. Перад тым як наліць у шклянку ча.. туды таксама кладуць мяту. Пасля таго як выпіты першыя шклянкі ў чайнік кладзецца новая порцыя цукр.. і новыя лісткі мяты наліваецца свежы вар. Чай больш не па..сыпаецца. У Марока зялёны чай прыгатава..ы такім спосабам з'яўляецца любімым нац..нальным напіткам.

Мараканцы ў кафэ гучна сёрбаюць мятны чай і прыцмокваюць з вялікім задавальненнем. Мы п'ём з не меншай асалодай. Нам мараканскі чай спадабаўся *(Паводле В. Вольскага)*.

● Выпішыце з тэксту назоўнікі і прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі, суфіксы абазначце. Якія дадатковыя сэнсавыя адценні яны надаюць словам?

● Пазнаёмцеся з этымалагічнай даведкай: *гарбата* — з польск. *herbata*, ад лац. *herba* = зелле + навалац. *thea* ад кітайскага *te* = высушаныя лісты раслін сямейства чайных. З улікам даведкі адкажыце, якое з прыведзеных тлумачэнняў лексічнага значэння слова *гарбата* з'яўляецца, на вашу думку, найбольш правільным:

1) гарбата — тое, што і чай (А. М. Булыка);
2) гарбата — чай, завараны на травах (І. Р. Шкраба).

**142.** Спішыце сказы. Знайдзіце фразеалагізмы, растлумачце іх значэнне, падкрэсліце як члены сказа.

1. Давайце наведаемся ў святая святых радыё — студыю гуказапісу *(«Літаратура і мастацтва»)*. 2. — А вы, я бачу, ранняя птушка, — сказаў Фёдар Сцяпанавіч, ідучы ёй насустрач *(А. Асіпенка)*. 3. Набралі хлопцы рыбы колькі ўлезе і накіраваліся дадому *(Я. Маўр)*. 4. Маці тупала каля стала і не зводзіла з сына вачэй *(С. Грахоўскі)*. 5. На жыццёвым шляху кожнага чалавека трапляюцца свае гордзіевы вузлы *(А. Карпюк)*.

**143.** Запішыце сказы, падабраўшы да выдзеленых слоў фразеалагізмы.

1. Калі паказаць вучонаму, які збірае і запісвае старыя назвы траў і кветак, любую травінку, ён адразу скажа, як яна называецца і як называлі яе **вельмі даўно**. 2. Міхась падышоў да самага акна, прытаіўся, **прыслухаўшыся**. 3. Усю ноч маці **не спала**, думала, як дапамагчы сыну справіцца з гэтай бядой. 4. Пятро **вельмі ўважліва** слухаў усё, што расказвала яму Саша. 5. Падарожны спачатку[с] застыў **нерухома**, а потым кінуўся ўцякаць у лес. 6. Месца пад падлогай, дзе бацька закапаў вінтоўку, хлопчык ведаў **вельмі добра**. 7. Відаць, **наканавана** было Марылі жыць адной, без мужа, без дзяцей.

С л о в ы д л я д а в е д к і: *як свае пяць пальцаў, на родзе напісана, за царом Гарохам, як укапаны, затаіўшы дыханне, вачэй не зводзіць, навастрыўшы вушы.*

## § 19. Стылістычныя магчымасці лексікі і фразеалогіі

**144.** Прачытайце тэкст, вусна перакажыце яго змест.

**Сінонімы** — гэта словы і выразы, якія маюць блізкае ці аднолькавае значэнне, але гучаць і пішуцца па-рознаму.

Група сінонімаў складае сінанімічны рад: *бадзёры, жыццярадасны, аптымістычны, энергічны*. У кожным сінанімічным радзе вылучаецца **дамінанта**, г. зн. слова, якое перадае агульнае для ўсіх сінонімаў значэнне, выкарыстоўваецца часцей за іншыя і не мае дадатковых адценняў; яно ў сінанімічным радзе стаіць на першым месцы, з'яўляецца агульнаўжывальным, стылістычна нейтральным: ***памагчы***, *падтрымаць, падсабіць, падаць руку*.

Калі слова мнагазначнае, то рады сінонімаў будуць рознымі для кожнага са значэнняў мнагазначнага слова:

***жалезны*** (пра рукі, пальцы і г. д.) — *моцны, дужы*;

***жалезны*** (пра голас) — *суровы, цяжкі*;

***жалезны*** (пра характар, волю, дысцыпліну) — *неадступны, цвёрды, стойкі*;

***жалезны*** (пра логіку) — *паслядоўны, правільны, строгі*.

Сінонімы могуць ужывацца для больш дакладнай перадачы думкі *(Параненаму спатрэбілася **тэрміновая, неадкладная** дапамога)*; для выражэння эмацыянальна-ацэначных адносін *(хадзіць — бадзяцца, швэндацца, цягацца, крочыць)*, каб пазбегнуць паўтарэння аднаго і таго слова.

**145.** Прачытайце выказванні. Знайдзіце і выпішыце сінонімы, ахарактарызуйце сферу іх ужывання.

**I.** Ну, кажуць тыя кумы, як гэта ў нас бывае зімою, калі добра падзьме? Замець? Кудаса? Завіруха? Мяцеліца? Усё не так. А потым і схамянуліся: зі-ма-ве-я *(Я. Брыль)*.

**II.** Прабегшы некалькі хат, Арцём завярнуў на агароды, шуснуў у каноплі, адтуль разораю заламаў у вулачку і пасучыў проста да калодзежа... *(Я. Колас)*.

**III.** ДОЖДЖ

Быў жа ён зусім малы,
А як стаў на ножкі,
Ababeг усе вуглы,
Абскакаў[м] дарожкі.
Што гарэзніку гара,
Дрэвы, агароджа!
Выбег з нашага двара
І ўстаяць не можа.
Дыб, дыб, дыб —
І на сцяну,
Шлях далейшы сочыць,
У завулак сігануў,
На трамвай ускочыў.
На прыпынку светафор
Лыпнуў грозна вокам.
Ён — з падножкі і папёр
Вуліцай шырокай.
Не зважае на агні,
Смаліць на чырвоны.
Калі хочаш — дагані,
Дзе там — не дагоніш!

*В. Вітка*

**146.** Прачытайце прыказкі. Раскажыце, на чым заснаваны стылістычны прыём антытэзы?

1. Сыты галоднаму не спагадае. 2. Лёгка пасварыцца[с], цяжка памірыцца. 3. Хто не шануе чужога, той і свайго

не мае. 4. Што аднаму цяжка, тое гуртам лёгка. 5. Сады садзі і ў маладосці і ў старасці. 6. Мякка сцеле, ды цвёрда спаць. 7. Згодаю двор збудуеш, а нязгодаю — гатовае разбурыш. 8. Рыхтуй летам сані, а зімой калёсы. 9. Чорнае белым не стане. 10. Конны пешаму не таварыш. 11. Лепш адзін прыяцель, чым дзесяць ворагаў.

**Антытэза** — стылістычны прыём, сутнасць якога заключаецца ў спалучэнні слоў, што абазначаюць процілеглыя паняцці.

**147.** Дапішыце прыказкі, устаўляючы патрэбныя антонімы.

1. Любіш узяць — любі і ... . 2. Добрае чуваць далёка, а ... яшчэ далей. 3. Ластаўка дзень пачынае, а салавей ... . 4. На свята падумай пра ... , а ўлетку пра зіму. 5. Згода збірае$^{ф}$, а ... растрасае. 6. Блізка відаць, ды ... дыбаць. 7. Новых сяброў набывай, ды ... не забывай. 8. Лепш трошкі зрабіць, чым ... нагаварыць. 9. Старасць слабая на ногі, ды ... на розум. 10. Благі абразіць, а ... разважыць, ды яшчэ і парадзіць.

У мове мастацкай літаратуры выкарыстанне сінонімаў, антонімаў, амонімаў дазваляе майстрам слова ствараць яркія мастацкія вобразы.

У якасці вобразнага сродку выступаюць таксама **тропы** — моўныя выразы, якія заснаваны на пераносе традыцыйных назваў на іншыя рэаліі. У тропах галоўная функцыя не намінатыўная (назыўная), а эстэтычная.

Самыя распаўсюджаныя тропы — **эпітэт** *(**маўклівая** раніца, **лагодны** вецер, **салаўіная** ноч)*, **параўнанне** *(вочкі, **як зорачкі;** салодкі, **быццам мёд**)*, **увасабленне** *(**вецер** злосна **вые; плакала неба** горкімі слязамі)*.

Да тропаў адносяцца таксама **метанімія, метафара, сінекдаха, перыфраза***.

**148.** Прачытайце выразна ўрывак з паэмы Я. Купалы «Курган». Назавіце тропы, ужытыя ў тэксце, вызначце іх ролю. Выпішыце з тэксту пяць слоў, ужытых у пераносным значэнні.

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі, —
Ўдзірванелы курган векавечны.

Дуб галлё[м] распусціў каранасты над ім,
Сухазелле ў грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем глухім, —
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.

На купалле там птушка садзіцца, пяе,
У піліпаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя.

Хмары неба ўсцілалі мо тысячу раз,
Перуны білі з краю да краю, —
Ён стаіць — гэта памяць людская, паказ...
Толькі гутарка ходзіць такая.

**149.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з «перанесенымі» тапонімамі*, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку. Растлумачце, на аснове чаго ўзнік перанос назвы.

### ПЕРАНЕСЕНЫЯ НАЗВЫ

Цікавыя мікратапонімы запісаны намі ў гарадскім пасёлку Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Дз*(?)*ве часткі пасёлка маюць даволі *(не)*чака..ыя найме..і *Шанхай* і *Куба*. Такія тапонімы называюцца перанесенымі, да таго ж яны маюць іранічны падтэкст. Узнікне..е першай назвы *Шанхай* тлумачыцца тым што дадзе..ы раён Глушы *(з)*даўна быў густа*(?)*населе..ым. Найме..е *Куба* *(з/с)*вязана з а..аленас*(?)*цю гэтага раёна ў тараўна..і з іншымі са знаходжа..ем яго на ў*(з/с)*краіне пасёлка.

Гомельскія старажылы таксама памятаюць найменні, якія мы назвалі перанесенымі. Паўночна*(?)*усходняя ў*(з/с)*краіна Гомеля цяпер гэта раён грузавога порта ў канцы XIX — пачатку XX стаго..я называлася *Каўказ*. На стромых адхонах рвоў (адсюль, верагодна, і назва) у невялікіх хацінах жылі рыбакі, лодачнікі, рамеснікі. Паміж чыгункай ва..залам і коннай плошчай там дзе цяпер знаходзіцца цэнтральны гара*(ц/дс)*кі рынак разм..шчалася[с] яшчэ адна ў*(з/с)*краіна старога Гомеля *Амерыка*. Жылі тут шаўцы, краўцы, сталяры, бляхары, кушняры, цырульнікі, рамізнікі, чырванадрэўшчыкі, нават жывапісцы. У 10—20-я гады XX стагоддзя некаторыя сем'і ад'язджалі ў Амерыку, іх двары сталі называць «праходнымі», бо яны былі пустымі, безгаспадарнымі. Гэта дае магчымасць без цяжкасці зразумець узнікненне назвы Амерыка *(Паводле А. Рогалева)*.

Чаму аўтар сцвярджае, што беларускія тапонімы *Шанхай, Куба* маюць іранічны падтэкст? Назавіце вядомыя вам «перанесеныя» тапонімы.

● Знайдзіце ў тэксце сінонім да слова *назва*, зрабіце яго словаўтваральны разбор.

● Растлумачце, чым займаюцца (займаліся) *шаўцы, краўцы, бляхары, кушняры, цырульнікі, рамізнікі, чырванадрэўшчыкі.*

● Выпішыце з тэксту словы: а) з падаўжэннем зычных; б) з падваеннем.

**150.** Прачытайце ўрывак з аповесці Алены Васілевіч «Расці, Ганька» і растлумачце, з якой мэтай аўтар выкарыстоўвае адзін і той выраз як устойлівае і як свабоднае спалучэнне слоў.

Бацькі ў Ганькі няма. Ён пакінуў яе і маці тады, калі Ганьцы не было яшчэ і двух год. І цяпер усе на вёсцы, абы размова зайшла пра Ганьчынага бацьку, кажуць, што ён сабакам сена косіць... Ганька не можа зразумець, чым сабакам спатрэбілася[с] столькі сена, што бацька так доўга косіць і ўсё не вяртаецца. І наогул, чаму сена — сабакам? У іх вёсцы ні адзін сабака сена **не есць**[ф]...

Яна не ўсё разумее, але крыўдны сэнс вясковых кпінаў не ўнікае яе душы, і яна сама, злуючыся на бацьку, ніколі не ўспамінае пра яго, ніколі не пытае пра яго ў маці.

Прывядзіце прыклады выразаў, якія могуць успрымацца і як устойлівыя, і як свабодныя спалучэнні слоў.

Выдзяляюць тры стылістычныя групы фразеалагізмаў: міжстылёвыя, гутарковыя і кніжныя. Да якой групы, на вашу думку, адносіцца фразеалагізм *сабакам сена касіць*? Праверце правільнасць свайго адказу па «Слоўніку фразеалагізмаў беларускай мовы» І. Лепешава (2008).

**151.** Дакажыце правільнасць сцвярджэння: «Чым больш яркую экспрэсіўна-ацэначную афарбоўку мае фразеалагізм, тым больш ён функцыянальна абмежаваны» (М. Цікоцкі). У якасці прыкладаў можаце выкарыстаць наступныя фразеалагізмы: *абуць у лапці, адрабляць шарварку, аршын з шапкай, атрымаць гарбуза, вадзіць дзяды, мякіна ў галаве, мяняць быка на індыка, пад кожную бочку шпунт, пустая малатарня*.

**152.** Падбярыце да рускіх прыказак беларускія адпаведнікі.

1) Моя хата с краю — ничего не знаю.
2) Утопающий и за соломинку хватается.
3) Солдат спит — служба идет.
4) Утро вечера мудренее.
5) Соловья баснями не кормят.
6) Шила в мешке не утаишь.
7) Не все коту масленица.
8) Милые бранятся — только тешатся.

---

а) Кухар спіць, а суп кіпіць.
б) З гутаркі хлеба не наясі.
в) Не заўсяды як на Дзяды.
г) Не маё гарыць — не мне тушыць.
д) Як топішся, то й за лязо ўхопішся.
е) Хто каго любіць, той таго і чубіць.
ж) Пераначуем, то болей пачуем.
з) Лес чуе, а поле бачыць.

Якія з прыведзеных прыказак змяшчаюць у сабе культуразнаўчую інфармацыю пра нацыянальныя характары рускіх і беларусаў?

**153.** Якія рысы нацыянальнага характару беларусаў знайшлі адбітак у прыказках:

а) Госць у хаце — Бог у хаце;
Госць на парог — гаспадыня за пірог;
б) Шчырая праца — мазалёвая;
Гаспадарку весці — не лапці плесці;
в) Родная зямелька — як зморанаму пасцелька;
Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

● Дапоўніце пералік беларускіх прыказак, якія ілюструюць указаныя рысы нацыянальнага характару (пры неабходнасці звяртайцеся да «Слоўніка беларускіх прыказак» І. Лепешава, 2006).

## § 20. Склад слова і словаўтварэнне

Большасць слоў беларускай мовы падзяляецца на граматычныя часткі, якія называюцца **марфемамі:** *зямл-я*, *зямель-н-ы*, *на-зем-н-ы*. Да марфем адносяцца корань, прыстаўка, суфікс, канчатак, постфікс, злучальныя галосныя ў складаных словах (іх называюць афіксамі).

Словы могуць быць зменнымі і нязменнымі. У зменных словах выдзяляюцца дзве часткі: нязменная (аснова) і зменная (канчатак): *вясн-а, вясн-ы, вясн-ой; кароткі, кароткага, кароткім; вяз-у, вяз-еш, вяз-уць*.

**Аснова** — нязменная частка слова, якая выражае яго лексічнае значэнне, гэта частка слова без канчатка: *сонц-а*, *бяроз-а*, *гавор-аць*, *добр-ы*. У аснову нязменных слоў уваходзіць усё слова: *цікава*, *знізу*, *па-добраму*, *думаючы*. Такую аснову называюць чыстай. Асновы бываюць невытворныя і вытворныя. Н е в ы т в о р н ы я асновы супадаюць з коранем (*дарог-а*, *рак-а*, *дуб*), а ў склад в ы т в о р н ы х акрамя кораня ўваходзяць іншыя марфемы: прыстаўкі, суфіксы (*дарож-н-ы*, *па-дарож-н-ы*, *за-рэч-н-ы*, *дуб-ов-ы*).

**Канчатак** — зменная частка слова, якая ўтварае форму слова (склон, лік, род, асобу) і служыць для сувязі слоў у словазлучэнні і сказе: *добр*[*ы*] *дзень, добр*[*ая*] *раніца, добр*[*ыя*] *людзі.* Пры дапамозе канчаткаў перадаецца сувязь паміж словамі, паказваюцца іх граматычныя формы. Нязменныя словы не маюць канчаткаў, яны складаюцца толькі з асновы. Да іх адносяцца прыслоўі *(весела, па-вясноваму)*, дзеепрыслоўі *(чытаючы, падумаўшы)*, неазначальная форма дзеяслова *(спяваць, думаць)*. Слова можа мець **нулявы канчатак** (не выражаны гукамі): *стол*[ ]*, ноч*[ ]*, радасць*[ ]*, прыйшоў*[ ]. У некаторых словах (формах слова) канчатак можа знаходзіцца ў сярэдзіне: *сям*[*і*]*дзесяці́, напіш*[*уц*]*ца, думал*[*а*]*ся.*

**154.** Вызначце, у якіх словах асновы невытворныя, а ў якіх — вытворныя.

Будаўнік, думаючы, вада, столік, бераг, добра, зялёны, прыгарад, вёскі, рачны, зжалі, школа, сонечны.

**155.** Прачытайце тэкст. З дапамогай якой прыказкі можна сфармуляваць яго асноўную думку? Выпішыце з тэксту зменныя словы, абазначце ў іх аснову і канчатак. Растлумачце, якую ролю выконваюць канчаткі.

— Ат, няхай... Зраблю гэта заўтра...

Так дзень пры дні мы адкладваем і адкладваем многае, што можна было б пры жаданні зрабіць сёння, на заўтра, быццам заўтраў тых наперадзе ў нас — лічыць не злічыць[ф].

Мінаюць дні, тыдні, месяцы, гады... і нязробленага збіраецца ўсё больш і больш, а заўтраў астаецца ўсё менш і менш. І наступае старасць, нямогласць, мы з жахам азіраемся назад, на пражытае, і бачым, колькі чаго маглі зрабіць, ды не зрабілі. Не зрабілі толькі таму, што адкладвалі на заўтра... *(Б. Сачанка)*.

● Назавіце словы, ужытыя ў значэнні іншых часцін мовы.

**156.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім сказ, які перадае асноўную думку тэксту.

Вясною, у час паводкі, рака падмывае грунт, і ўжо больш за палавіну каранёў сасны панура звісае над ракой. Здалёку здаецца, што сасна вось-вось шумна рухне ў ваду, як салдат на вайне, падкошаны варожай куляй.

Аднак пад сасной — вялікі камень-валун, ён быццам знарок прыйшоў сюды на дапамогу, падпёр сасну сваімі магутнымі[м] плячыма, і яна не падае, жыве, весела глядзіцца ў рачное люстра, дзе адбіваюцца і блакіт неба, і белыя воблачкі, і зялёная крона сасны...

Добра, калі ў цяжкую хвіліну падтрымае цябе сяброўская рука... *(Паводле А. Марціновіча).*

Выпішыце з тэксту спачатку аднакаранёвыя словы, а потым формы аднаго і таго слова. Абгрунтуйце свой адказ.

**157.** Прачытайце тэкст, устаўляючы прапушчаныя словы.

Адкуль узнікла слова *стол*? Хутчэй за ўсё ад дзеяслова *ставіць*. Бо ў даўнія часы сям'я ўсаджвалася на траве ці падлозе ў хаце перад рассцеленым абрусам, на які ставіліся розныя стравы. Месца, якое было прызначана, каб ставіць стравы, і называлася *стол*.

Пасля, каб было зручней, сталі выкарыстоўваць падпоркі (ножкі) і назвалі гэта сталом, а ўсе члены сям'і ўсаджваліся каля яго на лавы. Так утварылася ... — месца для прыёму ежы, для частавання гасцей ці проста для бяседы, каб пасядзець ды пагаманіць. Засцілалі стол кавалкам палатна, які называлі ... .

Гаспадар садзіўся на пачэсным месцы адзін, як бы прад (перад) сталом. Адсюль узнікла слова ... — так называлі адмыслова зробленае і багата прыбранае сядзенне для старэйшага ў родзе, гаспадара, правадыра, князя. Горад, у якім жыў князь, дзе знаходзіўся яго ... (трон), пачаў называцца стольным горадам, або ... .

Ішлі гады, а слова *стол* прымала на сябе ўсё новыя значэнні.

Слова *стол* у слоўніках абрасло цэлым гняздом утвораных ад яго новых значэнняў. Месца, куды можна зайсці, каб пад'есці, назвалі ... . А сам працэс прыёму ежы стаў называцца словам ... . Набор мэблі ў тым ці іншым пакоі паклікаў да жыцця слова ..., якое неўзабаве набыло шырэйшы сэнс — забеспячэнне прыладамі, інструментамі, механізмамі, мэбляй цэлага прадпрыемства ці ўстановы. Нарадзілася нават самабытнае беларускае слова ..., што значыць пасяліцца дзе-небудзь, асесці на новым месцы жыхарства ці працы *(Паводле У. Юрэвіча)*.

Словы для даведкі: *настольнік, сталоўка, прастол, абсталяванне, застолле, сталіца, асталявацца, сталаванне.*

Разбярыце па саставе ўстаўленыя ў тэкст словы. Ахарактарызуйце ролю марфем у іх.

● Дапоўніце чацвёрты абзац тэксту, раскрыўшы іншыя значэнні слова *стол* (пры неабходнасці карыстайцеся тлумачальным слоўнікам).

**158.** Запішыце прыклады вытворных слоў з каранямі *-гасц-*, *-слов-*, *-знак-*, *-багат-*. Назавіце варыянты гэтых каранёў.

**159.** Падбярыце і запішыце адпаведнікі да рускіх слоў. Суфіксы абазначце.

Писатель, читатель, мечтатель, обидчик, носитель, налётчик, перематывальщик, попечитель, мошенник.

**160.** Прачытайце тэкст. Складзіце яго план, зрабіце вусны пераказ паводле плана.

**!** У беларускай мове адрозніваюць два асноўныя спосабы словаўтварэння: марфалагічны (марфемны) і немарфалагічны (немарфемны).

Пры марфалагічным (марфемным) спосабе асноўным сродкам утварэння слоў з'яўляюцца ўсе марфемы, акрамя каранёвай. У якасці асноўных адрозніваюць наступныя разнавіднасці марфалагічнага словаўтварэння:

1) **суфіксальны** спосаб: *лес* → *ляс**н**ы; вясёл-ы* → *вcase**лосць***;

2) **прыставачны (прэфіксальны)** спосаб: *унук* → ***пра**ўнук*;

3) **прыставачна (прэфіксальна)-суфіксальны** спосаб: *дождж* → ***за**дажджж**ы**ць*;

4) **бяссуфіксны (бязафіксны)** спосаб: *крычаць* → *крык; сіні* → *сінь*;

5) **постфіксальны**: *мыць* → *мыц**ца**, хто* → *хто**сьці**, дзе* → → *дзе-**небудзь**.*

Пры немарфалагічным (немарфемным) спосабе словаўтварэння словы ўтвараюцца не з дапамогай марфем, а шляхам складання дзвюх і больш асноў або зліцця двух слоў. Выдзяляюцца наступныя разнавіднасці складання:

1) **асноваскладанне** — утварэнне слоў шляхам аб'яднання дзвюх ці больш асноў з дапамогай злучальнай галоснай або без яе: *чарназём, сенакос, чарнавокі*;

2) **словаскладанне** — утварэнне слоў шляхам зліцця двух самастойных слоў у адно: *вечназялёны, штораз, супрацьстаяць, мімаволі, плашч-палатка*;

3) **складана-суфіксальны** спосаб — утварэнне слоў з дзвюх асноў адначасова з далучэннем суфіксаў: *першакурснік* ← *перш-а + курс + нік; шаснаццацігадовы* ← *шаснаццац-і + + год + ов-ы;*

4) **абрэвіяцыя** — утварэнне складанаскарочаных слоў (абрэвіятур): *педуніверсітэт, філфак, ВНУ*. Выдзяляюцца наступныя тыпы абрэвіяцыі:

а) ***складовая*** (з частак слоў ці часткі слова і другога поўнага слова): *педфак* (педагагічны факультэт), *медпункт* (медыцынскі пункт);

б) ***літарная*** (з пачатковых літар слоў): *ТБМ* (тэ бэ эм), *БДУ* (бэ дэ у);

в) ***гукавая*** (з пачатковых гукаў слоў): *ЛіМ* (газета «Літаратура і мастацтва»);

г) ***змешаная*** (з пачатковых гукаў аднаго слова і часткі другога): *БелСЭ* (Беларуская савецкая энцыклапедыя).

**161.** Вызначце, якім спосабам утвораны словы.

Зернесушылка, адгаварыць, чытач, па-новаму, своеасаблівы, подпіс, суш, землекарыстанне, зазямліць, масавы, радыёперадача, водсвет, невысока, некуды, адвячорак, заснежыць, штодзень, добразычлівы, байкапісец, пяцігодка, паднос, БТ, байкар*, арбітраж*, стэрэатып*.

**162.** Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак. Спішыце, утвараючы ад запісаных у дужках дзеясловаў дзеепрыметнікі. Устаўце, дзе трэба, прапушчаныя літары, раскрыйце дужкі.

Першае, з чым дарослыя знаёмілі дзяцей, былі цацкі. Для маленькіх каліс*(?)*ці майстравалі кружолку — драўляны кружок, у цэнтры якога прадз..валі стрыжань з *(завастрыць)* канцом.

З лазовых і в..рбовых пруткоў хлапчукі майстравалі свісткі. Прасцей за ўсё было зрабіць звычайную пі*(с/ш)*чалку: прыклаў лісцінку пырнік.. да губ і пі*(с/ш)*чы.

А як абы*(?)*сціся *(у)*летку жэўжыку без гушкалак? На сукі дрэў, што стаялі побач, клалі тоўстую палку, да якой прывяз*(?)*валі канцы вяроўкі. Дастаткова *(на)*сярэдзіну вяроўкі пакласці *(не)*вялікую дошчачку, і можна было гушкацца.

Вельмі простым быў драўляны канёк, у якім *(нагрэць)* жалезным прутком былі *(прапаліць)* дз*(?)*ве дзіркі для працягвання вяровачкі. На ніжняй час*(?)*цы канька замацоўвалі тоўсты дрот. Дзеці каталіся па лёдзе на адным каньку, а..штурхоўваючыся другой нагой.

На плоце агарода вешалі вятрак. Ён уяўляў сабой дз*(?)*ве шырокія лучыны, *(звязаць)* крыж*(?)*на*(?)*крыж і *(накалоць)* на цвік, які[м] быў *(убіць)* у палку. Паз*(?)*ней сталі рабіць драўляны самалёт, які быў *(замацаваць)* на кіі і *(у)*перадзе меў прапелер з *(выразаць)* лучынкі *(Паводле А. Лакоткі, С. Барыса)*.

Выпішыце з тэксту па тры-чатыры словы на розныя спосабы марфалагічнага словаўтварэння.

## § 21. Стылістычныя магчымасці словаўтварэння

**163.** Вызначце, якім стылям маўлення ўласцівы наступныя словаўтваральныя сродкі.

1. Суфіксы назоўнікаў ***-аж, -ат, -ізм (-ызм), -ік- (-ык-), -асць*** і інш.: *дэмакрат**ызм**, сімвол**іка**, напружан**асць***.
2. Прыстаўкі ***звыш-, неда-, анты-, архі-, дэ-, дыс-, небез- (небес-), супраць-*** і інш.: ***звыш**прыбытак, **неда**ацэнка, **анты**крызісны, **архі**мільянер, **дэ**фармаваць, **дыс**кваліфікаваць, **небес**падстаўны, **супраць**дзейнічаць*.
3. Суфіксы ***-ач, -эч, -ок, -ун, -нін-, -ух- (-юх-), -ак- (-як-)*** і інш.: *барад**ач**, язд**ок**, лас**ун**, пісан**іна**, фарс**уха**, выхвал**яка***.
4. Суфіксы ацэнкі ***-ізн-, -ізарн-, -энн-, -еньк-, -ютк-, -ават-*** і інш.: *вял**ізн**ы, вел**ізарн**ы, страш**энн**а, бял**ютк**і, мал**еньк**і, таўст**ават**ы*.
5. Прыстаўка прыметнікаў і прыслоўяў ***за-***: ***за**вялікі, **за**цесна, **за**мала*.
6. Прыстаўкі дзеясловаў ***папа-, уз- (ус-)***: ***папа**ганяць, **уз'**есціся*.

**164.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце словы з суфіксамі ацэнкі. Для якога стылю маўлення яны характэрны? Вызначце іх значэнні. З якой мэтай аўтар выкарыстоўвае іх у тэксце?

ДЗІВА-ПТУШАЧКА

Выйшлі мы на падворак. Прыглядаемся. А наш дзед[ф] са шлангам у руцэ стаіць пад самай вялікай яблыняй і струмень вады накіроўвае на самую сярэдзіну галін. Цікава нам стала. Падыходзім да дзеда як найбліжэй.

— Глядзіце, глядзіце, — ледзь не зашаптаў ён і вачыма клікаў нас сачыць за струменьчыкам вады, які ён накіроўваў у самую гушчэчу галінак яблыні.

Мы ўсе ўжо адначасна заўважылі ў срэбных крышталіках на галінцы варухлівую маленькую-маленькую птушку-камячок. Яна гойсала на адным месцы, імгненна паварочвалася з боку на бок, падстаўляючы пад пырскі вады

ўсю сябе. Крыльцы яе трапяталіся, галоўка хісталася, ножкі ажно танцавалі. Ва ўсім гэтым была такая[м] радасная задаволенасць, такая пекната ад купання, што дзіва-птушачка нікога з нас не заўважала. І вось, добра намачыўшы свой пуховы ўбор, птушачка гайсанула прама дзеду на галаву і, жвава крутануўшыся, борздзенька паляцела ў суседні з вёскаю лес.

А дзед глядзіць на нас і так радасна ўсміхаецца *(П. Кавалёў)*.

Выпішыце з тэксту словы са словаўтваральнымі і формаўтваральнымі суфіксамі і прыстаўкамі, абазначце іх. Пры неабходнасці карыстайцеся прыведзенай табліцай.

**Роля марфем у слове**

| Корань | Формаўтваральныя марфемы | Словаўтваральныя марфемы |
|---|---|---|
| Выражае асноўны сэнс слова | Служаць для ўтварэння форм аднаго і таго слова, змяняюць граматычнае значэнне слова, не ўплываючы на яго лексічнае значэнне | Служаць для ўтварэння новых слоў, змяняюць лексічнае значэнне слова |
| сад<br>садовы<br>садоўнік<br>прысады | **Канчаткі:** *вад* **а**, *вад* **ы**, *вад* **ой**;<br>**суфіксы:**<br>• неазначальнай формы дзеяслова -**ць**, -**ці**, -**чы**: *пісацť*, *ісці*, *стрыгчы*;<br>• дзеясловаў прошлага часу -**л**-, -**ў**-: *мыла*, *чытаў*, *думала* | **Прыстаўкі:** ***за****йсці*, ***пад****ысці*;<br>**суфіксы:**<br>• назоўнікаў -**іст**- (-**ыст**-), -**нік**-, -**чык**-, -**асць**- і інш.: *гітар****ыст***, *асін****нік***, *груз****чык***, *шчыр****асць***;<br>• прыметнікаў -**н**-, -**ск**-, -**ав**-, -**еньк**- і інш.: *руч****н****ы*, |

| Корань | Формаўтваральныя марфемы | Словаўтваральныя марфемы |
|---|---|---|
| | • дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў: *зробл**ен**ы, вымы**т**ы, парыжэ**л**ая; чыта**ючы**, прачыта**ўшы***; **суфіксы і прыстаўкі** ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў: *чысц**ейш**ы; выш**эй**; **най**чысц**ейш**ы* | *гарад**ск**і, бяроз**ав**ы, мал**еньк**і*; • дзеясловаў ***-е-, -і-, -ва-, -ну-***: *бял**е**ць, бял**і**ць, раскруч**ва**ць, кры**кну**ць*; • злучальныя галосныя ***а, о, е, я***: *бульб**а**капалка, ільн**о**завод, зерн**е**сушылка, зямл**я**коп* |

**165.** Прачытайце выказванні. Знайдзіце аўтарскія наватворы, растлумачце іх значэнні. Ці можна зразумець іх сэнс па-за выказваннем? З якой мэтай яны выкарыстоўваюцца?

1. Я ласкай гасціннай узрушаны, гукаю шчасліваму выраю: «Мяне Беларусь збеларушвае, чаруючы моваю шчыраю...» *(М. Братан)*. 2. Прымаю гэта самасуцяшэнне і век наіўнець буду, як дзіця *(М. Арочка)*. 3. Песня мая не шукае прывету, ласкі ў скурганеным сэрцы чыім... *(Я. Купала)*. 4. Мы словападам зацярушаны *(П. Панчанка)*. 5. Як гэта здорава — чытаць жывую кнігу роднай старонкі, напейзажвацца ў запас, зараджаць сябе жывой выразнай любоўю да гэтай зямлі *(Я. Брыль)*. 6. Што ні дзень — сандзень. Можна і пасандзеніцца! Пакупнік — не цюлень, дзе ён дзенецца?! *(Р. Барадулін)*. 7. Загуляе часам у бяздожджыцу вецер, слуп пяску падымаецца вышэй і вышэй, засыпае і жыта, і авёс, і ячмень *(Я. Колас)*.

**Індывідуальна-аўтарскія наватворы** (аказіяналізмы) — словы, якія ствараюцца і ўжываюцца пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі, вучонымі з пэўнымі стылістычнымі мэтамі.

**166.** Прачытайце тэкст. Вызначце ролю фанетычных і словаўтваральных сродкаў у тэксце.

КАСА

Каса — косая, аднак там, дзе яна праходзіць, застаюцца чыстыя, без касмыкоў, касынкі лугоў і роўныя каснікі пакосаў.

Каса не спакушаецца славай і не выстаўляецца напаказ: яна толькі першаю, у расу, каштуе тыя «смакосы», якія пасля будуць каштаваць каровы і козы.

Каса касуе ўсё, што ўзводзілі вясна і лета: яе кранае не краса званцоў, касачоў ці каласоўнікаў, а косінусы і катангенсы стасункаў з імі.

Пасада ў касы ка́ставая — ад Касандры: яна прадказвае ўсім аднолькавы лёс і сама ж вершыць яго.

На касу, як на смерць, касавурацца гусакі, на касу сыкае асака, яе кусаюць камяні, ад яе адкасоўваюцца кусты, але, вітаючыся з ёю, касу ксціць* касец Ясь і — развітваючыся з ёю — касінер* Кастусь *(А. Разанаў)*.

Выпішыце з тэксту рад аднакаранёвых слоў да назоўніка *каса*, абазначце ў словах карані.

Назавіце словы з аманімічнымі каранямі.

**167.** Пазнаёмцеся з тэкстам А. Кіркора з энцыклапедыі «Живописная Россия» (т. 3, ч. 2 «Белорусское Полесье», 1882) і раскажыце пра схаваны сэнс закляццяў, у якіх ужываецца слова *Чур* ‘радавое бажаство, якое ахоўвае членаў роду’.

Ад назвы гэтай міфічнай істоты пайшло шмат прымавак, закляццяў і зваротаў. «Чур мяне!» — гаворыць бела-

руская дзяўчына, калі да яе чапляецца[м] які-небудзь нахабнік, гэта значыць не чапай мяне, уласна заклік да Чура, каб абараніў яе. «Чур табе на язык!» — гэта значыць замаўчы, просьба, каб Чур прымусіў замаўчаць. «Чур маё!», «Чур разам ці папалам!» — у гэтых выразах Чур з’яўляецца абаронцам правоў уласнасці... Другая форма слова «Чур» — гэта «шчур», ад слова «прашчур» — роданачальнік, продак.

Выпішыце з тэксту па два-тры словы, утвораныя: а) суфіксальным, б) бяссуфіксным, в) прыставачным, г) постфіксальным спосабам.

**168.** Прачытайце тэкст, вусна пракаменціруйце правапіс слоў, у якіх неабходна ўставіць прапушчаныя літары ці раскрыць дужкі. Растлумачце пастаноўку прапушчаных знакаў прыпынку.

### ГАРАДСКІЯ СКУЛЬПТУРЫ

Акрамя велічных помнікаў у гонар вялікіх падзей і асоб ёсць у кожным *(Е/е)*ўрапейскім горадзе *(не)*вялікія «*(не)*афіцыйныя» але асабліва любімыя скульптуры якія ствараюць яго *(не)*паўторнасць. Ёсць такія і ў Мінску. Адна з самых вядомых «*(Х/х)*лопчык з леб..дзем» фантан у былым *(А/а)*ляксандраўскім *(С/с)*кверы побач з *(К/к)*упалаўскім *(Т/т)*эатрам і *(Д/д)*омам *(А/а)*фіцэраў. Аўтар скульптуры італьянец Л. Берніні.

У апошнія дз..с..цігоддзі горад за*(і/й)*меў шмат цудоўных скульптур. Напрыклад у *(М/м)*іхайлаўскім *(С/с)*кверы ля вуліцы Свярдлова з’явіліся *(Д/д)*зяўчынка з парасонам і *(Н/н)*езнаёмка ў кап..люшы якая сядзіць на лаўцы гасцінна запрашаючы прысесці побач... Аўтар скульптур Уладзімір Жбанаў аздобіў і *(К/к)*амароўскі *(Р/р)*ынак на прыступках сядзіць бронзавая *(Г/г)*андлярка з семкамі. З іншай насельніцай *(К/к)*амароўкі *(Д/д)*амай з сабачка.. любяць здымацца і мінчане і госці горада. Побач прапаноўвае свае паслугі бронзавы *(Ф/ф)*атограф. Ну а *(К/к)*аня што стаіць *(не)*падалёк многія *(на)*пачатку прымаюць за сапраўднага. А*(д/т)*пачывае с..бе

*(з/с)*весіўшы галаву пакуль гаспадар бадзяецца па рынку... *(Паводле Л. Рублеўскай)*.

Аднавіце словы, прапушчаныя ў словаўтваральных ланцужках: *госць* → ... → *гасцінна*, *прасіць* → ... → *запрашаючы*.

Якое з двух слоў з'яўляецца ўтваральным у адносінах да другога: *адкрыццё — адкрыць, аздоба — аздобіць, здымаць — здымак, красці — крадзеж*?

Зрабіце марфемны і словаўтваральны разборы слоў *непаўторнасць, водаправод, дзесяцігоддзе, паслуга, сучасны*.

● Раскажыце пра тыя скульптуры (архітэктурныя помнікі), якія, на вашу думку, ствараюць непаўторнае аблічча беларускіх гарадоў. Пры неабходнасці выкарыстайце літаратурна-мастацкія выданні з серыі «Твае гарады, Беларусь».

**169.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку.

Даўно заўважана, што многія **шапачкавыя** грыбы сустракаюцца пад пэўнымі пародамі дрэў або паблізу іх. Так напрыклад **падбярозавік** часта расце паблізу бяро.. **падасінавік** — побач з асінамі масляк — у сасняках[м] рыжык — каля елак. Гэта адбыва..цца таму што **грыбніца** шапачкавага грыба зраста..цца з кар..нямі пэўных дрэў. Сув..зь грыбоў з дрэвамі прыносіць карысць грыбу і дрэву. Грыбніца якая зраслас.. з каранямі дрэва забяспечвае яго вадой і мін..ральнымі р..чывамі. Грыб у сваю чаргу атрымліва.. ад дрэва арганічныя р..чывы якія выкарыстоўва.. для свайго росту і разві..я. Такую карысную для двух арганізмаў **уза..масувязь** называюць сімбіёзам (ад грэч. «сімбіёз» — сужыццё). Цесная ўза..масувязь грыбоў з к..ранямі раслін называецца мікарызай або грыбакоранем *(«Сусвет»)*.

Вызначце спосаб утварэння выдзеленых слоў.

● Падкрэсліце словы, якія выступаюць у якасці сродкаў сувязі сказаў у тэксце.

## § 22. Назоўнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**170.** Разгледзьце схему і падрыхтуйце вуснае паведамленне пра назоўнік як часціну мовы.




**171.** Прачытайце тэкст. Растлумачце правапіс уласных назоўнікаў. Спішыце апошні абзац, раскрываючы дужкі.

Сымон Будны — наступнік Скарыны ў **справе друкавання** кніг і **пашырэння асветы** сярод народных мас. Ён, адзін з найбольш адукаваных **людзей** свайго **часу**, ведаў польскую, чэшскую[ф], італьянскую, лацінскую, грэчаскую і старажытнаяўрэйскую мовы. Але найбольш любіў ён сваю **родную мову**.

Сымон Будны выступаў у сваіх кнігах супраць рэлігійных догмаў*, заклікаў шанаваць народную мову і мараль, змагацца за **свабоднае развіццё навукі** і **пашырэнне ведаў** сярод простых людзей.

Адначасова з ім за некалькі сот кіламетраў ад Нясвіжа працаваў у сваёй друкарні, заснаванай у фальварку* Цяпіна,

на Віцебшчыне, яшчэ адзін змагар за народную асвету, аднадумец Буднага — Васіль Цяпінскі.

Нялёгка прыходзілася першым асветнікам, пачынальнікам і прадаўжальнікам друкарскай справы. Іх праследавалі, кідалі ў астрогі*...

Праз колькі стагоддзяў мы будзем удзячныя ім — (Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі) — за тое, што яны першымі на (Беларусь) пачалі друкаваць кнігі *(Паводле В. Вольскага)*.

- Растлумачце значэнне слова *наступнік*. Як яно ўтворана?

**Лексіка-граматычныя разрады назоўнікаў**

**Агульныя назоўнікі** з'яўляюцца назвамі цэлых класаў аднародных прадметаў, з'яў, паняццяў і г. д.: *кніга, снег, сястра, чалавек, радасць, зеляніна*.

**Уласныя назоўнікі** ўключаюць імёны, прозвішчы, тапанімічныя і астранамічныя назвы, клічкі жывёл (*Васіль, Я. Колас, Луцэвіч, Палессе, Азія,* плошча *Незалежнасці, Марс, Пяструха*), а таксама назвы канкрэтных прадметаў ці з'яў (газета «*Наша ніва*», выдавецтва «*Народная асвета*», цукеркі «*Ласунак*»).

У склад **адушаўлёных назоўнікаў** уваходзяць агульныя назвы людзей, жывёл, насякомых *(чалавек, дзіця, вавёрка, рыба, кнігаўка, муха)*, асабовыя назвы (імёны, прозвішчы, імёны па бацьку, мянушкі і пад.), а таксама назвы фантастычных і міфалагічных істот *(лесавік, ведзьма, чорт, гном, русалка, Зеўс)*. Да адушаўлёных назоўнікаў адносяцца таксама назвы цацак *(лялька, салдацік, мядзведзік)*, памерлых людзей *(нябожчык, тапелец, мярцвяк)*, шахматных фігур і карт *(слон, ферзь, кароль, туз, валет)*.

**Неадушаўлёныя назоўнікі** — гэта назвы прадметаў, прылад, рэчываў, раслін, з'яў прыроды, абстрактных паняццяў і інш.: *завод, акно, дуб, гай, рамонак, дождж, сум*. Да неадушаўлёных адносяцца назоўнікі *вірус, мікроб, бактэрыя, амёба, інфузорыя*, а таксама назоўнікі, якія аба-

значаюць сукупнасць прадметаў *(атрад, натоўп, гурт, табун, статак, моладзь, студэнцтва, вучнёўства)*.

**Канкрэтныя назоўнікі** абазначаюць назвы прадметаў, аб'ектаў, з'яў і г. д., якія ўспрымаюцца як асобныя рэаліі і паддаюцца лічэнню: *пенал, ручка, лес, канал, стол, зорка, год, метр, суткі*.

**Абстрактныя назоўнікі** абазначаюць разнастайныя адцягненыя паняцці, пачуцці, стан, дзеянні і працэсы: *радасць, розум, каханне, бег, голад, хвароба*.

**Зборныя назоўнікі** абазначаюць сукупнасць аднародных або падобных прадметаў як адно цэлае: *лісце, калоссе, галлё, настаўніцтва*. Яны не маюць формы множнага ліку, аднак могуць спалучацца з няпэўна-колькаснымі словамі: *многа галля, мала птаства, трохі насення*.

**Рэчыўныя назоўнікі** абазначаюць назвы рэчываў аднароднага саставу: карысныя выкапні, металы, газы *(вугаль, азон, нафта)*, лекі і прэпараты *(валідол, аспірын)*, прадукты харчавання *(хлеб, малако, сыр, сок)*, злакі, травы, ягады, агародныя культуры *(авёс, чабор, асот, суніцы, гарох, агрэст)*, тканіны *(сукно, шоўк, паркаль)*, прыродныя з'явы *(снег, град, іней)* і інш.

**172.** Прачытайце выразна верш С. Грахоўскага. Растлумачце эпіграф, сфармулюйце тэму і асноўную думку верша.

Дайце лексіка-граматычную характарыстыку назоўнікам з тэксту (пры неабходнасці карыстайцеся змешчаным вышэй матэрыялам).

ПЕРАСЦЯРОГА

Адно з двух: або людзі зробяць так,
што ў паветры стане меней дыму,
або дым зробіць так,
што на Зямлі стане меней людзей.
*«Кур'ер ЮНЕСКА»*

Прапахла паветра бензінам, саляркаю, газам,
Аж моташна ліпам, каштанам, бярозам і вязам.
Ад сіняга дыму ссыхае сасна за сасною,
Іх рэжуць на дровы і ў шуркі* складаюць вясною.

Даўно пазнікалі з зялёнае паркавай зоны
Дразды, вераб'і, салаўі і вароны.
Закураны пылам прамытыя з раніцы шыбы,
Прапахлі мазутам злінялыя сонныя рыбы.
Пацягне ад комінаў ветрыкам слабым —
І ў сажалцы ўжо захлынаюцца жабы.
Радзеюць гаі, пералескі, прысады[сл] і пушчы,
І толькі яшчэ чалавек застаецца трывушчы:
Ён дыхае дымам, аглушаны звонам і гудам,
І дзівіцца сам, што трымаецца цудам.
Ён б'е свідравіны, укладвае рэйкі і шпалы:
Што зранку здабыў, таго ўвечары мала.
Ён выграб дарэшты глыбокія нетры,
І чадам прапахла вада і залётныя ветры.
Мы, людзі, нашчадкам пакінуць павінны
Празрыстую рэчку і спеў салаўіны.

## Лік назоўнікаў

Большасць назоўнікаў беларускай мовы мае формы адзіночнага і множнага ліку: *дрэва — дрэвы, звер — звяры*. Аднак ёсць назоўнікі, якія не змяняюцца па ліках і маюць форму толькі адзіночнага ці толькі множнага ліку.

**Форму толькі адзіночнага ліку маюць:**

а) рэчыўныя назоўнікі: *золата, алей, рыс, ячмень, кісель, малако, газ*;

б) зборныя назоўнікі: *агародніна, лістота, моладзь, бярвенне, калоссе, насенне, птаства*;

в) большасць абстрактных назоўнікаў са значэннем дзеяння, стану, працэсаў і г. д.: *адраджэнне, глыбіня, смех, здзіўленне, ветлівасць, калектывізм, мараль*;

г) большасць уласных назоўнікаў: *Паліна, Вольга, Броўка, Слуцк, Нарач, Днепр, Еўропа, Сатурн*;

д) назоўнікі *клопат, змрок, чарніла, бяліла* (у рускай мове маюць форму множнага ліку).

**Форму толькі множнага ліку маюць:**

а) назоўнікі, якія абазначаюць састаўныя і парныя прадметы: *акуляры, вароты, шорты, дзверы, сані, вусны, нары, шашкі, куранты*;

б) назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць чаго-небудзь як мноства, зборнасць: *грошы, бацькі, джунглі, фінансы, мемуары*;

в) назвы з агульным рэчыўным значэннем: *дровы, кансервы, духі, прысмакі*;

г) абстрактныя назоўнікі, што абазначаюць адрэзкі часу, звычаі, святы, гульні: *суткі, канікулы, дажынкі, Каляды, хованкі*;

д) некаторыя ўласныя назоўнікі: *Карпаты, Анды, Смалявічы, Баранавічы*;

е) назоўнікі *грудзі, дзверы, каноплі, крупы, чарніцы* (у рускай мове маюць форму адзіночнага ліку).

**173.** Прачытайце тэкст. Вызначце тып маўлення, назавіце часткі, якія адпавядаюць яго тыповай кампазіцыйнай схеме.

Выпішыце з тэксту словы, якія ўжываюцца толькі ў форме адзіночнага ліку.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

Гэта слова нарадзілася са спалучэння слоў «мілае» і «сэрца». Гучыць вельмі прыгожа: мілае сэрца. У каго яно бывае? Чым адрозніваюцца міласэрныя людзі ад іншых людзей?

Перш за ўсё, гэта добрыя людзі. Яны не толькі ніколі не пакрыўдзяць чалавека і жывёлу, але і дапамогуць тым, хто мае патрэбу ў іх дапамозе^м.

Па-другое, гэтыя людзі ўмеюць спачуваць, суперажываць іншым, гэта значыць яны могуць адчуваць боль і радасць^м другога, яго страх, адзіноту.

Па-трэцяе, гэтыя людзі не вохкаюць і ахкаюць, калі з кім-небудзь здарылася бяда, а дзейнічаюць: дапамагаюць усім, чым могуць.

У час стыхійных бедстваў і катастроф міласэрныя людзі першымі прыходзяць на дапамогу пацярпелым. Гэта яны

дапамагаюць выцягваць людзей з-пад руін дамоў. Яны аддаюць свае грошы, каб накарміць галодных, вылечыць хворых, падтрымаць слабых.

У іх чулае сэрца, яны вельмі любяць людзей *(«Чалавек і свет»)*.

Назавіце словы, якія ўжываюцца ў тэксце ў ролі іншых часцін мовы. Прывядзіце прыклады, каб гэтыя словы выступалі ва ўласцівай ім ролі.

**174.** Прачытайце тэкст. Раскажыце пра катэгорыю роду назоўнікаў у беларускай мове.

## Род назоўнікаў

Да **мужчынскага роду** адносяцца:

1) назоўнікі з нулявым канчаткам: *вецер, дзень, стол, гай*;

2) назвы асоб мужчынскага полу: *бацька, суддзя, староста, Даніла, сэр*;

3) іншамоўныя нескланяльныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу або тыповыя мужчынскія прафесіі: *буржуа, аташэ* (кансультант пры пасольстве), *мікада* (тытул японскага імператара), *парцье* (швейцар у гасцініцы), *кюрэ* (каталіцкі свяшчэннік);

4) нескланяльныя назвы жывых істот (жывёл, птушак, насякомых і г. д.): *какаду, грызлі, поні, фламінга, шымпанзэ*, але назоўнікі *івасі* (рыба) і *цэцэ* (афрыканская муха) адносяцца да жаночага роду па аналогіі з назоўнікамі *рыба* і *муха*;

5) нескланяльныя ўласныя назвы: *Сухумі, Сочы, Дэлі, Токіа; Таіці, Пуэрта-Рыка* (як і агульныя назоўнікі *горад, востраў*).

Да **жаночага роду** адносяцца:

1) назоўнікі на -***а***, -***я***: *вада, зямля, рука, хваля, сцяна*;

2) назоўнікі з нулявым канчаткам: *моладзь, мясцовасць, соль, кроў*;

3) назвы асоб жаночага полу: *цётка, Элен, Шагінян, пані, міс, фрау*;

4) нескланяльныя ўласныя назвы: *Чылі, Марока* (як і агульны назоўнік *дзяржава*); *Місісіпі, Лімпапо* (як назоў-

нік *рака*); *Ай-Петры, Кіліманджара* (як назоўнік *гара*); *Калахары* (як назоўнік *пустыня*).

Да **ніякага роду** адносяцца:

1) назоўнікі на ***-е, -о (-ё), -а***: *зерне, сонца, неба, мора, вядро*;

2) назоўнікі на ***-я (-ё)***, якія абазначаюць назвы маладых істот: *гусяня(-ё), парася(-ё), дзіця(-ё), хлапчаня(-ё), дзяўчо*;

3) назоўнікі на ***-мя***: *імя, полымя, семя, цемя, стрэмя, бярэмя*;

4) назоўнікі з суфіксамі ***-ств-, -анн-, -энн-, -ішч-, -ышч-***: *сялянства, грамадства, сцвярджэнне, вогнішча, ігрышча*;

5) неадушаўлёныя нязменныя назоўнікі: *алібі, бюро, журы, метро, фае*;

6) нязменныя ўласныя назвы: *Антарыа, Эры* (як і назоўнік *возера*).

Да **агульнага роду** адносяцца:

1) назоўнікі на ***-а (-я)***, якія абазначаюць асоб як мужчынскага, так і жаночага полу: *сірата, сведка, малайчына, скнара, задавака*;

2) гутарковыя формы тыпу *нямко, хвалько*;

3) асабовыя імёны тыпу *Саша* (ад Аляксандр і Аляксандра), *Валя* (ад Валянцін і Валянціна), *Лёня* (ад Леанід і Леаніда).

**Род нескланяльных абрэвіятур** звычайна вызначаецца па апорным слове: *НАН* (ж. р.) — *Нацыянальная **акадэмія** навук*, *АТС* (ж. р.) — *аўтаматычная тэлефонная **станцыя***; *НДІ* (м. р.) — *навукова-даследчы **інстытут***.

Аднак **род скланяльных абрэвіятур** вызначаецца не па сэнсе, а па будове, якая нагадвае назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам: *БАМ* (Байкала-Амурская магістраль), *загс* (запіс актаў грамадзянскага стану), *ЛіМ* (газета «Літаратура і мастацтва»), *матфак* (матэматычны факультэт), *дзяржбуд* (дзяржаўнае будаўніцтва). Пры скланенні такія назоўнікі маюць канчаткі назоўнікаў 2-а скланення мужчынскага роду: *ЛіМ**а**, БАМ**а**, цум**а**, матфак**а**; (у) ЛіМ**е**, (на) БАМ**е**, (у) цум**е**, (на) матфак**у*** і г. д.

**175.** Падбярыце да назоўнікаў прыметнікі, словазлучэнні запішыце, абазначце род назоўнікаў.

Дняпро, беларучка, тамада, дэндзі, плакса, галлё, сялянства, семя, хадайніцтва, Нікарагуа, місіс, ткачыха, кенгуру, буржуа, нацыянальнасць, мадам, Трафімчук, Тарту, Самалі, Гобі, пюрэ, кіно, пенальці, птушаня, Мехіка, Хуанхэ, Бядуля.

**176.** Падбярыце і запішыце беларускія адпаведнікі да наступных словазлучэнняў і выразаў рускай мовы. Вызначце род і лік назоўнікаў.

Черные чернила, высокая насыпь, красивый почерк, талантливый инженер, вкусное яблоко, старый тополь, спелая черника, надпись на двери канцелярии, неоконченная рукопись, красивая ромашка, урок пения, последняя неделя месяца, золотая медаль, чисто вымытый пол, полное отчаяние, неудовлетворительное поведение, молодой жираф, поздние сумерки, манная крупа, вся грудь в орденах.

**177.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі. Абазначце скланенне назоўнікаў.

АПОШНІЯ ДНІ ВОСЕНІ

Неба было над лясамі сіняе і ціхае. І ціха было ў саміх лясах. Восень зрабіла сваё і адпачывала на *(паляны)* — там яшчэ зелянілася трава, стаяла вада. Сям-там яшчэ жоўты лісток трымаўся на *(дрэва)*, гатовы і зімаваць там... Гэтай *(ціхасць)* не парушалі і вятры. Яны густа ішлі ў *(свая дарога)*, *(ціхі)* ласкаю ападаючы на *(зямля)*. Сонца часамі выкрадвалася з-пад *(хмара)*, але восень перад сканаsucceeded сваім любіла хмурнасць. Гэтак дажывала восень апошнія дні. Туман з *(рэчка)* ці *(лагчына)* або дым з *(пастушковы)* вогнішча калі і ўзнімецца, дык невысока стаіць[ф] над *(зямля)*. І гукі *(людскі)* голасу звіняць доўга ў гэтай прасторнай *(цішыня)* *(К. Чорны)*.

Зрабіце марфалагічны разбор двух назоўнікаў з тэксту.

## § 23. Прыметнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**178.** Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Прыметнік як часціна мовы» з апорай на план і схему.

План

1. Агульнае значэнне прыметніка. Разрады прыметнікаў паводле значэння.
2. Марфалагічныя прыметы: род, лік, склон.
3. Сінтаксічная роля.

**ПРЫМЕТНІКІ Ў ЗАЛЕЖНАСЦІ АД ЗНАЧЭННЯ ПАДЗЯЛЯЮЦЦА НА**

- **якасныя**
  - абазначаюць прыметы прадметаў паводле формы, памеру, колеру, смаку, паху, розных уласцівасцей, агульнай ацэнкі
  - адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к і я? могуць спалучацца са словамі *вельмі, надта*; утвараюць ступені параўнання
- **адносныя**
  - абазначаюць прыметы прадметаў паводле адносін да матэрыялу і рэчыва, прасторы і месца, часу, меры, вагі і колькасці, дзеяння і прызначэння
  - адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к і я? не спалучаюцца са словамі *вельмі, надта*; не ўтвараюць ступені параўнання
- **прыналежныя**
  - абазначаюць прыметы прадметаў паводле іх прыналежнасці чалавеку, жывёлам, птушкам і г. д.
  - адказваюць на пытанні ч ы й? ч ы я? ч ы ё? ч ы е? не спалучаюцца са словамі *вельмі*, маюць суфіксы ***-ін (-ын), -аў (-ав-), -оў (-ов-), -еў (-ев-), -ёў (-ёв-)***

**179.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім прыклады якасных, адносных і прыналежных прыметнікаў. Раскажыце пра іх асаблівасці (пры неабходнасці карыстайцеся прыведзенай вышэй схемай).

ХВЕДАР І СІВАВАРОН

Як і мае аднавяскоўцы, цімкаўцы ездзілі рабіць сена на палескія балоты — за Вызну, Веску, Орлік і Малы Рожан.

Едучы з сенакосу цэлым абозам цераз палескія сёлы, яны весела перагукваліся, перагаворваліся з вазоў.

Палешукі любілі гэтыя відовішчы. У жыцці глухой лясной вёскі[м] гэта была падзея — пабачыць чужых людзей, паслухаць мову, не зусім падобную на іх гаворку.

Ловіцца кожнае слова. Нават простае імя здаецца дзіўным, рэжа слых сваёй незвычайнасцю.

— Сіваварон! Чуеш, Сіваварон, — у іх чалавека Хведарам завуць. Гы-гы-гы!

Хведарава імя смешнае для палешука, а тое, што ён — Сіваварон, дык гэта ж так і трэба *(В. Вітка)*.

Утварыце і запішыце ўсе магчымыя ступені параўнання ад прыметніка *простае* (імя).

**Ступені параўнання якасных прыметнікаў**

| Формы | Ступені параўнання | |
|---|---|---|
| | Вышэйшая | Найвышэйшая |
| Простая | Моцны + ***ейш*** → мацн**ейш**ы,<br>хітры + ***эйш*** → хітр**эйш**ы.<br>Але:<br>вялікі — ***большы***,<br>добры — ***лепшы***,<br>дрэнны — ***горшы***,<br>малы — ***меншы*** | ***най*** + мацнейшы → ***най***мацнейшы,<br>***най*** + хітрэйшы → ***най***хітрэйшы,<br>***най*** + большы → ***най***большы,<br>***най*** + лепшы → ***най***лепшы,<br>***най*** + меншы → ***най***меншы |

| Формы | Ступені параўнання | |
|---|---|---|
| | Вышэйшая | Найвышэйшая |
| Складаная | ***Больш (болей)*** + чорны → ***больш*** чорны, ***болей*** чорны, ***менш (меней)*** + хітры → ***менш*** хітры, ***меней*** хітры, ***больш (менш)*** + добры → ***больш*** добры, ***менш*** добры | ***Самы*** + моцны → ***самы*** моцны, ***найбольш*** + моцны → ***найбольш*** моцны, ***найменш*** + хітры → ***найменш*** хітры |

Ступені параўнання ўтвараюцца не ад усіх якасных прыметнікаў.

Не ўтвараюць формаў ступеней параўнання прыметнікі, якія абазначаюць:

а) колькасна нязменную якасць: *босы, глухі, сляпы, лысы, жанаты, вусаты, крывы, мёртвы, нямы* і інш.;

б) масці жывёл: *буланы, буры, пярэсты, рыжы, вараны, сівы* і інш.;

в) колер прадметаў (звычайна вытворныя прыметнікі): *залацісты, вішнёвы, крэмавы, васільковы, бэзавы, серабрысты* і інш.;

г) складаныя прыметнікі: *двухпавярховы, чорнавалосы, светла-жоўты*.

Прыметнікі з суфіксамі ***-н-, -альн- (-яльн-), -лів-, -ічн- (-ычн-), -л-, -к-, -ат-, -аст-, -іст-, -іт-, -авіт-, -еньк- (-эньк-), -ізн- (-ызн-), -азн- (-эзн-), -ічк-, -ютк- (-утк-)*** і інш. маюць толькі складаныя формы ступеней параўнання: *марозны, спрыяльны, клапатлівы, іранічны, зразумелы, ліпкі, шурпаты, агністы, сакавіты, маленькі, вялізны, паўнюткі* і інш.

**180.** Ад дадзеных слоў утварыце ўсе магчымыя формы ступеней параўнання. Ад якіх прыметнікаў нельга ўтварыць ступені параўнання?

Мяккі, салодкі, працяглы, цвёрды, халасты, свежы, цікавы, бронзавы, рабы, цёмна-сіні, новы, гняды, смачны, жоўты, перадавы, малы, разумны, аднавокі, шараваты, нізкарослы, сярдзіты, чорны.

**181.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Звярніце ўвагу на перадачу ў перакладзе кароткай формы прыметнікаў.

ЭТО НАДО ЗНАТЬ

Не злословьте о других, не повторяйте сплетен. Если вы хотите пошутить, делайте это так, чтобы не задевать самолюбия присутствующих. Совершенно неуместны шутки над наружностью, именами или возрастом других. Человек не виноват в том, что он толст, или тонок, или, например, близорук, или очень молод, как и в том, что родители назвали его каким-нибудь «необыкновенным» именем.

С л о ў н і к:
*задевать самолюбие* — закранаць самалюбства;
*злословить* — зласловіць, абгаворваць;
*неуместный* — недарэчны; не да месца, недарэчы;
*присутствующие* — прысутныя.

## § 24. Прыслоўе: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**182.** Дапоўніце выказванне аб прыслоўі як часціне мовы.

! **Прыслоўе** — самастойная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння, прымету іншай прыметы або прадмета і адказвае на пытанні ... . Прыслоўі не змяняюцца па ... . У сказе прыслоўі звычайна выконваюць ролю ... .

**РАЗРАДЫ ПРЫСЛОЎЯЎ**

**Прыслоўі месца:** *вакол, побач, сюды, дадому, зблізку, збоку, адсюль* і інш.

**Якасныя прыслоўі:** *хутка, спакойна, смела, радасна, шчодра, шчыра* і інш.

**Прыслоўі часу:** *летась, штодзень, зранку, спрадвеку, назаўсёды* і інш.

**Прыслоўі меры і ступені:** *многа, менш, крыху, вельмі, ледзьве* і інш.

**Прыслоўі прычыны:** *спрасонку, чамусьці, здуру* і інш.

**Прыслоўі спосабу дзеяння:** *пешшу, моўчкі, па-новаму, удвух, інакш* і інш.

**Прыслоўі мэты:** *напаказ, знарок, наперакор, сумысля, назло* і інш.

**183.** Прачытайце тэкст. Чаму многія творы Напалеона Орды ўяўляюць сабой не толькі мастацкую, але і гістарычную каштоўнасць?

НАПАЛЕОН ОРДА

Больш за чвэрць стагоддзя ён быў разлучаны з родным краем. Царскія войскі жорстка задушылі паўстанне 1830—1831 гадоў на Беларусі і ў Польшчы. Яму ж вельмі пашанцавала вырвацца за мяжу і знайсці прытулак у Францыі. Толькі ў 1856 годзе расійскі ўрад памілаваў былых паўстанцаў. І Напалеон Орда, не вагаючыся, адразу пачаў збірацца на Бацькаўшчыну.

Напалеон Орда сапраўды быў шчодра адораны здольнасцямі чалавек. Яго музычныя творы высока цанілі славутыя кампазітары Ф. Ліст і Ф. Шапэн. Невыпадкова ён, чужаземец, некалькі гадоў кіраваў Італьянскай операй у Парыжы.

А потым прыйшло захапленне выяўленчым мастацтвам. Вярнуўшыся ў родныя Варанцэвічы што цяпер знаходзяцца ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці быў зачараваны някідкім хараством навакольных вёсак і мястэчак. Асабліва

западалі ў душу старадаўнія пабудовы цэрквы касцёлы замкі палацы... Напалеон Орда пачаў натхнёна замалёўваць убачанае імкнучыся да драбнічкі занатаваць тое што стварылі невядомыя дойліды. Нястомны падарожнік ён аб'ездзіў[ф] і абхадзіў пешкі ўсю Беларусь і пакінуў нам шмат цудоўных малюнкаў. Любавацца імі можна бясконца бо гэта колішні твар нашай зямлі мінуўшчына якую мы зусім слаба ведаем. Нібы казачны чараўнік Напалеон Орда беражліва захаваў у сваіх творах старажытную Беларусь *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

Спішыце апошні абзац, ставячы неабходныя знакі прыпынку. Падкрэсліце прыслоўі, вызначце іх разрад паводле значэння.

Утварыце ступені параўнання (простую і складаную) ад прыслоўяў *высока, беражліва, слаба*.

● Замалёўкі якіх архітэктурных помнікаў, выкананыя Напалеонам Ордам, вам вядомы? Падрыхтуйце вуснае апісанне аднаго з іх.

Адрознівайце вышэйшую ступень параўнання прыслоўя ад вышэйшай ступені параўнання прыметніка.

| **Прыслоўе** | **Прыметнік** |
|---|---|
| паясняе *дзеяслоў* | паясняе *назоўнік* |
| адказвае на пытанне як? | адказвае на пытанні які? якая? якое? якія? |
| выступае ў ролі *акалічнасці* | выступае ў ролі *выказніка* |
| *Дуб вырас* (як?) ***вышэй*** *за сасну.* | *Дуб* (які?) ***вышэйшы*** *за сасну.* |

**184.** Прачытайце сказы. Вызначце, якімі часцінамі мовы і членамі сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы. Знайдзіце памылкі ва ўжыванні формаў слоў, запішыце выпраўленыя сказы.

1. Ідзе Васіль **далей** па лесе, а на душы ў яго становіцца ўсё **цяжэй** і **цяжэй**. 2. Сонца **ярчэйшае** за Месяц. 3. Рака ў маім дзяцінстве была **шырэй** і **глыбей**. 4. Рака Днепр **даўжэй** за Прыпяць[м]. 5. Нашы вёскі былі намнога **прыгажэйшымі**, калі жылі тут людзі. 6. Дзяўчынка ўжо супакоі-

лася і значна **смялей** паглядала на настаўніка. 7. **Дужэйшы** быў Рыгор за ўсіх у вёсцы, таму ніхто і не мог з ім справіцца. 8. **Прыгажэй** за Гэлю не было нікога ў наваколлі.

**185.** Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце прыслоўі, вызначце іх разрад паводле значэння.

У беларусаў, як і ў іншых славянскіх народаў, адным з увасабленняў мадэлі свету з'яўляецца сімвал вечнага жыцця — дуб. Дастаткова нагадаць, што *(да)*волі часта асноўнае сюжэтнае дзеянне ў замовах і ка..ках разгортваецца там, дзе расце гэты волат.

Сярэдняя частка магутнага дрэва сімвалізавала прастору жыцц..дзейнасці чалавека. Да дуба «звярталіся» па дапамогу. Напрыклад, калі балела спіна, раілі тройчы пацерціся аб ствол дуба пасля таго, як прагр..міць першы гром. Сучасныя спецы..лісты ў галіне біяэн..ргетыкі звычайна даюць такую параду: калі вы а..чуваеце с..бе кепска, *(с)*пачатку трэба пастаяць каля алешыны, якая забірае адмоўную эн..ргію, затым на некалькі хвілін а..хапіць рукамі дуб, які *(на)*доўга па..сілкуе вас станоўчым эн..ргетычным патэнцы..лам *(Паводле Я. Крука)*.

● Зрабіце марфалагічны разбор прыметніка (на выбар) з тэксту.

## § 25. Лічэбнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**186.** Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца наступныя аднакаранёвыя словы? Выпішыце лічэбнікі. Абгрунтуйце свой выбар.

Два, двое, двойчы, двойка, двайны, другі, двойня, па-другое, дваіцца;

чатыры, чацвёрка, чвэртка, чвэрць, чацвёра, учатырох, па-чацвёртае, учацвярых;

пяцёра, пяцёрка, пяты, па-пятае, пяцярня, пятак, пяцьсот, упяцярых.

**187.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце вуснае выказванне пра разрады лічэбнікаў.

## Разрады лічэбнікаў

| Будова / Значэнне | | Простыя (маюць адзін корань) | Складаныя (складаюцца з дзвюх і больш асноў) | Састаўныя (складаюцца з двух і больш слоў) |
|---|---|---|---|---|
| Колькасныя | лічэбнікі, якія абазначаюць цэлыя лікі | *пяць, трынаццаць, сто, трыццаць* | *пяцьдзесят, чатырыста* | *сорак сем, сто трыццаць пяць* |
| | дробавыя | — | — | *дзве трэція, тры цэлыя і сем дзясятых* |
| | зборныя | *трое, сямёра, васьмёра, абодва* | — | — |
| Парадкавыя | | *шосты, дваццаты, мільярдны, другі* | *сямідзясяты, дзевяносты* | *тысяча дзевяцьсот сорак другі* |

**188.** Прачытайце тэксты. Вызначце іх стыль і абгрунтуйце свой адказ.

**I.** Валуны — згладжаныя вадой ці лёдам абломкі горных парод памерам больш за 10 см. **Большыя за 1 м валуны называюцца глыбамі, або камлыгамі.** Утвараюцца пры выветрыванні, разбуральнай дзейнасці мораў, азёр, рэк, ледавікоў і іх талых вод, пры апаўзанні кавалкаў горных парод па схілах гор. Ледавіковыя[сл] валуны трапляюцца на ўсёй

тэрыторыі Беларусі, найбольш на канцова-марэнных узвышшах. Прынесены яны ад 600 тысяч да 20 тысяч гадоў назад з Балтыйскага шчыта, Паўночна-Заходняй Рускай пліты. Памер валуноў памяншаецца з поўначы на поўдзень: у Паазер'і іх велічыня дасягае 6—11 м, на Беларускай градзе — 5—8 м, на Палессі — ад 1 да 3 м. Каля 65—75 % вялікіх валуноў — граніты, 20—25 % — гнейсы. Ёсць кварцыты, кварцавыя парфіры, даламіты і інш.

**Вялікія і адметныя валуны ўзяты пад ахову дзяржавы як помнікі прыроды.** У Беларусі такіх валуноў больш за 100 (БелЭН).

Выпішыце словазлучэнні з лічэбнікамі. Лічэбнікі запішыце словамі, растлумачце правапіс.

● Растлумачце пастаноўку коскі або яе адсутнасць перад словамі *як, або* ў выдзеленых сказах.

**II.** Гэтыя камяні ведае кожны. Ляжаць яны, уткнуўшыся ў зямлю, каля дарог і рэк, у полі і ў лесе[сн]. Прыбяры іх — і беларускі ландшафт стане бяднейшым.

Здаўна людзі па-свойму тлумачылі з'яўленне камянёў. У легендах і народных **казках** часта сцвярджаецца, што валуны накідалі волаты, асілкі ці прыцягнулі чэрці. Старыя **сцвярджаюць**, што валуны растуць з зямлі як грыбы.

Але валуны, як высветлілася, — іншаземныя прышэльцы, і прыйшлі яны сюды з леднікамі. Рухаючыся праз Скандынаўскія горы, па дне Балтыйскага мора ў раўнінах Паўночнай Еўропы, лёд выдзіраў іх са свайго месца і цягнуў **цэлыя** глыбы абломкаў за сабою. Калі лёд растаў, камяні-падарожнікі аказаліся далёка ад сваёй радзімы *(Б. Гурскі, Э. Ляўкоў)*.

● Дайце характарыстыку гукам у выдзеленых словах.

● Выпішыце з тэксту рады аднакаранёвых слоў. Абазначце, з дапамогай якіх сродкаў утвораны вытворныя словы. Падбярыце (вусна) іншыя аднакаранёвыя словы гэтых радоў.

**189.** Прачытайце, правільна называючы лічэбнікі. Дайце тэксту загаловак.

16 чэрвеня 2006 года адбылося ўрачыстае адкрыццё новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Візітнай

карткай нашай рэспублікі цяпер можа быць 72-метровы «дыямент». Агульная плошча будынка — 113 000 квадратных метраў.

Прастора бібліятэкі рацыянальна арганізавана. Напрыклад, агульная чытальная зала для студэнтаў, навучэнцаў ПТВ і старшакласнікаў (а ўсяго ў бібліятэцы 19 чытальных залаў) двухузроўневая. Тут могуць кампактна размясціцца 411 наведвальнікаў адначасова. 60 месцаў у гэтай зале абсталяваны камп'ютарамі (ва ўсёй бібліятэцы 1400 аўтаматызаваных рабочых месцаў).

Многаўзроўневая архітэктура памяшкання прадыктавала неабходнасць укаранення асаблівай тэхналогіі — аддаленай дастаўкі дакументаў з выкарыстаннем тэлеліфта. Па ўсёй бібліятэцы пракладзена «монарэльса», па якой бегаюць «кейсы», што прывозяць заказаныя дакументы ў зоны карыстання. Час дастаўкі — 15—20 хвілін — унікальны для такіх плошчаў.

У фондах захоўваецца каля 70 тысяч асобнікаў каштоўнай рэдкай літаратуры, найбольш раннія дакументы датуюцца XIV стагоддзем. Гэта самая вялікая калекцыя ў краіне *(«Літаратура і мастацтва»)*.

Вызначце разрады ўжытых у тэксце лічэбнікаў паводле значэння і будовы (пры неабходнасці карыстайцеся табліцай «Разрады лічэбнікаў»).

Зрабіце марфалагічны разбор лічэбніка з тэксту (на выбар).

## § 26. Займеннік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**190.** Сярод прыведзеных сцвярджэнняў выберыце правільныя.

1) Займеннік — самастойная часціна мовы, якая ўказвае на прадмет, прымету або колькасць, але не называе іх.

2) Займеннік — самастойная часціна мовы, якая абазначае прадмет, прымету або колькасць.

3) Займеннік можа ўжывацца замест усіх самастойных часцін мовы.

4) Займеннік ужываецца замест назоўніка, прыметніка, лічэбніка.

5) Займеннікі змяняюцца па склонах, а некаторыя — па родах і ліках.

6) Усе займеннікі змяняюцца па родах, ліках, склонах.

7) Займеннікі найчасцей выконваюць ролю дзейніка, азначэння, дапаўнення.

8) Займеннік можа быць любым членам сказа.

Складзіце вуснае выказванне пра займеннік як часціну мовы, прывядзіце адпаведныя прыклады.

**191.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Якая праблема хвалюе аўтара? Выкажыце свае адносіны да гэтай праблемы, прадоўжыце тэкст.

Калі некалькі гадоў таму назад у каго-небудзь з вас ды і ў мяне пыталі, што чакае нас заўтра ці паслязаўтра, мы не задумваючыся адказвалі: светлая, шчаслівая будучыня. Сёння на такое пытанне гэтак ніхто ўжо не адкажа, бо незвычайна ў апошні час ускладнілася само жыццё. Арсеналы жудаснай зброі, якая здольна знішчыць усё жывое, папаўняюцца новай, яшчэ страшнейшай. Таксічныя рэчывы выбухваюць, выліваюцца з заводскіх рэзервуараў і чыгуначных цыстэрнаў часта побач з чалавечым жыллём. Снедаючы[сл], абедаючы, вячэраючы, хто з нас ведае, колькі чаго мы глытаем разам з ядою — нітратаў, радыеактыўных нуклідаў...

З зямлі памалу знікаюць не толькі асобныя віды раслін, дрэў, птушак, звяроў, але і лясы, рэкі, азёры, нават моры, як гэта адбылося з Аралам і цяпер адбываецца з Каспіем.

Пад пагрозай знішчэння таксама апынуліся цэлыя культуры, мовы, народы і нават сам чалавек... *(Паводле Б. Сачанкі).*

Выпішыце з тэксту займеннікі, запішыце (дзе неабходна) іх пачатковую форму. Вызначце разрады займеннікаў (пры неабходнасці карыстайцеся прыведзенай ніжэй табліцай).

У з о р: *каго-небудзь — хто-небудзь (няпэўны), мы (асабовы).*

## Разрады займеннікаў

| | |
|---|---|
| Асабовыя | *я, мы, ты, вы, ён (яна, яно), яны* |
| Зваротны | *сябе* |
| Прыналежныя | *мой, твой, наш, ваш, свой, яго, яе, іх* |
| Указальныя | *гэты, той, такі, гэтакі, столькі, гэтулькі* |
| Азначальныя | *увесь, усякі, кожны, сам, самы, іншы* |
| Пытальныя | *хто? што? які? чый? каторы? колькі?* |
| Адносныя | *хто, што, які, чый, каторы, колькі* |
| Адмоўныя | *ніхто, нішто, ніякі, нічый, нікольк*і |
| Няпэўныя | *нехта, нешта, нейкі, нейчы, хтосьці, штосьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, чый-небудзь, абы-хто, абы-што, абы-які, абы-чый, сёй-той, сякі-такі* |

**192.** Прачытайце. Якія словы забяспечваюць сувязь сказаў у першым абзацы? Спішыце тэкст, апускаючы дужкі, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і ставячы знакі прыпынку. Займеннікі падкрэсліце як члены сказа.

Мы в..рталіся *(з/са)* школы а снег не пераставаў буйнымі пушынкамі сыпацца на дол. Кругом было прыво..е белых палёў і прастораў. Мы крычалі пра санкі пра лыжы. Мы кідаліся сне..камі см..яліся. Нам[м] было весела разам з гэтай м..целіцай і мне ад радас*(?)*ці хацелася пад разгалістай ліпай с*(?)*пяваць пра снег пра зіму...

Зіма, зіма! Ідзі хутчэй сц..лі снягі на поле на дарогі на нашы вуліцы! Сып м..целіца круці гурбы каб я зноў даставаў шапкай дрэвы. Вось якія яны высокія а заўтра мы памераемся! Ідзі зіма-матуля каб я хутчэй пабольшаў[с] каб я падрос!

Вось так я думаў бегучы са школы ў той дзень калі выпаў першы сне.. калі ўсім сэр*(?)*цам а..чуў што нешта мінуў перажыў а сустракаю хоць і знаёмае але штос*(?)*ці такое новае-новае... *(Паводле І. Грамовіча)*.

● Пабудуйце схему апошняга сказа тэксту.

**193.** Прачытайце тэкст, выбіраючы патрэбную форму займеннікаў, прыведзеных у дужках, вызначце іх разрад. Абгрунтуйце выбар займеннікаў.

КАБ ЦЯБЕ... КАБ ТАБЕ...

У аповесці Янкі Брыля «Ніжнія Байдуны» даецца аўтарская характарыстыка дыялогу цёткі Юсты з дзядзькам Захарам: «Злосці ў той лаянцы не было. Была нават паэзія, хай *(сабе/сябе)* грубая, але ж і хлёсткая. Я мог налічыць колькі хочаш гэтых праклёнаў: “Што ты там дзяўбеш, каб *(цябе/табе)* крумкач вочы выдзеўб!”, “Колькі ты сыпаць будзеш, каб *(цябе/табе)* губы абсыпала!”, “Чаго ты сядзіш, каб ты каменем (або крыцаю) сеў!”, “Чаму ты не едзеш, каб ты бокам ездзіў!”, “Распеліся тут пад акном, каб вы пелі на хлеб!” І так — бясконца».

Януш Няміга ў кнізе «Алтар стала» заўважае, што словамі *каб цябе, каб табе* «пачынаюцца не толькі праклёны, на якія так багата народная мова (Каб *(цябе/табе)* агонь спаліў! Каб *(цябе/табе)* чэрці ўхапілі! Каб *(цябе/табе)* смуткі ўзялі!), але і шматлікія жартаўлівыя пажаданні — нібыта тосты. Колькі разоў даводзілася[с] чуць: “Каб *(цябе/табе)* і ўночы сонейка ззяла!”, “Каб *(цябе/табе)* ліха абышло ціха!”. Але найперш: “Каб быў ты здаровы, як дуб скарбовы!”».

Вызначце разрад ужытых у тэксце займеннікаў.

● Творы якіх фальклорных жанраў заснаваны на веры чалавека ў магічную сілу слова? Прывядзіце прыклады такіх твораў. Пры неабходнасці звярніцеся да двухтомнай энцыклапедыі «Беларускі фальклор» (2005, 2006).

● Назавіце ўстойлівыя параўнанні з кампанентам *здаровы як ...* .

# § 27. Дзеяслоў: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**194.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго адрасата і мэтанакіраванасць. Складзіце і запішыце план (або схему) тэксту, перакажыце змест з апорай на план (схему).

АСАБОВЫЯ І АСОБЫЯ ФОРМЫ ДЗЕЯСЛОВА

Дзеяслоў мае некалькі формаў.

**Неазначальная форма дзеяслова** (або інфінітыў) — гэта яго пачатковая форма. Яна толькі называе дзеянне, але не мае формаў часу, асобы, ліку: *думаць, гаварыць, берагчы, захапляцца.*

Формы дзеяслова, якія паказваюць, хто або што ўтварае дзеянне, называюцца **асабовымі:** *я чытаю, рабочы будуе, мы з братам робім урокі.*

Ёсць **асобыя** формы дзеяслова, якія спалучаюць у сабе прыметы дзеяслова і прыметніка (дзеепрыметнік), дзеяслова і прыслоўя (дзеепрыслоўе). Дзеепрыметнік абазначае прымету прадмета, выражаную праз дзеянне: (я к о е?) ***зжатае*** *поле,* а дзеепрыслоўе — прымету дзеяння, якое перадаецца праз іншае, дадатковае, дзеянне: *чытаў* (я к?) ***стоячы***; (к а л і?) ***падсілкаваўшыся***, *бацька выбраўся ў дарогу.*

**195.** Прачытайце. Вызначце, якія словы з'яўляюцца лішнімі ў кожным радку. Абгрунтуйце свой адказ.

Чырвоны, чырванець, пачырванець.
Прыходзіць, заходзіць, выхад, пераходзіць.
Ехаць, заезд, пераезд, аб'езд.
Падсушаны, сушыць, засохлы, сушаны.
Чытаць, чытаючы, зачытваючыся, недачытаўшы.

**196.** Выканайце тэставыя заданні.

1. Дзеяслоў абазначае:
1) прадмет;
2) прымету прадмета;
3) дзеянне або стан прадмета;
4) прымету дзеяння.

2. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, утворанае само па сабе, без указання на асобу, маюць назву:

1) інфінітывы; 3) дзеепрыслоўі;
2) асабовыя дзеясловы; 4) безасабовыя дзеясловы.

3. Зваротныя дзеясловы маюць постфікс:

1) -***ць***; 3) -***ці***;
2) -***ся***; 4) -***сьці***.

4. Дзеясловы якога ладу абазначаюць дзеянне, што адбываецца ў цяперашнім, прошлым ці будучым часе?

1) абвеснага; 3) умоўнага;
2) загаднага; 4) дзеясловы ўсіх трох ладоў.

5. Дзеясловы закончанага трывання маюць формы:

1) цяперашняга часу; 3) будучага простага часу;
2) прошлага часу; 4) будучага складанага часу.

6. Змяненне дзеясловаў па асобах і ліках мае назву:

1) спражэнне; 3) словаўтварэнне;
2) скланенне; 4) чаргаванне.

7. У сказе асабовыя формы дзеяслова выконваюць ролю:

1) дзейніка; 3) азначэння;
2) выказніка; 4) акалічнасці.

**197.** Выразна прачытайце тэкст. Назавіце дзеясловы, ужытыя ў пераносным значэнні.

На ніцях белай павуціны
Прывозяць восень павучкі.
Яе красёнцы, чаўначкі
У моры лесу мільгатнулі
І лісце ў багру апранулі:
І з кожнай[м] лісцевай галоўкі
Глядзіць твар восені-свякроўкі.
Павее ветрык — шурхнуць травы.
Няма ў ім ласкі, ні забавы.
Не — то не шолах каласочкаў,
Не смех блакітных васілёчкаў
У межах роснай збажыны.

Не — то не музыка вясны,
А ціхі жаль і нараканне,
З жыццём і сонцам развітанне.
Шыбуюць гусі ў край далёкі
І жураўлі ў той самы край.
— Бывай жа, лецейка, бывай!
Бывайце, родныя валокі*!

*Я. Колас*

Выпішыце з тэксту ўсе дзеясловы, вызначце іх трыванне і час, запішыце пачатковую форму.

У з о р: *ходзяць (незак. тр., цяп. ч.) — хадзіць.*

**198.** Запішыце прыказкі, ужыўшы дзеяслоў у патрэбнай форме з часціцай ***не***.

У з о р. *Чаго (згубіць), таго (знайсці). — Чаго не згубіў, таго не знойдзеш.*

1. Чаго сабе *(хацець)*, другому *(зычыць)*. 2. *(Рабіць)* ліхога і *(баяцца)* нікога[м]. 3. *(Чапаць)* нічога і *(баяцца)* нікога. 4. *(Пражыць)*, каб і камар *(укусіць)*. 5. Сварка да дабра *(давесці)*. 6. Чужым розумам *(пражыць)*. 7. З дзявочай красы вады *(напіцца)*. 8. На чужы каравай рота *(разяваць)*: караваю *(праглынуць)*, а рот да вушэй раздзярэш.

**199.** Прачытайце тэкст, сфармулюйце яго асноўную думку. Вызначце спосаб і сродкі сувязі сказаў у тэксце.

Я дома. Тут маё карэнне, пачатак мяне самога, мой працяг. Тут жылі мае дзяды, тут пасвіў, касіў, вяршыў стагі, спускаў бярозавы сок, араў, сеяў, баранаваў, звозіў снапы, малаціў мой бацька. Я першы кінуў адвечны хлебаробскі занятак маіх продкаў. Яны прыходзілі і адыходзілі, перадаючы — з рук у рукі — сваім наступнікам стары, але лёгкі і ходкі плуг з люстэркам лемяша; да паловы зрэзаную і ўсё яшчэ вострую, як брытва, касу з выгладжаным да бляску касільнам; берасцяную каробку-сяўню ды цупкі малацьбітны цэп. Усе мае папярэднікі — о, як мала я ведаю пра іх! — бралі гэта ў спадчыну як самы дарагі скарб.

Я першы не ўзяў. Я разарваў доўгі спрадвечны ланцуг хлебаробскага племя... *(К. Цвірка).*

Выпішыце з тэксту 6 дзеясловаў прошлага часу абвеснага ладу, утварыце ад іх і запішыце форму ўмоўнага ладу (узор: *жылі — жылі б*).

● Выпішыце з тэксту назвы сельскагаспадарчых прылад працы, запішыце дзеясловы, якія ўказваюць на іх прызначэнне (узор: *плуг — араць*).

● Замяніце словазлучэнне *бярозавы сок* адным словам.

**200.** Прачытайце тэкст. Запішыце сказ, у якім выражана асноўная думка тэксту, растлумачце яе.

Выпішыце зваротныя дзеясловы, у дужках абазначце іх асобу, лік, час. У якіх зваротных дзеясловах нельга вызначыць час, асобу, лік?

КОРАНЬ ЗЛА

Каб не рабіць злых спраў, трэба пазбягаць не толькі саміх спраў, але і злых размоў. А каб утрымацца ад злых спраў і размоў, трэба навучыцца стрымліваць сябе ад злых думак. Калі ты сам-насам і да цябе прыйшлі нядобрыя думкі (ты га́ніш каго-небудзь або злуешся на некага), успомні, што дрэнна так думаць, спыніся і пастарайся думаць пра што-небудзь іншае. Толькі тады ты навучышся ўтрымлівацца ад злых спраў, калі навучышся стрымліваць злыя думкі.

Корань злых спраў у дрэнных думках *(Л. Талстой).*

● Дакажыце, што слова *корань* мнагазначнае.

**201.** Выпішыце з тэксту дзеясловы, дайце ім характарыстыку, абапіраючыся на табліцу (с. 146).

ЦАР-ДУБ

Мы ўвайшлі ў палескую пушчу. Невялічкая палянка ў гушчары абгароджана парканам, і над ёй узняўся высокі стройны дуб. Нельга не залюбавацца, гледзячы на гэты велічны помнік прыроды.

Каля трыццаці метраў цягнецца ўвысь гонкі ствол без сучкоў і дупла, а потым раскідаецца пяццю вялікімі галінамі, утвараючы пышную крону. Калі б узабрацца на вяршыню, то перад вачыма адкрылася б на далёкія кіламетры цудоўная панарама Палесся.

Шмат бачыў дуб на сваім вяку. Бушавалі суровыя навальніцы над ім, змяняліся часы і падзеі, і дуб як бы ўвасобіў гэтую непакорнасць. Ці не таму і даў народ яму гордае імя цар-дуб.

Адшумела вайна. Зноў жыццё ўварвалася ў ваколіцы, над якімі стаіць і яшчэ доўга будзе стаяць цар-дуб. І міжволі думаецца, якая прыгожая і багатая наша Айчына! Яна багата прыродай, поўнай хараства, людзьмі, свабодалюбівымі і працавітымі, жыццём, што б'е невычарпальнай крыніцай *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

**Узаемасувязь зменных прымет дзеяслова**

| Лад | Час | Асоба | Род | Лік |
|---|---|---|---|---|
| Абвесны | Цяп., пр., буд. | 1, 2, 3-я (у цяп. ч. і буд. ч.) | М., ж., н. (у пр. ч., адз. л.) | Адз., мн. |
| Загадны | — | 1, 2, 3-я | — | Адз., мн. |
| Умоўны | — | — | М., ж., н. (у адз. л.) | Адз., мн. |

**202.** Спішыце прыказкі. Абазначце зверху спражэнне дзеясловаў, растлумачце напісанне галосных у асабовых канчатках.

1. Адзін і пры месяцы роб..ць, а другі і пры сонцы сп..ць. 2. Глыбей узар..ш, болей збяр..ш. 3. Калі старанна кос..ць, то сена зімою не прос..ць. 4. Не святыя гаршкі леп..ць. 5. Работа і корм..ць, і по..ць, і жыць вуч..ць. 6. Хоць ціха ходз..ць, але шчыра роб..ць. 7. Зямлю не ўгно..ш — хлеба не намалоц..ш.

Утварыце і запішыце ад кожнага з дзеясловаў форму 1-й асобы адзіночнага ліку. Абазначце карані (з улікам чаргавання зычных і галосных).

# § 28. Дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**203.** Параўнайце выдзеленыя словы. Вызначце, да якой часціны мовы (ці яе формаў) яны адносяцца і якімі членамі сказа з'яўляюцца.

1. Хлопчык **пачырванеў** ад сораму і апусціў галаву.
2. **Пачырванеўшы** ад сораму, хлопчык апусціў галаву.
3. **Пачырванелы** ад сораму хлопчык апусціў галаву.

Параўнайце дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе. Раскажыце, ад якой часціны мовы яны ўтвораны, што абазначаюць, прыметы якіх часцін мовы спалучаюць у сабе, як змяняюцца, якімі членамі сказа могуць быць. Пры неабходнасці карыстайцеся змешчанай ніжэй табліцай.

Параўнайце правілы выдзялення на пісьме дзеепрыметнікавага і дзеепрыслоўнага зваротаў.

Перабудуйце і запішыце другі і трэці сказы так, каб дзеепрыметнікавы і дзеепрыслоўны звароты стаялі пасля назоўніка (дзейніка). Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**Асобыя формы дзеяслова**

| Адзнакі | | |
|---|---|---|
| Значэнне | Марфалагічныя прыметы | Сінтаксічная роля |
| Абазначае прымету прадмета паводле дзеяння, адказвае на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я? | • Ад дзеяслова: стан, трыванне, час, пераходнасць/непераходнасць;<br>• ад прыметніка: род, лік, склон | Азначэнне, выказнік |
| Абазначае дадатковае дзеянне ў адносінах да галоўнага, выражанага дзеясловам-выказнікам, адказвае на пытанні ш т о р о б я ч ы? ш т о з р а б і ў ш ы? | • Ад дзеяслова: трыванне, час, зваротнасць/незваротнаць, пераходнасць/непераходнасць;<br>• ад прыслоўя: не змяняецца | Акалічнасць |

**204.** Прачытайце тэкст. Размяркуйце выдзеленыя словы, выпісаўшы спачатку прыметнікі, а потым дзеепрыметнікі.

### ПЕРШЫ ІНЕЙ

Былі пагодныя дні. З сонцам ад ранку да вечара, з сінім небам. Днём было яшчэ цёпла, а пад вечар **апусцелая, няласкавая** зямля стыла на холадзе. Пад поўнач бяліў яе іней, у **ледзяныя, звонкія** раніцы і трава каля платоў і на выганах, і палі з загонамі яшчэ **не скапанай** бульбы, і **панурыя, учарнелыя** стрэхі — усё было па-зімоваму белае. Калі ўздымалася над алешнікам[м] сонца, **светлае, прамяністае**, ад інею заставаліся толькі цемнаватыя плямы вільгаці. Неўзабаве знікалі і яны.

Неба гэтымі днямі сінела чыстае і глыбокае. Яно не было цяпер такое яркае, як раней, часта атульвала яго **белаватая**, нібы малочная, смуга, і яно здавалася бляклым, быццам **выгаралым** за ліпеньскую і жнівеньскую спёку.

У **лагодным сонечным** святле гарэлі **сумным адвечным** полымем ліпы і бярозы каля хат, дрэвы ў недалёкім лесе. Як сівізна ад былога, ад пражытага, бялела ўсюды павуціна. Яна вісела ў паветры, абчэплівала **павялы і пасохлы** бульбоўнік, жэрдкі вакол агародаў, **пажоўклыя** кусты. Усё агортваў спакойны, стары, як свет, смутак развітання з цяплом, з летам... *(І. Мележ)*.

**205.** Разгледзьце схемы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі. Падрыхтуйце (на аснове схем) вуснае паведамленне аб правілах выдзялення на пісьме дзеепрыметнікавага і дзеепрыслоўнага зваротаў. Якія правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі не адлюстраваны на схемах?






**206.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў тэксце дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. У якіх выпадках аўтар выкарыстоўвае дзеепрыметнікі, а ў якіх — дзеепрыслоўі? Чым гэта абумоўлена?

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі.

Скончыўшы сваё снеданне, сабраўся дзед крыху адпачыць. Але глухі шорах у лесе прымусіў яго прыслухацца і разгледзецца[с]. І бачыць дзед Талаш: вялізны дзікі кабан павольна выходзіць з ляснога гушчару і брыдзе па чэрава* ў снезе, не зважаючы на дзеда. Кабан падыходзіць да прыгожага стажка-мурашніка, акуратна і роўна прысыпанага снегам, і запыняецца. А потым пачынае разрываць яго сваім страшным ікластым лычом. Кожны рух магутнага лыча высока ўскідае ўгору камякі снегу разам са смеццем, нанесеным мурашкамі за цэлыя гады ўпартай працы. І хутка дзве цёмныя баразны вырысоўваюцца на чыстым некранутым снезе *(Я. Колас)*.

Зрабіце марфалагічны разбор асабовага дзеяслова, дзеепрыметніка і дзеепрыслоўя з тэксту.

Асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам, і дадатковае, выражанае дзеепрыслоўем, абавязкова павінна выконваць адна і тая асоба (ці прадмет). Напрыклад, памылковым з'яўляецца сказ: *Паглядзеўшы тэлеперадачу пра Нясвіж, у Яўгена ўзнікла жаданне наведаць гэты горад*. Выказнік *узнікла* адносіцца да дзейніка *жаданне*, а дзеепрыслоўе *паглядзеўшы* да гэтага дзейніка не адносіцца. Правільна: *Паглядзеўшы тэлеперадачу пра Нясвіж, Яўген захацеў наведаць гэты горад*. Або: *Калі Яўген паглядзеў тэлеперадачу пра Нясвіж, у яго ўзнікла жаданне наведаць гэты горад*.

Ад дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання (пры дапамозе суфіксаў ***-учы (-ючы), -ачы (-ячы)***: (ш т о р а б і ц ь?) *чытаць* — (ш т о р о б я ч ы?) *чытаючы*); ад дзеясловаў закончанага трывання — дзеепрыслоўі закончанага трывання (пры дапамозе суфіксаў ***-ўшы, -шы***: (ш т о з р а б і ц ь?) *убачыць* — (ш т о з р а б і ў ш ы?) *убачыўшы*).

**207.** Знайдзіце сказы, у якіх дапушчаны памылкі пры ўтварэнні або ўжыванні дзеепрыслоўяў. Спішыце, выпраўляючы памылкі (там, дзе яны ёсць). Карыстайцеся адным са спосабаў: 1) перабудуйце аснову сказа, каб быў адзін утваральнік дзеяння, 2) замяніце дзеепрыслоўны зварот даданай часткай складаназалежнага сказа са злучнікам ***калі***.

1. Лежачы на траве, я з асалодай удыхаў водар простых летніх кветак. 2. Пад'язджаючы да станцыі, у мяне ўкралі рэчы. 3. Знаходзячыся ў няволі, паэт напісаў кнігу вершаў. 4. Вярнуўшыся дадому, пайшоў снег. 5. Прыйшоўшы на сход, я па дарозе сустрэў свайго сябра. 6. Пісьменнік паказаў нам сапраўднае жыццё, не прыхарошваючы яго. 7. Яшчэ больш сур'ёзным стаўся Сцёпка, скончыўшы пачатковую школу. 8. Трымаўшы раўнавагу, жуpавель шырэй замахаў крыламі. 9. Даведаўшыся пра апошнія навіны, гаворка настаўнікаў часта перарывалася дружным смехам.

**208.** Перакладзіце (вусна) тэкст на беларускую мову, правільна падбіраючы адпаведнікі да рускіх дзеепрыметнікаў.

Легкая, щебечущая, острая, смеющаяся, вежливая до дерзости, порхающая, как мотылек, речь француза; тяжелая, туманная, вдумывающаяся сама в себя, рассчитанная речь британца; ясная, сжатая, избегающая всякой неопределенности, прямо идущая к делу, практическая речь немца; певучая, сверкающая, играющая красками, образная речь итальянца; бесконечно льющаяся, волнуемая внутренним вздымающим ее чувством и изредка разрываемая громкими всплесками речь славянина — лучше всех возможных характеристик, лучше самой истории знакомят нас с характерами народов, создавших эти языки. Вот почему лучшее и даже единственно верное средство проникнуть в характер народа — усвоить его язык, и чем глубже вошли мы в язык народа, тем глубже вошли в его характер *(К. Ушинский)*.

С л о ў н і к:
*дерзость* — дзёрзкасць;
*ясный* — выразны;

*неопределенность* — неакрэсленасць, няпэўнасць, невыразнасць;
*сверкающий* — зіхатлівы, бліскучы;
*всплеск* — усплёск;
*волнуемая внутренним вздымающим ее чувством* — усхваляваная ад унутранага пачуцця.

Якія моўныя сродкі ўжываюцца пры перакладзе для замены не ўласцівых беларускай мове дзеепрыметнікаў?

**209.** Спішыце тэкст, апускаючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку.

УРАЧЫСТАЯ ВЯЧЭРА

Увесь дзень перад «святым вечарам» маці шкр..бла нажом стол лавы мыла ўсё. *(Ад)*ранку ледзь н.. да сам..га вечара *(н..)*тух у печы агонь. В..чэра мусіла быць пос*(?)*ная але ж трэба было *(з/с)*гатаваць дванаццаць страў.

З нейкай урачыстас*(?)*цю сачыў бацька як маці с*(?)*лала на вымытым стале сена як накрывала яго чыстым настольнікам як клала бохан хлеб.. нож лыжкі ставіла конаўку з соллю.

За сталом маці і бацька сядзелі маўкліва нібы чулі за сабою цені тых хто даўно ўжо *(н..)*прасіў яды. Абое было відаць думалі ўспаміналі. Бацька перш чым браць якой стравы адліваў лыжку ў місу пастаўленую на акне дзядам. Міканор ледзь дачакаўся калі бацька нарэшце паставіць на стол гаршчок з куццёю нал..е салодкай вадзіцы-сыты з маку і мёд.. паспытаўшы якія можна не крыўдзячы старых устаць...

Заўважыў што *(н..)*пустыя міскі пасля вячэры так і асталіся на стале... *(Паводле І. Мележа)*.

З якой мэтай на стале быў пакінуты посуд з ежай?

Калі, згодна з беларускім народным календаром, адзначаюцца дні памяці памерлых?

Выпішыце з тэксту зменныя формы дзеяслова (асабовыя формы і дзеепрыметнікі), нязменныя формы дзеяслова (дзеепрыслоўі і інфінітывы).

## § 29. Прыназоўнік, злучнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**210.** З апорай на схему складзіце звязнае выказванне пра разрады прыназоўнікаў.




**211.** Прачытайце тэкст, вызначце тып маўлення.

### ВІЦЦЁ ВЯНКА

Напярэдадні вяселля была зборная субота. Заручаная* клікала да сябе сяброваk, каб віць вянок. Пасярод хаты ставілі стол, а вакол яго садзіліся дзяўчаты ды рабілі вянок са стужак, каляровай паперы і, безумоўна, з руты, мяты і іншых кветак. Калі была зіма, то вянок рабілі са штучных кветак. Пры гэтым дзяўчаты спявалі песні, у якіх апявалі дзеянні з вянком: «Пачынаем вянок віці», «Падай, мама, іголку», «Ужо ж мы звілі вяночак». Песні, што выконвалі на «вяночках», былі журботныя, бо перадавалі настрой маладой і яе бацькоў. Запрошаны на гэты вечар музыка акампанаваў дзяўчатам, а пасля заканчэння[с] абраду іграў для моладзі танцы.

Калі толькі вянок быў звіты, яго прымяралі на маладую, а тая ў вянку кланялася і цалавалася з бацькамі, сяброўкамі

і ўсімі прысутнымі. Пасля дзяўчаты прымералі на сябе вянок, скраналі з месца стол, ламалі іголкі, выкідвалі за дзверы абрус, якім быў пакрыты стол, — тым самым выказвалі жаданне хутчэй выйсці замуж *(Паводле А. Лакоткі, С. Барыса)*.

Чаму, на вашу думку, суботу перад вяселлем называлі зборнай?

Выпішыце з тэксту словазлучэнні, словы ў якіх звязаны з дапамогай прыназоўнікаў, размеркаваўшы іх у дзве групы — словазлучэнні з невытворнымі і вытворнымі прыназоўнікамі.

Знайдзіце ў тэксце слова, якое ў адным сказе з'яўляецца прыназоўнікам, у другім — прыслоўем.

Дайце характарыстыку злучнікам з тэксту (пры неабходнасці карыстайцеся табліцай).

**Разрады злучнікаў**

<table>
<tr><th colspan="6">Паводле саставу</th></tr>
<tr><td colspan="3">Простыя</td><td colspan="3">Састаўныя</td></tr>
<tr><td colspan="3">і, а, але, ды, бо, ці, каб, пакуль, хоць, як і інш.</td><td colspan="3">так што, таму што, як толькі, для таго каб, пасля таго як, у той час як</td></tr>
<tr><th colspan="6">Паводле ўжывання</th></tr>
<tr><td colspan="2">Адзіночныя</td><td colspan="2">Паўторныя</td><td colspan="2">Парныя</td></tr>
<tr><td colspan="2">а, але, бо, як і інш.</td><td colspan="2">і—і, ці—ці, ні—ні, або—або, то—то, ці то — ці то і інш.</td><td colspan="2">не толькі — але (і), калі — то (тады, дык), хоць (хоць і) — але (аднак, ды, усё ж)</td></tr>
<tr><th colspan="6">Паводле значэння</th></tr>
<tr><td colspan="3">Злучальныя</td><td colspan="3">Падпарадкавальныя</td></tr>
<tr><td colspan="3">1) Спалучальныя: і, ды = і, і—і, ні—ні, як — так і;<br>2) супраціўныя: а, але, ды = але, затое, аднак</td><td colspan="3">1) Часавыя: калі, як, ледзь, пакуль, толькі, як толькі;<br>2) прычынныя: бо, што, таму што, паколькі</td></tr>
</table>

| Злучальныя | Падпарадкавальныя |
|---|---|
| 3) размеркавальныя: *ці, ці—ці, або—або, то—то*;<br>4) далучальныя: *ды і, дый, нават, прытым, прычым* | 3) мэтавыя: *каб, для таго каб, з тым каб, абы*;<br>4) умоўныя: *калі б, каб, як, абы, раз, як бы*;<br>5) уступальныя: *хоць (бы), хай, няхай, нягледзячы на тое што*;<br>6) параўнальныя: *як, нібы, бы, чым, што*;<br>7) тлумачальныя: *што, ці, як, каб* |

**212.** Спішыце тэкст, устаўляючы замест кропак неабходныя па сэнсе невытворныя і вытворныя прыназоўнікі. Абазначце склоны самастойных часцін мовы, пры якіх яны ўжыты.

ВЯСЕЛЬНЫ ПОЕЗД

Апавядаюць, што даўней прыкладна ... кіламетр ... вёскі Дзярэчын Зэльвенскага раёна ... дарогі стаяла сем камянёў. Шэсць ... іх нібыта знаходзіліся ... адной групе, сёмы ляжаў асобна, збоку. З'яўленне тут валуноў тлумачаць так.

Вяртаўся аднойчы ... мясцовай бажніцы вясельны поезд ... некалькіх вазкоў. Маладыя глядзелі адзін ... аднаго і нікога не заўважалі. Шаферы і шаферкі таксама весела балбаталі ... сабой і не звярнулі ўвагі ... панурага старога, які параўняўся ... імі. А ... яго хадзілі чуткі як ... злога чараўніка. Убачыўшы, што яго ніхто не вітае ... старым звычаі, ён пачаў клясці вяселле. І нечакана коні і фурманкі праваліліся ... зямлю, людзі змоўклі і скамянелі[сл]. А чараўнік пайшоў сваёй дарогай.

... камянях лёгка было пазнаць маладых і іх дружыну. ... маладой нават можна было разгледзець вясельны ўбор. ... валун, які стаяў асобна, казалі, што гэта скамянелы[сл]

музыка. Ён ехаў, як прынята, трохі ззаду. Так і застыў ... скрыпкай ... руках *(Паводле Э. Ляўкова)*.

● Якія легенды пра камяні-пярэваратні вы ведаеце? Дакажыце на канкрэтным прыкладзе, што «ў іх аснове звычайна ляжыць уяўленне пра парушэнне нейкай забароны і ператварэнне за гэтую правіну ў камень» (Э. Ляўкоў). Можаце выкарыстаць кнігу Э. Ляўкова «Маўклівыя сведкі мінуўшчыны» (1992).

● З якім значэннем ужыты ў тэксце назоўнік *поезд*? Растлумачце значэнні слоў *шафер, шаферка*.

● Знайдзіце ў тэксце прыклады пераходу прыметнікаў у назоўнікі.

Зрабіце марфалагічны разбор прыназоўніка і злучніка з тэксту.

**213.** Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак.

Найбольш устойлівае значэнне рэшата ў духоўнай культуры славян заснавана на яго прыпадабненні да неба. Беларусы меркавалі, што дождж прасейваецца праз хмары, як мука праз сіта. **Калі сіта (хмара) парвецца, дождж лье як з вядра**. У сувязі з гэтым праліванне вады праз рэшата мела на мэце выклікаць дождж, а перавернутае сіта спрыяла заканчэнню дажджу.

На кірмашах Масквы ў XVI—XVII стагоддзях можна было пабачыць варажбіта, які насыпаў у рэшата рознакаляровае зерне. Па тым, як яно размяшчалася, прадказвалася будучыня. **У імкненні зарабіць як мага болей грошай гэтыя падманшчыкі абяцалі слухачам бязбеднае жыццё або нечаканае багацце**. Такія шарлатаны і іх варажба дасціпна былі названы «цудамі ў рэшаце».

Літаральны сэнс фразеалагізма «насіць ваду рэшатам» — займацца пустой справай. Цікава, што нашэнне вады ў рэшаце з мэтаю патушыць пажар не выглядае недарэчнасцю. **Існуе старажытнае павер'е, паводле якога гэта цудоўная магчымасць давалася як узнагарода за цнатлівасць***. Падобны матыў ёсць і ў беларускіх казках, дзе нашэнне вады ў рэшаце ўдаецца толькі бязвінным. У старажытнасці палякі прадказвалі перамогу, калі налітую ў рэшата ваду па-

спявалі данесці да воінаў раней, чым яна выльецца. Той жа знак служыў для апраўдання абвінавачаных *(Паводле Т. Валодзінай)*.

Выпішыце з тэксту складаныя сказы. Падкрэсліце падпарадкавальныя злучнікі адной лініяй, злучальныя словы — дзвюма. Словы якіх часцін мовы выконваюць ролю злучальных слоў?

Знайдзіце ў тэксце прыклады розных відаў злучальных злучнікаў. Запішыце па адным сказе з кожным відам злучальных злучнікаў, укажыце, якія сінтаксічныя адзінкі яны звязваюць.

Растлумачце адсутнасць коскі перад словам *як* у выдзеленых сказах.

● Па магчымасці дапоўніце тэкст прыкладамі беларускіх прымет і павер'яў, звязаных з выкарыстаннем рэшата, загадак, прыказак, фразеалагізмаў з кампанентамі *рэшата, сіта*.

## § 30. Часціцы, выклічнік: агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы, сінтаксічная роля

**214.** Прачытайце тэкст. Пра якую забарону, звязаную з хрысціянскай мараллю, ідзе ў ім гаворка?

Якраз за дзень да ўводзін прасвятое багародзіцы, свята, якое прыпадае на 21 лістапада, у вёсцы Цельшына паўстала пытанне аб тым, калі святкаваць гэта свята: сёння ці заўтра?

Старая Аўгеня прыйшла да свае суседкі Югасі пазычыць падсітак прасеяць мукі. Прыйшла якраз у той час, калі трэба **ўжо** тушыць у хаце агонь. Аўгеня адразу ж звярнула ўвагу на тое, што ў хаце суседкі былі ўсе адзнакі свята: прасніцы вынесены вон, а сама Югася падбівала цеста на аладкі[сн].

— Што ж гэта ў вас як бы свята?

— Ага, а хіба ж не свята? — прамовіла Югася і зірнула на суседку.

— Як свята? Ах, божачка мілы! А я ж думала, што заўтра! — ускінула рукамі Аўгеня. — Лукаш мой даўно пайшоў у клуню малаціць грэчку!.. І сама я ўсю раніцу прала!.. А-а, як жа я думала, што свята заўтра?! Ах, матачкі мае родныя!

Аўгеня борздзенька павярнулася і ледзь не бягом вымелася з хаты, нават падсітак забылася пазычыць *(Паводле Я. Коласа)*.

Выпішыце з тэксту часціцы, якія:

а) надаюць словам, словазлучэнням і сказам дадатковыя сэнсавыя адценні (указальныя, удакладняльныя, абмежавальныя);

б) надаюць выказванню розныя мадальныя адценні (сцвярджэнне, адмаўленне, пытанне, няўпэўненасць);

в) выражаюць эмацыянальную ацэнку выказвання, узмацняюць яго змест.

Знайдзіце ў тэксце выклічнікі. Якую стылістычную функцыю яны выконваюць? Чаму, на вашу думку, сказы, у якіх яны выкарыстаны, клічныя па інтанацыі? Прывядзіце з тэксту прыклады ўжывання слоў самастойных часцін мовы ў ролі выклічнікаў.

Да якой часціны мовы — прыслоўя ці часціцы — належыць выдзеленае слова?

**215.** Абапіраючыся на схему, складзіце звязнае выказванне пра ўжыванне часціц ***не*** і ***ні***.

| Часціца ***не*** | Часціца ***ні*** |
|---|---|
| 1) ***не*** — адмаўленне: *не быў*;<br>2) ***не*** + ***не*** — сцвярджэнне: *не мог не быць* = *быў*;<br>3) ***не*** — сцвярджэнне ў сказах пытальна-клічнага тыпу: *Дзе ён толькі не быў!* (Быў шмат дзе.) | 1) ***ні*** — адмаўленне: *ні слова*;<br>2) ***ні*** — узмацненне адмаўлення: *не чуў ні слова*;<br>3) ***ні*** — узмацненне сцвярджэння: *Дзе ён ні быў, усюды чуў добрыя словы*;<br>4) ***ні*** — у фразеалагізмах тыпу *ні жывы ні мёртвы* |

**216.** Запішыце сказы, ужываючы часціцы ***не*** або ***ні.***

1. Воўк н.. пастух, а свіння н.. агародніца. 2. Запас бяды н.. чыніць. 3. Людзі н.. могуць існаваць без мовы. 4. Н.. будзе дажджу — н.. будзе н.. хлеба, н.. ягад, н.. грыбоў. 5. Сушыць н.. работа, а турбота. 6. Іван мне н.. сват н.. брат. 7. Як н.. кажы, чужая дурнота ўсё ж лепш, чым свая. 8. Нават ворагі н.. маглі н.. дзівіцца мужнасці аба-

ронцаў Брэсцкай крэпасці. 9. Спяшайся н.. спяшайся, а работы хопіць на доўгія гады. 10. Лёс Еўфрасінні н.. адно дзесяцігоддзе прыцягвае ўвагу гісторыкаў і мастакоў. 11. Я жыву ў свеце, якім бы ён н.. быў. 12. Куды б н.. завяла цябе далёкая дарога, н.. забывай бацькоўскага парога.

**217.** Падрыхтуйце вуснае паведамленне на аснове прыведзенага ніжэй матэрыялу.

! ***Не што іншае, як ...***
***Не хто іншы, як ...***

пішуцца, калі:

1) сказ перадае **сцвярджэнне**: *На літаратурны вечар запрошаны* ***не хто іншы, як*** *галоўны рэдактар часопіса*;

2) ёсць злучнік ***як***;

3) можна замяніць спалучэнне часціцамі ***толькі, менавіта, іменна***: *Гледачоў цікавіла* ***не што іншае, як*** *вынік спартыўнай барацьбы.*

---

***Нішто іншае не ...***
***Ніхто іншы не ...***

пішуцца, калі:

1) сказ перадае **адмаўленне**: ***Ніхто іншы не*** *будзе выступаць з дакладам на літаратурным вечары*;

2) няма злучніка ***як***;

3) нельга замяніць спалучэнне часціцамі ***толькі, менавіта, іменна***: ***Нішто іншае не*** *цікавіла гледачоў, захопленых спартыўнай барацьбой.*

**218.** Запішыце сказы, выбіраючы з дужак ***не*** ці ***ні.***

1. *(Не, ні)*што іншае не хвалявала Маню так, як заўтрашняя сустрэча з сынам. 2. *(Не, ні)*хто іншы не мог зразумець яго хваляванні, турботы. 3. Дабрацца да сваіх байцу перашкодзіла *(не, ні)*што іншае, як параненая нага. 4. *(Не, ні)*што іншае не магло супакоіць маці. 5. Гэта было *(не, ні)*што іншае, як вывернутае з карэннем дрэва.

**219.** Прачытайце выразна. Сфармулюйце тэму і асноўную думку верша. Што перадае загаловак (тэму ці асноўную думку)?

РОДНАЕ СЛОВА

Пры суседзях у вёсцы нялоўка
«Невучоным» сябе паказаць,
І пільнуецца хлопец, каб слоўка
Так, як кажуць яны, не сказаць.
Мовы ён не забыўся, вядома,
Гэтых простых і сціплых людзей.
Толькі ён ужо год, як не дома,
І на дом не ўскладае надзей.
Маці песню маломму спявала
Пра духмяны ў бары чабарок...
Песня сыну нялюбаю стала,
Як пакінуў бацькоўскі парог.
Ад калыскі знаёмыя рэчы
Ён па-іншаму[сл] ў хаце заве.
Маці туліць хусцінкаю плечы:
«Што ж, і пэўна... не ў вёсцы жыве».
Ёй не ў крыўду сынкова пагарда...
Друг высока абучаны мой!
Сёння матчынай мовы, а заўтра
Засаромішся маці самой?

*Н. Гілевіч*

Растлумачце правапіс слоў з ***не (ня)***.

**220.** Сфармулюйце правіла напісання ***не*** са словамі, абапіраючыся на прыведзеныя прыклады.

1) Не шырокі, а хутчэй вузкі заліў; не праўда, а самая сапраўдная хлусня;

2) не думаў; не маючы; работа не зроблена;

3) не напісаныя нікім радкі; яшчэ не засеянае поле;

4) недаацанілі працаўніка;

5) не даследавалі мясцовасць.

**221.** Запішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне ***не (ня)***, ***ні*** з назоўнікамі, дзеясловамі, займеннікамі.

Чалавек можа сказаць, што ён *(н..)*любіць мора — і яму *(н..)*паверацьь. Чалавек можа сказаць, што ён *(н..)*любіць светлай-светлай поўні над садам — і з яго таксама пасмяюцца. А я веру, калі такое здараецца...

*(Н..)*хта можа *(н..)*паверыць мне, але я і сам *(н..)*люблю адной з самых прыгожых з'яў[ф] на зямлі. *(Н..)*люблю лістоты каштанаў.

Прыгажэйшай за яе няма на зямлі. Замілаванне такое, што сэрца разрываецца ад гэтай прыгажосці. І адначасова тугі, ад *(н..)*зваротнасці ўспамінаў, ад спозненых шкадаванняў, ад *(н..)*папраўнасці... ад *(н..)*навісці.

І няхай з гэтай прычыны *(н..)*хто *(н..)*лічыць мяне дурнем. Не, *(н..)*дурнем, а вар'ятам *(У. Караткевіч)*.

## § 31. Сэнсава-стылістычная роля і тэкстаўтваральныя магчымасці слоў і іх формаў

**222.** Прачытайце верш П. Панчанкі. Ахарактарызуйце сэнсава-граматычную і стылістычную ролю дзеясловаў у тэксце. Чаму ў вершы адсутнічаюць займеннікі, назоўнікі, якія паказвалі б на тое, хто ўтварае дзеянне? Ці зразумелы сэнс без указання на ўтваральніка дзеяння?

СХЕМА ЖЫЦЦЯ

Робім да стомы. Цягнемся. Марым.
Век даганяем. Героямі ходзім.
Ззяем, як сонца. Чарнеем, як хмары.
Нешта губляем. Амаль не знаходзім.
Моцна кахаем. Ад шчасця заходзімся[с].
Рады, як чэрці. Як людзі, сумуем.
Сварымся. Мірымся. І разыходзімся.
Дзён не хапае. Тыдні марнуем.
Любім дзяцей. Патураем ім. Цешымся.
Радуюць дзеці. Дзеці палохаюць.
Грукне бяда — ад адчаю хоць вешайся.
Ну і наследнікі! Ахаем, охаем...

**223.** Прачытайце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Абгрунтуйце прыналежнасць тэксту да навуковага стылю.

### ЗАГАДКАВЫЯ РЫБЫ

Рыбы, пра якія пойдзе размова, адносяцца да атрада вугрападобных. У састаў гэтага атрада ўваходзяць 22 сям'і і каля 350 відаў. Цела вугроў доўгае, змеепадобнае. Перасоўваюцца яны з дапамогай моцна развітай мускулатуры цела. Скура амаль гладкая, з вельмі дробнай луской. Плаўнікі мяккія, доўгія, але нізкія, цягнуцца ўздоўж усяго цела. Гэта даволі буйныя рыбы. Цела некаторых з іх, напрыклад марскога вугра, або кангера, дасягае 3 м, а вага 65 кг.

Р..чныя вугры ў прэсных вадаёмах не размнажаюцца. На нераст яны а..праўляюцца ў гл..бокія акі..нічныя воды *(А/а)*тлантычнага *(Ц/ц)*іхага і *(І/і)*нд..йскага акі..наў. Вучоныя мяркуюць што ў гэтай доўгай даро..е вугры ары..нтуюцца па цячэ..і салёнас*(?)*ці т..мпературы хімічным саставе вады. Пасля нераст.. дарослыя вугры гінуць а з ікры выходзяць лістападобныя лічынкі лептацэфалы якія з глыбінь падымаюцца на паверхню акі..на і марскімі цячэ..ямі адносяцца да берагоў Еўропы. Там лічынкі ператвараюцца ў *(не)*в..лікіх шкляністых вугроў даўжынёй 6—10 см якія па рэках падымаюцца ва ўнутраныя вадаёмы дзе і жывуць 7—8 гадоў. Памер самак дарослага *(Е/е)*ўрапейскага вугра дасягае 2 м а самцоў *(н..)*больш за 51 см. Дарослыя вугры зноў пераадольваючы в..лікія адлеглас*(?)*ці мігрыруюць* з рэк у (*А/а*)тлантыку і *(С/с)*аргасава мора каб у іх бе*(з/с)*дані а..класці ікру *(Паводле Ф. Вароніна)*.

Спішыце другі абзац тэксту, раскрываючы дужкі, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Замяніце лічбы словамі.

Падкрэсліце дзеясловы ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу і назоўнікі ў форме множнага ліку. Прааналізуйце іх сэнсава-стылістычную ролю ў тэксце.

● Дзе ў Беларусі водзяцца вугры? Раскажыце, што вы ведаеце пра гэтых загадкавых рыб.

**224.** Параўнайце два тэксты. Вызначце тып маўлення кожнага, абгрунтуйце свой адказ, асаблівую ўвагу звярнуўшы на характэрныя моўныя сродкі.

**I.** Веснавая цёплая ноч толькі што апранула зямлю і раскідала свае таемныя чары, поўныя крыху смутнага хараства. Першыя зоры ўжо замігацелі то там, то сям у бяздонным небе, а з-за лесу залатым пажарам узнімаўся кру́гам бліскучасты месяц. Дробныя белыя хмаркі высцілалі яму дарожку сваімі лёгкімі празрыстымі тканямі і расступаліся перад ім, скупнуўшы ў яго бляску свае танкарунныя кудры. Пахла зямля, багата акропленая расою. У сяле чуліся гаворка і песні. Вясёлыя маладыя гукі смела ўразаліся ў цішыню ночы і бойка плылі за рэчку; тут яны далятаалі да высокага берага, адскоквалі назад і беглі ўздоўж яго па дузе лукі *(Паводле Я. Коласа)*.

**II.** Максім карміў сініц. Нарэзаў дробненькімі кавалачкамі сала, паклаў на далонь і выйшаў на ганак, выставіў руку[сн]. Яго маленькая радасць — эксперымент з прыручэннем[с] сініц. Дзве з іх лёталі над галавой, пераскоквалі з галінкі на галінку, піскалі гучна і весела, але бліжэй не падляталі.

Максім агледзеўся. На парозе прычыненых дзвярэй ляжаў Барон і пільна сачыў за сініцамі.

Максім прагнаў ката ў пакой, зноў застыў з працягнутай убок рукой. І вось пырхнуў на руку адзін пушысты камячок, пасля — другі. Перамога! Сініцы схапілі сала і пырхнулі на бярозу *(Паводле І. Шамякіна)*.

Паспрабуйце пераказаць спачатку першы, а потым другі тэкст. Які з іх пераказаць лягчэй? Чаму?

**225.** Запішыце, паставіўшы дзеясловы, што ў дужках, у неазначальную форму. Назавіце спосаб і сродкі сувязі сказаў у тэксце.

Мудрая прырода стварыла столькі ўсяго рознага, але не падобнага ні на што. Жыццё не хапае, каб усё гэта *(вывучыў)*, *(убачыў)*, *(спазнаў)*. І *(нівеліраваў*[*]*)*, *(знішчаў)* тое, што стварыла прырода?.. Ці не лепш[м] будзе яго *(вывучаў)*,

*(спазнаваў), (узбагачаў), (развіваў)*, яшчэ больш *(разнастайваў), (удасканальваў)*... Асабліва калі размова ідзе пра такія багацці, як мовы, культуры *(Б. Сачанка)*.

Вызначце сэнсава-стылістычную ролю займеннікаў у тэксце.

**226.** Прачытайце тэкст, вызначце тып маўлення. Словы якіх часцін мовы адыгрываюць галоўную тэкстаўтваральную ролю ў тэкстах гэтага тыпу?

Надзея Яноўская стаяла і слухала нас. Але гэта была не яна, гэта была ма́ра, лясны дух, казачная здань. Яна была ў сярэдневяковай[с] жаночай вопратцы: сукня, на якую пайшло пяцьдзесят локцяў залацістага аршанскага атласу, паверх яе другая, белая з блакітнымі, адліваючымі срэбрам разводамі і шматлікімі разрэзамі на рукавах і падоле. Стан, сціснуты ў снуроўку, быў перавіты тонкім залацістым снурам, які падаў амаль да зямлі двума кутасамі. Валасы былі ўзяты ў сетку і ўпрыгожаны старажытным жаночым уборам, які трохі нагадваў караблік, зроблены са срэбных ніцей. З абодвух рагоў гэтага карабліка звісаў да зямлі тонкі белы вэлюм.

Гэта была каралеўна-лебедзь, уладарка бурштынавага палаца... *(У. Караткевіч)*.

Выпішыце з тэксту прыметнікі — назвы колераў разам з назоўнікамі, да якіх яны адносяцца, укажыце іх род, лік, склон.

Знайдзіце ў тэксце адносныя прыметнікі, запішыце іх, указаўшы словы, ад якіх яны ўтварыліся (у з о р: *лясны* ← *лес*).

Выпішыце з тэксту складаныя прыметнікі, зрабіце іх словаўтваральны разбор.

Знайдзіце ў тэксце лічэбнікі, укажыце іх разрады паводле значэння і будовы.

Які дзеепрыметнік, ужыты ў тэксце, не адпавядае сучасным літаратурным нормам?

● Даведайцеся, якой была велічыня меры даўжыні *локаць*, і выразіце ў метрах колькасць атласу, з якога была пашыта сукня Надзеі Яноўскай.

● Выкарыстоўваючы энцыклапедыю «Этнаграфія Беларусі» (1989) або энцыклапедычны даведнік «Народная культура Беларусі» (2002), падрыхтуйце апісанне беларускага нацыянальнага жаночага (мужчынскага) касцюма.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактарызуйце вымаўленне зычных гукаў у розных становішчах (звонкі перад глухім, глухі перад звонкім, свісцячы перад шыпячым, шыпячы перад свісцячым, цвёрды перад мяккім і інш.). Прывядзіце прыклады.

2. Які стылістычны прыём называецца асанансам? алітэрацыяй? З якой мэтай яны выкарыстоўваюцца ў мастацкай літаратуры?

3. Назавіце тыпы ўзнікнення новых лексічных значэнняў слоў. Прывядзіце прыклады.

4. Як адрозніць мнагазначныя словы ад амонімаў?

5. З якой мэтай аўтары тэкстаў карыстаюцца сінанімінай?

6. Назавіце галоўную функцыю тропаў. Якія вы ведаеце тропы? На чым заснаваны стылістычны прыём антытэзы?

7. Ахарактарызуйце ролю марфем у слове.

8. Пералічыце асноўныя марфалагічныя (марфемныя) і немарфалагічныя (немарфемныя) спосабы словаўтварэння.

9. Ахарактарызуйце лексіка-граматычныя разрады назоўнікаў.

10. Якія назоўнікі маюць форму толькі адзіночнага ці толькі множнага ліку?

11. Як вызначыць род іншамоўных нескланяльных назоўнікаў? нескланяльных і скланяльных абрэвіятур?

12. Якія якасныя прыметнікі не ўтвараюць формаў ступеней параўнання? утвараюць толькі складаныя формы ступеней параўнання?

13. Як адрозніць вышэйшую ступень параўнання прыслоўяў ад вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў?

14. Пералічыце разрады займеннікаў, прывядзіце прыклады.

15. Назавіце асабовыя і асобыя формы дзеяслова. Укажыце граматычныя прыметы дзеепрыметніка і дзеепрыслоўя.

16. Пералічыце разрады злучнікаў паводле саставу, ужывання, значэння.

17. Ахарактарызуйце адрозненні ва ўжыванні часціц ***не*** і ***ні***.

**227.** Прачытайце тэкст. Спішыце яго, падзяляючы на абзацы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі.

СЯЎБА

Сяўба з*(?)*яўлялася бадай што найважнейшай часткай народнага кал..ндара, вакол якой склаўся комплекс традыцыйных аграрных ведаў, назіра..яў, прыкмет, прымавак, прыказак, абрадавых дзея..яў, верава..яў. У дзень сяўбы ў с..лянскай хаце па*(д/т)*трымліваўся ўзорны парадак. Хата і ніва ва ўяўле..і с..ляніна ўспрымаліся як двуадзіная іпастась, па аналогіі і пасевы павінны быць чыстымі. Той жа ідэ.. быў па..парадкаваны і рытуальны звычай мыцца перад сяўбой і апранаць чыстае адзе..е. А*(д/т)*кры..ё сяўбы — засеўкі — праводзілі а*(д/т)*борным насе..ем, якое змешвалі з зернем, выбраным з зажыннага снапа, *(з/с)*жатага мінулым летам, ці в..нка, *(з/с)*вітага пасля заканчэ..я жніва — дажынак. Пасля зас..вання некалькіх загонаў с..ляніна чакаў с*(?)*вяточны стол, да якога запрашалі памочнікаў, сваякоў, суседзяў. Лічылася, чым больш шчодры пачастунак з нагоды засевак, тым багацейшы будзе ўраджай. Сейбіт часам працаваў у пол.. з с..керай за поясам, «каб хлеб урадзіўся такім, што яго пры*(?)*шлося б *(з/с)*сякаць с..керай». Вядомы прымхі, што лён вырас*(?)*це высокім, калі яго пасее самы высокі чалавек у вёсцы; лён будзе доўгім і валакністым, калі яго пасее дз..ўчына з ра*(з/с)*плеценымі косамі. Падобныя павер*(?)*і выступалі ў большай ступені як сюжэтная аснова абрад.., які набліжаўся да тэатралізаванага відовішча *(Паводле В. Цітова)*.

● Назавіце вядомыя вам прыказкі, прымаўкі, народныя прыкметы, звязаныя з сяўбой. Якія рысы характару беларусаў знайшлі ў іх адбітак? (Пры неабходнасці выкарыстайце кнігу «Пераначуеш — больш пачуеш: прыказкі і прымаўкі для дарослых і школьнікаў, для разумных і шкоднікаў», 2002.)

Выпішыце з тэксту прыметнікі, ужытыя ў форме ступеней параўнання, укажыце іх форму (простая/складаная) і ступень параўнання (вышэйшая/найвышэйшая).

Падкрэсліце прыметнікі, якія выконваюць у сказах функцыю выказніка (уваходзяць у склад выказніка).

Выпішыце з тэксту па адным якасным і адносным прыметніку, выканайце іх марфалагічны разбор.

Знайдзіце ў тэксце роднасныя словы да слова *сяўба*, зрабіце іх марфемны разбор. Праверце правільнасць выканання задання па «Школьным марфемным слоўніку беларускай мовы» Бардовіча А. М., Мормыш Л. С., Шакуна Л. М. (2006).

**228.** Прачытайце тэкст, вусна пракаменціруйце правапіс слоў, у якіх неабходна ўставіць прапушчаныя літары і раскрыць дужкі.

## З ГІСТОРЫІ НАРОДНАГА ТАНЦА

Узнікне..е народных танцаў звязана з народнымі абрадамі (цэйлонскі танец агн.., нарве..скі танец з факеламі, славянскія карагоды, звязаныя з завіваннем бяро..кі, пляценнем вянкоў, запальваннем кастроў). Паступова танцы атрымлівалі новы змест, які адлюстроўваў асаблівасці побыт.. . Народы, якія займаліся палява..ем, жывёла*(?)*гадоўляй, вобразна і выразна ў танцах перадавалі характ..р і звычкі зв..роў, птушак, хатніх жывёл: танец бізона ў паўночна*(?)*амерыканскіх інд..йцаў, яку..кі танец м..дзведзя, ру..кія — «Журавель», «Гусачок», нарве..скі — бой пеўняў. У танцах знайшлі адбітак рухі і прыёмы пры выкана..і рознай с..лянскай працы: латы..скі танец жн..цоў, гуцульскі — др..васекаў, эстонскі — шаўцоў, белару..кія — «Л..нок», «Таўкачыкі», узбе..скі — «Пахта», або «Бавоўна». З узнікне..ем рамеснай і фабрычнай працы з’явіліся і новыя народныя танцы: украінскі «Бондар», н..мецкі танец шкл..выдзімальшчыкаў і інш.

Многія танцы выконваюцца пад акампан..мент народнага інструмент.., які танцоўшчык трымае ў руках (кастаньеты, тамбурын, гармонік, балалайка). *(Н..)*каторыя народныя танцы выконваюцца з бытавымі аксесуарамі (хустка, кап..люш, піяла) *(Паводле Ю. Чурко)*.

Якая культуразнаўчая інфармацыя зашыфравана ў народных танцах?

● Назавіце вядомыя вам беларускія народныя танцы. Якія з іх атрымалі назвы паводле асабовых імёнаў? Якую інфармацыю змяшчаюць у сабе назвы беларускіх танцаў «Трасуха», «Крутуха»?

● Якія народы выкарыстоўваюць у танцах гармонік, балалайку, кастаньеты (дзве драўляныя пласцінкі, якімі рытмічна пастукваюць, надзеўшы на пальцы), тамбурын (род бубна, разнавіднасць барабана)?

Знайдзіце ў тэксце прыклады пераходу агульных назоўнікаў ва ўласныя, адушаўлёных у неадушаўлёныя.

Выпішыце з тэксту абстрактныя назоўнікі. Ад слоў якіх часцін мовы яны ўтварыліся? Праверце правільнасць адказу па «Школьным словаўтваральным слоўніку беларускай мовы» Бардовіча А. М., Кругалевіча М. М., Лукашанца А. А. (2006).

● Падрыхтуйце вуснае апісанне аднаго з танцаў народаў свету.

**229.** Прачытайце тэкст, устаўляючы замест шматкроп'яў словы — назвы нацыянальных сімвалаў Беларусі. Якія творы цытуюцца ў тэксце? Назавіце іх аўтараў.

НАШЫ СІМВАЛЫ

Нашы сімвалы — гэта Сафійскі сабор у Полацку, Навагрудак, слынная рака Нёман, якая пачынаецца з нашых чыстых крыніц, блакітных азёр, шапаткіх дажджоў, з нашай расы́. А яшчэ сімвалам Беларусі з'яўляецца наша гістарычная рака ..., вядомая спакон веку. Мы, няўдзячныя, пазбавілі яе сонца, травы, ветру. Мы загналі яе ў трубы. А гэту раку-вязня помняць стагоддзі, на ёй ваявалі, за яе паміралі нашы дзедзічы. Памятаеце: «На ... снапы сцелюць галовамі».

Сярод жывёл сімвалам Беларусі, вядома ж, з'яўляецца магутны цар беларускіх лясоў, гаспадар Белавежскай пушчы, яго вялікасць ... .

Сярод птушак сімвал Беларусі — наш ... . «Зямля пад белымі крыламі» — гэта пад яго крыламі. Гэтыя птушкі любяць нашы дрэвы і хаты — і на тых, і на другіх бацяны ладзяць свае гнёзды. Мы верым: яны ратуюць нашы хаты ад маланак і перуноў.

З раслін беларускім сімвалам стаў ... . Сінявокі, як і мы, беларусы, як і нашы азёры. Памятаеце: «Тчэ, забыўшыся, рука заміж персідскага ўзора цвяток радзімы ...».

А міфалагічным сімвалам Беларусі была ёсць і застаецца *(на)*заўсёды ... сн. Ужо тысячаго..дзямі мы перакон-

ваем с..бе што адзін раз на год у ноч на *(К/к)*упалле гэтая *(н..)*вельмі самавітая расліна зацв..тае прыгожаю і агністаю кветкаю якая асв..тляе ўвесь л..сны гушчар. Лічылася што той хто а*(д/т)*шукае і сарве тую кветку зробіцца празарліўцам ён пачне разумець гаворку дрэў травы птушак зв..роў і з..мля яму тады а*(д/т)*крые ўсе свае скарбы *(Паводле Я. Сіпакова)*.

Спішыце апошні абзац тэксту, апускаючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку.

Падкрэсліце займеннікі, укажыце іх разрады. Займеннікі якіх разрадаў пераважаюць у тэксце? Чым гэта тлумачыцца?

● Назавіце вядомыя вам беларускія нацыянальныя сімвалы. Пракаменціруйце наступнае выказванне: «Толькі чалавек, які авалодаў культурнымі каштоўнасцямі нацыі, узнагароджваецца здольнасцю карыстацца сімваламі, веданне якіх вызначае ўзровень авалодання культурай» (В. Маслава).

# СЛОВАЗЛУЧЭННЕ І СКАЗ У ТЭКСЦЕ

## § 32. Словазлучэнне

**Словазлучэнне** — сэнсавае і граматычнае адзінства, утворанае на аснове падпарадкавальнай сувязі двух ці больш самастойных слоў (кампанентаў). Словазлучэнне служыць для больш дакладнага называння прадметаў, дзеянняў, іх прымет. Сэнсавая сувязь слоў у словазлучэнні ўстанаўліваецца з дапамогай пытанняў. Граматычная сувязь слоў у словазлучэнні выражаецца з дапамогай канчаткаў і прыназоўнікаў: *дасканалая праца, гатаваць вячэру, слухаць зацікаўлена, празмерна пасіўны*.

Падпарадкавальная сувязь рэалізуецца пры аб'яднанні галоўнага і залежнага слоў у словазлучэнне. Вылучаюць тры віды падпарадкавальнай сувязі слоў у словазлучэнні: д а п а с а в а н н е, к і р а в а н н е і п р ы м ы к а н н е.

**Дапасаванне** — від падпарадкавальнай сувязі, пры якой залежнае слова набывае граматычныя формы, уласцівыя галоўнаму: *апошнія паведамленні, у навуковым часопісе, горад Віцебск, пяццю дубамі*. Сродкам граматычнай сувязі пры дапасаванні з'яўляюцца канчаткі: *моцн[ай] дзяржав[е], моцн[ай] дзяржав[ай]*.

**Кіраванне** — від падпарадкавальнай сувязі, пры якой галоўнае слова патрабуе ўжывання залежнага слова ў форме пэўнага ўскоснага склону: *прыехаць на вакзал, адысці ад вакзала*. Сродкамі граматычнай сувязі пры кіраванні з'яўляюцца прыназоўнікі, канчаткі: *адпачываць **у** парк[у], любавацца парк[ам], хадзіць **праз** парк[ ]*.

**Прымыканне** — від падпарадкавальнай сувязі, пры якой залежнае слова звязваецца з галоўным толькі па сэнсе. Прымыкаюць нязменныя словы — прыслоўе, дзеепрыслоўе, інфінітыў: *спяваць па-беларуску, ісці напя-*

*ваючы, жаданне спяваць*. Сродак афармлення граматычнай сувязі ў прымыканні — лексічнае і граматычнае значэнні слоў.

Канкрэтная характарыстыка словазлучэння магчыма толькі ў сказе, у кантэксце. Пры вызначэнні сэнсавых адносін паміж словамі ў словазлучэннях трэба памятаць, што іх характар абумоўлены пераважна лексічным значэннем залежнага слова. Напрыклад: *прыйсці раніцай* (часавыя адносіны), *прыйсці полем* (прасторавыя), *прыйсці пехатой* (спосаб дзеяння), *прыйсці па маці* (мэта дзеяння), *прыйсці з дзецьмі* (сумеснасць дзеяння).

Не з'яўляюцца словазлучэннямі:

1) спалучэнне дзейніка і выказніка: *і надыдзе вясна*;

2) складаныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў: *больш выразны, менш складана*;

3) аднародныя члены сказа, паколькі яны называюць сінтаксічна раўнапраўныя паняцці і выконваюць ролю аднаго члена сказа: *Я люблю, Мінск, твае плошчы і скверы*;

4) складаныя формы будучага часу, формы ўмоўнага і загаднага ладу: *будзем сябраваць, няхай прыязджаюць*;

5) спалучэнні службовых і самастойных слоў: *нягледзячы на развітанне, побач з дарогай, у нябёсах*;

6) састаўныя лічэбнікі: *дзвесце семдзесят восем.*

**230.** Прачытайце сказы, выпішыце з іх словазлучэнні «дзеяслоў + + прыназоўнік + назоўнік у вінавальным склоне». Вызначце від сэнсавых адносін паміж галоўным і залежным словамі: прасторавыя, прычынныя, аб'ектныя, мэтавыя, часавыя, колькасныя, азначальныя, акалічнасныя, азначальна-акалічнасныя.

1. Мы б маглі заўтра паехаць у Ждановічы. 2. Я адзін выходжу на дарогу *(П. Глебка)*. 3. Усё злівалася ў адзіны суцэльны вузел уражанняў... *(Я. Колас)*. 4. У поўдзень рабілі перапынак *(Я. Маўр)*. 5. Пад смех[ф] усяго класа Данік садзіцца і пачынае маляваць *(Я. Брыль)*. 6. Дружба іх цягнулася з год. 7. Нарэшце сонца ўжо зайшло на чвэрць *(П. Глебка)*. 8. Я з горада еду дамоў на спачын *(П. Глебка)*. 9. А вось на другую зіму ён *праз смеласць*[ф] сваю і загінуў *(Я. Брыль)*.

**231.** Разгледзьце і дапоўніце схему, выкарыстоўваючы інфармацыю, прыведзеную ў папярэднім параграфе. Падрыхтуйце разгорнутае паведамленне на тэму «Словазлучэнне. Віды, спосабы і сродкі граматычнай сувязі ў словазлучэнні».

| Асноўныя спосабы граматычнай сувязі | Прыметы | Віды сувязі | Сродкі граматычнай сувязі |
|---|---|---|---|
| Падпарадкавальная | Наяўнасць галоўнага і залежнага слоў | Дапасаванне | |
| | | Прымыканне | |
| | | Кіраванне | |
| Злучальная | Наяўнасць слоў, якія адказваюць на адно пытанне, адносяцца да аднаго слова, з'яўляюцца адным членам сказа | Раўназначнасць сінтаксічнай ролі | Спалучальныя, супастаўляльныя, размеркавальныя злучнікі, інтанацыя |

**232.** Прачытайце. Вызначце тэму, сфармулюйце асноўную думку тэксту.

Выпішыце словазлучэнні з рознымі спосабамі і відамі граматычнай сувязі, а таксама прыклады спалучэнняў слоў, што не з'яўляюцца словазлучэннямі.

Растлумачце правапіс прапушчаных літар і пастаноўку знакаў прыпынку.

Мікалай стаяў і як зачарава..ы глядзеў на траву, і да яго нібы а..некуль здалёку-здалёку даходзіла, што кож-

ная травінка — гэта заўсёды кветка, якою трэба любавацца, якую трэба шанаваць.

Вунь трымціць мятлік. Кветачкі такія далікатныя-далікатныя. ..далёку не разгледз..ць, ды і зблізу таксама. А як многа іх — нібы пылок, нібы дымок, якi вісіць над травою.

Рамонкі. Вялікія, чыстыя, лупатыя. Цэлы букет стаіць, толькі без вазы. Але ў вазе, відаць, іх не ра..тавіць — што ніжэй, што вышэй...

А вось расце зв..рабой. Трава ад сямі хвароб. Лісточкі прадаўгаватыя, сім..трычныя — у той бок і ў гэты. Яны падобныя на зялёныя бочачкі, нават палосы, як клёпкі, лінуюцца па іх. Кветкі жоўтыя, ледзь не аранжавыя, як усё роўна яны гл..дзяцца ў сонца. Спачатку здаецца, што пялёсткі брудныя, у нейкіх крапінках, а пасля заўважаеш, што крапінкі не на п..лёстках, а на тычынках. І пахнуць *(Паводле Я. Сіпакова)*.

● Складзіце тэкст-апісанне (7—8 сказаў) сваёй любімай кветкі (расліны, дрэва). Запішыце.

**233.** Разгледзьце табліцу. Раскажыце, у якіх словазлучэннях праяўляецца адметнасць кіравання ў беларускай мове ў параўнанні з рускай. Складзіце і запішыце 7—8 сказаў, уключыўшы ў іх спецыфічныя для беларускай мовы словазлучэнні з кіраваннем.

!

**Асаблівасці кіравання**
**ў беларускай мове ў параўнанні з рускай**

| Беларуская мова | | Руская мова | |
|---|---|---|---|
| беспрыназоўнікавае | | | |
| *адцурацца*<br>*выракацца*<br>*зрачыся*<br>*пазбавіцца*<br>*пазбыцца*<br>*сцерагчыся*<br>*унікаць* | **Р. скл.**<br>каго/чаго | отрекаться<br>избавляться<br>беречься<br>избегать | *от* кого/чего<br><br>кого/чего |

| Беларуская мова | | Руская мова | |
|---|---|---|---|
| беспрыназоўнікавае | | | |
| *дагледаць*<br>*перапрашаць* | **В. скл.**<br>каго/што | ухаживать<br>извиняться | *за* кем/чем<br>*перед* кем |
| ***думаць сам сабе***<br>***чытаць сам сабе***<br>***гаварыць сам сабе***<br>***смяяцца сам сабе*** | | *думать про себя*<br>*читать про себя*<br>*говорить про себя*<br>*смеяться про себя* | |
| *выбачаць*<br>*дараваць*<br>*прабачаць*<br>*(па)дзякаваць* | **Д. скл.**<br>каму | простить<br>(по)благода-<br>рить | **Р. пад.**<br>кого |
| прыназоўнікавае | | | |
| *падобны* | **Р. скл.**<br>да каго/чаго | похожий | **В. пад.**<br>*на* кого/что |
| *глуміцца*<br>*жартаваць*<br>*здзекавацца*<br>*зларадніцаць*<br>*кпіць* | з каго/чаго | глумиться<br>шутить<br>издеваться<br>злорадство-<br>вать | **Т. пад.**<br>*над* кем/чем |
| *насміхацца*<br>*пакепліваць*<br>*смяяцца*<br>*цешыцца*<br>*дзівіцца* | з каго/чаго | насмехаться<br>подтрунивать<br>смеяться<br>радоваться<br>удивляться | **Т. пад.**<br>*над* кем/чем<br><br>**Д. пад.**<br>кому/чему |
| *заляцацца* | да каго | ухаживать | **Т. пад.**<br>*за* кем |
| *(за)хварэць*<br>*хворы* | **В. скл.**<br>на што | (за)болеть<br>болен | **Т. пад.**<br>чем |
| *гаварыць*<br>*ведаць*<br>*дбаць* | пра каго/<br>што | говорить<br>знать<br>беспокоиться | **П. пад.**<br>*о* ком/чем |

| Беларуская мова | | Руская мова | |
|---|---|---|---|
| п р ы н а з о ў н і к а в а е | | | |
| *думаць*<br>*казаць*<br>*клапаціцца*<br>*успамінаць*<br>*нагадаць* | | думать<br>говорить<br>заботиться<br>вспоминать<br>напоминать | |
| **В. скл.**<br>***звярнуцца на адрас***<br><br>***гаварыць на карысць***<br><br>***некалькі разоў на тыдзень***<br><br>***спатыкацца на <камень>*** | | **Д. пад.**<br>*обратиться* **по** *адресу*<br>**В. пад.**<br>*говорить* **в** *пользу*<br>**В. пад.**<br>*несколько раз* **в** *неделю*<br>**В. пад.**<br>*споткнуться* **о** *<камень>* | |
| <br>*(а)жаніцца*<br><br>*(с)пазнацца* | **Т. скл.**<br>з кім<br><br>з чым | <br>жениться<br><br>испытать | **П. пад.**<br>*на* ком<br>**В. пад.**<br>что |

**234.** Прачытайце развагі мастака Міколы Купавы пра ролю мовы ў грамадстве. Наколькі блізкія вам гэтыя разважанні?

Выпішыце з тэксту словазлучэнні, у якіх галоўным або залежным з'яўляецца слова *мова*.

Афарміце пісьмова свае разважанні на тэму «Роля мовы ў жыцці грамадства». Раскажыце пра сэнсава-стылістычную ролю і тэкстаўтваральныя магчымасці выпісаных словазлучэнняў пры разгортванні тэмы, афармленні звязнага выказвання.

Родная мова — гэта яшчэ і сродак культуры. На роднай мове павінны працаваць школа, універсітэт. Гэта элементарная ўмова развіцця народа.

У маёй творчасці мова займае важнае месца, бо ўжо склалася пэўнае разуменне яе ролі і месца ў нацыянальнай культуры, у нашым мастацтве, што і прымусіла мяне ак-

тыўна сцвярджаць гэтую ўзаемасувязь сродкамі выяўленчага мастацтва.

Праблему мовы як асноўную ў сістэме дзяржаўнага будаўніцтва я вылучаю ў асобную, прынамсі, для сябе. Мова ў побыце, у культуры наогул і ў мастацтве ў прыватнасці, а таксама ў палітыцы, у школе бачыцца як адзіная жыццядзейная сістэма, як адзіны арганізм, адзіны мацярык беларускасці. Я не магу падзяліць гэтыя сферы функцыянавання мовы або аддаць перавагу нейкай адной. Толькі паўнакроўнае бытаванне мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця надае моцы і велічы народнаму духу, стварае гістарычную перспектыву народу, з'яўляецца моцным гарантам яго жыццяздольнасці і вечнасці.

- Запішыце тры першыя сказы. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.
- Выпішыце з тэксту складаныя словы, растлумачце іх правапіс.
- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

Словазлучэнні могуць уступаць у **сінанімічныя адносіны**. Сінанімічныя канструкцыі пры агульным блізкім значэнні маюць, як правіла, сэнсавыя і стылістычныя асаблівасці. Напрыклад, канструкцыі з прыназоўнікамі ***між***, ***паміж*** з родным (радзей — з творным) склонам служаць для абазначэння месца дзеяння або знаходжання каго-, чаго-небудзь у прасторы, абмежаванай з розных бакоў прадметамі: *праехаць* ***між*** *поля і лугу, сядзець* ***паміж*** *акном і сталом, стаяць* ***між*** *дрэў, знікнуць* ***між*** *дубоў, хадзіць* ***паміж*** *бяроз і кустоў*.

Канструкцыі з прыназоўнікам ***сярод*** у спалучэнні з родным склонам назоўніка служаць для абазначэння месца пасярэдзіне чаго-небудзь або ў акружэнні многіх прадметаў: *стаяць* ***сярод*** *плошчы, спыніцца* ***сярод*** *лесу, убачыць* ***сярод*** *хлопцаў*.

**235.** Падбярыце і запішыце да прыведзеных словазлучэнняў сінанімічныя.

Знікнуць **у тумане**, жыць **у згодзе**, вярнуцца **па вясне**, пачацца а трэцяй гадзіне, стаяць **пры дарозе**, разважаць **аб**

**жыцці**, працаваць цэлыя дні, сустрэць месяц таму назад, **міласэрны** да хворых, чорны **ад дыму**, **адкрыты** з сябрамі, **слізкі пры ўваходзе**, розныя **па адценнях**, аднолькавыя **па маштабах**, ісці **да возера**, выбірацца **праз балота**, плакаць **з гора**.

Растлумачце правілы напісання выдзеленых слоў.

**236.** Прачытайце верш. Ці згодны вы з аўтарам у тым, што «свет ніколі не бывае шэрым»? Дакажыце, што «свет бывае сумны і вясёлы» шляхам падбору назваў колераў, якімі расквечана наша жыццё. Свае меркаванні запішыце.

Свет ніколі не бывае шэрым,
а бывае шэрым наш настрой,
калі ў радасць часам не павер..м,
як не вер..м хмар.. даж..авой,
што сплыла капрызнымі шляхамі
над сасмягла-пыльнымі палямі.

Не бывае шэрым свет ніколі.
Шэрыя даж..ы ідуць парой,
шэры вецер прал..ціць над пол..м,
шэры позірк стрэн..цца з табой,
думкі шэрыя, бывае, запалон..ць —
шэрым попелам жывы агонь заслон..ць.

Свет бывае сумны і вясёлы,
толькі шэрым свет не назаву,
дзе з людз..мі дз..люся хлебам-со..ю,
дзе між дрэў даверлівых жыву,
дзе святло азёры шлюць і рэкі,
прыпадняўшы берагі-павекі.

*В. Ярац*

● Растлумачце правапіс прапушчаных літар і пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце. Зрабіце сінтаксічны разбор першага або апошняга сказа.

**237.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту і абгрунтуйце сваю думку. Пісьмова адкажыце на пытанні:

1. Што ёсць колер у навуковым разуменні?
2. Якія колеры адносяцца да ахраматычных, якія — да храматычных?
3. Назавіце асноўныя характарыстыкі колеру.
4. У чым заключаецца тэорыя колернасці?

Што такое колер у навуковым разуменні? Колер — уласцівасць прадметаў і з'яў, якая ацэньваецца[сл] зрокам чалавека. Звычайна колеры характарызуюць афарбоўку прадмета. Успрыманне колеру абумоўлена рэакцыяй святлоадчувальных[сл] элементаў вока на святло розных даўжынь хваляў і інтэнсіўнасцей. Сігналы ад прадмета паступаюць у цэнтральную нервовую сістэму і ўспрымаюцца[с] з улікам раней атрыманай інфармацыі, што зберагаецца ў памяці чалавека.

Колеры падзяляюцца на ахраматычныя (чорны, белы, шэры) і храматычныя (усе астатнія). Характарызуюцца колеры насычанасцю, яркасцю, тонам, чысцінёй.

Існуе тэорыя колернасці, якая вызначае залежнасць паміж хімічнай будовай рэчыва і яго колерам. Прычына афарбоўкі прадмета заключаецца ў выбіральным паглынанні ім часткі прамянёў з усяго светлавога патоку. Прадмет мы бачым белым, калі ён аднолькава адбівае ўсе прамяні бачнага спектра, чорным — калі цалкам паглынае іх, шэрым — калі аднолькава, але не поўнасцю паглынае ўсе прамяні, каляровым — калі паглынае толькі некаторыя з іх. Напрыклад, жоўты прадмет паглынае сінія прамяні, чырвоны — сіне-зялёныя, аранжавы — зеленавата-сінія. Паглынанне святла — вынік узаемадзеяння часціц святла з электронамі рэчыва *(А. Акуленка, Г. Вештарт)*.

● Растлумачце пастаноўку працяжнікаў у тэксце.

**238.** Складзіце слоўнік назваў ахраматычных колераў і асноўных колераў спектра. Пры неабходнасці карыстайцеся тлумачальным слоўнікам.

**239.** Прачытайце верш. Якая роля слоў з колераабазначальнай семантыкай у тэксце? Чаму снег у паэта featureзнакаляровы — сіні, ружовы, чорны, чырвоны, іскрысты і светлы? Які колер снегу «сапраўдны», на вашу думку?

КОЛЕР СНЕГУ

Нічога больш featureзнакалёрнага,
як узмяцелены снег,
я не знаю.
Які ён быў сіні,
калі замярзаў я
у пакоі настылым
ці, беспрытульны, на вуліцы!
Які быў ружовы,
калі я страсаў яго з плеч
той, што прыносіла шчасце!
Які ён быў чорны,
калі замятаў
след расставання з радзімай!
Які быў чырвоны
на брустверах нашых акопаў!
Які быў іскрысты і светлы,
калі яго дзеці
прыносілі мне ў падарунак!
Вось так і не знаю,
які колер снегу
сапраўдны.

*М. Танк*

- Зрабіце пісьмовы сінтаксічны разбор апошняга сказа тэксту.
- Выпішыце дзеепрыметнікі, зрабіце іх марфалагічны разбор.

**240.** Ці згодны вы з аўтарам, што белы, чорны і чырвоны колеры былі «першымі вылучанымі і асэнсаванымі»? Якія колеры, на вашу думку, выступаюць першаснымі, асновавызначальнымі? Чаму?

...Кажуць, першымі вылучанымі і асэнсаванымі колерамі ў чалавецтва былі белы (дзень), чорны (ноч) і чырвоны

(кроў). Менавіта такія плямы, рысы маляваліся і спляталіся ў першых **сакральных*** рытуалах.

Пазней да тых колераў далучыўся блакітны, ён жа сіні. Як знак Неба. І — мужчыны. (Помню блакітныя стужкі вакол коўдрачкі **немаўляці**-сына... Той крухмальны белы **кокан** Будучыні...)

Самога Хрыста, Сына Божага, мастакі апраналі, акрамя белых, у блакітныя **строі**. А накідку зверху меў чырвоную: нябесны Дух, загорнуты ў зямную матэрыю. І золата вакол галавы. Божая Маці, наадварот, традыцыйна выяўлялася ў чырвоным убранні і накідцы сіняга колеру: зямная жанчына, ахінутая ўвагай нябёсаў, **абранніца** *(Л. Сільнова)*.

Запішыце апошні сказ тэксту. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў ім і лексічнае значэнне выдзеленых слоў.

**241.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Запішыце.

Красота — это радость нашей жизни. Человек стал человеком потому, что увидел глубину лазурного неба, розовый разлив вечерней зари, багровый закат перед ветреным днем, синие тени в сугробах мартовского снега, журавлиную стаю в высоком небе, отражение солнца в мириадах капель утренней росы, серые нити дождя в пасмурный осенний день, фиолетовое облачко на сиреневом кусте, нежный стебелек и голубой колокольчик подснежника. Увидел и, изумленный, пошел по земле, создавая новую красоту. Остановись и ты в изумлении перед красотой, и в твоем сердце расцветет благородство *(По В. Сухомлинскому)*.

Зрабіце сінтаксічны разбор простых сказаў.

## § 33. Сказ як цэласная сінтаксічная адзінка

**Сказ** — сінтаксічная адзінка, арганізаваная сэнсава, інтанацыйна і граматычна, якая дапамагае аформіць, выказаць і перадаць думку. Сказ адрозніваецца ад слова, словазлучэння функцыямі — прызначэннем, роляй у мове.

Сказу ўласцівыя наступныя ф у н к ц ы і:

1) **камунікатыўная** — галоўная функцыя сказа, якая рэалізуецца ў зносінах паміж людзьмі ў працэсе абмену думкамі;

2) **інфармацыйная** функцыя азначае, што ў працэсе зносін перадаецца пэўная інфармацыя;

3) функцыя **ўздзеяння** рэалізуецца праз выражэнне волевыяўлення, пачуццяў, эмоцый таго, хто гаворыць *(Ну і характар у яго!)*;

4) **назыўная** функцыя заключаецца ў тым, што сказ, у адрозненне ад слова і словазлучэння, называе не асобны прадмет ці з'яву, а падзею, сітуацыю, факт;

5) **тэкстаўтваральная** функцыя заключаецца ў здольнасці сказа ўдзельнічаць у арганізацыі тэксту, яго структурна-сэнсавых частак. Сказ выступае камунікатыўным цэнтрам, які вызначае тэму, аб'ём тэксту.

А с н о ў н ы я п р ы м е т ы сказа наступныя:

- сэнсавая завершанасць;
- інтанацыйная завершанасць;
- граматычная аформленасць;
- прэдыкатыўнасць — суаднесенасць зместу сказа з рэчаіснасцю. Гэта азначае, што падзеі, факты, пра якія паведамляецца, існуюць (існавалі, будуць існаваць) як рэальныя, магчымыя або пажаданыя. Напрыклад: *Мы жывём у Рэспубліцы Беларусь. Паэт яшчэ напіша цудоўныя вершы пра родную зямлю. Схадзіў бы ты, сынку, да бабулі, праведаў яе.*

**242.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль.

Просты сказ — сінтаксічная адзінка, якая прызначана для паведамлення і мае адпаведную граматычную, семантычную і камунікатыўную арганізацыю. Так, просты сказ *Госці прыехалі*ф складаецца з адной прэдыкатыўнай асновы, у якую ўваходзяць дзейнік і выказнік, кожны з якіх валодае здольнасцю да разгортвання (параўнаем: *Нашы госці прыехалі сёння*).

Структурную аснову простага сказа, якая ўтворана галоўнымі членамі, часта развіваюць[м] даданыя члены. У залежнасці ад наяўнасці ў сказе даданых членаў вылучаюцца **неразвітыя** і **развітыя сказы.** Неразвітыя сказы складаюцца толькі з галоўных членаў (аднаго ці двух): *Світае. Кружыцца снег. Шумяць дрэвы* (З. Бядуля). У развітых сказах галоўныя члены паясняюцца даданымі: *Хутка світае. Кружыцца бялюткі снег. Шумяць задуменныя дрэвы.*

Паводле адносін зместу да рэчаіснасці вылучаюцца **сцвярджальныя** і **адмоўныя сказы.** У сцвярджальных сказах адзначаецца наяўнасць або магчымасць[м] розных з’яў і падзей: *Шумяць у полі каласы* (П. Прыходзька). У адмоўных сказах гэтая наяўнасць адмаўляецца. Для афармлення адмаўлення ўжываюцца часціцы ***не, ні*** і слова *няма*: ***Не*** *спяваюць у полі дзяўчаты* (М. Машара). *На небе* ***ні*** *хмурынкі.* ***Няма*** *перашкод для вялікіх ідэй* (М. Хведаровіч). У сказах без адмоўнай часціцы адмаўленне можа выражацца парадкам слоў і інтанацыяй: *Так я і пайшоў!* (у сэнсе «не пайду»); *Дзе ж нам спрачацца з вамі!* (у сэнсе «нельга спрачацца») і г. д.

Простыя сказы актыўна выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях сучаснай беларускай мовы, бо з’яўляюцца адной з асноўных сінтаксічных адзінак, пры дапамозе якіх адбываецца абмен думкамі паміж людзьмі. Дзякуючы рознай форме і значэнню, простыя сказы валодаюць багатымі выяўленчымі магчымасцямі *(Паводле Л. Бурака).*

Пісьмова адкажыце на пытанні. Кожны адказ падмацоўвайце прыкладамі.

1. Які сказ называецца простым?
2. Як падзяляюцца сказы ў залежнасці ад наяўнасці ў іх даданых членаў?
3. На якія групы падзяляюцца простыя сказы паводле адносін зместу да рэчаіснасці?
4. Чаму простыя сказы актыўна ўжываюцца ва ўсіх стылях сучаснай беларускай мовы?

**243.** Прачытайце.

## Парадак сінтаксічнага разбору простага сказа

1. Від сказа паводле мэты выказвання: *апавядальны, пытальны, пабуджальны*.

2. Від сказа паводле эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі: *клічны, няклічны*.

3. Від сказа паводле характару адносін да рэчаіснасці: *сцвярджальны, адмоўны*.

4. Від сказа паводле структурнай абавязковасці членаў сказа: *поўны, няпоўны*.

5. Від сказа паводле наяўнасці аднаго або двух галоўных членаў: *аднасаста́ўны, двухсаста́ўны*.

6. Від сказа паводле наяўнасці даданых членаў сказа: *развíты, неразвíты*.

7. Від сказа паводле наяўнасці ўскладняльных канструкцый: *ускладнены, няўскладнены*.

8. Характарыстыка граматычнай асновы.

9. Графічны разбор сказа.

Узор. *Адшумелі свой час неспакойныя, трывожныя вятры.*

*Сказ просты, апавядальны, няклічны, сцвярджальны, поўны, двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі азначэннямі.*

*Граматычная аснова: дзейнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне; выказнік просты, дзеяслоўны, выражаны дзеясловам у форме прошлага часу, множнага ліку, абвеснага ладу.*

**244.** З прапанаваных тэкстаў выпішыце простыя сказы, зрабіце іх пісьмовы сінтаксічны разбор. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэкстах.

**I.** З глыбіні лесу яркімі чырвонымі ягадамі зырка свяціла[ф] каліна. Над дарогай звісалі тонкія, пазгіналыя[м] зімою ад снегу, што ўжо і раслі гэтак, не ўстаючы, маладыя дубкі. Чорная, з вострым вяршком яблыня густа наслала пад сабою лісца, хаваючы[с] дробныя пахучыя яблыкі, што асыпаліся ў першыя замаразкі[ф] *(В. Адамчык)*.

**II.** Зіма была побач, і аднойчы яна навалілася на зямлю снегавым покрывам. Раніцаю зацярушанае[с] снегам ласяня стрэсла яго з хрыбта і лёгкім крокам падалося карміцца. Снежны дыван быў быццам вытканы[м] ўзорамі-слядамі рознай лясной жыўнасці: дробная мышыная вязь перапляталася з адбіткамі[ф] задніх заечых[ф] ног, кіпцюрыстымі ямачкамі ад ласкі *(Д. Нічыпаровіч)*.

## § 34. Двухсастаўныя і аднасастаўныя сказы. Няпоўныя сказы, іх сэнсава-стылістычная роля

Простыя сказы паводле наяўнасці аднаго ці двух галоўных членаў падзяляюцца на двухсастаўныя і аднасастаўныя.

**Двухсастаўны сказ** — гэта сказ, граматычная аснова якога складаецца з двух галоўных членаў сказа — дзейніка і выказніка: *Няхай у ясным небе цішыня заўсёды застаецца!* (С. Грахоўскі).

**У няпоўным двухсастаўным сказе** дзейнік або/і выказнік могуць адсутнічаць, але пры гэтым лёгка падказваюцца кантэкстам або маўленчай сітуацыяй. Напрыклад: *Ранні пар любіць пшанічку, а позні — мятлічку* (Прыказка). — *Ранні пар любіць пшанічку, а позні (пар любіць) — мятлічку.*

Дзейнік і выказнік у беларускай мове маюць розныя спосабы выражэння. Традыцыйна адрозніваюць наступныя асноўныя т ы п ы  в ы к а з н і к а ў:

1) **просты дзеяслоўны:** *Зорка Венера ўзышла над зямлёю, светлыя згадкі з сабой прывяла* (М. Багдановіч).

Просты дзеяслоўны выказнік можа быць ускладнены: *Снег сыпаў і сыпаў. Ён схадзіў прынёс сшытак*;

2) **састаўны дзеяслоўны,** які складаецца з дзеяслова-звязкі (*пачаць, стаць, заканчвацца, хацець, жадаць, магчы, умець* і інш.) і неазначальнай формы дзеяслова, што

выражае асноўнае лексічнае значэнне выказніка: *Я мару наведаць Парыж*. У ролі звязкі могуць выступаць прыметнікі *гатоў, рад, павінен, абавязаны: Чалавек павінен імкнуцца да ідэалу*;

3) **састаўны іменны**, які складаецца з дзеяслова-звязкі (*быць, называцца, стаць, з'яўляцца, рабіць, працаваць, ляжаць* і інш.) і іменнай часткі, якая выражае асноўнае лексічнае значэнне. У ролі іменнай часткі выступаюць назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі, займеннікі, прыслоўі, дзеепрыметнікі: *Яна была разумная і прыгожая*. Дзеяслоў-звязка можа адсутнічаць, у такім выпадку гаворка ідзе пра н у л я в у ю з в я з к у: *Яна (ёсць) прыгожая і разумная*. Нулявая звязка выражае граматычнае значэнне цяперашняга часу абвеснага ладу. Форма цяперашняга часу дзеяслова ***ёсць*** ужываецца ў навуковым і публіцыстычным стылях, зрэдку — у мове мастацкай літаратуры: *Жыццё ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар* (Я. Колас).

**245.** Прачытайце тэкст. На яго аснове падрыхтуйце паведамленне на тэму «Сэнсава-стылістычная роля простых сказаў». Складзіце і запішыце па два прыклады апавядальных, пытальных і пабуджальных сказаў.

! **Апавядальныя сказы** з'яўляюцца стылістычна нейтральнымі. Асноўная іх задача — п е р а д а ц ь паведамленне, я к о е в ы р а ж а е ц ц а ў сцвярджальнай або адмоўнай форме.

Для **пытальных сказаў** характэрная экспрэсіўнасць, таму яны часцей ужываюцца ў гутарковым стылі. Аднак такія сказы пашыраны і ў іншых стылях. Пытальныя сказы ў навуковым стылі надаюць тэкстам навукова-папулярны характар. У мастацкім і публіцыстычным стылях пытальныя сказы часта выкарыстоўваюцца для стварэння ўнутраных дыялогаў:

А можа быць, яна наўмысна
Зрабіла так?.. А для чаго?..
Нашто — калі ёй ненавісна
Любая згадка пра яго?
*Н. Гілевіч*

Пытальны сказ, які выражае адмаўленне або сцвярджэнне і не патрабуе адказу, называецца **рытарычным пытаннем**: *Ганна ўжо чакае. Прытулілася, ціха стаіць каля плота. У цемры постаць яе ледзь значыцца, але Васіль ведае: гэта яна. Хто ж яшчэ можа быць тут, на іх запаветным месцы?* (І. Мележ).

Надзвычай экспрэсіўныя **пабуджальныя сказы**. Яны выражаюць розныя адценні пабуджэння: просьбу, прапанову, загад, патрабаванне, пажаданне, забарону і інш. Гэтым і тлумачыцца іх шырокае выкарыстанне ў гутарковым, мастацкім і публіцыстычным стылях.

*(Ф. Шумчык)*

● Зрабіце сінтаксічны разбор першага сказа з тэксту і марфалагічны разбор выдзеленых у ім слоў.

**246.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Назавіце словы і словазлучэнні, што абазначаюць навуковыя сінтаксічныя паняцці. Складзіце і запішыце двухсастаўныя сказы з гэтымі словамі, падкрэсліце граматычную аснову. Вызначце тып выказніка.

У залежнасці ад спосабу выражэння зместу выказнікі двухсастаўных сказаў бываюць простыя і састаўныя. У простым выказніку лексічнае і граматычнае значэнні выражаюцца адным словам або ўсім дзеяслоўным спалучэннем.

Простыя выказнікі выражаюцца формамі дзеясловаў абвеснага, загаднага і ўмоўнага ладу, дзеяслоўнымі выклічнікамі, гукапераймальнымі словамі, інфінітывамі: *Як толькі маці адхіліцца куды з хаты, Пеця — скок з печы, выбежыць на двор, каўзанецца пару разоў па лёдзе і ходу* (С. Александровіч).

Простымі дзеяслоўнымі ўскладненымі выказнікамі лічацца выказнікі, выражаныя:

а) дзеясловамі таўталагічнага характару: *жыла-была, імкне-мінае*;

б) апісальнымі дзеяслоўна-іменнымі зваротамі: *выказаў падзяку* (падзякаваў);

в) фразеалагізмамі, якія суадносяцца з дзеясловамі: *Я не прашу, каб ты мне слёзы выціраў (= суцяшаў) (*В. Маршэўская).

Сфармулюйце і запішыце 4—5 пытанняў да тэксту. Вусна адкажыце на іх, папярэдне запісаўшы адпаведныя прыклады.

Выпішыце з тэксту просты сказ, зрабіце яго сінтаксічны разбор.

**247.** Прачытайце тэкст. Раскажыце, якія прыёмы трэба ведаць, каб правільна вызначыць галоўныя члены ў двухсастаўным сказе.

**!** Дзейнік можа называць суб'ект або аб'ект дзеяння, на які яно накіравана, носьбіта прыметы і інш.: *Анатоль заўсёды вельмі радаваўся снегу* (Л. Арабей). *Скора казка кажацца, ды не скора справа робіцца* (Прыказка). *У кожнага з нас усе запаветныя ўспаміны звязаны з маці* (В. Вітка).

Цяжкасці выклікае аналіз сказаў, у якіх не толькі дзейнік, але і выказнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне: *Агінскія — стары апалячаны беларускі род* (У. Караткевіч). Для размежавання дзейніка і выказніка ў такіх сказах можна выкарыстоўваць прыём замены аднаго з назоўнікаў у назоўным склоне творным склонам назоўніка ў спалучэнні з дзеясловамі *з'яўляцца, станавіцца, лічыцца* і інш.: *Агінскія з'яўляюцца беларускім родам* і да т. п. Назоўнік, які можна замяніць творным склонам, выконвае ў сказе функцыю выказніка. Аналагічна дзейнік і выказнік размяжоўваюцца таксама ў выпадках, калі яны выражаны іншымі іменнымі часцінамі мовы або адзін выражаны іменем, а другі — інфінітывам. Параўн.: *Не ўсё тое мёд, што салодка* (Прыказка). — *Не ўсё тое з'яўляецца мёдам, што*

*бывае салодкім. Маё вялікае і даўняе жаданне — ва ўсім будзённым бачыць урачыстасць* (Я. Сіпакоў). — *Маім вялікім і даўнім жаданнем з'яўляецца ва ўсім будзённым бачыць урачыстасць.*

На сінтаксічную функцыю інфінітыва можа ўплываць яго месца ў сказе. Калі інфінітыў займае пазіцыю пасля безасабова-прэдыкатыўнага слова, іх спалучэнне характарызуецца як галоўны член аднасастаўнага безасабовага сказа: *Радасна чуць голас роднай зямлі* (К. Кірэенка).

Інфінітыў на першым месцы ў двухсастаўным сказе выступае дзейнікам: *Чуць голас роднай зямлі радасна* (Н. Даўбешка).

Складзіце (падбярыце) і запішыце сказы, у якіх дзейнік і выказнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне. Падкрэсліце граматычныя асновы.

**Аднасастаўнымі** называюцца сказы з адным галоўным членам сказа, які суадносіцца з дзейнікам або выказнікам. Другі галоўны член у аднасастаўным сказе не падразумяваецца. Яго адсутнасць нельга лічыць паказчыкам непаўнаты сказа: *Кнігі палілі, супраць іх выдавалі ўказы* (У. Караткевіч).

У залежнасці ад спосабу выражэння галоўнага члена аднасастаўныя сказы падзяляюцца на дзве групы:

1) з галоўным членам, суадносным з выказнікам (пэўна-асабовыя, няпэўна-асабовыя, абагульнена-асабовыя, безасабовыя);

2) з галоўным членам, суадносным з дзейнікам (назыўныя).

**Пэўна-асабовыя** — аднасастаўныя сказы, у якіх утваральнікам дзеяння з'яўляецца пэўная асоба. Галоўны член пэўна-асабовых сказаў выражаецца дзеяслоўнымі формамі 1-й і 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга ці будучага часу абвеснага ладу, а таксама формай 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага

ладу: *Люблю зямлю, што пахне лесам* (С. Грахоўскі). *Звіні ж вякамі, мова, па-над краем* (В. Гардзей).

**Няпэўна-асабовымі** называюцца сказы, у якіх галоўны член выражаны дзеясловам 3-й асобы множнага ліку і ўказвае на дзеянне, якое выконваецца няпэўнымі асобамі *(нехта, хтосьці)*. Напрыклад: *У нашым свеце так цалуюць рукі толькі маці* (Я. Брыль). Выказнік у няпэўна-асабовых сказах можа быць выражаны формай множнага ліку прошлага часу: *Студэнцкія білеты ўручалі а 13-й гадзіне.*

**Абагульнена-асабовыя** — аднасастаўныя сказы, у якіх галоўны член выражаны формамі дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга ці будучага часу, а таксама дзеяслоўнымі формамі 2-й асобы загаднага ладу. Напрыклад: *Не лічыце кветачкі ўвесну, а палічыце ягадкі ўвосень* (Прыказка). Галоўны член сказа можа быць выражаны формай 3-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага часу абвеснага ладу: *Навуку за плячыма не носяць* (Прыказка).

**Безасабовымі** называюцца сказы, у якіх дзеянне адбываецца само па сабе, безадносна ад яго ўтваральніка. Галоўны член сказа можа быць выражаны безасабовым дзеясловам, асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні, дзеепрыметнікам залежнага стану, прыслоўем са значэннем стану, адмоўным словам *няма*, інфінітывам у спалучэнні з іншым дзеясловам. Напрыклад: *Не спалася. Веяла холадам. У пакоі прыбрана. Яму стала спакойна. Няма больш халадоў. Хацелася спаць.*

**Назыўныя** — аднасастаўныя сказы, у якіх сцвярджаюцца наяўнасць, існаванне прадметаў, з’яў, пра якія ў гэтым сказе больш нічога не паведамляецца: *Шляхі-дарогі. Куды яны вядуць? Дзве дзяўчыны. Прыгожыя.*

**248.** Разгледзьце схему. Запішыце ўласныя прыклады на ўсе віды аднасастаўных сказаў.

| **Віды аднасастаўных сказаў** | **Спосаб выражэння галоўнага члена сказа** | **Прыклады** |
|---|---|---|
| Пэўна-асабовыя | Выказнік выражаны дзеясловам 1-й ці 2-й асобы адз. і мн. л. | *Люблю цябе, мой край зеленавокі.* |
| Няпэўна-асабовыя | Выказнік выражаны дзеясловам 3-й асобы мн. л. цяп. і буд. ч., дзеясловам пр. ч. мн. л. | *Яго называлі надзеяй маці.* |
| Абагульнена-асабовыя | Выказнік выражаны дзеясловам 2-й асобы цяп. і буд. часу, 2-й асобы заг. ладу | *Не шукай ветру ў полі* (Я. Колас). |
| Безасабовыя | Выказнік выражаны безасабовым дзеясловам | *Цямнела. Змяркалася.* |
| Назыўныя | Ёсць адзін галоўны член сказа — дзейнік. Называюцца прадметы, з'явы | *Позняя ноч. Цішыня.* |

**249.** Перабудуйце двухсастаўныя сказы ў безасабовыя. Скажыце, як змяніўся сэнс сказаў.

1. Мы адпачываем весела. 2. Андрэй не спіць. 3. Міхась нездаровы. 4. Алеся хоча стаць балерынай. 5. Моладзь верыць у будучыню. 6. Антон хоча заняць першае месца па валейболе.

Запішыце перабудаваныя сказы. Падкрэсліце галоўны член сказа ў безасабовых сказах.

**250.** Прачытайце. Выпішыце аднасастаўныя сказы. Вусна ахарактарызуйце іх.

1. Як дбаеш, то й павагу маеш *(Прыказка)*. 2. На вуліцы стаяў гоман. 3. Люблю свой край, зялёны і спакойны *(Г. Бураўкін)*. 4. Верасень. Дажджы. Сонца грэе слаба *(І. Шамякін)*. 5. Дзень пачынаю думкаю пра цябе *(Р. Барадулін)*. 6. Да чаго сам не дойдзеш, тое ў кніжцы знойдзеш *(Прыказка)*. 7. Каціўся верасамі вясельны каравай: — Ой, дзеўка, абрусамі застолле накрывай! *(Р. Барадулін)*. 8. Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломі *(Я. Колас)*. 9. Жыві і цэльнасці шукай, аб шыраце духоўнай дбай *(М. Багдановіч)*. 10. Кідаю самыя неадкладныя справы і нібы без дай прычыны еду ў свой лю́бы палескі край *(С. Грахоўскі)*. 11. Як гэта заўсёды бывае ў гарах, развіднела адразу, нечакана *(Э. Самуйлёнак)*. 12. З набліжэннем вечара мароз узмацніўся. У такі час імкнёмся хутчэй дахаты, бо там утульна і цёпла («Родная прырода»). 13. І гэтай песні нельга стрымаць *(П. Панчанка)*. 14. З вечара зорна, месячна *(К. Чорны)*. 15. Кранеш адно — усплывае другое *(Я. Колас)*. 16. Людзьмі жывіце, людзі, — і ўспомніць вас Зямля *(С. Законнікаў)*.

**251.** Прачытайце тэкст. Падрыхтуйце пісьмовае паведамленне на тэму «Сэнсава-стылістычная роля аднасастаўных сказаў».

! **Аднасастаўныя сказы** больш экспрэсіўныя і дынамічныя, чым двухсастаўныя (апошнія ўжываюцца ва ўсіх стылях маўлення).

***Безасабовыя сказы*** часцей выкарыстоўваюцца для характарыстыкі псіхічнага і фізічнага стану чалавека, з'яў прыроды, дзеянняў і працэсаў, якія адбываюцца незалежна ад утваральніка: *Дужа хацелася заплакаць, калі б былі слёзы* (В. Быкаў). Безасабовыя сказы ўжываюцца таксама ў афіцыйным маўленні (пры афармленні пратаколаў, пастаноў, афіцыйных паведамленняў і г. д.).

У ***абагульнена-асабовых сказах*** дзеянне, абазначанае[сл] галоўным членам сказа, можа адносіцца да кожнай асобы.

Такія сказы выражаюць вывад, павучанне, а таму шырока выкарыстоўваюцца[c] ў вуснай народнай творчасці: *Не чапай чужога і не бойся нікога. Выказанага слова да губы не вернеш.*

***Назыўныя сказы*** толькі называюць прадметы або з'явы. Яны надзвычай лаканічныя, кароткія. У афіцыйным стылі назыўныя сказы звычайна выкарыстоўваюцца для канкрэтызацыі адрасата: *Беларусь. Установа адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка».* У творах мастацкай літаратуры пры дапамозе назыўных сказаў дэталёва перадаецца апісанне асяроддзя, падзей, ствараюцца наглядныя малюнкі прыроды:

На дубах маладых
Вецер плашч свой павесіў.
Шэпт... Маўчанне... Уздых...
Нехта ходзіць па лесе.
*Л. Дайнека*

Аднасастаўныя сказы шырока выкарыстоўваюцца ў якасці загалоўкаў, якія надаюць асаблівую экспрэсію публіцыстычным творам: *«Ці навучымся любіць роднае?», «Не палепшылі, а пагоршылі», «Купляйце беларускае».*

*(Паводле Ф. Шумчыка)*

- Выпішыце ўжытыя ў тэксце прыказкі, растлумачце іх сэнс.
- Выпішыце словы, якія ілюструюць з'яву фанетычнага падаўжэння. Растлумачце іх правапіс.

**252.** Выпішыце з хрэстаматыі па беларускай літаратуры прыклады аднасастаўных сказаў. Падкрэсліце ў іх галоўныя члены сказа. Раскажыце пра сэнсава-стылістычныя магчымасці гэтых сказаў.

**253.** Прачытайце тэкст.

! Просты сказ можа ўжывацца з поўным наборам неабходных для яго членаў сказа ці з пропускам некаторых з іх. У адпаведнасці з гэтым сказы бываюць поўныя і няпоўныя.

**Поўнымі** з'яўляюцца сказы, у саставе якіх ёсць усе неабходныя для іх структуры члены сказа: *На лузе рыжыя чмялі гаспадарылі між кветак* (А. Вялюгін).

**Няпоўнымі** лічацца сказы, у саставе якіх адсутнічае адзін ці больш членаў сказа. Гэта залежыць ад кантэксту, сітуацыі і мэты паведамлення[сн]. На гэтай падставе сярод няпоўных вылучаюцца:

• ***кантэкстуальныя*** сказы, у якіх асобныя члены сказа апушчаны, бо ўжываюцца ў папярэднім кантэксце: *Сонца гарэзліва лезе ў акно. Не дае спаць* (З. Бядуля);

• ***сітуацыйныя*** сказы, у якіх асобныя члены сказа апушчаны, бо лёгка падказваюцца абставінамі маўленчай сітуацыі: *«На вакзал!» — сказаў ён шафёру*;

• ***эліптычныя*** сказы, у якіх адсутны дзеяслоў-выказнік зразумелы са структуры саміх сказаў: *У цёмным небе карагоды сінявокіх зорак* (М. Багдановіч).

Няпоўныя сказы суадносяцца з адпаведнымі поўнымі сказамі, бо не маюць уласнай структурнай схемы і заўсёды абапіраюцца на пазамоўную сітуацыю *(Паводле Л. Бурака)*.

Пісьмова адкажыце на пытанні, запішыце свае прыклады няпоўных сказаў.

1. Якія сказы называюцца поўнымі?
2. Якія сказы называюцца няпоўнымі?
3. Якія разнавіднасці няпоўных сказаў вылучаюцца?
4. Чаму няпоўныя сказы суадносяцца з адпаведнымі поўнымі?

## § 35. Сказы з аднароднымі членамі, іх сэнсава-стылістычная роля

Члены сказа, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне, адносяцца да аднаго і таго ж слова і вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння, называюцца **аднароднымі**. Напрыклад: *Агністае, чырвонае сонца паціху хавалася за лес*. Аднароднымі могуць быць як галоўныя (дзейнік, выказнік), так і даданыя (азначэнне, дапаўненне, акалічнасць) члены сказа.

Важна ўмець адрозніваць аднародныя азначэнні ад неаднародных, каб правільна расстаўляць знакі прыпынку.

**Аднароднымі** (на пісьме яны аддзяляюцца коскамі) з'яўляюцца:

1) азначэнні, якія характарызуюць прадмет паводле агульнай прыметы: *Лес заселены добрымі, спагадлівымі звярамі і птушкамі* (У. Мяжэвіч). **Неаднародныя** азначэнні характарызуюць прадмет у розных адносінах: *Па асеннім небе плылі чорныя кудлатыя хмары*;

2) азначэнні, выражаныя прыметнікамі аднаго разраду (толькі якаснымі або толькі адноснымі): *Цёпламу, яснаму дню радуецца кожная жывая істота* (І. Навуменка). Азначэнні **неаднародныя**, калі адно з іх выражана якасным прыметнікам, а другое — адносным: *Шчодра ліло цяпло яскравае красавіцкае сонца* (І. Шамякін);

3) азначэнні, адно з якіх выражана прыметнікам, а другое — дзеепрыметнікам: *Не ные толькі сэрца бессардэчнае, счарсцвелае...* (Н. Гілевіч).

Азначэнні звычайна **неаднародныя**, калі дзеепрыметнік (дзеепрыметнікавы зварот) папярэднічае прыметніку: *За ноч патаўсцелі ўсланыя лёгкім пухам тонкія стрэхі гумнаў і хат* (В. Адамчык);

4) азначэнні, адно з якіх дапасаванае, а другое недапасаванае: *Здалёк даносіўся моцны, з перакатамі гул* (М. Лынькоў);

5) **аднароднымі** з'яўляюцца семантычна розныя, але адасобленыя азначэнні: *Хлопец, высокі, з разумнымі вачыма, падабаўся мне даўно.*

**Неаднародныя азначэнні** не могуць звязвацца паміж сабой злучнікамі: *Паабапал дарогі пацягнуўся бор з высокімі старымі соснамі* (І. Шамякін).

Аднародныя члены сказа пашыраюць структуру выказвання, ускладняюць яго, выражаюць лагічную аднароднасць паняццяў.

**254.** Разгледзьце схему. З яе дапамогай раскажыце пра пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах сказа. Прывядзіце адпаведныя прыклады.

**АБАГУЛЬНЯЛЬНЫЯ СЛОВЫ ПРЫ АДНАРОДНЫХ ЧЛЕНАХ СКАЗА**

| **Лексіка-семантычная роля ў сказе** | **Месца ў сказе** | **Знакі прыпынку** |
| --- | --- | --- |
| Называюць родавае паняцце ў адрозненне ад відавога, названага аднароднымі членамі | Перад аднароднымі членамі і пасля іх | Перад аднароднымі членамі — двукроп'е, пасля — працяжнік |
| *Каля школы раслі паўднёвыя **дрэвы**: акацыя, каштан, грэцкі арэх.* | Перад аднароднымі членамі | Двукроп'е |
| *І мастакі, і авіямадэлісты, і фатографы, і турысты — **усе** знойдуць у нашай школе занятак па душы.* | Пасля аднародных членаў | Працяжнік |
| ***Усё**: і хмурнае неба, і мёрзлая зямля — было ахоплена нечым сумным, халодным і грозным.* | Перад аднароднымі членамі, але сказ імі не заканчваецца | Двукроп'е — пасля абагульняльнага слова, працяжнік — пасля аднародных членаў |

**255.** Прачытайце. Назавіце ў сказах аднародныя члены сказа, абагульняльныя словы пры іх. Вызначце іх сінтаксічную функцыю. Пастаўце і растлумачце знакі прыпынку.

1. Стэп і неба усё ў змроку шэрым *(М. Танк)*. 2. Белыя вышываныя сарочкі, вянкі усё стракатае каляровае рухаецца вакол нечага, што цяжка разгледзець здалёку *(В. Іпатава)*. 3. Шчыра сказаць тут духмяна ўсё наваколле вада паветра неба зоркі расліны... *(В. Казько)*. 4. І дзе б ён ні знаходзіўся што б ні рабіў араў зямлю сеяў касіў усюды спяваў *(А. Хілімон)*. 5. Наогул яе [настаўніцу] любілі ўсе вучні настаўнікі калгаснікі *(І. Шамякін)*. 6. На ўроках мовы праводзяцца розныя віды работ дыктанты сачыненні пераказы. 7. Вялася звычайная размова знаёмых людзей у першыя хвіліны сустрэчы пра надвор'е пра здароўе пра навіны. 8. Рыбацкая снасць сетка нераты вуды была адмысловая ў дзядзькі Марціна *(Я. Колас)*.

**256.** Спішыце, ставячы знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі сказа. Растлумачце іх пастаноўку. Назавіце ўмовы аднароднасці і неаднароднасці азначэнняў.

1. А потым спадарожнікамі сталі пагоркі нарачанскія і далі і прыдарожныя бярозы хвоі і птушкі і аблокі нада мною *(М. Танк)*. 2. Былі і радасці і хваляванні[сл] тут узлёты і трывогі, мой родны, вечна юны інстытут, пачатак вашай і маёй дарогі *(С. Грахоўскі)*. 3. Калі пакідаеш Радзіму, становяцца снамі і людзі і сосны... *(М. Танк)*. 4. Цяпер, калі б я ні прыязджаў, сустракае то нясмелай яшчэ травою то спасаўскім яблыкам то здрыжэлым апошнім лістом то ганарыстым снегам вечная маміна хата. А мама сама не выйдзе *(Р. Барадулін)*. 5. Той дзень, лічы, завянуў пустацветам, калі ты пяць хвілін пашкадаваў[с], каб дзецям паказаць куточак свету і хараство людзей і дрэў і траў *(П. Панчанка)*.

● Выпішыце дзеясловы ў форме 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку, абазначце канчаткі, растлумачце іх правапіс.

**257.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з аднароднымі членамі, пастаўце знакі прыпынку і абгрунтуйце іх пастаноўку.

У цэнтры горада-героя Мінска, паміж галоўнай магістраллю сталіцы і нетаропкай Свіслаччу, раскінуўся адзін з найбольш маляўнічых паркаў — Купалаўскі.

У глыбіні цэнтральнай алеі сустракае велічны выліты з бронзы помнік Янку Купалу. Фігура паэта размешчана на нізкім гранітным пастаменце, які паўтарае прыродныя формы. Гэта груба абчасаная скала з натуральнымі выемкамі і выступамі.

Скульптары стварылі магутную бронзавую фігуру ў руху. Паэт ідзе, абапіраючыся на кій, у накінутым на плечы паліто. Памкненне наперад перадаюць і пастава і погляд паэта, скіраваныя ўдалячынь. Любога ўразіць вялікі высакародны лоб песняра, у формах якога адчуваеш глыбокую думку, выразныя крыху сумныя вочы з цяжкімі павекамі, тонкі з лёгкай гарбінкай нос і ў той жа час мужны валявы падбародак. Выразна акрэслены сілуэт помніка добра глядзіцца на фоне неба і дрэў. Ствараецца ўражанне, што паэт ідзе па роднай зямлі насустрач свайму народу, якому прысвяціў вечную неўміручую ліру *(М. Чырскі)*.

● Выпішыце словы, якія ілюструюць правілы «Правапіс ***о, э, а***», «Правапіс ***е, ё, я***», «Правапіс галосных у складаных словах».

● Складзіце і запішыце невялікі тэкст (7—8 сказаў) на тэму «Творчасць Я. Купалы». Выкарыстайце сказы з аднароднымі членамі.

## § 36. Сказы з адасобленымі членамі, іх сэнсава-стылістычная роля

**Адасабленне** — сэнсавае і інтанацыйнае выдзяленне даданых членаў сказа з мэтай узмацніць іх значэнне, надаць пэўную самастойнасць і стылістычную выразнасць.

Умовамі адасаблення з'яўляюцца:

● і н т а н а ц ы я. Адасобленыя члены сказа звычайна выдзяляюцца адпаведнай паўзай, лагічным націскам: *Маладыя ялінкі, **прыпарошаныя снегам**, прыгіналіся долу*;

● п а р а д а к  с л о ў. Як правіла, адасабляюцца члены сказа, калі стаяць пасля паяснёнага слова: *На маладой сасонцы, **залітай сонцам,** прыхарошвалася вавёрка* (І. Мяжэвіч). Аднак не адасабляюцца і не выдзяляюцца коскамі дапасаваныя азначэнні, выражаныя адзіночнымі прыметнікамі або дзеепрыметнікамі, што стаяць пасля назоўніка, які паясняюць і з якім утвараюць адно сэнсавае цэлае: *Як цуд чужы вачэй ні цешыў, душа шаптала мне сама: ёсць край **цяплейшы**, **багацейшы**, але раднейшага няма* (Г. Бураўкін). Не выдзяляюцца коскамі дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі (з паясняльнымі словамі або без іх), якія пры цеснай сувязі з дзеясловам становяцца іменнай часткай выказніка: *А лес, як добры той знаёмы, стаіць збялелы, нерухомы* (Я. Колас);

● умовай адасаблення выступае марфалагічны х а р а к т а р  п а я с н ё н а г а  с л о в а. Так, заўсёды адасабляюцца дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, адзіночныя і з паясняльнымі словамі, якія адносяцца да асабовых займеннікаў: *Радасная здагадка азарае мяне, і, **здзіўлены**, я паволі ўстаю ў акопе* (В. Быкаў). *Яна, **маладая, прыгожая, з адкрытым тварам,** адразу кідалася ў вочы*;

● умовай адасаблення выступае п а з і ц ы я  с л о ў  у  с к а з е. Так, адасабляюцца дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі з паясняльнымі словамі і без іх, якія адносяцца да назоўніка, але аддзеленыя ад гэтага назоўніка выказнікам ці іншымі членамі сказа: *Алень замёр, прыслухаўся і, **перакананы, што яго ніхто не бачыць**, прыняўся старанна пілаваць рогам белы ствол* (В. Карамазаў). ***Магутныя ў сваёй велічы,** стаялі старыя дубы* (І. Навуменка).

Адасабляюцца і выдзяляюцца коскамі н е д а п а с а в а н ы я  а з н а ч э н н і, выражаныя назоўнікамі ва ўскосных склонах (з паясняльнымі словамі і без іх): ***Без шапкі, у адной гімнасцёрцы,** Васіль з усяе сілы працаваў вёсламі* (І. Шамякін).

Адасабляюцца д а п а ў н е н н і, выражаныя назоўнікамі з прыназоўнікамі ***акрамя, апрача, замест, за выключэннем, уключаючы*** і іншымі: *Гэтая ідэя спадабалася ўсім,* ***за выключэннем хлопцаў.***

Адасабляюцца р а з в і т ы я і н е р а з в і т ы я п р ы д а т к і, выражаныя адзіночнымі назоўнікамі або назоўнікамі з паясняльнымі словамі:

- незалежна ад месца ў сказе, калі адносяцца да асабовых займеннікаў: *Яе,* ***сарамлівую дзяўчыну****, выбралі тады членам праўлення* (П. Пестрак);
- калі адносяцца да ўласнага ці агульнага назоўніка і стаяць пасля яго: *Шырокай светлай паласою нясе свае воды Дняпро —* ***любімая рака ўсходніх славян*** (В. Вольскі);
- калі стаяць перад агульным ці ўласным назоўнікам, з'яўляюцца развітымі і маюць дадатковае акалічнаснае значэнне: ***Таленавіты палкаводзец, барацьбіт за свабоду, працiўнік прыгнёту,*** *Тадэвуш Касцюшка добраахвотна ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі* (Я. Пархута);
- калі звязваюцца з паяснёным назоўнікам злучнікамі ***ці, або, як***: *Шыпшына,* ***або дзікая ружа,*** *належыць да сямейства ружакветкавых* (У. Корсун).

**258.** Прачытайце тэкст. Назавіце прыметы, якія дапамагаюць вызначыць яго стыль і тып маўлення. Выпішыце сказы з адасобленымі членамі. Растлумачце ўмовы адасаблення.

У верасні 1975 г. у Жодзіне быў усталяваны помнік Настассі Купрыянавай, усе пяць сыноў якой загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

Помнік уяўляе сабой складаную манументальную **кампазіцыю**, аб'яднаную адзіным **плінтам.** Цэльная група складаецца з фігур трох старэйшых сыноў. Першы крочыць рашуча і засяроджана, грудзьмі, як шчытом, імкнучыся засланіць тых, хто за ім, ззаду. Браты падтрымліваюць яго парыў. У **кампаноўцы** гэтай групы ёсць **дынаміка,** узмоцненая не толькі рэзкімі дыяганалямі абагульнена акрэсленых крокаў, але і фігурай чацвёртага брата. Ён яшчэ сціскае ў руках

шапку пасля развітання з маці, але ўжо падладжваецца пад рытмічную хаду братоў. Пяты, малодшы, зусім яшчэ юнак, шырокім крокам даганяе старэйшых. Ён азірнуўся, каб яшчэ раз паглядзець на маці.

Унутраная прастора кампазіцыі энергетычна насычаная, напружаная, нават да адчування гуку крокаў людзей у цяжкіх салдацкіх ботах. Актыўна задзейнічана і знешняя прастора — родны **пейзаж**, брукаваная плошча. Фігуры, вырашаныя вялікімі аб’ёмамі, выкананыя больш чым у дзве натуральныя велічыні, размешчаны па краі плошчы, уздоўж дарогі. Натуральная асаблівасць **ландшафту** — дарога, невялікія купкі дрэваў абапал — узмацняе вобразную насычанасць манумента, нагадваючы пра бясконцыя дарогі шматлікіх войнаў *(М. Тараканава)*.

Выпішыце ўласныя назоўнікі, растлумачце іх правапіс.

У выдзеленых словах назавіце прыметы запазычання. З дапамогай слоўніка акрэсліце іх значэнне.

● Падрыхтуйце невялікае апісанне помніка, які знаходзіцца ў вашым раёне (горадзе, вёсцы).

**259.** Запішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Абгрунтуйце іх пастаноўку.

1. Цень перабег на поплаў праз дарогу і сцішаны у зялёных хвалях знік[ф] *(У. Хадыка)*. 2. Ужо не вернецца ніколі краса адцвіўшая даўно *(П. Трус)*. 3. Дзіцячы пратэст выказваецца адзіным для маленства сродкам плачам *(Я. Брыль)*. 4. Павел сярдзіты стаяў ля сцяны *(А. Александровіч)*. 5. Вяскоўцы звыклыя да кветак не часта любаваліся[с] імі *(Л. Левановіч)*. 6. Я правінцыяльны хлапчук глядзеў на яго як зачараваны *(Я. Скрыган)*. 7. Месяц яркі і круглы абліў наваколле халодным святлом *(З. Бядуля)*. 8. Дружбы шмат сардэчнай у людзей[м] шчырай слаўнай і вясёлай *(А. Астрэйка)*. 9. Я спыніўся аслеплены сонцам толькі на ўзлеску, перад полем *(Б. Сачанка)*.

Зрабіце сінтаксічны разбор двух першых сказаў.

● Выпішыце са сказаў 5 слоў, у якіх колькасць гукаў і літар не супадае.

**Адасабляюцца акалічнасці:**

● выражаныя дзеепрыслоўнымі зваротамі і адзіночнымі дзеепрыслоўямі: ***Накупаўшыся****, хлопцы бавяць час на беразе. Стары стараўся з усіх сіл,* ***імкнучыся даць дачцэ адукацыю***;

● аднародныя акалічнасці адасабляюцца паводле агульных правілаў пастаноўкі знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа: *Лісіца,* ***распушыўшы хвост*** *і* ***прыгнуўшы галаву****, чуйна прыслухоўвалася да цішыні.* ***Смеючыся*** *і* ***дурэючы****, дзеці ішлі па лясной сцяжынцы*;

● дзеепрыслоўныя звароты і дзеепрыслоўі, якія стаяць пасля злучніка, адасабляюцца: *Зямля падарыла хлебаробу ўраджай і,* ***аддаўшы свой плён,*** *зморана адпачывала. З раніцы было холадна, і,* ***адчуваючы спінаю холад,*** *падарожнікі прыспешвалі хаду.*

**Не адасабляюцца:**

● адзіночныя дзеепрыслоўі, якія выконваюць ролю прыслоўя спосабу дзеяння (адказваюць на пытанні як? якім чынам?) і прымыкаюць да дзеяслова-выказніка: *Дзіця сядзела* ***надзьмуўшыся****. Бацька чытаў* ***задумаўшыся***;

● фразеалагічныя словазлучэнні з непадзельным, цэласным значэннем: *Дзядзька не прывык* ***склаўшы рукі сядзець***. Але: *Язэп Пушча сядзеў у крэсле каля стала,* ***склаўшы адна на адну свае прыгожыя рукі*** (Я. Скрыган);

● дзеепрыслоўі ці дзеепрыслоўныя звароты, якія размяшчаюцца пасля прыслоўя і звязваюцца з ім злучнікам ***і***: ***Выразна і ні разу не збіўшыся*** *вучань прачытаў верш на памяць.*

**260.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з адасобленымі членамі, расстаўляючы знакі прыпынку.

Лебедзь ляціць выцягнуўшы наперад сваю гнуткую шыю рассякаючы[c] паветра магутнымі ўзмахамі вялікіх крылаў. І вецер свішча і спявае ў яго крылах. Ён ляціць беласнежна-белы на фоне блакітнага неба з белымі кучаравымі воблачкамі, якія адлюстроўваюцца[c] ў такой жа блакітнай

вадзе. Абагнаўшы лебядзіцу з малымі ён апусціўся на ваду ахоўваючы[сл] сям'ю з боку адкрытага возера...

Адкуль з'явілася тут гэтая шчаслівая пара? Відаць, прыляцелі яны з суседняй Літвы, з запаведніка на возеры Жувінтэс. На гэтым возеры дзікія лебедзі жывуць даўно *(В. Вольскі)*.

**261.** Прачытайце тэкст. Што дазваляе даследчыку не парушыць цэласнасці і глыбіні Багдановічавай думкі, а, наадварот, «узняць» чытача да ўсведамлення твора, якое павінна быць адэкватным аўтарскай задуме?

У гэтым вершы пра Бацькаўшчыну — самае запаветнае. Тут з гісторыі — самае неабходнае. Як у голад жменя насення, **адкладзенага на ўраджай.**

Пройдземся радкамі гэтага твора, **яшчэ раз далучаючыся да яго жыццядайнай сілы.**

Твор пачынаецца апавядальна шырока. Праз усю страфу праходзіць складаны разгорнуты сказ. Гэта згадка-ўспамін пра вялікую мінуўшчыну імгненна ўзрывае ранейшую размераную апавядальнасць верша. **Разгарачаная, усхваляваная** ўява паэта выбухае яскравым малюнкам.

І ўжо не ў гістарычным далёкім, а перад табою, **на момант займаючы дыханне і ў тваіх грудзях,**

**У белай пене праносяцца коні, —**
**Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...**

Магутна, парывіста, ва ўсёй пластычна-адчувальнай красе ўрываюцца гэтыя коні: зрокава — у белай пене, дынамічна — дзеясловы адзін пры адным (рвуцца, мкнуцца), як тупат капыт, цоканне падкоў, разрываюць паветра радка... І адначасова ўсё — у нашым слыху: мы чуем, як яны на поўныя грудзі цяжка хрыпяць.

І вось ужо — на ўсю шырыню радка — выносіцца, як сцяг, непамерклая, вечная слава беларускай дзяржаўнасці:

**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць** (А. Клышка).

Растлумачце ўмовы адасаблення або неадасаблення выдзеленых членаў сказа. Пабудуйце сказы так, каб неадасобленыя члены сказа сталі адасобленымі.

**262.** Прачытайце тэкст. Вусна растлумачце правілы напісання прапушчаных літар і пастаноўку знакаў прыпынку. Выпішыце сказы з адасобленымі членамі, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Паўднёвы бераг рачной затокі пакрыты вечна жывым сасновым шумам.

Хораша тут калі быва.. час палюбавацца[с]!..

Цяпер вось нізам сцел..цца верас у румяным ранішнім святле, а на.. верасам таксама ў сонцы густа выс..цца в..страверхія сосны. Добра ўзняць галаву загледз..цца на іх шэра-зялёныя са стальным а..лівам кучаравыя в..рхавіны на фон.. цёплага блакіт.. і ш..раватых воблакаў. Сосны гамон..ць. Нібы расказваюць на..хнёныя казкі маленства — адну за адной н..стомна і радасна як гэта можа добрая пагодлівая старасць. Возера сёння св..еасаблівае. Каля нізкага бераг.. чыстага пя..чанага ці парослага р..дкаватай травой ледзь чутна ра..кошліва пахлёбвае хваля. Чайкі гуляюць над люстраной гла..ю пікіруючы на спажыву або садзяцца[с] на вільготны вылізаны прылівам пясок толькі імі затупаны пац..рушаны іхнімі[ф] пёркамі. Тут жа выштурханая на бераг мно..твам бурных прыбо..ў парахнее на сонц.. ра..охлая лодка. Па рыба..кім звыча.. лодкі пакідаюцца *(на)*заўсёды там дзе спасцігн.. апошн..я бяда *(Я. Брыль)*.

Выпішыце дзеяслоў (у пачатковай і асабовай формах), дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе, зрабіце іх марфалагічны разбор.

## § 37. Сказы са звароткамі, іх сэнсава-стылістычная роля

**263.** Разгледзьце схему. На яе аснове стварыце паведамленне на тэму «Зваротак і знакі прыпынку пры ім» па наступным плане:

1. Лексіка-семантычная роля зваротка ў сказе.
2. Будова і спосабы выражэння зваротка.
3. Месца зваротка ў сказе.

**ЗВАРОТАК**

| Лексіка-семантычная роля ў сказе | Спосаб выражэння | Будова | Месца ў сказе |
|---|---|---|---|
| Называе таго, да каго звяртаюцца (асобу, прадмет) | Назоўнікам у назоўным ці клічным склоне. | Бываюць развітыя і неразвітыя | У пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа |
| Напрыклад: *Народ пранясе цябе, **родная мова**, святлом незгасальным у сэрцы сваім* (М. Танк). *Што ж стаіш ты, **Вераніка**?* | Напрыклад: *Над чым задумаўся, **сябар**?* *Адгукніся, **дружа**!* | Напрыклад: *Пралятайце, **гады**, залатымі агнямі* (М. Багдановіч). ***Любоў мая вялікая, святая**, табе няма ні межаў, ні канца* (А. Бачыла). | Напрыклад: ***Родная**! Гэтак мне люба ўспамінаецца сад!* *Дык служыце ж людзям, **родныя бары*** (Я. Колас). *Добры дзень, **суседзі**, будзем век сябрамі* (П. Панчанка). |

Складзіце і запішыце сказы, у якіх зваротак знаходзіцца ў пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа.

**264.** З прапанаванымі словамі, словазлучэннямі складзіце і запішыце сказы, каб у адных дадзеныя словы былі дзейнікамі, а ў другіх — зваротkам.

Родная Беларусь, беларуская зямля, дарагія вучні, слаўныя дзеці, шаноўныя настаўнікі, дарагі сябра, матуля.

**265.** Прачытайце тэкст В. Рагаўцова, вызначце яго стыль. Складзіце план тэксту. Перакажыце тэкст паводле плана. Сказы-прыклады, якія ілюструюць розніцу паміж зваротkам і іншымі сінтаксічнымі з'явамі, запішыце.

Для таго каб адрозніць зваротак і адасоблены прыдатак, трэба ўлічваць наступнае[сн]. Па-першае, зваротак, у

адрозненне ад адасобленых прыдаткаў, не выконвае ацэначнай функцыі, а толькі называе[с] асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца. Па-другое, прыдаткі звычайна маюць аднолькавую граматычную форму з паяснёным словам. Напрыклад: *Гуслям, **княжа*** (зваротак), *не пішуць законаў* (Я. Купала). *Ах, **сны*** (зваротак), ***летуценні*[ф] *мае залатыя*** (прыдатак), *які ж вы сапкалі ўзор!* (П. Глебка).

Звароткі трэба таксама адрозніваць ад назоўніка ў назоўным склоне (ці іменнага словазлучэння), які не выражае звароту, а акрэслівае тэму паведамлення[м], што раскрываецца ў наступным кантэксце (сказе). Напрыклад: ***«Пакуты слова»***... *У паняцце гэтае трэба ўключыць іменна тыя пакуты, калі мне хочацца працаваць*[сл], *а я не магу* (Я. Брыль).

**266.** Прачытайце тэкст Ф. Шумчыка. Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Сэнсава-стылістычная роля звароткаў у розных стылях маўлення».

Зваротак выкарыстоўваецца ва ўсіх стылях маўлення. У афіцыйным стылі зваротак з'яўляецца лаканічным прыёмам вылучэння адрасата. У ролі зваротка выступаюць уласныя імёны, назвы асоб па прафесіі, пасадзе і г. д. Як правіла, такі зваротак ставіцца ў пачатку выказвання.

У гутарковым стылі зваротак звычайна ставіцца ў сярэдзіне або ў канцы сказа. У ролі зваротка шырока выкарыстоўваюцца словы з неканкрэтным лексічным значэннем: *дружа, браце, родны, шаноўны* і інш. Пры іх дапамозе выражаецца сардэчнасць, спагада, пяшчота, ласка, іронія і г. д.: *Ты чуеш, **дружа мой**, як плачуць журавы над зарывам асенніх журавін?* (П. Панчанка).

У дыялогу персанажаў, рытарычных зваротах сустракаецца форма былога клічнага склону, якая надае выказванню ў адных выпадках падкрэслена ветлівы, у іншых — паэтычна ўзнёслы характар: — *Дзякуй, **хлопча**, за ўвагу, надта рады, **мой каток!*** (Я. Колас). *Ці табе не шкода, **браце**, родных ніў, тых лугоў, той сенажаці, што касіў?* (Л. Геніюш).

У сучасных творах на гістарычную тэматыку форма былога клічнага склону назоўніка — заканамерная з'ява, паколькі гэта форма дае магчымасць больш акрэслена перадаць подых мінулага: — *Бунтуе ў табе, **княжа,** дзедава кроў, Алега Святаславіча* (У. Арлоў).

У тэкстах мастацкага і публіцыстычнага стыляў пашыраны звароткі з ацэначнай характарыстыкай: *Гэй, **чулыя сэрцам**! Гэй, **душы жывыя**! Ідзіце вы долю каваць!* (Я. Колас).

Выпішыце звароткі з ацэначнай характарыстыкай. Складзіце і запішыце сказы з імі.

## § 38. Сказы з пабочнымі канструкцыямі

**Пабочнымі канструкцыямі** называюцца словы, словазлучэнні і сказы, якія служаць для выражэння суб'ектыўна-ацэначных адносін таго, хто гаворыць, да зместу выказвання. Такія канструкцыі на пісьме заўсёды вылучаюцца коскамі: *Бег свой, **здавалася**, час замарудзіў* (М. Калачынскі). *Сарамлівасць, **на маю думку**, сведчыць пра сціпласць* (А. Асіпенка). ***Скажу вам шчыра**, педагогіка — складаная справа.*

Пабочныя канструкцыі не з'яўляюцца членамі сказа, аднак яны звязаны са зместам сказа, з'яўляюцца яго арганічнай часткай. Пропуск або замена пабочных канструкцый вядзе да змены сэнсу сказа. *Выпускнікі, **бясспрэчна**, здадуць экзамены добра* (выражаецца ўпэўненасць). ***На маю думку**, выпускнікі здадуць экзамены добра* (указваецца крыніца паведамлення). *Выпускнікі, **на жаль**, атрымлівалі невысокія адзнакі* (выражаецца засмучэнне, шкадаванне). ***Па-першае**, выпускнікі здадуць экзамены добра. **Па-другое**, яны знойдуць сваё месца ў жыцці* (падкрэсліваецца паслядоўнасць думак).

Часам адны і тыя ж лексічныя адзінкі могуць выступаць і як члены сказа, і як пабочныя словы: *Цягнік **сапраўды** набраў хуткасць* і ***Сапраўды**, навокал было цёмна.*

**267.** Прачытайце тэкст. Выкажыце сваё меркаванне адносна ўжывання ненарматыўнай лексікі. Знайдзіце ў сказах пабочныя канструкцыі, растлумачце іх будову (словы, словазлучэнні, сказы), месца ў сказе і знакі прыпынку пры іх.

На жаль, частка сучасных працэсаў у галіне лексікі — адкрытае і яўнае сведчанне зніжэння агульнай культуры грамадства, узмацнення яго варварызацыі. Такім, на нашу думку, з'яўляецца ўжыванне нецэнзурнай лексікі журналістамі. Яе выкарыстанне ў публічным маўленні аб'ектыўна падмацоўвае пазіцыі вульгарызмаў. Шматкроп'е, якое ўводзіць журналіст з тым, каб чытач сам узнаўляў у сваёй памяці нецэнзурны выраз, шумавыя накладкі на нецэнзурныя словы або празрыстыя намёкі на лаянкавую лексіку — усё гэта спробы «эмансіпацыі мата», парушэння табу.

Аднак вядома, што забарона на ўжыванне пэўных слоў абумоўлена не толькі сацыяльна-палітычнымі, але і гістарычнымі, культурнымі і этычнымі фактарамі, якія дзейнічаюць на працягу доўгага часу.

Варта падкрэсліць, што адмаўленне ад табу небяспечнае па многіх прычынах. Вядома, што лаянкавыя словы вызначаюцца моцным уздзеяннем, што мат — гэта форма вербальнай агрэсіі, зневажальных адносін не толькі да непасрэдных удзельнікаў размовы, але і ўсіх, хто яе чуе *(Л. Выгонная)*.

Выпішыце сказ з пабочным словам. Зрабіце сінтаксічны разбор гэтага сказа.

**268.** Разгледзьце табліцу. На яе аснове са словамі *аднак, бадай, відаць, вядома* складзіце па два сказы, каб у адным выпадку лексічныя адзінкі выступалі як пабочныя словы, у другім — з'яўляліся членамі сказа.

| Словы | Роля ў сказе |
|---|---|
| ***аднак*** | **Супраціўны злучнік** (= *але*) пры аднародных членах або ў пачатку другой часткі складаназлучанага сказа: *Вучоба — нялёгкая,* ***аднак*** *пачэсная справа*. |

| Словы | Роля ў сказе |
|---|---|
| | **Пабочнае слова** з узмацняльным значэннем (= *а ўсё-такі*), калі стаіць у сярэдзіне ці ў канцы сказа: *Доўга, **аднак**, цягнуўся дзень.* |
| ***бадай*** | **Часціца** са значэннем меры і ступені (= *амаль*): *Гэта была **бадай** што праўда.* <br> **Пабочнае слова** са значэннем «магчыма»: ***Бадай,*** *гэта быў першы чалавек, які гаварыў са мной так шчыра.* |
| ***відаць*** | **Галоўны член** безасабовага сказа (выказнік): *За акном **было відаць**, як згіналіся ад ветру верхавіны дрэў.* <br> **Пабочнае слова** са значэннем «напэўна»: *Валасы пышныя, вельмі светлыя і, **відаць**, мяккія, як кужаль* (Я. Скрыган). |
| ***вядома*** | **Галоўны член** безасабовага сказа (выказнік): ***Вядома***, *што з гадамі чалавек пераацэньвае пражытае.* <br> **Пабочнае слова**: ***Вядома***, *чалавеку заўсёды хочацца большага.* |
| Узмацняльная часціца ***нават*** у ролі пабочнага слова не выступае і коскамі не выдзяляецца | |

**269.** Прачытайце тэкст. Растлумачце правілы напісання слоў з прапушчанымі літарамі і пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

Апошні раз ра..ступіўся лес і перад вачыма настаўніка ра..крылася шырокая палянка вясёлая і прыветная. Лабановіч уздыхнуў ля..чэй як бы з яго плячэй зваліўся нейкі ц..жар бо дарога траская і караністая і лес усё ж такі надакуч..лі яму. Тым прыемней зірнулі стрэхі лю..кіх будынін і коміны хат з якіх яшчэ дзе-нідзе курыўся сін..ваты дымок.

Вёска была досыць вялікая ц..гнулася ў адну лінію і толькі каля цэркаўкі на ўзгорку хаты гуртаваліся гусцей і шырэй. Злева пры канцы вёскі стаяў дом валаснога праўле..я з дв..ма высокімі чырвонымі комінамі над пачарнелым дахам. Насупраць на другі бок вуліцы выгл..дала школа з белымі аканіцамі і дв..ма ці трым.. развіслымі вязамі каля яе. Пры дарозе ў вёску крыху наво..шыбе маркотна тулілася старэнькая др..ўляная цэркаўка. Цяпер яна стаяла адзінокая закінутая забытая. Па адзін і па другі бок вёскі стаялі в..тракі як страшыдлы шырока ра..кінуўшы свае крылы. Адны з іх былі ў жывым руху падымалі і апускалі кры..е а другія стаялі моўчкі, н..рухліва і мелі такі выгл..д як бы яны былі чымсьці здзіўл..ны і пыталіся: чаму мы стаім без работы.

Праехаўшы н..в..лікую грэбельку калёсы пакаціліся па шырокай вуліц.. . Старыя пал..шукі сустракаючыся клан..ліся а чаро..кі маладых дзяўчат-пал..шучак і маладзіц убра..ых як макавыя кветкі ў агародз.. падштурхвалі адна другую перамігваліся і кідалі см..шлівыя погляды ў бок маладога настаўніка які першы раз з'явіўся тут *(Я. Колас)*.

## § 39. Складаны сказ. Адрозненне складанага сказа ад простага

**Складаны сказ** — сказ, які складаецца з дзвюх або больш сэнсава-граматычных частак, аб'яднаных паводле сэнсу, інтанацыі і структуры: *Назад не прыйдзе хвалятая, што з быстрай рэчкай уплывае* (Я. Колас).

**Часткі складанага сказа** падобныя да простых сказаў, але яны не маюць агульнай камунікатыўнай задачы і ўжываюцца ў саставе цэлага. Значыць, у адрозненне ад простага сказа, часткі складанага сказа:

1) не маюць сэнсавай цэласнасці;

2) не маюць інтанацыйнай завершанасці;

3) маюць у сваім саставе падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы, не характэрныя для простага сказа.

Складаны сказ адрозніваецца ад простага:

● з н а ч э н н е м. Так, граматычнае значэнне складанага сказа складаецца з сэнсавых адносін паміж часткамі. Просты сказ мае асобнае сэнсавае афармленне;

● с т р у к т у р а й. Структуру складанага сказа ўтвараюць яго часткі. Кампанентамі простага сказа з'яўляюцца словы і словазлучэнні;

● с р о д к а м і с у в я з і. Асноўныя сродкі сувязі ў складаных сказах — злучальныя, падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы. Асноўным сродкам сувязі паміж часткамі ў складаным бяззлучнікавым сказе з'яўляецца інтанацыя. У простым сказе асноўнымі сродкамі граматычнай сувязі слоў выступаюць канчаткі і прыназоўнікі.

**270.** Прачытайце. Пісьмова пацвердзіце, разгарніце асноўную думку, выказаную пісьменнікам, або абвергніце яе, абгрунтаваўшы ўласную пазіцыю.

Ці можна, на вашу думку, сённяшнюю моладзь назваць наіўнай?

Наіўнае юнацтва! Табе здаецца, што ты выключнае, што ты самае разумнае, мудрае, не падобнае на ўсіх, і жаданні ў цябе недасягальныя[с]! Не адразу да цябе прыходзіць разуменне[м], што... як усе — гэта не дакор; мудрасць, разумнасць і чалавечая вартасць якраз у тым, каб раўняцца[с] на ўсіх — на людзей, на калектыў, на чалавецтва. Не адразу ты пачынаеш разумець, што хараство не ў тваім імкненні да выключнасці, а ў жыцці людзей, і што людзі выпрацавалі самае прыгожае, высакароднае[сл], карыснае, разумнае і ў навуцы, і ў мастацтве, і ў адносінах паміж сабой — у каханні, у сям'і. З разумення гэтых надзвычай простых ісцін і пачынаецца твая сапраўдная[м] сталасць, юнак *(І. Шамякін)*.

Выпішыце і ахарактарызуйце граматычную аснову ў сказах.

**271.** Выпішыце складаныя сказы. Абазначце ў іх граматычныя асновы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Ходзіць дзед белабароды полем, лесам, пералескам, засцілае рэчкі лёдам, брыльянцістым снежным блескам

*(Я. Колас)*. 2. Дзеці ідуць за намі, ступаюць баязліва, пільна ўглядаючыся сабе пад ногі *(Я. Сіпакоў)*. 3. Лось пастаяў яшчэ, паварочаў галавой то ўправа, то ўлева, апусціў рогі, нібы хацеў каго бадануць, павярнуўся і галопам падаўся некуды ўгору *(Р. Няхай)*. 4. У хатах, на другім баку вуліцы, запальваліся лямпы, і праз сетку дажджу вокны расплываліся ў жоўтыя шырокія кругі *(І. Шамякін)*. 5. На высокім крутым беразе, з якога Пятро аглядаў шырокія прасторы прыдняпроўскіх лугоў, густа зелянела атава. 6. Іду насустрач снегу я, а вецер б'ецца[с] ў твар, на полі зданню бегае з натоўпам белых мар *(М. Багун)*. 7. Над гарой зарніцы плавяцца[с], не відаць на небе зор *(К. Буйло)*. 8. Узыдзе месяц над курганам у вянках прыгажосці і чар і ўзорам тонкім даматканым[сл] засцеле ў просіні абшар *(П. Трус)*. 9. Пасля абеду, адвёўшы дачку да суседкі, Насця пайшла на поле *(У. Дубоўскі)*.

Выпішыце просты сказ ускладненай будовы, зрабіце яго сінтаксічны разбор.

● Падкрэсліце ў складаных сказах прыслоўі (калі ёсць), растлумачце іх правапіс.

**272.** Разгледзьце схему. Раскажыце, карыстаючыся схемай, пра віды складаных сказаў.

**!** **АСНОЎНЫЯ ВІДЫ СКЛАДАНЫХ СКАЗАЎ**




Успомніце азначэнні розных відаў складаных сказаў.

Параўнайце прапанаваны вамі варыянт з прыведзеным у правіле.

**Складаназлучаныя сказы** — складаныя сказы, у якіх сэнсава-граматычныя часткі раўнапраўныя, адносна самастойныя паводле сэнсу і звязаны злучальнымі злучнікамі (спалучальнымі, супрацiўнымі, размеркавальнымі, далучальнымі). Напрыклад: *Сады, нівы хлебныя ў сілу бяруцца,* [*і*] *, стому адчуўшы, усе з сонцам смяюцца* (М. Танк). (Схема 1.)

**Складаназалежныя сказы** — складаныя сказы, у якіх адна сэнсава-граматычная частка падпарадкоўваецца другой і звязваецца з ёй падпарадкавальным злучнікам або злучальным словам. Напрыклад:

*Галасы паступова змаўкалі, (бо) набліжаўся вечар.* (Схема 2.)

*Людзі, напэўна, ніколі не праяўлялі такой увагі да неба, ((якую)) цяпер праяўляем мы* (I. Шамякін). (Схема 3.)

У саставе складаназалежнага сказа можа быць некалькі даданых частак. Такі сказ называецца **складаназалежным з некалькімі даданымі.**

**Бяззлучнікавы сказ** — складаны сказ, у якім сэнсава-граматычныя часткі звязваюцца пры дапамозе сэнсу і інтанацыі. Напрыклад: *Елкі цёмнагрывыя намоклі, сушаць вербы пасмы жоўтых кос* (П. Панчанка). (Схема 4.)

**Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі** — сказы, у якіх сэнсава-граматычныя часткі могуць звязвацца бяззлучнікавай і злучнікавай, злучальнай і падпарадкавальнай сувяззю. Напрыклад: *Малюнкі борзда знікалі, змяняліся новымі, і не было калі спыніцца на іх, бо поезд імчаўся вельмі шпарка* (Я. Колас). (Схема 5.)

На схемах складаныя сказы абазначаюцца так:

| | |
|---|---|
| **1.** Складаназлучаны сказ, часткі якога звязваюцца з дапамогай злучальнага злучніка ***і*** | [ ], [*і*] [ ]. |

**2.** Складаназалежны сказ, часткі якога звязваюцца з дапамогай падпарадкавальнага злучніка ***бо***

[ ], (*бо* ...).

**3.** Складаназалежны сказ, часткі якога звязваюцца з дапамогай злучальнага слова ***якую***

[ ], (*якую* ...).

**4.** Бяззлучнікавы сказ, часткі якога звязваюцца без дапамогі злучніка, аб'ядноўваюцца інтанацыйна і сэнсава

[ ], [ ].

**5.** Складаны сказ з рознымі відамі сувязі (на схеме прадстаўлены дзве логіка-структурныя часткі, звязаныя злучальнай сувяззю. Першая частка пабудавана як просты сказ, другая — як складаназалежны. Часткі звязваюцца з дапамогай злучальнага злучніка ***і***)

I: [ ], *і* II: [ ], (*бо* ...).

Будову складанага сказа можна паказаць з дапамогай графічнай (гарызантальнай або вертыкальнай) схемы. Напрыклад: [1])*Работу сваю Марына палюбіла і праз нейкі месяц зразумела,* [2]) *што перад ёю адразу здрабнелі ўсе іншыя інтарэсы* (І. Грамовіч).

Гарызантальная схема сказа




Вертыкальная схема сказа



**273.** Запішыце тэкст па-беларуску.

Чтобы уметь строить сложные предложения и правильно ставить знаки препинания, надо хорошо знать строение и значение всех видов сложных предложений. Этому хорошо помогает умение строить схемы сложных предложений и читать их.

Так, схему [ ——— ═══ ], но [ ═══ ] можно прочитать следующим образом: это предложение сложное, союзное, сложносочиненное, состоит из двух частей, связанных между собой союзом ***но***, перед которым ставится запятая. Первая часть сложного предложения построена как простое двусоставное предложение. Вторая часть сложного предложения построена как простое односоставное предложение. Содержание одной части противопоставляется содержанию другой (это выражено союзом ***но***) *(В. Бабайцева)*.

**274.** Прачытайце. Сфармулюйце і запішыце асноўную думку тэксту ў форме складанага сказа.

Феномен Максіма Багдановіча даўно заўважаны даследчыкамі яго творчасці. Сутнасна сказаў пра Багдановіча Алег Лойка. Згадаем яшчэ раз тыя словы, тым больш, што яны пра Багдановіча-гісторыка: «Яго веды ў розных галінах культурнай гісторыі беларускага і іншых народаў былі грунтоўныя. Па глыбіні пранікнення ў духоўную спадчыну стагоддзяў з Багдановічам у Беларусі маглі параўнацца нямногія». І яшчэ: «Ён быў адзін з першых, хто ўчытаўся ў гераічныя старонкі нацыянальнай гісторыі і глянуў на свой народ як на народ з эпічным мінулым. Гэта быў прынцыпова важны крок наперад у развіцці нацыянальнай самасвядомасці і гістарычнай думкі на Беларусі». Схільнасць Максіма Багдановіча да гісторыі выхоўвалася яшчэ з дзяцінства самой сямейнай атмасферай. Безумоўна, заслуга ў гэтым бацькі паэта — вядомага этнографа, фалькларыста і гісторыка. Але было нешта большае і нешта загадкаватаямнічае. Любоў да сваёй Бацькаўшчыны і яе гісторыі,

так бы мовіць, была ў крыві роду Багдановічаў. Чым тлумачыцца тое, што Максім удалечыні ад Радзімы змог так моцна палюбіць яе, захапіцца ёю, прысвяціць ёй сваё жыццё? Адказ дае ў сваіх успамінах бацька паэта: «Перш за ўсё ўнутраным, відавочна, непераадольным захапленнем роднай стыхіяй, інтуіцыяй, унаследаванай ад продкаў».

Максіма Багдановіча папракалі ў ідэалізацыі мінулага Беларусі, бо ён здолеў убачыць веліч свайго народа, па-новаму — не па-рабску, не па-жабрацку — паглядзець на нашу гісторыю. Належна ацаніў Багдановіч культурныя набыткі Беларусі эпохі Сярэднявечча. Ён лічыў, што наша гісторыя не з'яўлялася дробнай часткай нечай больш вялікай гісторыі, яна існавала самастойна. Складаная гісторыя ў нашага народа. Шмат у ёй ёсць і гераічнага, і драматычнага. Але яна яшчэ раз нам пераканаўча даказвае, што «мы — вялікі народ». І Максім Багдановіч — у шэрагу славутых летапісцаў беларускага народа *(В. Вабішчэвіч)*.

Выпішыце складаныя сказы з тэксту. Падкрэсліце ў іх граматычныя асновы.

● Назавіце некалькі мнагазначных слоў, растлумачце іх значэнне.

● Паразважайце, што давала паэту права сцвярджаць, што «мы — вялікі народ». Свае разважанні афарміце пісьмова.

## § 40. Складаназлучаныя сказы

**275.** Прачытайце правіла. На аснове тэксту пабудуйце табліцу пад назвай «Сэнсавыя адносіны ў складаназлучаных сказах». Табліца можа мець наступныя графы:

1. Сэнсавыя адносіны паміж часткамі.
2. Спалучальныя злучнікі.
3. Супраціўныя злучнікі.
4. Размеркавальныя злучнікі.
5. Далучальныя злучнікі.
6. Прыклады (адпаведныя сказы можна выбраць з наступнага практыкавання).
7. Схемы складаназлучаных сказаў.

Часткі, якія ўваходзяць у складаназлучаны сказ, могуць звязвацца пры дапамозе спалучальных злучнікаў ***і, ды*** (у значэнні ***і***), ***ні—ні***, злучальных слоў ***потым, затым,*** супраціўных злучнікаў ***а, але, затое, аднак, ды*** (у значэнні ***але***), ***ж (жа), аж, толькі, адно,*** размеркавальных злучнікаў ***ці, ці—ці, то—то, не то — не то, ці то — ці то***, далучальных злучнікаў ***ды, ды і, а то, а, і то, тым больш што, і таму***.

Складаназлучаныя сказы са спалучальнымі сэнсавымі адносінамі аб'ядноўваюць часткі, якія перадаюць аднпачасовасць ці паслядоўнасць, прычыну і вынік падзей, дзеянняў, з'яў: *Ранак скончыўся,* ***і*** *чыстае сонейка выглянула з-за хмар*.

Складаназлучаныя сказы з супраціўнымі сэнсавымі адносінамі ўказваюць на супастаўленне, супрацьпастаўленне, абмежаванне пэўных падзей, дзеянняў: *У лесе было цёпла,* ***аднак*** *лёгкі пах восені ўжо адчуваўся ў прыродзе*.

Складаназлучаныя сказы з размеркавальнымі сэнсавымі адносінамі перадаюць чаргаванне падзей або магчымасць адной з'явы з ліку названых: ***Ці то*** *птушкі змоўклі,* ***ці то*** *вецер пацішэў*.

У складаназлучаных сказах з далучальнымі адносінамі першая частка з'яўляецца асноўнай, другая частка змяшчае дадатковыя звесткі, заўвагі да першай: *Бацька адпачываў,* ***ды і*** *трэба было адпачыць*.

**276.** Запішыце складаназлучаныя сказы, размеркаваўшы іх паводле сэнсавых адносін паміж часткамі (спалучальныя, супраціўныя, размеркавальныя, далучальныя). Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы. Пабудуйце схемы сказаў.

1. Вецер дзьмуў і шумеў па-над Нёманам бор *(М. Танк)*. 2. Маўчала возера ў тумане ды вербы плакалі ў цішы *(П. Трус)*. 3. У жнівеньскі дзень зранку вуліца дрэмле затое

поле поўніцца жыццём *(І. Мележ)*. 4. Ці абзавуцца ў небе гусі ці дзяцел грукне па сасне *(Г. Бураўкін)*. 5. Ці то сонца свеціць ці то месяц ясны вам смяецца з неба весела і шчасна *(Я. Купала)*. 6. Памалу гутарку мы распачалі а шмат аб чым пагутарыць было *(Я. Купала)*. 7. Прарваўся аглушальны гром і лівень хлынуў на лес *(П. Пестрак)*. 8. Сяло спала і толькі ў некалькіх хатах гарэла святло *(А. Кудравец)*. 9. Дзень толькі пачынаўся і спяшацца не было куды *(В. Карамазаў)*. 10. Выжыць — гэта любой цаною а жыць — гэта ўсё-такі менш ці больш сумленна *(Я. Брыль)*. 11. Дзеці ў гэта верылі шчыра і таму свята набывала ўжо зранку асаблівую таямнічую прыгажосць *(С. Давідовіч)*. 12. Жаўранкаў не відаць у цьмяным небе а толькі песня звініць цярушыцца на траву на кветкі *(Я. Брыль)*.

**277.** Пазнаёмцеся з узорам разбору складаназлучанага сказа.

Узор. [1] *У лесе было ціха і маркотна,* [*а*] [2] *ўгары стаяў шум старых ялін.*

Сказ складаны, злучнікавы, складаназлучаны. Складаецца з дзвюх сэнсава-граматычных частак, якія звязаны паміж сабой злучальнай сувяззю пры дапамозе супраціўнага злучніка ***а***. Паміж часткамі выражаюцца супраціўныя адносіны. На мяжы частак перад злучнікам ***а*** ставіцца коска.

Першая частка пабудавана як просты, апавядальны, сцвярджальны, аднасастаўны (безасабовы), развіты, поўны, няўскладнены сказ.

Другая частка пабудавана як просты, апавядальны, сцвярджальны, двухсастаўны, развіты, поўны, няўскладнены сказ. Дзейнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне. Выказнік просты дзеяслоўны, ужыты ў форме прошлага часу, адзіночнага ліку, мужчынскага роду.

Схема сказа: [ ], [*а*] [ ].

Складзіце і запішыце два складаназлучаныя сказы.

Карыстаючыся прапанаваным узорам, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Паміж часткамі складаназлучанага сказа звычайна **ставіцца коска**: *Сонца не магло як след нагрэць зямлю і паветра, і нават у ясны дзень ужо адчувалася восень* (І. Мележ).

**Коска не ставіцца:**

● калі ёсць агульнае для дзвюх частак сказа слова (агульны член сказа, пабочнае слова, часціца): ***За шклом машыны*** *шарэў прыцемак і спорна і густа сыпаўся снег.* ***Відаць****, прыйшлі не ўсе ўдзельнікі канцэрта і трэба было пачакаць*;

● калі часткі складаназлучанага сказа з'яўляюцца:

а) назыўнымі: *Шум ракіт і ціхі спеў каліны* (Я. Пушча);

б) безасабовымі: *Ціха і ніякага руху* (К. Чорны);

в) пытальнымі: *Што ёсць жыццё і што ёсць галоўнае ў ім?*

● калі часткі супастаўляюцца і маюць аднатыпную будову: *Ёсць ворагі і ёсць сябры.*

Калі ў другой частцы раскрываецца вынік або хуткая змена падзей, паміж часткамі ставіцца працяжнік: *Прысніцца толькі радаснае маленства — і ты ўвесь дзень успамінаеш далёкае* (С. Грахоўскі).

**278.** Прачытайце, прааналізуйце мову ўрыўка. Да якога стылю належыць тэкст? Абгрунтуйце сваю думку. Выпішыце складаназлучаныя сказы, зрабіце іх сінтаксічны разбор, пабудуйце схемы.

**Універсальная** Беларуская **Энцыклапедыя** (БелЭн) выдаецца ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 23 жніўня 1993 года.

Першая Беларуская савецкая энцыклапедыя (БелСЭ) у 12 тамах выдадзена ў 1969—1975 гадах, ды і ўключала яна каля 35 тысяч **тэрмінаў**.

Творча выкарыстаўшы вопыт папярэдніх беларускіх энцыклапедычных выданняў, лепшых замежных энцыклапедый і **даведнікаў**, а таксама метадычныя прынцыпы адбору, апрацоўкі і сістэматызацыі інфармацыі, стваральнікі новай

Беларускай **Энцыклапедыі** паставілі за мэту зрабіць яе вартай свайго народа, яго багатай і славутай гісторыі, яго дасягненняў і **перспектыў** развіцця.

Энцыклапедыю запланавана выдаць у 18 тамах, і ў ёй будзе змешчана каля 80 тысяч тэрмінаў *(Беларуская Энцыклапедыя, 1996)*.

- Пісьмова растлумачце значэнне выдзеленых слоў.
- Выпішыце словазлучэнні з лічэбнікамі. Лічэбнікі запісвайце словамі.
- Выпішыце словы, якія адпавядаюць правілу «Ужыванне вялікай літары». Растлумачце іх правапіс.

## § 41. Складаназалежныя сказы

**Складаназалежнымі** называюцца сказы, у якіх галоўная і даданая часткі аб'ядноўваюцца ў сэнсава-інтанацыйнае цэлае падпарадкавальнай сувяззю. Даданыя часткі адрозніваюцца ад галоўнай не толькі сваёй роляй, але і будовай. У іх састаў уваходзяць злучнікі і злучальныя словы, з дапамогай якіх даданая частка падпарадкоўваецца галоўнай (або іншай даданай). Ад галоўнай часткі да даданай ставіцца пытанне, прычым у адных выпадках даданая частка паясняе ўсю галоўную, у іншых — слова ці словазлучэнне ў ёй.

Даданая частка можа стаяць пасля галоўнай, перад ёю або ў сярэдзіне яе: [*Азвалася свету волатава сіла*], (*што ў пастаўе сціплай да пары таіла*) (К. Буйло). (*Калі размаўляюць вочы*), [*заўсёды нямеюць словы*] (З. Марозаў). [*Каласы*, (*што хіліліся над дарогай*), *пахлі свежым боханам хлеба*].

Даданая частка ў складаназалежным сказе выдзяляецца або аддзяляецца коскай.

Граматычным сродкам сувязі частак у складаназалежным сказе выступаюць **падпарадкавальныя злучнікі** і **злучальныя словы**.

**279.** Перачытайце правіла і пісьмова адкажыце на пытанні. Запішыце адпаведныя прыклады.

1. Якія сказы называюцца складаназалежнымі?
2. Як адрозніваюцца дададныя часткі сказа ад галоўнай?
3. Якое месца ў адносінах да галоўнай можа займаць дададная частка ў складаназалежным сказе?
4. Якія граматычныя сродкі сувязі частак ужываюцца ў складаназалежным сказе?

**280.** Прачытайце тэкст. Раскажыце аб прыёмах размежавання злучнікаў і злучальных слоў.

### Злучнікі і злучальныя словы ў складаназалежным сказе

Сінтаксічны аналіз складаназалежнага сказа ўключае характарыстыку граматычных сродкаў сувязі. Сярод прыёмаў размежавання злучнікаў і злучальных слоў можна назваць наступныя:

● злучальныя словы не толькі звязваюць дададныя часткі з галоўнымі (як і падпарадкавальныя злучнікі), але і захоўваюць сваё асноўнае лексічнае значэнне;

● злучальныя словы выконваюць ролю пэўных членаў сказа, а злучнікі членамі сказа не з'яўляюцца;

● злучальныя словы нельга выключыць са сказа, злучнікі часта можна апусціць, перабудаваўшы сказ у бяззлучнікавы;

● на злучальныя словы можа падаць лагічны націск, на злучнікі — не;

● злучальныя словы ў многіх выпадках можна замяніць словамі з галоўнай часткі, а злучнікі — іншымі злучнікамі.

У канкрэтным сказе можна выкарыстаць адзін з пералічаных прыёмаў або іх камбінацыю. Так, у сказе *Раптам да кармушкі, **што** вісіць на адным з дрэў, падлятаюць сініцы* злучальнае слова *што* выконвае функцыю дзейніка, яго можна замяніць словам *кармушка* з галоўнай часткі або сінанімічным займеннікам *якая*, выключыць жа са сказа нельга. У сказе *Ён зразумеў, **што** нябачныя повязі вяжуць кожнага чалавека з мінулым* дададная частка далуча-

ецца да галоўнай пры дапамозе злучніка *што*: яго можна апусціць і перабудаваць сказ у бяззлучнікавы *(Паводле Н. Даўбешкі)*.

Складзіце і запішыце па два складаназалежныя сказы, у якіх словы *што*, *які* ў адным выпадку з'яўляюцца злучнікамі, у другім — злучальнымі словамі.

**281.** Прачытайце Коласавы афарыстычныя выслоўі, сабраныя ў кнізе Арнольда Яфімавіча Міхневіча «Якуб Колас разважае, радзіць, смяецца» (2002).

Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё, глыбокі сэнс і хараство, — чалавек і прырода.

Многа цікавага пачуе той, хто ўмее чытаць кнігу прыроды, свету, хто цяміць і разбірае іх мову.

Прырода мае нейкае сваё свядомае жыццё.

Які дасканалы мастак — далеч!

Прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя надпісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце?

Выпішыце афарыстычныя выслоўі, пабудаваныя як складаназалежныя сказы. Вызначце граматычныя сродкі сувязі частак.

**282.** Прачытайце. Выпішыце складаназалежныя сказы, пабудуйце іх схемы. Вызначце сродкі сінтаксічнай сувязі паміж часткамі.

Краса слова — той абраз, на які павінен маліцца кожны з нас. Маліцца, бо ў красе слова хаваецца паратунак чалавечай душы, глыбокая повязь з неўвядальным і Боскім на зямлі. На пуцявінах жыцця і часу нам іншага не дадзена, як зноў і зноў пачынаць са слова, роднага слова, самаахвярна ісці з ім, гукаць Святло, несці Праўду і Чалавечнасць *(А. Бельскі)*.

- У сказах падкрэсліце словы, напісанне якіх адпавядае фанетычнаму прынцыпу правапісу.
- Выпішыце словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс ***е, ё, я***».
- Растлумачце правапіс вялікай літары ў тэксце.

**283.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне пра віды даданых частак у складаназалежным сказе.

## Віды даданых частак у складаназалежным сказе

<table>
<tr><th rowspan="2">Від даданай часткі паводле значэння</th><th rowspan="2">Адказвае на пытанне</th><th colspan="2">Сродкі сінтаксічнай сувязі</th></tr>
<tr><th>Злучнікі</th><th>Злучальныя словы</th></tr>
<tr><td rowspan="2">Дзейнікавая</td><td>хто?<br>што?</td><td>як, быццам,<br>каб, што</td><td>хто, што, які,<br>чый, каторы</td></tr>
<tr><td colspan="3">Напрыклад: І ўсё, што з маленства здавалася звычным, напаўняецца сэнсам новым (С. Законнікаў).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Выказнікавая</td><td>які<br>іменна?</td><td>каб, быццам,<br>як, што,<br>як быццам</td><td>хто, што, які,<br>каторы, чый</td></tr>
<tr><td colspan="3">Напрыклад: Чамусьці сёння цішыня такая, што сесці хочацца і патужыць (У. Караткевіч).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Азначальная</td><td>які?<br>якая?<br>якое?<br>якія?</td><td>што, каб,<br>як, нібы,<br>быццам</td><td>які, каторы,<br>чый, што,<br>дзе, куды,<br>адкуль, калі</td></tr>
<tr><td colspan="3">Напрыклад: У дзень, калі было прызначана новае спатканне, паліў дождж як з вядра (П. Броўка).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Дапаўняльная</td><td>адказвае на пытанні ўскосных склонаў</td><td>што, як,<br>каб, быццам,<br>ці, нібы</td><td>хто, што, які,<br>чый, колькі,<br>калі, як</td></tr>
<tr><td colspan="3">Напрыклад: Я знаю, што цяжка і горка свой дом пакідаць і сяло (А. Астрэйка).</td></tr>
<tr><td>Акалічнасная частка</td><td colspan="3">гл. асобную табліцу на с. 224—225.</td></tr>
</table>

**284.** Пазнаёмцеся з узорам сінтаксічнага разбору складаназалежнага сказа.

У з о р. *Здавалася, (што) песня лілася з-пад самага сонца.*

Складаназалежны сказ з дадатнай дзейнікавай часткай.

Галоўная частка пабудавана па схеме простага, апавядальнага, сцвярджальнага, аднасастаўнага (безасабовага), неразвітага, няўскладненага сказа. Галоўны член выражаны асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні.

Даданая дзейнікавая частка пабудавана па схеме простага, апавядальнага, сцвярджальнага, двухсастаўнага, развітага, няўскладненага сказа. Дзейнік просты. Выказнік просты дзеяслоўны, выражаны дзеясловам у форме прошлага часу адзіночнага ліку.

Схема сказа: I [ ═══ ], II ((*што*) ——— ═══ ...).

**285.** Карыстаючыся ўзорам (практ. 285), зрабіце сінтаксічны аналіз складаназалежных сказаў. Пастаўце і растлумачце знакі прыпынку.

1. Аліса азірнулася не разумеючы адкуль на яе навалілася гэтае важка-густое і бязладнае гудзенне *(В. Коўтун)*. 2. Аўтобус якім мы ехалі ў раённы цэнтр вельмі часта спыняўся падбіраў усё новых пасажыраў *(К. Кірэенка)*. 3. Давай з табой паслухаем як гай спявае песню нам на мове звыклай *(П. Панчанка)*. 4. Яна гаварыла цяпер толькі на роднай мове не прызнаючы нават польскай якой яна карысталася доўгія гады *(В. Іпатава)*. 5. Прамільгнула невядома адкуль думка аб тым колькі новых месцаў прыходзіцца змяняць чалавеку на сваім жыцці *(Я. Колас)*. 6. Вецер перайшоў у такую буру што зямля закурылася пылам *(Я. Колас)*. 7. Хмарцы здавалася што ўсе на свеце як і сама яна радуюцца і цешацца сваёй доляй *(Я. Колас)*. 8. Той не можа быць другам хто ў бядзе абыдзе кругам *(Прыказка)*. 9. Сёння без перабольшання можна сказаць

што ў беларускім апавяданні існуе школа Брыля *(М. Стральцоў)*. 10. Люблю наш край старонку гэту дзе я радзілася расла *(К. Буйло)*.

**286.** Прачытайце тэкст. На яго аснове падрыхтуйце адказ на пытанне *Як адрозніваць падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы ў складаназалежным сказе?* Сваё паведамленне пабудуйце як тэкст-разважанне, выдзеліўшы тэзіс, доказы (падчас іх пераліку выкарыстоўвайце пабочныя словы *па-першае, па-другое, перш за ўсё, аднак, напрыклад, такім чынам* і інш.) і вывад.

**!** І падпарадкавальныя злучнікі, і злучальныя словы служаць для сувязі даданай часткі з галоўнай. Аднак іх неабходна адрозніваць: *злучнікі* толькі звязваюць часткі сказа, *злучальныя словы*, акрамя таго, з'яўляюцца *членамі сказа* ў даданай частцы. Пры гэтым трэба памятаць, што словы *бо, каб, таму што, быццам, нібы, хоць, пакуль, як толькі* і інш. заўсёды выступаюць толькі злучнікамі, а словы *хто, які, чый, дзе, адкуль, куды, чаму, чаго, колькі, наколькі* — толькі злучальнымі словамі: *Хто пытае, той не блудзіць* (Прыказка).

Каб адрозніць злучальнае слова *як* ад злучніка, трэба памятаць, што злучальнае слова *як* адказвае на пытанне я к і м с п о с а б а м? я к і м ч ы н а м? н а к о л ь к і? у я к о й м е р ы? і выступае акалічнасцю спосабу дзеяння або меры і ступені; на яго падае лагічны націск: *Турысты спыніліся каля рэчкі і сталі думаць,* ***як*** *перабрацца на другі бераг* (*як* — г. зн. якім спосабам; акалічнасць спосабу дзеяння). На злучнік *як* не падае лагічны націск, яго часам можна замяніць іншымі злучнікамі — *што, чым* або апусціць: *Хоць хлопцы храбрыліся і жартавалі, але кожны адчуваў,* ***як*** *унутры нешта дрыжыць* (Я. Адамовіч).

**287.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне пра даданыя акалічнасныя часткі паводле наступнага плана:

1. Від даданай часткі ў складаназалежным сказе.
2. Сродкі, з дапамогай якіх даданая частка звязваецца з галоўнай.
3. На якія пытанні адказвае?
4. Прыклады.

<table>
<tr><th>Від дадзенай акалічнаснай часткі</th><th>Сродкі сувязі з галоўнай часткай</th><th>Пытанні</th></tr>
<tr><td rowspan="2">Месца</td><td>дзе, куды, адкуль</td><td>дзе? куды? адкуль?</td></tr>
<tr><td colspan="2">Напрыклад: Дзе лозы ніцыя ў тумане журбу выплаквалі да дна, там адзінока на кургане стаяла стромкая сасна (П. Трус).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Часу</td><td>калі, пакуль, пасля таго як, як толькі</td><td>калі? з якога часу? да якога часу? як доўга?</td></tr>
<tr><td colspan="2">Напрыклад: Вярнуліся дамоў позна, калі сонца схавалася за небакрай.</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Умовы</td><td>калі, каб, як, раз</td><td>пры якой умове?</td></tr>
<tr><td colspan="2">Напрыклад: Як будзе здаровіцца, работа паробіцца (Прыказка).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Прычыны</td><td>таму што, бо, па прычыне таго што, што</td><td>чаму? па якой прычыне?</td></tr>
<tr><td colspan="2">Напрыклад: Прыемна глядзець на такую ўсмешку, бо ўсе мы заўсёды чакаем і хочам радасці (Я. Брыль).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Мэты</td><td>каб, для таго каб</td><td>для чаго? з якой мэтай?</td></tr>
<tr><td colspan="2">Напрыклад: Сып снегу больш, зіма, каб поле небывала ўскаласіла (П. Панчанка).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">Параўнальная</td><td>як, нібы, бы, быццам і інш.</td><td>як?</td></tr>
<tr><td colspan="2">Напрыклад: Ліпень ліпу весела лістае, як цікаўны школьнік чытае свой буквар (Х. Гурыновіч).</td></tr>
</table>

| Від дададнай акалічнаснай часткі | Сродкі сувязі з галоўнай часткай | Пытанні |
|---|---|---|
| Уступальная | хоць (хаця), нягледзячы на тое што і інш. | нягледзячы на што? |
| | Напрыклад: *Трывожна, хоць скрозь цішыня* (П. Броўка). | |
| Спосабу дзеяння | што, як, як бы, аж (ажно), каб | як? якім чынам? |
| | Напрыклад: *Мы не хочам жыць так далей, як жылі нашы дзяды* (Я. Колас). | |
| Меры і ступені | што, нібы, быццам, як | як многа? у якой меры? у якой ступені? |
| | Напрыклад: *Дома было столькі дабрыні, што хацелася спяваць.* | |

**288.** Запішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Вызначце від дададнай часткі.

1. Вада збярэцца такая што аднойчы разбурыць усё... *(П. Броўка)*. 2. І пакаціўся гром якому век рэхам грымець *(М. Танк)*. 3. Максім глядзіць неяк зусім незвычайна з усмешкай якая з'яўляецца рэдка *(Я. Брыль)*. 4. Ты павінен зразумець які гэта чалавек! 5. Я знаю што цяжка і горка свой дом пакідаць і сяло *(А. Астрэйка)*. 6. Як яно будзе далей сказаць цяжка. 7. Здавалася што з вечнай ночы выплыў першы дзень на зямлі белы, малады і марозліва пахучы *(З. Бядуля)*. 8. Не такі той крук што выпусціць з рук *(Прыказка)*. 9. Ходзяць зоры над краінай нізка... Досвіткам калі чуць-чуць відно самая вялікая зарніца падае ў маё акно *(П. Глебка)*. 10. Ледзь толькі пехацінцы мінулі алешнік як поруч вострa скрыгочучы важка загрукалі выбухі *(І. Мележ)*. 11. Там дзе вайна зялёны сад агнём смя-

ротным апаліла зноў маладых каштанаў шмат мы працавіта насадзілі *(М. Танк)*. 12. А новае мора сыпле алмазы дзе сонца гуляе з хвалямі разам і тушыць увечар свой жар *(Я. Колас)*. 13. І мы спяшаемся туды дзе маладая весялосць *(Я. Брыль)*. 14. Яны былі такія змораныя што ледзь трымаліся на нагах.

## § 42. Складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі часткамі

У складаназалежных сказах падпарадкаванне некалькіх даданых частак галоўнай бывае сузалежнае і паслядоўнае.

**Складаназалежныя сказы з сузалежным падпарадкаваннем** — сказы, у якіх кожная даданая частка падпарадкоўваецца галоўнай. Сузалежнае падпарадкаванне бывае двух відаў — аднароднае і неаднароднае.

**Сузалежныя аднародныя** даданыя часткі паясняюць у галоўнай адзін член сказа або ўсю частку ці аднародныя члены сказа і адказваюць на аднолькавае пытанне: *Мы хочам, каб на нашай планеце заўсёды дружылі шчаслівыя дзеці, каб змоўклі сірэны, зеніткі і танкі, каб дзецям спявалі ўначы калыханкі, каб добрыя людзі на вольнай зямлі ў міры жылі і дзяцей берaглі* (С. Грахоўскі).




Складаназалежны сказ з сузалежным аднародным падпарадкаваннем даданых частак, пры якім кожная даданая частка залежыць ад агульнай галоўнай часткі і адказвае на пытанне чаго? У сказе 4 даданыя дапаўняльныя часткі залежаць ад галоўнай *(Мы хочам)*.

**Сузалежныя неаднародныя** даданыя часткі паясняюць у галоўнай частцы розныя члены сказа або адзін, але ў розных адносінах, г. зн. адносяцца да розных тыпаў даданых частак. Напрыклад: *Калі вясны паводка залатая змяце з палёў зімовую тугу, я да цябе, Радзіма, прылятаю, бо пець не ў родным краі не магу* (Г. Бураўкін).




Даданая акалічнасная часу

Даданая акалічнасная прычыны

**Сузалежнымі неаднароднымі** з'яўляюцца таксама даданыя часткі, якія паясняюць розныя словы ў галоўнай частцы, хаця і адносяцца да аднаго тыпу. Напрыклад: *Кожнага, хто хацеў трапіць у спецгрупу, Карніцкі папярэджваў, што яны накіроўваюцца не на святочную прагулку* (М. Паслядовіч).




Даданая дапаўняльная

Даданая дапаўняльная

**Складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем** даданых частак — сказы, у якіх кожная наступная частка залежыць ад папярэдняй і паясняе яе. Напрыклад: *Народ мой, дзякую табе, што і на міг мне не дазволіў, каб я кагосьці абязволіў* (Г. Бураўкін).




Даданая дапаўняльная Даданая дапаўняльная

Пры **змешаным падпарадкаванні** дадзеныя часткі звязваюцца адначасова і паслядоўнай, і сузалежнай сувяззю. Напрыклад: *Калі дзверы адчыняцца, ён найперш запытае, ці тут жыве той, хто яму трэба* (В. Быкаў).




**289.** Выпішыце асобна складаназалежныя сказы з сузалежным і паслядоўным падпарадкаваннем.

Пабудуйце схемы сказаў.

1. Мы хочам, каб усюды ў нашай краіне, ва ўсіх яе гарадах і вёсках, былі прыгожыя кветкі, сады і паркі, каб людзі дыхалі чыстым, здаровым паветрам *(Т. Хадкевіч)*. 2. Я ўдзячны вам, сябры-вяскоўцы, што мову да мяне данеслі, што мне не трэба, як знаходку часоў былых, парой начною разгадваць тайну мовы продкаў *(А. Вольскі)*. 3. На станцыі ён [Лабановіч] даведаўся дакладна, калі прыходзіць пасажырскі поезд на Мінск і калі адчыніцца білетная каса *(Я. Колас)*. 4. Нам трэба вельмі асцярожна абыходзіцца з мовай, каб не абразіць волю і вопыт тых беларусаў, што адышлі ў гісторыю чалавецтва *(Г. Бураўкін)*. 5. Зямны паклон, падзяка і пашана ўсім, хто свежым хлебам корміць нас, хто кожны колас пестуе старанна, хто і арэ, і сее ў добры час *(С. Грахоўскі)*. 6. Кожны пісьменнік, якія б ён ні ствараў эпапеі, паэмы, драмы, апавяданні, вершы, усё жыццё піша адну-адзіную кнігу, у якой гаворыць чытачу сваё запаветнае слова *(Я. Брыль)*. 7. Шкада, што да нас так позна прыходзіць суровай позвай сумленне, якое завецца словам кароткім, — мама *(Р. Барадулін)*. 8. Калі парою лістападу ў вырай птушкі адлятаюць, яны ў дубровах пакі-

даюць свае вясновыя напевы, каб не згубіць іх недзе часам у хмарным небе на чужыне *(М. Танк)*. 9. Каб ярка свяцілася перлінка слова, каб людзям зіхцела, на ўсе бакі яго шліфавалі як след, адмыслова найлепшыя ў свеце тачылы — вякі *(К. Цвірка)*.

**290.** Прачытайце тэкст, вусна растлумачце пастаноўку прапушчаных знакаў прыпынку. Выпішыце складаназалежныя сказы, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Стаяў той асабліва прыгожы дзень якія бываюць звычайна ў канцы жніўня месяца калі даўно скончана жніво звезена жыта ў гумны і над апусцелым полем дружна ўзлятаюць стайкі шпакоў прадвеснікаў блізкае восені. Зямля здаецца лёгкай бязважкай. Яна ўся дыхае цішай спакоем. Усё відаць як на далоні. Выдзяляецца кожнае дрэва на шляху і калодзежны жураў у дальняй вёсцы і зубчаты край лесу і бялявы дымок далёка-далёка дзе праходзіць чыгунка. Нават бачыш як трапечацца зжаўцелы ліст на бліжняй бярозе як высока ў небе ляціць няведама куды самотная павуцінка *(М. Лынькоў)*.

**291.** Складзіце і запішыце складаназалежныя сказы па наступных схемах.

**(** *хоць і* **…), [ ], (** *што* **…).**

**[ ], (** *што* **…), (** *каб* **…).**

**[ ], (** *дзе* **…), (** *дзе* **…).**

**292.** Прачытайце правіла. На кожны пункт правіла прывядзіце і запішыце адпаведныя прыклады.

**Двукроп'е паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа ставіцца, калі:**

● другая частка (некалькі частак) раскрывае прычыну таго, пра што паведамляецца ў першай (на месцы двукроп'я можна ўставіць злучнікі ***бо, таму што***): *Падарожнік часта азіраўся: ён шукаў месца перайсці ручай;*

● другая частка паясняе і раскрывае змест першай (пасля першай часткі можна ўставіць ***а іменна, што, як***): *Супакойвала адно: вёска была побач;*

● другая частка дапаўняе ў першай выказнік, выражаны дзеясловамі *бачыць, ведаць, адчуваць, заўважаць, верыць, разумець*: *Ён разумеў: мінулае будзе нагадваць часта.*

**Працяжнік паміж часткамі складанага бяззлучнікавага сказа ставіцца, калі:**

● другая частка паказвае на хуткую змену падзей, нечаканы вынік дзеяння (на месцы працяжніка можна ўставіць злучнік ***і***): *Угору зірнеш — шапка валіцца;*

● першая частка паказвае на час ці ўмову дзеяння, пра якое паведамляецца ў другой частцы: *Прыйдзе час — я табе пра гэта нагадаю;*

● змест частак супрацьпастаўляецца: *Позняя птушачка вочкі прадзірае — ранняя птушачка дзюбку цярэбіць* (Прыказка);

● апошняя частка мае вынікова-абагульняльнае значэнне: *Сухі марац, мокры май — будзе жыта нібы гай* (Прыказка).

**293.** Прачытайце народныя прыкметы аб надвор'і. Выпішыце складаныя бяззлучнікавыя сказы, пастаўце і растлумачце знакі прыпынку.

1. Калі вясёлка ў небе высокая і крутая то будзе вецер калі пахілая і нізкая то будзе дождж. 2. Буслы кружацца высока доўга будзе стаяць добрае надвор'е. 3. На дрэвах з'явіліся жоўтыя лісты ў пачатку жніўня настане ранняя восень. 4. Калі позна цвіце рабіна то будзе цёплае надвор'е. 5. Калі птушкі цвыркаюць то будзе цёпла. 6. Пчолы ў красавіку не вылецелі чакай халадоў.

● Перабудуйце складаназалежныя сказы ў складаныя бяззлучнікавыя.

**294.** Выпішыце складаныя бяззлучнікавыя сказы, пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор выпісаных сказаў.

1. Быў гарачы жнівень у агародзе грэліся тугія гарбузы спелілася насенне ўкропу *(М. Даніленка)*. 2. Ходзіць вецер

па даліне ходзіць-павявае ды пра радасць мне дзяўчыне песні напявае *(Я. Колас)*. 3. Сёння мне зранку працуецца весела стукнула звонка ў шыбу пчала ластаўка смутак крылом перакрэсліла ліпа цвісці на двары пачала *(П. Панчанка)*. 4. Пясняр слуга слугі ўсякай пясняр і цар усіх цароў *(Я. Купала)*. 5. Бразнулі дзверы у хаце стала ціха цётка Алена села каля стала задумалася *(А. Капусцін)*. 6. Буяе над абшарамі сцюдзёны асенні вецер змятае пад прызбы пажоўклае[м] лісце гойдае мокрае галлё[ф] ў садку *(В. Быкаў)*. 7. Дзень вяселля назначылі[с] ды вяселля не бачылі *(Я. Колас)*. 8. Ні славы ні скарбаў я не хачу мне б толькі прайсці непрыкметна зямлю сваю пад нагамі адчуць, надыхацца родным паветрам *(П. Панчанка)*. 9. Сонечнае паўднёвае акно асвятляла пафарбаваную[сл] падлогу шафу ля дзвярэй снежна-белыя пасцелі з вышываннем[сл] на падушках фотакарткі на сценах *(І. Грамовіч)*. 10. Кватэра прасторная і ўтульная з усімі выгодамі суседзі таксама слаўныя няма падстаў крыўдзіцца на іх *(Т. Хадкевіч)*.

**295.** Асобна выпішыце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на мяжы частак трэба паставіць: а) коску; б) двукроп'е; в) працяжнік. Падкрэсліце граматычныя асновы, пастаўце знакі прыпынку і абгрунтуйце іх пастаноўку.

1. Стары бабёр яшчэ раз азірнуўся на хатку, сышоў з астраўка і паплыў хутка толькі лёгка разыходзіліся на вадзе хвалі *(А. Жук)*. 2. І на гэту нядзелю Павел не трапіў дадому мяцеліца мяла цэлыя суткі *(А. Жук)*. 3. Чалавек асцярожна расхінуў галінкі, прыслухаўся усё гэтак жа, як і раніцаю, на галіне суседняга куста пагойдвалася і пасвіствала шэранькая птушачка *(А. Жук)*. 4. Міканор сумеўся упершыню чуў такі сум, такі боль у гэтым маўклівым, недаверлівым хлопцу *(І. Мележ)*. 5. Вакол яе перакідваліся смешкамі, прыслухоўваліся толькі яна адна была маўклівая, ціхая *(І. Мележ)*. 6. Спакой, упэўненасць не прыходзілі вельмі ж многае было незвычайнае, незразумелае *(І. Мележ)*. 7. У грудзях зашчымела ад нядобрага прадчування з Васілём нешта здарылася *(І. Мележ)*. 8. Дзяўчын-

ка тут жа шчоўкнула выключальнікам прасторная хата ў адно імгненне напоўнілася яркім святлом *(М. Ракітны)*. 9. Па зямлі распаўзалася цемра усё наўкол ахінула дрымота *(Я. Каптылёў)*.

● Выпішыце словы, адпаведныя правілу «Правапіс суфіксаў дзеясловаў». Растлумачце іх напісанне.

**296.** Выпішыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак, пабудуйце іх схемы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў выпісаных сказах.

1. Цёмна-зялёны масіў поля паволі святлеў, потым па ім пайшлі жаўтлявыя хвалі, што даходзілі аж да далёкага лесу, і, нарэшце, залаты разліў запаланіў усё жытнёвае бязмежжа, быццам само сонца падарыла яму сваю афарбоўку *(Т. Хадкевіч)*. 2. Аселі шэрыя сумёты, ляціць да долу мяккі снег, а я стаю на раздарожжы: у сэрцы цень трывожны лёг *(У. Хадыка)*. 3. Няспынна, магутна ідзе наперад жыццё, і няспынна, чароўна мяняецца воблік роднага краю *(К. Кірэенка)*. 4. То віўся ўгору густым вянком спелы, пажоўклы хмель, то абвісалі цяжкімі гронкамі спелыя, чырвоныя вішні, а то раптам шырока раскідваў сваё вецце пышны ружовы куст *(П. Панчанка)*. 5. Колькі б мы ні шукалі сяброў у жыцці — нельга лепшага друга за песню знайсці *(М. Танк)*. 6. Лабановіч садзіцца на пень, які яшчэ не нагрэўся ад ранішняга сонца, і слухае, як спяваюць драздны, як дзесь на ўзлессі кукуе зязюля, як ціха-ціха гамоняць сваімі верхавінамі меднастволыя сосны *(Я. Колас)*. 7. Хоць даўно развіднелася і ўзышло сонца, на полі нікога не відаць: усе некуды разышліся *(А. Стаховіч)*. 8. Рыгорка сядзіць ля агародчыка, над ім цвіце пахучы бэз, а вышэй, на страсе хаты, чырыкаюць, скачуць, увесь час пазіраючы на малога, канаплянкі *(М. Лупсякоў)*. 9. Дае прырода зноў урокі нам: не верце цішыні, салодкім снам, бяда і радасць ходзяць побач вечна, людзей ратуе толькі чалавечнасць *(П. Панчанка)*. 10. Дабрыня асвятляе душу, дабрыня — гэта стрыжань спрадвечны, на якім трымаецца чалавецтва, — і яна з'яднае людзей, нягледзячы ні на што *(А. Астрэйка)*.

## § 43. Сэнсава-стылістычная роля і тэкстаўтваральныя магчымасці складаных сказаў

**297.** Прачытайце тэкст Ф. Шумчыка. Раскажыце пра асаблівасці ўжывання складаных сказаў у розных стылях літаратурнай мовы.

Складаныя сказы характэрны для ўсіх стыляў мовы. Выбар таго ці іншага віду сказа залежыць ад сэнсавых і стылістычных асаблівасцей кантэксту.

У гутарковым стылі выкарыстоўваюцца пераважна складаназлучаныя і бяззлучнікавыя сказы без адасобленых зваротаў і шматступеннай залежнасці; у такіх сказах адсутнасць спецыяльных граматычных сродкаў сувязі паміж членамі дапаўняецца інтанацыяй, мімікай, жэстамі. У адрозненне ад складаназлучаных сказаў, бяззлучнікавыя вылучаюцца непасрэднасцю, натуральнасцю, таму яны звычайна выкарыстоўваюцца для перадачы дынамізму і жывасці: *Спрачацца яны амаль кінулі, кожнаму было не да таго*.

У навуковым і афіцыйным стылях пераважаюць злучнікавыя сказы над бяззлучнікавымі. Звязана гэта з тым, што сувязь паміж часткамі складанага сказа пры дапамозе злучнікаў выражаецца больш дакладна, адназначна. Сярод злучнікавых сказаў найбольш часта ўжываюцца складаназалежныя, даданая частка якіх заключае асноўную інфармацыю, а галоўная частка зусім або амаль зусім пазбаўлена зместу: *Неабходна сказаць, што...; Трэба падкрэсліць, што...; Варта адзначыць, што...* і г. д.

Усе віды складаных сказаў сустракаюцца ў мастацкім і публіцыстычным стылях: *І плылі па ёй марскія параходы, і ляцелі над ёй марскія чайкі, а там, дзе былі балоты, чэзлыя кусцікі алешніку і лазы, сцяною стаяла пшаніца, хвалявалася пшанічнае мора* (В. Казько). *Блішчэлі ў парку юным лісцем ліпы, над горадам вясёлка затрымцела* (С. Законнікаў).

Пісьмова перадайце змест кожнага абзаца з дапамогай складаназалежнага сказа.

**298.** Прачытайце пра асаблівасці сінтаксісу тэкстаў мастацкага стылю.

**!** У мастацкім стылі выкарыстоўваецца ўсё багацце сінтаксісу беларускай мовы: простыя і складаныя сказы (усе іх віды); аднародныя члены сказа, зваротак, экспрэсіўнае вылучэнне членаў сказа і інш. Выбар таго ці іншага віду сказа — простага ці складанага, складаназлучанага ці складаназалежнага, злучнікавага ці бяззлучнікавага — вызначаецца кантэкстам, сітуацыяй, асаблівасцямі стылю пісьменніка.

Так, дыялогам уласцівы **няпоўныя сказы:** *Там рака глыбокая, і ў ёй — рабыя шчупакі* (І. Пташнікаў) або **сказы з умаўчаннем** — спецыяльна незакончанымі канструкцыямі для ўзмацнення экспрэсіі: *Бывала, у нас там, дома, у гэтую пару*... (К. Чорны).

**Безасабовыя сказы,** як вядома, абазначаюць дзеянні і працэсы, якія адбываюцца нібы самі па сабе, таму яны ўжывальныя пры апісанні з'яў прыроды, псіхічнага або фізічнага стану чалавека ці жывой істоты: *У той год з вясны вельмі дажджыла* (Б. Сачанка).

З дапамогай **назыўных сказаў** ствараюцца малюнкі прыроды, апісваюцца абстаноўка, прадметы, з'явы, якія ўспрымаюцца наглядна, рэальна: *Раніца. Шэрае, нізкае неба* (Я. Брыль). **Пытальныя, пабуджальныя і клічныя сказы** — экспрэсіўна-стылістычныя сродкі мовы, бо выражаюць эмоцыі чалавека: захапленне, радасць, шкадаванне, смутак, абурэнне, здзіўленне і інш.: *З чым жа, маці азёр беларускіх, мог я ў песні цябе параўнаць?* (П. Прыходзька). **Інверсія** надае выказванню дадатковыя сэнсавыя і экспрэсіўныя адценні: акцэнт прыпадае на той член сказа, які стаіць у пачатку ці ў канцы канструкцыі: *Над вадою слаўся туманок, рэдкі, празрысты, які знікае адразу, як толькі прагляне сонца* (А. Жук).

**Складаныя сказы** шырока ўжываюцца пры стварэнні пейзажных замалёвак, апісанні знешняга выгляду персанажаў, пры перадачы думак-разважанняў аўтараў ці дзейных асоб *(А. Пісарэнка)*.

Пісьмова адкажыце на пытанні:

1. Якімі ўмовамі вызначаецца выбар пэўнага віду сказа ў мастацкім стылі?
2. Якія сказы характэрны для дыялога? Чаму?
3. Якая роля безасабовых і назыўных сказаў у мастацкім стылі?
4. З дапамогай якіх сказаў перадаюцца эмоцыі чалавека?
5. Якая сэнсава-стылістычная роля складаных сказаў у мастацкім стылі?

**299.** Прачытайце. Выпішыце радкі, якія ілюструюць асноўную думку верша. Наколькі блізкія вам адносіны У. Караткевіча да роднага краю? Якія пачуцці выклікае гэты верш у вас?

Дагарэў за брамай небакрай,
Месяц паміж воблачкаў плыве.
Выйду зноў, як у мінулы май,
Басанож прайдуся па траве.
Дымная, сцюдзёная раса,
Цёмныя ў траве ад ног сляды.
А такога рослага аўса
Я не бачыў доўгія гады.
Бач, хмызы спляліся, як павець,
Светлякі мігцяць, гараць святлей.
Перад тым, як звонка ў лозах пець,
Прачышчае горла салавей.
Лашчыцца трава да босых ног,
З дальніх паплавоў плыве ракой
Ледзь прыкметны сумны халадок —
Подых юні ўзыходзячай маёй.
Паімчаць за ёю наўздагон? —
Хоць і схопіш — усё адно падман.
Дзе каханне тых мінулых дзён —
Весніх паркаў бэзавы туман?
Нават шкадаванне — дзе яно?
Зноў вясна, і жаль знікае зноў.
(Так губляюць пах перад вясной
Ссохлыя сцябліны палыноў.)
Ціха цмокае ў сне рака.

О, як добра, як прыгожа жыць!
Раска, як русалчына луска,
На вадзе ад месяца гарыць.
А вакол травіцы росны рай
І бярозак белая сям'я.
Мой чароўны беларускі край,
Бацькаўшчына светлая мая!
*У. Караткевіч*

Выпішыце з тэксту складаныя сказы, вызначце іх від, пабудуйце схемы.

Якая роля складаных сказаў пры стварэнні пейзажнай замалёўкі, пры перадачы думак-разважанняў, пачуццяў паэта?

**300.** Прачытайце. Ахарактарызуйце сінтаксічныя асаблівасці верша.

Радзіма пачынаецца з двароў,
Дзе журавель тырчыць, нібыта дрэўка.
Радзіма пачынаецца з вятроў,
Што паказалі першую запеўку...
Радзіма пачынаецца з вайны,
Што чвэрць народа некалі скасіла...
Яна — з тае ўсвядомленай цаны,
Што сам дасі лісточку дзівасіла...
Хвалююся, — і ведаю чаго, —
Хачу, каб помніў суайчыннік кожны:
Радзіма пачынаецца з таго,
Што не набыць, а страціць можна.
*Е. Лось*

Растлумачце знакі прыпынку ў тэксце.

● Прадоўжыце думку *Радзіма пачынаецца...*

Запішыце па памяці першую страфу верша М. Танка «Родная мова». Ахарактарызуйце будову сказа.

Назавіце сродкі мастацкай выразнасці.

## § 44. Сінтаксічная сінаніміка

Сучасная літаратурная мова карыстаецца сістэмай сінанімічных сродкаў выражэння. Праблема сінанімікі — адна з вядучых у стылістыцы, паколькі разнастайнасць і багацце маўлення абапіраюцца на сінанімічныя сродкі, якія даюць магчымасць выбару і адбору неабходных моўных сродкаў.

**Сінтаксічнымі сінонімамі** называюцца канструкцыі, аднародныя ў структурна-сэнсавых адносінах, але адметныя паводле семантычных адценняў і стылістычнай афарбоўкі. Сінтаксічныя, як і лексічныя, сінонімы ўтвараюць с і н а н і м і ч н ы р а д, у якім адна з канструкцый выступае д а м і н а н т н а й, вядучай. Яна ў параўнанні з іншымі прыназоўнікава-склонавымі формамі характарызуецца частотнасцю ўжывання, прадуктыўнасцю. Як правіла, сінтаксічныя сінонімы адрозніваюцца дадатковымі сэнсавымі адценнямі. Параўнаем: *паехаць у сталіцу* і *паездка ў сталіцу, сустрэцца за горадам* і *сустрэча за горадам*. Прыведзеныя прыназоўнікава-склонавыя формы, ужытыя з назоўнікам, выражаюць прасторавае значэнне і маюць адценне азначальных адносін.

Адна з першых прац у айчынным моваазнаўстве, прысвечаная гэтай праблеме, — манаграфія Міхася Яўневіча «Сінтаксічная сінаніміка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове» (1977 год).

**301.** Прачытайце. Адзін абзац (на выбар) запішыце па-беларуску. Пісьмова адкажыце на пытанні да тэксту:

1. У чым заключаецца сутнасць граматычнай сінаніміі?
2. Якімі паказчыкамі, на думку даследчыкаў, характарызуецца ўзровень маўленчай культуры?
3. Якія сінонімы называюцца граматычнымі?
4. Якія тыпы складаных сказаў могуць выступаць як сінонімы?

Грамматическая синонимия представляет выбор разнообразных средств выражения общего значения. Для хорошего

владения языком знание синонимов (в данном случае синонимичных сложных предложений) необходимо. По мнению исследователя Г. Золотовой, подлинная высота речевой культуры определяется разнообразием способов выражения одного и того же смысла, находящихся в распоряжении говорящего, точностью и целесообразностью их выбора соответственно коммуникативной задаче.

Грамматическими синонимами, как известно, могут быть единицы одного уровня (в данном случае — сложные предложения), обладающие общим грамматическим значением. Синонимичными оказываются предложения, различные по типу связи, например союзные и бессоюзные: *Скажешь неправду — потеряешь дружбу. — Если скажешь неправду, потеряешь дружбу*; сочинённые и подчинённые: *Пошел дождь, и гулять не захотелось. — Пошел дождь, так что гулять не захотелось*. Синонимичными оказываются и предложения одного структурно-семантического вида, оформленные разными союзами: *Очерк не приняли в редакции, так как он плохо написан. — Очерк не приняли в редакции, потому что он плохо написан* (Н. Формановская).

**302.** Прачытайце. Запішыце ўласныя прыклады сінанімічных сінтаксічных канструкцый, аналагічных выкарыстаным у тэксце.

У якасці сінтаксічных сінонімаў (паралельных сінтаксічных канструкцый) выступаюць асобныя члены сказа і даданыя сказы. Сярод членаў сказа сінанімічнымі часцей за ўсё могуць быць дзеепрыслоўныя словазлучэнні і канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі: *Закончыўшы работу, ён вырашыў прайсціся па скверы. — Пасля заканчэння работы ён вырашыў прайсціся па скверы*. Такі ж агульны сэнс мае і даданы сказ часу: *Пасля таго як работа была закончана, ён вырашыў прайсціся па скверы*. Даданыя азначальныя сказы могуць быць заменены адасобленымі дзеепрыметнікавымі словазлучэннямі: *Кніга, якую парэкамендавала настаўніца, усім спадабалася. — Кніга, парэкамендаваная настаўніцай, усім спадабалася*.

Кожная з сінанімічных канструкцый пры блізкім агульным сэнсе мае свае семантычныя і стылістычныя асаблівасці. Пэўныя ўласцівасці сінтаксічнай канструкцыі нельга лічыць яе перавагай над іншымі канструкцыямі або, наадварот, недахопам. Усё залежыць ад мэты выказвання і павінна падпарадкоўвацца агульнай задачы дакладнага і сінтаксічна правільнага выражэння думкі *(Л. Антанюк)*.

Выпішыце з тэксту сінтаксічныя тэрміны.

Выпішыце просты ўскладнены сказ, зрабіце яго сінтаксічны разбор.

## § 45. Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага

**303.** Прачытайце. Спішыце тэкст, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Пры спісванні замяніце выдзеленыя словы сінанімічнымі.

Піс*(?)*ме..асць XV стаго..я на Беларусі характарызуецца насычанасцю **сп..цыфічна** беларускімі асаблівасц..мі і ёсць па..ставы гаварыць пра беларускую *(літаратурна)*пісьмовую мову якая сваімі фан..тычнымі граматычнымі л..ксічнымі **асаблівасц..мі істотна** адрозн..ваецца ад *(усходн..)*славянскай мовы X—XII стаго..яў.

Мова беларускай народнасці такім чынам **склалася** ў XIV—XVI стст. калі землі сучаснай Беларусі знаходзіліся ў **складзе** *(В/в)*..лікага *(К/к)*няства *(Л/л)*ітоўскага ва ўмовах узмацнення эканамічных і культурных сувязей паміж насельніцтвам беларускіх зямель ва ўмовах бара..ьбы за нацы..нальную **незалежнасць** супраць **чужаземнай** агрэ..іі татарскіх н..мецкіх і іншых **заваёўнікаў.**

Пры вывучэ..і складанага пыта..я пра пахо..анне беларускай як і ру..кай украінскай мовы трэба мець на ўваз.. што **ўзнікне..е** беларускай мовы нельга датаваць пэўным годам ці дзесяціго..ем *(Паводле В. Краснея)*.

Пабудуйце схему складанага сказа з рознымі відамі сувязі.

**304.** Складзіце і запішыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі па наступных схемах.

1. [ ], [і] [ ], (бо ...).
2. [ ], [ ], [і] [ ].
3. [ ], (*што* ...), [*але*] [ ], (*што* ...).
4. [ ], [і] [ ], (*калі* ...).

**305.** Разгледзьце схему. Успомніце і раскажыце, на якія віды падзяляюцца складаназлучаныя сказы. Падмацуйце свой адказ прыкладамі.

**СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ ПАДЗЯЛЯЮЦЦА НА**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Складаназлучаныя сказы са спалучальнымі злучнікамі: ***і (ды), ні—ні*** | Складаназлучаныя сказы з супраціўнымі злучнікамі: ***а, але (ды), аднак, затое*** | Складаназлучаныя сказы з размеркавальнымі злучнікамі: ***ці, або, то—то, не то — не то, ці то — ці то*** | Складаназлучаныя сказы з далучальнымі злучнікамі: ***а, але, і, ды, ды і, а то*** |

**306.** Прачытайце тэкст. Выпішыце складаназлучаныя сказы. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

На высокім беразе было ціха, ды і нішто не парушала спакою. Не дзьмуў вецер, і не шумела лісце. Праўда, на маладой асінцы лісце дрыжала, як і заўсёды, але дрыжанне гэтае зусім было бязгучнае. Не парушала цішыні і цвырканне вады ў дробнай рачулцы, наадварот, ад гэтага гучання вады яшчэ больш павявала спакоем. Слаўная ноч была! На дне ручаіны ляжала некалькі вялікіх камянёў. Чыстая і халодная вада то падала з іх, то, пагойдваючы мятлістую

чараціну, імчалася далей. Паміж кустоў вызначалася[с] сцежка, на беразе яна крута зрывалася ўніз да самай вады, і па мокрых камянях[м] можна было перайсці[ф] на другі, нізкі, паплаўны́ бераг. Там, за поплавам, стаяў лес. Добра пахла адтуль сасной *(К. Чорны)*.

**307.** Запішыце тэкст (яго частку) па-беларуску.

Сложное предложение — предложение, в котором имеется две или более грамматических основы. Различия в области сложных синтаксических конструкций между белорусским и русским языком невелики.

Различия связаны в основном со средствами связи между частями сложносочиненного предложения. Некоторые союзы в формальном и функциональном отношении близки или тождественны (рус. *и* — бел. *і*, *ни...ни* — *ні...ні, да—ды*), другие отличаются в функционировании *(также, тоже — таксама, гэтаксама; то ли...то ли — ці...ці)*. Ассиметрия наблюдается в перекрещивании и правомерном распределении функций наиболее употребительных союзов (рус. *или*, *либо* — бел. *ці*, *або*).

Вообще же в обоих языках наличествует большой объем союзов и союзных словосочетаний *(А. Бордович)*.

**308.** Запішыце складаныя сказы па-беларуску. Ці заўсёды пры перакладзе можна захаваць варыянт арыгінала? Вызначце і запішыце ў дужках від складанага сказа.

1. По мере того как Дант все более и более становился не по плечу и публике следующих поколений, и самим художникам, его обволакивали все большей и большей таинственностью *(О. Мандельштам)*. 2. Извозчики с криком и бранью колотили лошадей, которые фыркали, упирались и не хотели ни за что на свете тронуться с места, несмотря на красноречие кнутов *(М. Лермонтов)*. 3. Года три назад во время бури вывернуло с корнем высокую старую сосну, отчего и образовалась эта яма *(А. Чехов)*. 4. Письма от Катерины Ивановны вызывали у Насти вздох облегчения:

раз мать пишет — значит, жива *(К. Паустовский)*. 5. Он производил впечатление большого крупного человека, что вполне соответствовало положению крупной личности *(В. Каверин)*. 6. Как-то так получилось, что из деревни Новой, хоть она небольшая, много вышло знатных людей: один полковник, два летчика, врач, корреспондент... *(В. Шукшин)*. 7. На востоке, где всходит солнце, появились более легкие полосы туч, и Настена встревожилась, не сменилась бы погода *(В. Распутин)*. 8. Нельзя жить только сегодняшним, ибо оно чаще всего незаконченное вчерашнее *(П. Павленко)*.

**309.** Прачытайце развагі мовазнаўца І. Лепешава, прапануйце назву, адпаведную стылю тэксту. Абгрунтуйце аўтарскі падзел тэксту на абзацы. Растлумачце правапіс слоў з прапушчанымі літарамі.

**Абзац** — слова дву..значнае. Яно абазначае як ..одступ у пачатку ра..ка (і тады з'яўляецца сінонімам састаўнога тэрмін.. «чырвоны радок»), так і частку тэкст.. паміж двум.. такімі ..одступамі. Тэкст паміж двум.. чырвонымі ра..камі ўключае часцей за ўсё некалькі сказаў, аб'ядна..ых адной думкай. Такім чынам, абзац выступае сро..кам чл..нення звязнага тэкст.. на кампазіцыйна-стылістычнай аснове, пака..чыкам новага раду думак.

На жаль, у сярэдняй школе пытанню пра абзац не ўдзяляецца належная ўвага. Што гэта так, можна пераканацца, прагледз..ўшы вучнёўскія творчыя працы ці сачыненні абітуры..нтаў. Толькі некаторыя вучні карыстаюцца абзацам, прычым у самым пр..мітыўным яго разуменні: колькі пунктаў у плане, столькі чырвоных радкоў. Што да ..одступу ў пачатку абзац.., дык тут можна назіраць поўную самавольнасць: адны пачынаюць пісаць з с..рэдзіны радка, другія пакідаюць для абзац.. месца на адну-дзве літары. Даводзілася бачыць, што і многія дарослыя, нават з вышэйшай адукацы..й, ліч..ць абзац залішн..й ра..кошай.

Назавіце сказы з пабочнымі словамі, растлумачце знакі прыпынку.

Выпішыце значэнні, якія мае тэрмін «абзац».

Знайдзіце і выпішыце з кожнага абзаца сказ, які ўтрымлівае ключавую, асноўную інфармацыю.

Пісьмова адкажыце на пытанне *Чаму тэкст успрымаецца і засвойваецца горш, калі ён няправільна падзелены на абзацы?*

**310.** Прачытайце тэкст песні. Якія вобразныя сродкі ствараюць паэтычнасць, лірычнасць, эмацыянальнасць твора? Паразважайце, чаму жураўлі вяртаюцца з выраю дадому.

ЖУРАЎЛІ НА ПАЛЕССЕ ЛЯЦЯЦЬ...

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.
Што ім тыя пагоды паўднёвыя!
Што ім пышны **платанавы** рай.
Калі клічуць іх далі сасновыя
І азёрны рабінавы край.

Сакавітыя **пожні** мурожныя
Не заменіш нічым і нідзе
І зямлю, дзе сцяжыначка кожная
Ў прыветлівы двор прывядзе.

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Зразумееш тады, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.

*А. Ставер*

Растлумачце лексічнае значэнне выдзеленых слоў.
Пабудуйце схемы двух апошніх сказаў.
Выпішыце аднасастаўныя сказы, вызначце іх разнавіднасць.

**311.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму, асноўную думку.

У лінгвістычнае выхаванне ўваходзіць фарміраванне пэўных этычных нормаў моўных паводзін у розных выпадках нашага жыцця. Папярэдне для абмеркавання магчыма сфар-

муляваць некаторыя нормы, але яны, зразумела, ніяк не прэтэндуюць на вычарпальнасць:

а) любі сваю родную мову, ніколі не саромейся яе;

б) авалодвай усім багаццем сваёй мовы, вывучай іншыя мовы;

в) паважай усе мовы, у тым ліку мову субяседніка. Мова — не асабістая ўласнасць, яна — уласнасць цэлага народа, дрэнных народаў не бывае. Разам з тым кожная мова — частка агульначалавечай скарбніцы ведаў і культуры;

г) ніколі не выказвай адмоўных ці зняважлівых ацэнак чужых моў: яны прынцыпова памылковыя, бо кожная мова мае свае адэкватныя сродкі перадачы з'яў рэчаіснасці ці можа пры неабходнасці іх развіць;

д) імкніся карыстацца мовай народа, сярод якога жывеш ці часова знаходзішся. Калі гэта немагчыма (напрыклад, у сувязі з кароткатэрміновым характарам знаходжання), шукай агульную мову (лепей нейтральную);

е) не навязвай сваёй мовы іншым. Яна заслугоўвае любові і павагі, а не прымусу;

ж) імкніся да ўзаемаразумення, не адмаўляйся зразумець нават выпадковага субяседніка;

з) імкніся да правільнасці мовы. Іншаземцы прабачаць табе агрэхі ў сваёй мове, а землякі не даруюць іх, калі ты будзеш звяртацца да іх на чужой мове. Да сваіх трэба звяртацца на агульнай роднай мове, нават не пазбаўленай памылак *(А. Супрун)*.

Выпішыце з тэксту прыклады розных відаў складаных сказаў (складаназлучаны, складаназалежны, бяззлучнікавы, сказ з рознымі відамі сувязі). Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Назавіце сінтаксічныя тэрміны, дайце ім азначэнне.

2. Прывядзіце прыклады словазлучэнняў з дапасаваннем, кіраваннем і прымыканнем.

3. Запішыце прыклады словазлучэнняў, якія выяўляюць асаблівасці кіравання ў беларускай мове ў параўнанні з рускай.

4. Раскажыце пра віды аднасастаўных сказаў у залежнасці ад спосабу выражэння галоўнага члена.

5. У якіх выпадках азначэнні з'яўляюцца аднароднымі? Запішыце адпаведныя прыклады.

6. Раскажыце пра знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі.

7. Якія з'явы выступаюць умовамі адасаблення членаў сказа? Запішыце сказы, што раскрываюць гэтыя ўмовы.

8. Запішыце прыклады са зваароткамі, якія знаходзяцца ў пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа.

9. Прывядзіце прыклады, у якіх адны і тыя ж словы ў першым выпадку выступаюць як пабочныя, у другім — як члены сказа.

10. Раскажыце пра віды складаных сказаў.

11. Якія сэнсавыя адносіны выражаюцца паміж часткамі складаназлучанага сказа?

12. Раскажыце, як адрозніць злучнік ад злучальнага слова ў складаназалежным сказе. Прывядзіце прыклады.

13. Прывядзіце прыклады складаназалежных сказаў з даданымі дзейнікавымі, выказнікавымі, азначальнымі, дапаўняльнымі і акалічнаснымі часткамі.

14. Раскажыце пра выпадкі пастаноўкі двукроп'я і працяжніка ў бяззлучнікавым складаным сказе.

15. Якія канструкцыі называюцца сінтаксічнымі сінонімамі? Якая іх сэнсава-стылістычная роля?

16. Складзіце і запішыце 2—3 сказы з рознымі відамі сувязі.

# КАРОТКІ ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Арбітра́ж,** *-у.* 1. Вырашэнне спрэчак не судовага характару арбітрамі (суддзямі, пасрэднікамі), трацейскім судом (звязаным з разборам канфлікту трэцяй, незацікаўленай, стараной). 2. Орган па вырашэнні гаспадарчых спрэчак.

**Астро́г,** *-а.* 1. У старажытнасці: горад, абнесены частаколам. 2. *(уст.)* Тое, што і турма.

**Байка́р,** *-а.* Апавядальнік, расказчык; здатны на выдумкі чалавек.

**Вало́ка,** *-і (гіст.).* Былая мера зямлі (каля 20 дзесяцін, прыблізна 21 га).

**Гу́капіс,** *-у (спец.).* Сукупнасць прыёмаў для ўзмацнення гукавой выразнасці мастацкага маўлення.

**До́гма,** *-ы.* Палажэнне, якое прымаецца за бясспрэчную ісціну, нязменную пры любых акалічнасцях.

**Дука́т,** *-а (гіст.).* Даўнейшая сярэбраная, затым залатая манета, якая чаканілася ў многіх краінах Еўропы.

**Зару́чаны,** *-ая.* Дзеепрым. ад **заручыць** — справіць абрад аб'яўлення каго-небудзь жаніхом і нявестай (заручыны).

**Касіне́ры,** *-аў; адз.* **касінер,** *-а.* Польскія сяляне-апалчэнцы ў паўстанні 1794 г., узброеныя косамі.

**Ксціць** *(разм.).* Хрысціць.

**Лексіко́граф,** *-а.* Спецыяліст у галіне лексікаграфіі — тэорыі і практыкі ўкладання слоўнікаў; укладальнік слоўнікаў.

**Лот,** *-а.* Руская мера вагі, роўная 12,8 г, якая існавала да ўвядзення метрычнай сістэмы.

**Мігры́раваць** *(спец.).* Перасяляцца, перамяшчацца.

**Несамаві́ты.** 1. Непрывабны з выгляду; непрыгожы. 2. Не зусім добры; дрэнны.

**Нівелі́раваць.** 1. *(спец.)* Вызначаць вышыню пунктаў зямной паверхні над узроўнем мора або адносна пэўнай вышыні. 2. *перан. (кніжн.)* Згладжваць розніцу паміж чым-небудзь, кім-небудзь.

**Перыфра́за,** *-ы (кніжн.).* Выраз, які з'яўляецца апісальнай перадачай сэнсу другога выразу ці слова, напрыклад, «цар звяроў» замест «леў».

**Плёс,** *-а.* Шырокі ціхі ўчастак ракі паміж перакатамі або астравамі.

**Расшало́паць** *(разм.).* З цяжкасцю зразумець.

**Сакра́льны.** Які мае адносіны да рэлігійнага культу.

**Стэрэаты́п,** *-а.* 1. *(спец.)* Копія друкарскага набору, нанесеная на металічную, гумавую або пластмасавую пласцінку; ужываецца для шматтыражных і паўторных выданняў. 2. *перан. (кніжн.)* Нязменны, агульнапрыняты ўзор чаго-небудзь, стандарт, шаблон.

**Тапо́нім,** *-а (спец.).* Уласная назва якога-небудзь геаграфічнага аб'екта (населенага пункта, ракі, возера і пад.).

**Фальва́рак,** *-рка.* 1. Панская гаспадарка з комплексам будынкаў у феадальнай Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. 2. *(уст.)* Невялікая сядзіба пана, хутар.

**Фенало́гія,** *-і.* Раздзел біялогіі, які вывучае сезонныя з'явы ў жывой прыродзе, тэрміны іх надыходу і прычыны, што вызначаюць гэтыя тэрміны // прым. **феналагічны.**

**Цнатлі́вы.** 1. Які не страціў нявіннасці. 2. Які зберагае, захоўвае высокую мараль і чысціню чалавечых адносін // наз. **цнатлівасць.**

**Шу́рка,** *-і (гіст.).* Мера дроў, роўная 2 м$^3$.

**Шэ́лег,** *-а (гіст.).* Даўняя манета вартасцю ў паўгроша.

## Фанетычны разбор слова

1. Падзел слова на склады, націскны склад.
2. Характарыстыка гукаў: галосных (націскны ці ненаціскны, якой літарай абазначаны); зычных (санорны ці шумны, звонкі ці глухі, свісцячы ці шыпячы, цвёрды ці мяккі, якой літарай абазначаны).
3. Колькасць гукаў і літар.

*Здзіў-ля́-юць.*

| Гукі | | Літары |
|---|---|---|
| [з′] | зычны шумны, звонкі, свісцячы, мяккі; | ***з*** |
| [дз′] | зычны шумны, звонкі, свісцячы, мяккі; | ***д***, ***з*** |
| [і] | галосны ненаціскны; | ***і*** |
| [ў] | зычны санорны, цвёрды; | ***ў*** |
| [л′] | зычны санорны, мяккі; | ***л*** |
| [а] | галосны націскны; | ***я*** |
| [й] | зычны санорны, мяккі; | ***ю*** |
| [у] | галосны ненаціскны; | ***ю*** |
| [ц′] | зычны шумны, глухі, свісцячы, мяккі; | ***ц***, ***ь*** |
| ***9 гукаў*** | | ***10 літар*** |

## Разбор слова па саставе



### Парадак словаўтваральнага аналізу

1. Часціна мовы.
2. Вытворнае слова ці невытворнае.
3. Утваральная аснова.
4. Словаўтваральныя сродкі (прыстаўка, суфікс, злучальная галосная).
5. Спосаб словаўтварэння.
6. Графічная схема ўтварэння слова.

***Гітарыст*** — назоўнік; вытворнае слова; утваральная аснова *гітар-*, утвораны ад асновы слова *гітар-а* з дапамогай суфікса ***-ыст***; суфіксальны спосаб.

*Гітарыст* ← *гітар-* *(а)* + *-ыст*.

### Марфалагічны разбор назоўніка

1. Часціна мовы.
2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма; нязменныя (агульны ці ўласны, адушаўлёны ці неадушаўлёны, канкрэтны ці абстрактны, зборны, рэчыўны; род; скланенне) і зменныя (склон, лік).
3. Сінтаксічная роля.

*Бяроза боязна к бярозе тулілася ў нямой* ***трывозе*** (Я. Колас).

*(У) трывозе* — назоўнік; п. ф. — *трывога*; агульны, неадушаўлёны, абстрактны; ж. р., 1-е скл.; у М. скл., адз. л.; акалічнасць.

### Марфалагічны разбор прыметніка

1. Часціна мовы.
2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма (Н. скл., адз. л., м. р.); нязменныя (разрад па значэнні: якасны, адносны ці прыналежны) і зменныя (у якасных: ступень параўнання; кароткая ці поўная форма; ва ўсіх прыметніках: склон, лік, род).
3. Сінтаксічная роля.

*Кіньце, хмары, на абшары* ***шчодры*** *лівень ваш...* (К. Кірэенка).

*Шчодры (лівень)* — прыметнік; п. ф. — *шчодры*; якасны; поўн. ф., у В. скл., адз. л., м. р.; азначэнне.

### Марфалагічны разбор лічэбніка

1. Часціна мовы.

2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма (Н. скл.); разрад паводле значэння: колькасны (абазначае цэлы лік, дробавы, зборны) або парадкавы; разрад паводле складу (просты, складаны ці састаўны); склон, лік (калі ёсць), род (калі ёсць).

3. Сінтаксічная роля.

***Дзве*** *дзявочыя постаці мільгалі на фоне лугавой зяляніны* (Т. Хадкевіч).

*Дзве (постаці)* — лічэбнік; п. ф. — *дзве*; колькасны, абазначае цэлы лік, просты; у Н. скл., ж. р.; у складзе дзейніка.

### Марфалагічны разбор займенніка

1. Часціна мовы.

2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма; разрад паводле значэння, асоба (для асабовых), склон, род (калі ёсць), лік (калі ёсць), да якога назоўніка дапасуецца (калі змяняецца, як прыметнік).

3. Сінтаксічная роля.

*У акенца* ***тваё*** *я пастукаў зязюльчыным ранкам...* (П. Панчанка).

*Тваё (акенца)* — займеннік, п. ф. — *твой*; прыналежны; у В. скл., н. р., адз. л.; дапасуецца да наз. *акенца*; азначэнне.

### Марфалагічны разбор дзеяслова

1. Часціна мовы.

2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма; пераходны ці непераходны, зваротны ці незваротны, трыванне, спражэнне, лад, лік, час (калі ёсць), асоба (для дзеясловаў цяперашняга і будучага часу і загаднага ладу), род (у дзеясловах прошлага часу і ва ўмоўным ладзе).

3. Сінтаксічная роля.

*Шыбы* ***слязяцца*** *расою світальнаю* (М. Танк).

*Слязяцца* — дзеяслоў, п. ф. — *слязіцца*; неперах., звар., незак. трыв., II спр.; у абв. л., мн. л., цяп. ч., 3 ас.; выказнік.

### Марфалагічны разбор дзеепрыметніка

1. Часціна мовы (дзеяслоўная форма).
2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма (Н. скл., адз. л., м. р.); стан, час, трыванне, поўная або кароткая форма, лік, род, склон (для поўных дзеепрыметнікаў).
3. Сінтаксічная роля.

*Пад* ***зацвярдзелым*** *шэрым снегам шэраю была і вёска* (Я. Скрыган).

*(Пад) зацвярдзелым (снегам)* — асобая форма дзеяслова — дзеепрыметнік; п. ф. — *зацвярдзелы*; незал. ст., пр. ч., зак. тр., поўны, у адз. л., м. р., Т. скл.; азначэнне.

### Марфалагічны разбор дзеепрыслоўя

1. Часціна мовы (форма дзеяслова).
2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма (неазначальная форма дзеяслова), зваротны ці незваротны, трыванне, нязменная форма.
3. Сінтаксічная роля.

***Паклаўшы*** *косы пад пракос і ўцёршы лоб і потны нос, касцы падселі да куста* (К. Крапіва).

*Паклаўшы* — форма дзеяслова — дзеепрыслоўе; п. ф. — *пакласці*, незвар., зак. тр., нязм. ф.; у складзе акалічнасці.

### Марфалагічны разбор прыслоўя

1. Часціна мовы.
2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова, разрад, ступень параўнання (калі ёсць).
3. Сінтаксічная роля.

*Крыху* ***далей****, на пясчаным спадзе, цвілі пралескі* (А. Асіпенка).

*Далей* — прыслоўе; нязмен., прысл. месца, выш. ст.; акалічнасць.

### Марфалагічны разбор прыназоўніка

1. Часціна мовы.

2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова, разрад паводле паходжання (невытворны ці вытворны), разрад паводле будовы (просты, складаны ці састаўны), з якім склонам назоўніка ўжыты.

3. Сінтаксічная роля (у склад якога члена сказа ўваходзіць).

*Ціха гучаць **у** мове маёй словы крынічныя, росныя* (А. Звонак).

*У (мове)* — прыназоўнік, нязмен, невытв., просты; ужыты з М. скл. назоўніка *мове*; у складзе акалічнасці.

### Марфалагічны разбор злучніка

1. Часціна мовы.

2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова; разрад паводле саставу (просты ці састаўны); разрад паводле спосабу ўжывання (адзіночны, паўторны ці парны); разрад паводле значэння (злучальны ці падпарадкавальны).

3. Сінтаксічная роля.

*Усё пакінуць след павінна, **бо**, як пачаўся белы свет, прамень, пясчынка і расліна нязменна пакідаюць след* (П. Броўка).

*Бо* — злучнік; нязмен., пр., адз., падпар. (прычын.); звязвае часткі скл. ск.

### Марфалагічны разбор часціцы

1. Часціна мовы.

2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова; разрад.

3. Сінтаксічная роля (для формаўтваральных і адмоўных).

*«**Што за** дзяўчына! **Што за** натура!» — колькі разоў паўтарыў малады шчаслівы настаўнік* (Я. Колас).

*Што за* — часціца; нязмен., клічная; не з'яўл. чл. ск.

## З м е с т

## СЛОВАЗЛУЧЭННЕ І СКАЗ У ТЭКСЦЕ

Б43 **Беларуская мова** : вучэб. дапам. для 10-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання / Г. М. Валочка [і інш.]. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009. — 256 с.
ISBN 978-985-465-503-1.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

Вучэбнае выданне

**Валочка** Ганна Міхайлаўна
**Васюковіч** Людміла Сяргееўна
**Зелянко** Вольга Уладзіміраўна
**Саўко** Уладзімір Паўлавіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

**Вучэбны дапаможнік для 10 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання**

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктар *Т. Ф. Шайко*

Падпісана ў друк 18.05.2009. Фармат 60×90/16. Папера афсетная № 1. Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,0. Ул.-выд. арк. 12,0. Тыраж 149 200 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мінская фабрыка каляровага друку». Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

